# Янка Купала

*Поўны збор твораў у дзевяці тамах*



# Янка Купала

## *Поўны збор твораў*



*Том*

**2**

**ВЕРШЫ, ПЕРАКЛАДЫ**
**1908—1910**

Рэдактар тома
РАГОЙША В. П.

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі
ГОЛУБ Т. С., СТРОЕВАЙ Т. Р.

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1996

# 1908

## ЧАГО ХМУРЫЦЦА?..

Чаго хмурыцца
Неба сіняе?
Чаго носяцца
Віхры дзікія?

Чаго шэрыя
Совы ўзгукалісь?
Чаго чорныя
Крукі грагаюць?

Чаго гадзіны
Падкалодныя
Шыпяць, сыкаюць
На святое ўсё?

Ці та сонейка
Загасілася,
Ці та ўскрылася
Апраметная?

Душы сільныя
Абяссілелі,
Сэрцы добрыя
Азвярэліся;

Песні вольныя
Апанурыліс̀ь
І магільнымі
Звоняць жальбамі.

А за песнямі
Звон кайданавы,
Стогн закованых
Разлягаецца...

Эх, і страшна ж ты,
Зямля родная;
Эх, і страшна ж ты,
Жыццё людскае!..

[*1908*]

## ХТО ТЫ ГЭТКІ?

Хто ты гэткі?
— Свой, тутэйшы.
Чаго хочаш?
— Долі лепшай.
Якой долі?
— Хлеба, солі.
А што болей?
— Зямлі, волі.
Дзе радзіўся?
— У сваёй вёсцы.
Дзе хрысціўся?
— Пры дарожцы.
Чым асвенчан?
— Кроўю, потам.
Чым быць хочаш?
— Не быць скотам...

*1908*

## ЗА ПРАЎДУ

За праўду, за шчасце, за лепшую долю
Вазьміся, мой дружа, пастой!
У крыўду не дайся, свайго дабівайся.
Адвага хай будзе з табой!

Хай горкія слёзы, што ў спёкі, ў марозы
Ліюцца на беднай зямлі,
Дадуць табе, браце, сіл гора зьмагаці
І ў сэрцы распаляць агні.

Хоць віхры шалеюць, хоць песні нямеюць,
Хоць страшна замучаны ты,
За добрую справу, за шчасце і славу
Душу вырывай з цемнаты.

Кінь сваркі і звадкі, адной дзеці маткі —
Мы злучаны думкай аднэй;
Пры згодзе і ладзе ў нас доля засядзе,
Палічаць і нас за людзей.

Дык жыва ж к пачатку — не час спаць у шапку,
Валяцца, як чэрві ў траве;
Ўжо сонейка ўсходзе, ўжо дух у народзе
Збудзіўся і к праўдзе заве!..

[*1908*]

## АРАТАМУ

Ну, годзе ўжо спаці! глянь: светла ўжо ў хаце,
Вясна заглядае ў акно;
Ўжо птушка свяргоча, ўжо лісцік шапоча,
Цябе шнур чакае даўно.

Хай сошка крывая, кабылка худая
І ты сам, крывы і худы,
Пацягнуцца ў поле, на тое прыволле,
На тыя прадзедаў сляды.

Ты — пан, ты — багаты, ты — сіла, араты!
Ты ў крыўду не даўся б другім:
Знай, шмат каму трэба з тваёй працы хлеба,
Дый сам ты галодзен зусім...

Дык выпрамся ж трошку, дый жыва за сошку,
Ды ў поле — к вялікай арбе!
Бач, можа, і долю ў няўродлівым полі
Ты вызараш, братка, сабе...

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі —
Любі сваю ніву, свой край
І, колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барані, засявай!..

[*1908*]

* * *

*Песняру Альберту Паў<лові>чу*

За пасвяшчэнне, вершык харошы
Ўсім сэрцам, пане, дзякую Вам,—
Не маю скарбаў, не маю грошы,
Што ж я Вам, бедны з бяднейшых, дам?

Дам я Вам слоўца, братняе слоўца,
Шчырае слоўца,— не знаю другіх,—
Сейце па роднай, беднай старонцы
Праўду і ў думках, і ў песнях сваіх.

Чым сяўцоў болей — пасеюць болей,
Болей узойдзе, болей пажнуць,
Чым пяўцоў болей долі-нядолі —
Болей прасвету ў душу ўнясуць.

Край наш убогі, люд наш убогі,
А цёмны, проста трудна сказаць!
К шчасцю закрыты яму ўсе дарогі,
Трэба якую радачку даць...

Гэй, песняру мой, браце мой родны,
Сэрца для гэтага дай, не жалей...
Бiся, не дайся крыўдзе нягоднай,
Пей нам аб шчасцi, голасна пей!

[*1908*]

## АСЁЛ I НАВУКА

*(Байка)*

Аслова невуцтва не раз
Служыла дурням за паказ; —
Дык вось нарэшце узялi
Асла ў навуку аддалi
I сталi ўчыць яго чытаць,—
Вучылi нават i пiсаць.
Асёл так шчыра ўчыцца ўмеў,
Што кнiжкi ўсе, як сена, з'еў
I столькi ў гэтым скарыстаў,
Што горш убоiстым ён стаў!..

---

Людзям ёсць тут такi прымер
(Ёсць людзi на быдля манер):
Хоць колькi нi вучы асла,
Аслом ён будзе да канца!..

[*1908*]

## КАСЦАМ

Дзе вы, брацці-ўдальцы, дзе вы, хлопцы-касцы?
Гэй, дакуль на вас трэба чакаць?
Час вам косы кляпаць, час вам на сенажаць,
Час вам сілу сваю паказаць!

Пакуль згіне раса, хай засвішча каса,
Няхай вале ў пракосы траву;
Няхай прыйдзе канец на сівец, на званец,—
Хай пазнаюць усе грамаду!

Сонца паліць агнём, пот ліецца цурком...
Гэй, прывыклі да гэтага вы!
Як вы толькі ўзраслі, к працы цяжкай ішлі,
І ніхто не жалеў вас ані!

Пот ліецца цурком,— абмахні рукавом
Дый касой замахай весялей,
І з упаўшай грудзі песню слёз завядзі,
Песню родную долі сваей!

Песню пей і касі, пакуль ясныя дні,
Пакуль хмараў на небе няма;
Зямля, плуг і каса — гэта наша краса,
Гэта наша пацеха адна!..

[*1908*]

## ДА МОЛАДАСЦІ

Ты скажы, скажы,
Мая моладасць,
Што дала ты мне,
Сыну хамскаму?

Ой, дала ты мне
Скарб нязмераны:

Сілу моцную,
Неўгамонную.

За труды мяне
Не адхваляцца,
З мазалёў, крыві
Не аддзівяцца.

Дзе мой капне пот,—
Дзірван, пасека
Шуміць коласам,
Урадлівасцю.

Сенажаць-трава
Ляжа покатам,
Стогне зелен бор
Пад рукой маёй.

Дый услужнасцю
І пакорнасцю
Надарыла ты
Мяне, моладасць.

Адно, доля дзе,
Скажы, моладасць?
Чаму волю даць
Ты забылася?

[*1908*]

## НА СЕНАЖАЦІ

Чуць на небе зара
Занімаецца,
Ў курнай хаце мужык
Падымаецца,

Цягне світку з пала
Прапацелую,

Цягне лапці з калка
Скарчанелыя.

І касу ён бярэ
Адкляпаную,
І жарсцвянку нясе
Дзераўляную.

Так на луг ён ідзе
Свой някошаны,
З песняй топіць касу
Ў траве зрошанай.

Яго сілу ў касьбе
Відаць моцную,
Дый у песні слязу
Чуць гаротнага...

[*1908*]

## РАЗВЕЙСЯ, ТУМАН

Развейся, туман, расплывіцеся, хмары,
Над хатай пахілай маей!
Хай сонца прагляне, хай цяжкія мары
Не мучаць душы і грудзей...

Штось клікала рваццa і вышай, і далей,
На лепшае звала жыццё.
Вы, злыя туманы, вы, хмары, без жалю,
Закрылі, забралі мне ўсё...

Стаю і гляджу [illegible] на хату крывую,
На ніву пустую сваю —
І слёз не стрымаю, і ціха бядую,
І нудную песню пяю;

І к небу малюся, ў жыццё заглядаю,
Ці моц скуль якая не йдзе?

І цёмна, і нема ад краю да краю,
Ні свету, ні следу нідзе...

Ні свету, ні следу... марнуюцца сілы,
Дух праўды і волі прыгас,
Нядоля і гора, навокал — магілы —
Вось роднага шчасця абраз...

*1908*

## З ПЕСЕНЬ ЖЫЦЦЯ

Час быў вясенні. На скібіны дно
Пала, ўзышло, зарунела зярно.
Ў курную хату, на яве ці ў сне,
Доля-нядоля прынесла мяне.

*

Лета настала. Ўжо колас глядзеў.
Рос, красаваў, наліваўся,— даспеў.
Шчасця, пацехі не знаўшы ў жыццю,
Вырас і я на нядолю сваю.

*

Восень на свеце. Бор стогне, шуміць;
Колас нязжаты на полі стаіць.
Нудна у сэрцы, дзе вокам ні кінь,
І я, як той колас, бядую адзін...

*

Зімка прыйшла; белы валіў снег;
Колас у гурбе знайшоў свой начлег.
З доляй змагацца з сіл выбіўся я,
Эх ты, магілка, эх, дзе ты, мая?..

[*1908*]

## СВАТ

*(З апавядання старога дзецюка)*

> Не зведаўшы броду,
> Не сунься ў воду.
> *(Прыказка)*

— Гэй, лінь там у чарку! Вы ж ціха быць, хлопцы!
Ты, Ганька, агню мне нашчупай у копцы.
Як лыкну, як пыкну, дый збаю ў прыпеўцы,
Як быў [illegible] малодшым, як сватаўся к дзеўцы.—
Вось гутаркай гэткай азваўся Міхалка,
Вядомы ўсім чыста манюка, брахалка.

— Зімой было гэта,— гаворыць ён далей,—
Дзянькі мясаеду прыйшлі, загулялі,
І ўсё загуляла: дзень будні — нядзеляй,—
Няма таго дня — вечарынкі, вяселлі.
Папіў той гарэлку, той едзе у сваты;
Без госця, без чаркі не знойдзеш той хаты.

Глядзеў я, глядзеў я,— дый вытрымаць трудна,—
А быў [illegible] натуры не вельмі маруднай.
Сюд-тут — і гатова: ўжо еду са сватам,—
Памёр (пакой вечны!) — ўсе звалі Кандратам,—
Знаў добра, як што, да чаго ў такім разе,
Па слова ніколі ў кішэню не лазіў.

З сабой у дарогу гарэлкі набралі,—
Шынок быў пад Гайнай, шынкар зваўся Гдаляй,—
Конь добры быў сватні, званок прычапілі,
З бутэлькі пацягнем — што значаць там мілі!..
Эх, чаркі вы, чаркі, хто з вамі задрэме? —
Бяда — не бяда, акіян па калені!

— Гэй, крыкну, кіруй, сват! — Конь прэ ва ўсе ногі,
Хоць дзеўкі не знаў я, а сват [illegible] ёй дарогі.—
Кіруй, сват! — Мінаем даліны і горы;
Ноч ясна, марозна — і месяц, і зоры.
Званок залівaецца, свішча палоззе,
Снег скача, конь пырхне,— тры пляшкі у возе!..

Ляцім... Вось прыехалі, вылезлі з санак;
Сабака брахнуў, і хтось выйшаў на ганак.

— А хто там? — так чуем.— Свае, кажам, людзі.
— Дык проша ж у хату! — Сват нешта марудзе.
Ідзём. Вось і ў хаце. Лучына пылае.
Я толькі гляджу, дзе мая маладая.

З парога сказалі, як след: «...пахвалёны!»
— Навекі! — сказаў гаспадар на паклоны
І просіць садзіцца. Мы селі на лаве.
Ці гладка рэч, думаю, пойдзе аб справе?
Не быўшы ў такіх пераплясах ніколі,
Сам неяк не свой ды баюсь мімаволі.

Дасталі тытун, затуманілі люлькі,—
Капшук мой быў слаўны,— дастаў ад бабулькі,—
І, як бы нідзе ні аб чым і не дбаем,
З пустога ў парожняе пераліваем:
Адны хтось маўчаць з нас, а слухаюць тыя,
Ці тыя замоўкнуць, каб чулі другія.

Прайшло з паўгадзіны. Тут сват азірнуўся,
Выходзіць у сенцы, з бутэлькай вярнуўся
І гутарку аб інтарэсе заводзіць.
— Пачну, кажа, проста: круціць нам не ўходзіць.
Прыехалі к вам мы тавар аглядаці;
Барыш на стале во, і мы ў вашай хаце!

(Вось гэтак, прымерам, па добрай ахвоце
Сваты пачынаюцца ў нашай прастоце.)

Тут наш гаспадар, як ні ў чым не бывала,
Вядзе ў сенцы нас, дзе кабыла стаяла.
— Эх, лоўкая шэльма, і ўсё ёсць ахвотне!
Няма ў бягу лепшай. Аддам за паўсотні.
Гіршонак гаенскі прыходзіў сягоння,
Без торгу клаў сорак і пяць на далоні.—

Як гэта пачуў я, ўсяго аж затрэсла!
Куды тут нячыстая свата занесла?
А ён (пакой вечны!), не сцяміўшы рэчы:
— Мы ў сваты прыехалі к вам, чалавеча!
Хлапец і не бедны, і добрай натуры,
Завецца Міхалка, жыве каля Жмураў...—

Я лыпнуў вачыма. Тут зноў неспадзеўкі:
— Даруйце, васпанства: няма ў мяне дзеўкі!

Ўсіх баб — мая баба дый гэтая кляча,
Ніхто ў мяне больш іх не чуў і не бачыў!
Каб лепей хто ляпнуў анучай па мордзе,
Як гэта пачуці у гэткай прыгодзе!..

Як выйшаў я з хаты, як селі мы ў сані,
Як ехаў я з сватам,— хваліў як ці ганіў,—
Вы смейцеся самі ці лайце ад ведзем;
Мы з сватам тым часам к другой дзеўцы едзем.
Бо трэба вам ведаць, што сват мой, Кандратка,
Ні ў чым не адступіць, хоць шло б не ўсё гладка.

Прыехалі. Зноў гэтаксама сустрэлі.
Сват мой падбадрыўся, мяне больш асмеліў.
Дый мне лягчэй стала: тут бачу дзяўчыну,
Хоць дзеўка, сказаць,— адпусці, Божа, віны!..
Сват гэтага толькі не цяміць нічога:
Яму ўсюды проста, як з моста дарога.

Гарэлка ізноў на стале загасціла,
Пайшло дзела ладам; бяседа — аж міла.
Дзяўчыну ўжо маем,— што болей нам трэба?
Дый буталь гарэлкі — к ёй хлеб і да хлеба.
Ўсё гэта не кепска — па першай няўдачы,
Аж з радасці сват мой чуць-чуць не заплача!..

А я паглядаю к дзяўчыне з-за пляшкі,—
Па целе так проста і скачуць мурашкі!
Кляну ў духу жонак, сватоў ўсіх і дзевак...
Тут быў для мяне не канец неспадзевак!
Не даў, знаць, Бог шчасця мне ночкаю гэтай,
Ці мо пад такою радзіўся планетай...

Папіўшы гарэлку, дамоў маем ехаць;
Сват асалавеў мой, зрабіўся — як вехаць.
Ідзём... Бач, за печай сядзіць дзяцей двое:
Адно — хлапчанё, а дзяўчынка — другое.
— Чые,— спытаў,— гэта? — Аж дзеўка з куточка:
— Мае, мой ты мілы, сыночак і дочка...

Што ж болей? Эх, болей... падлі там сівухі!—
Ну і наварыў жа мне сват саладухі!
Прайшло з таго часу год дваццаць без мала,
На свет многа што прыбывала, ўбывала;

Жаніліся людзі, спраўлялі хрысціны,
Мне толькі на жонку не стала дзяўчыны...

Больш сватацца к дзеўкам мінула дурнота,
Прапала адвага, адпала ахвота...
Так байку закончыў сваю нам Міхалка —
Вядомы ўсім чыста манюка, брахалка.
Я слухаў, спісаў тут і вам ахвярую,—
Ану ж прыйдзе к смаку, тады дам другую.

[*1908*]

## ХМАРЫ І ДУМЫ

Чорныя хмары па небе плывуць,—
Чорныя думы заснуць не даюць:

Хмары хацінай, а думкі душой
Рады затрэсці, заціснуць сабой.

Валіцца з хмараў то снег, то вада,—
Чорныя думы прыносіць бяда;

Так і ваюе бядак-чалавек
З хмарамі, з думамі цэлы свой век...

[*1908*]

## ДЗЕ ВЫ?

Дзе вы, хлопцы непакорныя,
Дзе вы з песняй удалою,
Як на поле на прасторнае
Вы хадзілі грамадою?

Ці пайшлі вы у далёкую
У старонку у чужую;
Ці ляглі вы, адзінокія,
У магілку у сырую?

Дзе вы, песні, дзе, свабодныя?
Дзе ваш водгалас магучы,
Як вы звалі, сыны родныя,
Да той працы да кіпучай?

Ці замёрлі вы нячутымі
Серад лесу, серад поля;
Ці і вас скавалі путамі,
Ці і вас змагла няволя?

Гэй, нявідна друга сільнага,—
Спіць. Хто ж сон яго ўстрывожа?
Гэй, ад енку ад магільнага
Песня вырвацца не можа!..

[*1908*]

* * *

Як не выйдуць чарнасотнікі,
На благое ўсё ахвотнікі,
Дый на ўсю моц закрычаць:
«Думу трэба разагнаць!»

Ой, відаці, вельмі хочацца
Пурышкевічам, Дубровінцам
Ковы новыя каваць,
Ізноў турмы напаўняць...

Але выйшаў ім ды з памяці
Акцябра дзянёк семнаццаты:
Той вялікі маніфест,
Ды што ў турмах няма мест!

Эй гуляйце, чарнасотнікі,
На благое ўсё ахвотнікі:
Не век сеяці вам цьму,
Весна зменіць нам зіму!

[*1908*]

## СТРАХ

У страха вочы вялікі.
Да пары жбан ваду носіць.
*(Прыказкі)*

Ці з ласкі, ці з няласкі Боскай,
Не нашым гэта судзіць зданнем,—
Стаяла вёска бліз Лагойска
З сваёй нудой і нараканнем.
А ў ёй жыў Юрка Даніlёнак,
Як нарадзіўся — ад пялёнак.

Быў Юрка чалавек нядрэнны,
Адно быў трохі пустамеля:
Аж так і трэскаюцца сцены,
Як расхлюсціцца мала-веле;
Не раз ён з толку сам саб'ецца,
Ці праўду рэжа, ці смяецца.

А як крыху ён быў падпіўшы,
Свае тады не пазнавалі:
І ў поўнач з папраці расцвіўшай
Зрывае кветку на Купалле,
І на Узвіжанне з звярамі
Гуляе ноч, як з сваякамі.

Няма яму ніякіх страхаў:
Шаптун, вядзьмак прад ім хавайся!
Самога чорта нёс пад пахай,
З самою ведзьмай цалаваўся!
Такі ўжо Юрка Даніlёнак,
Як нарадзіўся — ад пялёнак.

Але на нашым зменным свеце
Няма, бач, сталага нічога,
І салаўём падчас запеці
Ваўка прымусяць беспутнога,—
Так наш і Юрка, як ніколі,
Змяніўся з часам паняволі.

Было, як помню, гэта самай
Перад Вадохрышчам куццёю.
Вячэру з'еўшы, да Адама
Сышліся ўсе мы грамадою —
От, пры лучыне ў цёплай хатцы
Паваражыць, пазабаўляцца.

Былі старыя і малыя,
Падросткі, хлопцы і дзяўчаты;
Крычаць адны, смяюцца тыя,
Аж так і рвецца гоман з хаты!
І Юрка тут, і па-сваёму
Прагаварыць не дасць нікому.

Я слухаў, слухаў, ды цярпення
Не стала слухаць перахвалкаў!
Слоў колькі, выйшаўшы у сені,
Шапнуў Лявону і Міхалку;
Пагаварыўшы, зноў прыходзім
І гутарку няўзнак заводзім:

— Хто (тут я к Юрку вокам кінуў)
Адважны з вас такой парою
Ў манеж схадзіць, набраць мякіны
І к нам сюды вярнуцца з ёю,—
Хаця і поўнач ужо пэўне
І першыя не пелі пеўні?—

Тут хлопцы жыва падхапілі:
«Вось Юрка нам дакажа славы!
Ці ж ён бы страху не асіліў?
О, ён для дружбы, для забавы
І ў пекла, калі трэба, сходзе,—
Адважным гэта смех, і годзе!..»

Наш Юрка, хоцькі ці не хоцькі,
Не рад з свайго ўжо выхваляння;

Папхнуўся ў ток той сярод ночкі,
А з ім наш смех і наруганне.
Аж вось, праз нейкіх мінут дваццаць,
Мы чуем: «Гвалт! ратуйце, братцы!»

На двор мы выбеглі ўсе гурмам.
Ляціць наш Юрка, як здань, белы,
У сенцы, ў дзверы валіць штурмам,
Як ліст ад ветру, дрыжыць цэлы;
Убег у хату, дух не змене,
Як бы у чортавай быў жмені.

Мы ўсе яго давай у хаце
Прыводзіць к ладу і спакою,
Давай смяліць, давай пытаці:
— Што, гавары, было з табою?—
Той, страх змагаючы авечы,
Пляце нястворанныя рэчы:

— О, Езу! Божа мой вялікі,—
Ён так расказ пераплятае.
— Я чуў няземскія там крыкі,
Была там сіла незямная!
З усякім страхам я пазнаўся,
А з гэткім век не спатыкаўся!..

Іду ў манеж я той Рыгораў,
Прыйшоў і мацаю у куце,
І думаю сабе ўжо скора
Да вас з мякінаю вярнуці;
Аж калі хапну я за нешта —
І сіл маіх прапала рэшта!..

Згубіў і памяць, і адвагу,
Дрыжу, хістаюся, як колас,
І не магу, і даў бы цягу,
А тут — бух! нейкі страшны голас:
Ні чалавечы, ні сабачы,—
Люцыпар з пекла не іначай!

Сабраў я тут астаткі сілы
Ды як нагамі не задыдню!
Хоць бы схавацца да магілы,
Але ўцячы ад гэтай злыдні!

І прыляцеў к вам гэтак, брацці,
Вы ж прэце чорта выганяці! —

І ўсім не па сабе нам стала:
Мурашкі бегаюць па целе,—
А што, як праўды тут нямала
І ўбіўся чорт на самым дзеле?
Але ўсе надрабляем мінай
І ў ток збіраемся з лучынай.

Ідзём. І Юрка дрыпе ззаду.
Прыйшлі. З увагай, як належа,
Давай шукаць пужалу, здраду
Па ўсіх вуглах, кутках манежа.
Аж бач — у куце, у мякіне,
Ляжыць свіння, як усе свінні!!!

Ўсе ў рогат! кпінкі і прытыкі
Пайшлі у ход на ўсе староны:
«Зух Юрка! Чорт жыў і вялікі!»
«Ці не пагнаць вадой свянцонай?»
А Юрка... Юрка з пустамелі
Стаў з часам смелым і на дзеле.

[*1908*]

## СТУЖА ЗБЛІЖАЕЦЦА

Сонца хаваецца ў хмары,
Золкай слатой неба жаліцца,
Каўкі заслалі папары,
Чорна снуюцца, як мары...
Стужа збліжаецца.

Бусел сялібу пакінуў,
К вылету ў вырай збіраецца,
Лісце скідае рабіна,
Так не бушуе скаціна...
Стужа збліжаецца.

Людзі няўтульна схмурнелі,
Песні не так разлягаюцца,
Дрож прабягае па целе,
Цiснуцца к хаце, к пасцелі...
Стужа зблiжаецца.

Нудна... Сяджу адзінокі,—
Думы дакучна чапляюцца,
Сніцца край лепшы, далёкі,
Жаль падступае глыбокі...
Стужа зблiжаецца.

Глуха прайшлі год за годам,
Дні, што ідуць, не ўсміхаюцца,
Моладасць з вольным паглёдам
Гасне пад горасці лёдам...
Стужа зблiжаецца.

Цёмнасць расставіла сеці,
Слёзныя віхры ўзнімаюцца.
Губяцца сілы ў расцвеце...
Божа, як жудка на свеце!
Стужа зблiжаецца.

[*1908*]

## ЯШЧЭ ПРЫЙДЗЕ ВЯСНА

Не пужайся, што здрадныя хмары
Неба ўслалі з канца да канца,
Што свае цемната ўнесла чары,
Закружыўся груган над папарам:
Яшчэ прыйдзе вясна!

Не пужайся, што лісць пажаўцелы
Лес скідае з канца да канца,
Дый не чуць птушак пеўчых дзень цэлы,
Прашмыгне толькі заяц нясмелы:
Яшчэ прыйдзе вясна!

Не пужайся, што бедная ніва
Апусцела з канца да канца,
Што мужыцкай рукой нешчаслівай
Неужоннае скончана жніва:
Яшчэ прыйдзе вясна!

Не пужайся, што вольныя сілы
Ў путах дрэмлюць з канца да канца,
Што насільства ўсю праўду здушыла,
Што смерць густа капае магілы:
Яшчэ прыйдзе вясна!
Яшчэ прыйдзе!..

*1908*

## ПЕСНЯ

Там, гэй, на ліпе на расахатай
Птушка гняздо ўе, будуе;
Там, у хаціне, там, у пахілай
Маці сыночка гадуе.

Вецер наскочыў, вецер нячулы
Птушцы гняздзечка раскінуў;
Выгнала доля, выгнала сына
З матчынай роднай хаціны.

Цвіркае птушка, жаліцца птушка,
Вецер, жыццё праклінае;
Плача матуля, плача, галосіць,
Сына ў акне выглядае.

Там, за хацінай, там, каля плоту,
Ліпа шуміць у гародзе
І аб той птушцы, і аб матулі
Песню ў пашуме заводзе.

Ходзяць там людзі, ходзяць грамадай,
Б'юцца, ўпіваюцца, скачуць,—
Ані той птушкі, ані матулі,
Ані той ліпы не бачаць.

*1908*

## БОР

Цёмна і хмарна, хмарна і цёмна,
Як ноч, пустынна раскінуўся бор;
Горда над нівай высіцца соннай,
З небам вядзе патайны разгавор.

Глуха нясуцца вольныя шумы,
Веткі касматыя гнуцца, трашчаць;
Родзяцца ў сэрцы дзіўныя думы,
Хочацца пушчу падслухаць, паняць.

Што ты, аб чым ты, бор неспакойны,
Гэткую гутарку ў шуме завёў;
Ці сваёй доляй ты недавольны,
Ці што не так ты на свеце знайшоў?

Можа, ты ўбачыў слёзы нядолі?
Можа, дзяцей тваіх недруг пацяў?
Можа, пачуў ты звон путаў няволі?
Можа, няшчасных жыццё ты паняў?

А можа, вецер, што скрозь гуляе,
Што-небудзь новае збаяў табе?..
Эй, гавары ты, пушча глухая!
Слухаць прыйшоў я здалёку цябе.

Цёмна і хмарна, хмарна і цёмна,
Як ноч, пустынна раскінуўся бор;
Горда над нівай высіцца соннай,
З небам ён толькі вядзе разгавор!

[*1908*]

## ПАДЫМАЙСЯ, ЎСТАВАЙ!..

Падымайся, ўставай!
Апранай капоту:
Ад двара, ад купца
Клічуць на работу.

Падымайся, ўставай!
Шмат ё латаць дзюрак:
Зарос кустам дзірван,
Трэба сотню шурак.

Падымайся, ўставай!
Умыйся слязою:
Кабыліну ваўкі
Кончаць за гарою.

Падымайся, ўставай!
Думкі патрывожы:
Хмара йшла, разнясла
Твае гоні-збожжа.

Падымайся, ўставай!
Звяла немач сына:
Трэба ймшу закупіць,
Трэба дамавіна.

Падымайся, ўставай!
Не бурчы спрасонку:
Дружкі йшлі і зайшлі,
Просяць у карчомку,

Падымайся, ўставай!
Прапіў, выпіў — годзе!
Цэлы свет у вачах
Калаўротам ходзе.

Падымайся, ўставай!..
І нашто ж ты здаўся?
Пацягнулі ў астрог;
Ну, вось і даспаўся!

*1908*

## УЖО ДНЕЕ

З-над сонных вод Нёмна, з-пад хвой Белавежы,
Суседзі, суседкі, вітаю я вас!
Блудзіла я доўга па рытвах, па межах,
Аж сцежку-дарожку знайшла во хоць раз.

Хоць, пэўна, вы знаеце, хто я такая,
Якім правам тут перад вамі стаю,
Дзе дом мой, народ мой,— з якога я краю,—
Паслухайце смутную повесць маю.

З канца у канец, дзе загнанае слова
Звініць беларуса,— ўладанне маё;
Шмат сотняў таму лет у хаце вясковай
Ўзяла і праводжу сваё я жыццё.

З-пад гэтай хаціны па выдмах нязнаных
Ганялі, чаго не згубіла, шукаць.
Глядзіце: во рукі і ногі у ранах,
А раны на сэрцы — каму ж іх паняць?!

Па грудах, каменнях хадзіла я босай,
Крывёю чырвонай дабрыла зямлю;
На шаты мае паглядалі з'укоса
І песню з насмешкай віталі маю!

З балотам мяшалі, пагардай плявалі
Ўсе тыя, што выраслі нават са мной!
З маім людам згінуць навек мне казалі,
І страшна было мне так жыць сіратой!

За сошкай, за коскай, з сярпом і з сякерай
Я шла-валаклася, дзе шоў мой народ;
Заплатай было, што ён часам мне верыў
І думкі снаваў аба мне з году ў год.

Шлі векі. Магіла лягла пры магіле,—
Вада змыла наспы, крыжы пагнілі;
Гаротнасцяй зможаны, ў крыўдзе, ў бяссіллі
Там прадзедаў косці без часуляглі.

Шлі векі. Хрэст брала народнай слязою;
Між віхраў, і бураў, і холаду зім

З людской неразлучны ўзяла шлюб бядою,
І тузаюць мной, як народам маім.

Здушылі мне голас на родных на нівах;
Крыж цяжкі упадку з народам нясла,
І думаў чужынец, што ўжо я няжыва.
Не верце! Жыву, як ад векаў жыла!

Я ўсё, колькі сілы, змагала, ўставала!
Я жыва! Народ мой са мною, пры мне!
Я ўсё перанесла і выйшла я з хвалай,
Я сільна, я вечна ў сваёй старане!

Прайшло засляпенне, мінае трывога;
На небе ўжо новая відна зара.
Шырок прада мною гасцінец-дарога.
Ўжо днее! ўжо днее! — к сваім мне пара!

[*1908*]

## ДУНУЛІ СІВЕРЫ...

Дунулі сіверы з поўначы,
Кроў касцянела у жылах;
Людзі, благаючы помачы,
Шлі за німашто ў магілы.

Выскачыў вецер палудзенны,
З ім — і вясеннія шумы;
Дрогнулі сэрцы разбуджаны,
Ўдарылі ў светлыя думы.

Міла цяпло расплываецца,
Лёгка жывёліне ўсякай,
Зеленню нівы ўсміхаюцца,
Хмараў на небе ні знаку.

Шаты паўсюды нядзельныя,
Ў песнях Вялікдзень чуваці,

Згінула доля бясцэльная,
Сонца над хатай і ў хаце.

Думалі душы — ўжо вольныя —
Дні ўсешчаслівасці блізка,
Дый, знаць, гаротным бяздольнае
Суджана з роду, з калыскі.

Дунулі сіверы з поўначы,
Кроў касцянее у жылах,
Людзі, благаючы помачы,
Сходзяць бясчасна ў магілы.

*1908*

## КРЫЖЫ

Чуць мы Божы свет убачым
І да самай да магілы
Ўсё, як ёсць, крыжамі значым,
Ці то міла, ці не міла.

Як у хаце нарадзіўся,
«Бабка» крыжам прывітала;
Як у цэркве ахрысціўся,
Крыж «кума» падаравала.

Як пайшлі дні маладыя,
Зноў без крыжа ані трошкі:
Дзе ні ступіш, крыжавыя
І гасцінцы, і дарожкі.

Крыж баліць табе, бяднязе,
Ад той цяжкай ад той працы,
Накрыж латы у сярмязе,
Накрыж дзюркі ў тваёй хатцы.

Пальцы накрыж ты складаеш
Ад напраснай ад напасці;

Крыжам злыдняў адганяеш,
Каб ад крыўдаў не прапасці.

Доляй мучаны паганай,
След слязой пачнеш крывавіць;
Крыжам ляжаш распластаны,
На сваім абы паставіць.

Крыжам ляжаш за парогам
У той цэркве, дзе хрысціўся,
Крыжам ляжаш перад Богам,
Каб цябе Ён не забыўся.

Так жыцця крыж мусіш несці,
Як дзяды твае насілі,
А як данясеш да смерці,—
Крыж паставяць на магіле.

*1908*

## АРАТЫ

Цягнецца араты
За сахой крывой.
Конік слепаваты
Трасе галавой.

Бразджыць, скача сошка
То на пень, то з пня...
Цяжанькая ношка,
Араты, твая!

Стаў з трудоў гарбаты,
Хоць яшчэ не стар,
Падбел пабіў пяты,
Загарэў ўвесь твар.

І ногі, і рукі
Крывыя дрыжаць;

З якой, ах, прынукі
Мусіш гараваць?

Што цябе ганяе
Так трудзіцца век:
Ці доля такая,
Ці звер-чалавек?

Ну, ідзі, араты,
Гэй, далей ідзі!
Шнурок вузкаваты
Ары, не глядзі.

Ў сыру зямлю прутка
Сошку закладай,
Каня пугай хутка
Гані, паганяй.

Скібіну ў скібіну,
Загон у загон,
Вылі дзесяціну,
Не лічы варон!

За кожным зваротам
Баразну раллі
Палівай ты потам,
Слязіной палі.

Змогся. Час прысесці,
Аддыхнуць, дружок...
Нясе жонка есці
Цэлы спарышок.

Ну, што, баба, гэта
Хлеба не нясеш?..
Ці ж на то ўсё лета,
Араты, арэш?

Ці ж на тое трэба
Ліці табе пот,
Каб есці без хлеба
Лебяду, асот?

Ці ж на тое ў полі,
Хоць душой замры,

Б'ешся без патолі
З зары да зары?

Доля твая, доля!
Дзе ж яна расла?
На чыстае поле
Хіба уцякла!

Ой ты, мой араты,
Хмары ты хмурней:
З цябе свет багаты,
Ты ж усіх бядней...

*1908*

## БЕЛАРУШЧЫНА

Сотні лет, непрыяцелем-братам прыбітая,
Зарастаючы зеллем чужым, як лазой сенажаць,
Ты ляжала, няпамяці пылам пакрытая,
А народ твой быў змушан маўчаць і табой пагарджаць.

І круцілі цябе, як каму падабалася,
Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй,
на свой лад;
Ажно часам жальба, як кляцьба, разлягалася,
Ды нячутай ляцела, ўміраючы, ў грудзі назад.

Спаў народ, і ты спала, і ворагі верылі,
Што ніхто не разбудзіць цябе, што заснула навек.
І дзялілі цябе, ўсімі мерамі мерылі,
Што памерла ўжо ты,— не адзін так казаў чалавек.

Час ішоў. К жыццю новаму клікі пачуліся;
Ўсе народы паўсталі на бітву за права сваё.
Ты — як спала — ўскрэсла́, твае дзецi прачнуліся.
Твой народ, ты сама ўсталі новае строіць жыццё.

І цяпер хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны,
Хоць пад правы твае падрываецца шмат хто,
як крот,—
Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына:
Зразумееў і успомніў цябе твой мільённы народ.

Сціхнуць віхры, заціхне пара непагодная,
Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыццю;
Панясуцца, як звон, песні вольныя, родныя,
Апяваючы долю, нядолю, народзе, тваю.

*1908*

## РОДНАЕ СЛОВА

Магутнае слова, ты, роднае слова!
Са мной ты на яве і ў сне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай,
Ты песень наўчыла мяне.

Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!
Ты крыўды, няпраўды змагло;
Хоць гналі цябе, накладалі аковы,
Дый дарма: жывеш, як жыло!

Свабоднае слова, ты, роднае слова!
Зайграй ты смялей, весялей!
Хоць гадзіны сыкаюць, кружацца совы,
Жывеш ты на хвалу людзей.

Загнанае слова, ты, роднае слова!
Грымні ж над радзімай зямлёй:
Што родная мова, хоць бедная мова,
Мілей найбагатшай чужой!

*1908*

## АБ МУЖЫЦКАЙ ДОЛІ

Ходзяць гутаркі па свеце
Летам і зімой,
Ад вашэці да вашэці
Ходзяць чарадой.

Па балючай па вячыстай
Б'юць усё струне:
Абяднеў мужык дачыста,
Аж чуць-чуць дыхне!

Звёў сваю нядолю-долю
У казіны рог,
Цёплай хаты, ўдоваль поля
Крыў бяднязе Бог.

Скарб адвечны — гаспадарку
Пераеў, прапіў,
Цемнату, бяду на карку
Возіць, як вазіў.

Думкі славы, долі, волі —
Як і не былі,—
Дрэмлюць недзе ў чыстым полі...
Ўзыдуць жа калі?

Трэба злое ўсё растрэсці,
Сонных разбудзіць,
Трэба новае ўсё ўзнесці,
Новы шлях адкрыць.

...Ці што знаюць, ці не знаюць,
Вось, абы з бяды!
Так пяюць, так адпяваюць
На усе лады.

Чуе ўсё мужык наш гэта,
Чуе кожны дзень,
Ды ўздыхае з лета ў лета,
Ды снуе, як цень.

Ой, не грэе, хоць і свеціць,
Месяц над зямлёй...
Ходзяць гутаркі па свеце,
Ходзяць чарадой.

*1908*

## ДУМКА

— Эх, мой братка, эх, мой родны,
Што так спахмурнеў:
Ці ты збіўся з пуцявіны,
Ці саўсім не меў?..

— Як жа мне вясёлым быці,
Як жа не тужыць:
Доля наша, доля цёмных,
Каменем ляжыць.

Глянь на нашы хаты, вёскі,
На шнуры, на край,
На народ зірні сярмяжны
І тады пытай.

Столькі той крыві чырвонай,
Столькі слёзных рэк
Разышлося, разлілося —
Крыўдна з веку ў век.

А заплатай, а падзякай
За мільёны ран —
Ўсё крыжы і наспы тыя
Ды нямы курган.

— Не сумуй, брат! Бліснуць зоры,
Шчасця ўскрэснуць дні;
Долі, волі ўзойдзе кветка
Са слёз і крыві!

*1908*

## ФЭЛЬКАВА ВЯСЕЛЛЕ

Вось і вяселейка
Ў нашага Фэлькі!
Ў дзела захоплены
Міскі, бутэлькі.

Што называецца,
Музыка рэжа;
Полька, лявоніха,
Знай, не залежа!

Хлопцы з дзяўчатамі
Ў жарты заходзяць,
Бабы шлюбоўнікам
Песні заводзяць.

Людам паўнюханька
Хата набіта...
Гоман, таўпеханне —
Пекла, і квіта!

Вось, каб дзе дзеўчынку
З гора абняці,
З чарачку выпіці
Дый пайсці спаці!

*1908*

## ПЕРАД ВІСЕЛЬНЯЙ

Прыблуды з-пад Нявы крывавай,
Калі ж апомніцесь, калі?
За што стапталі маю славу,
За што на вісельню ўзвялі?

Я ў вёсцы жыў,— вы там душылі,
Я быў там нем, я быў там слеп;
Жыццё ўвялі, як у магіле,—
Дзе ў вёсцы свет, дзе ў вёсцы хлеб?

І я пайшоў, пайшоў за хлебам...
Бяда, бразг путаў — дзе ні кінь;
Не раз начлег пад голым небам
Я меў ў пустыні сам адзін.

Так брыў... Дзе ж звалі небараку,
Апошняй сілы дабываў;
І вашых я страчаў служакаў,
Дзе толькі быў, дзе гараваў.

Жыву... Ўсё горай — чым жыў далей,
Пракляў прыгон паганы свой...
Штохвіля крыкі далятталі —
За волю клікалі на бой.

То падымаўся люд скаваны,
Дзе быў кат-цар і капітал,
Няволі рваліся кайданы,
За трупам клаўся трупаў вал.

Раз мне ўсе ходы зачынілі,
Ўсе ходы к зноснаму жыццю,—
Я напралом прайшоў ў бяссіллі
За праўду пастаяць сваю.

А вы, ўпыры, вы, крывапіўцы,
Мяне, сарваўшы з родных ніў,
Судзіць пасмелі, як убіўцу,
Хоць я ваякам толькі быў?!

Каб мітры, скіпетры, тыяры —
Што ўжо крывёй зліваў і дзед —
Удзержыць,— вы ўзвялі на нары
Унука, што йшоў за прасвет.

Ну, што ж,— пацешцесь, душагубы.
Я ўжо не выйду з вашых рук,—
Вы давялі мяне да згубы,
Вы і збаўляеце ад мук.

Але не стану біць паклонаў,
За сваю гібель не змаўчу;
Знаць не хачу вашых законаў,
Знаць вашых суддзяў не хачу!

Вы ў ланцугі ўсё закавалі:
І суд, і праўду, і закон!
Расправу правам вы назвалі,
А ласкай — пахавальны звон.

Вы задушылі дух народны,
Да слёз мільёны давялі,
Збылі з жыцця вам непрыгодных,
Зглушылі кліч — «волі, зямлі».

Вы братняй кроўю ап'янелі,
Усіх звяроў сталі падлей,—
Вы разнікоў прайшлі на дзеле —
Ў разніцы гоніце людзей.

Завёўшы тысячы народу
Ў палёх маньчжурскіх палажыць,—
Вы на ваякаў за свабоду
Мячы патрапілі тачыць.

Пусціўшы з торбамі на мукі
Сірот, і матак, і ўдавіц,
Вы загасілі свет навукі,—
Давай вам катаргаў, цямніц!

Айчыну ўбраўшы ў пажарышчы,
Сынам прыпомніўшы ясыр,—
Спраўляйце з груганамі йгрышчы
На косцях братніх на ўвесь мір!

Яшчэ прыбавіце скананне —
Прадсмертны вашых рук абраз,—
Нядоўга ж ваша панаванне —
Загуба прыйдзе і на вас!

Загубу крыўдаю, слязамі
Ў магільны выкапалі ніз;
Людской расплаты ўжо над вамі
Тапор адточаны завіс.

...Дзе ж кат?.. Гэй, шэльма, вешай лоўка!..
Не меў я волі, ні вугла...
Намыль з канца ў канец вяроўку,
Каб лепей шыю абняла!

Ў паветры ногі затрасуцца,
Байца не стане аднаго,
Дый хоць званы й не адгукнуцца,
Не пахаваецe ўсяго!

Не ўмруць ніколі грозны клікі
На сонца захад і на ўсход:
Тут спіць ваяк, ваяк вялікі
За волю, долю і народ!

*1908*

## ЎСЁ САЮЗЫ...

Ўсё саюзы ў беларусаў,
Ўсё апекуны,—
А бадай жа на іх немач!
Адкуль жа яны?!

Быў «Крестьянин», плёў «Крестьянин»
Сеткі, як павук.—
Глупства выйшла — бач, няма ўжо
За што заняць рук.

Скуль узяўся яшчэ шэльма —
«Общество» скуе,—
«Белорусское» няйначай,
Цёмныя мае.

Саланевіч ды з кампаняй
Сцапаў гэту мысль,
А ўсё «истинным» тым духам
Смярдзіць, знай, дзяржысь.

Ох, пaможа саюз гэткі
Беларусі нашай,
Як «Крестьянин», як знаёмы
У хваробе кашаль.

*1908*

## НІБЫ КАЗКА

На свеце на белым жыў Янка адзін,
Быў добры сусед ён і добры быў сын,
Любілі яго ўсе, на куце сядзеў,
Ніхто лепшай ласкі, як Янка, не меў.
І праўда — з яго быў нішто чалавек.
І, пэўне, так зжыў бы ён цэлы свой век.

Дзе жыў гэты Янка, там двор блізка быў,
Туды схадзіць часам наш Янка любіў,
Але — не на працу, а так сабе,— знаць,
Пабыць з панічамі, жыццё іх пазнаць.
І добра пазнаў ён іх гэта жыццё,
Бо стала нямілым яму сваё ўсё.

А толькі, як Янка ні корчыўся ўвесь,
Ніяк цераз панскі парог не пралез;
Ні хорт і ні выжал цяперака стаў,
Ад вёскі адбіўся, ў палац не папаў.
У вёсцы ўсім страшны, глядзіць, нібы пан,
У двор жа як прыйдзе — такі самы хам.

Нарэшце дакучыла Янку жыць так.
Нырнуў сюды-туды, папаў нейкі знак,—
Прадаўся (так чуў) ў нейкі чорны саюз
І гэй жа ўсіх вабіць у гэты хаўрус!
Што станецца далей з героем маім,
Я вам раскажу другім разам аб тым.

*1908*

* * *

Любіць ён работу,
Нават — аж да поту,—
Але між суседзяў,
На куце, у бяседзе.

*1908*

## ДЭПУТАТУ N. N.

Пасаромся, дэпутаце,
Хоць сваёй чорнай бялізны,
Ты ж другой, кром Беларусі,
Не павінен мець айчызны.

А калі так вельмі хочаш
Мець і мачыху, кром маткі,
То йдзі вон ад нас, шаноўны!
Забірай свае манаткі.

Замест пасвіцца над праўдай,
Пасвіць душы йдзі ў загіне,
Хоць табе йдзе лепш да твару
Пасвіць крадзеныя свінні.

*1908*

## З НАДЗЕЯЙ ГАРОТНАЙ...

З надзеяй гаротнай,
З слязою чырвонай
Блуджу я, маркотны,
Па родных загонах.

Блуджу і не знаю,
Дзе праўда, дзе сіла,
І ціха пытаю
У думкі нямілай:

Няхай мне гавора,
Няхай апявае
Аб сонцы, аб зорах,
Аб радасным краі.

Дзе неба — як неба,
Дзе доля — як доля,

Дзе хлеба — шмат хлеба,
Дзе воля — раздолле!

Дзе людзі — як людзі:
Не чахнуць у плесні,
Дзе з сэрцамі грудзі,
Дзе песні — як песні!

Дзе спёкі, марозы
Ў знакі не даюцца,
Дзе ўздохі, дзе слёзы
Не чутны, не льюцца.

Як самае сонца,
Дзе ясна — так ясна,
Як самае сонца,
Дзе шчасна — так шчасна.

Зазнаць хоць мінутку
Пацех гэткіх мілых!..
Бо ў вечным жыць смутку
Я, людзі, не ў сілах!..

*1908*

* * *

Грымну я, грымну па струнах бунтарных
Рукою, потам абмытай,—
Ліся, каціся па гонях папарных,
Розгалас песні забытай.

Доўга блудзіў я, блудзіў дзірванамі,
Крыж спатыкаў, дзе праходзіў;
Смехі, насмешкі няслісся з вятрамі,
Шла непагода ў народзе.

Жаль далятаў з недалёку, далёку,
Чулі жаль гэты камені,

Чэз так прыгонна, самотна, нялёгка...
Церні, за цернямі церні.

Стрэну калі часам дзе прасвятленне,—
Злыбедай сонца зардзіцца;
Следам сыходзяць, ідуць пакаленні —
Ўсе ад цямніц да цямніцаў.

*1908*

## ЗАМЧЫШЧА

Спавіты няпамяці мглою
Руіны замчышча ляжаць;
Муры зарасліся лазою,
Навокал балотная гаць.

Людской не пачуеш гамонкі,
Не стукне там конь капытом,
Скрозь вее магільнай палонкай,
Жах кожным ківае кустом.

Адно часам птах заблуканы
Залыпае крыллем на ўмор,
Ды выгнаны звер на паляны
Выццём закалыша прастор.

*1908*

## НАВАГОДНІЯ ЖАДАННІ

Як ідзе Новы Год, на ўсім свеце народ
Да жычэння сабе штосьці мае;
Дык і ты, як усе, спаткай году прыход,
Беларусаў сямейка худая.

Кожны год, што мінаў, штосьці нам не дадаў,
Аж сабраўся так доўг немаленькі.
Хай жа Новы наш Год, што прыйшоў, завітаў,
Зверне ўсё нам, як ёсць, да капейкі!

Хай не будзе круцель, дасць нам просценькі цэль
К лепшай долі, і волі, і славе;
Мы не зналі жыцця, ні вясёлых нядзель,—
Хай Год Новы ўсё гэта паправе!

Сваркі, звадкі не раз былі згубай для нас,
Разлучалі са шчасцем, з свабодай...
Хай жа з Новым Гадком новы бліжыцца час,
Брацтва, роўнасць, супольнасць і згода!

Во жычэнні усе, Новы Год, да цябе;
Іх не вельмі і многа, здаецца.
Так і песня пяе, так, людцы вы мае,
Знаю, ў думках усім вам снуецца!

*1908*



# 1909

## МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ

Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая старонка,
Што гібела сталецці ў бяспуцці, ў пацёмках,—
Гэй, скажы, скуль цяперашня слава твая?
Гэй ты, гэй, Беларусь маладая мая!
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Не з вясёласці яснай, не з ясных палацаў,
А з канаючай крыўды ў пахіленай хатцы,
Вызываная праўдай, таптанай, жывой,
Я ўзышла, расцвіла непагаслай зарой.

Дарма хэўры чужынцаў мяне застаўляюць
Пакланяціся ім, прадаюць і купляюць
І апекай сваёй зневажаюць мяне,—
З сваім людам не дамся ў сваёй старане.

Ні насмешак, ні пастраху ворагаў сільных,
Не пужаюся й песень панурых, магільных,—
Свету цэламу лжывыя вочы пратру,
Што ўладарка я тут, не ўмярла і не ўмру.

Гартавана слязьмі і крывёю народа,
Разаб'юцца цяпер аба мне ўсе нягоды,
І дзе ўпадак быў мой, стане думна сын мой,
Повен волі і славы нязломнай ступой.

Я святла іскры ў думках бяздольных засею,
Аднаўлю сэрцы іхныя гартам, надзеяй,

Пакажу ім жыцця іх праўдзіву зару,
Па развалінах нову ўсябытнасць ствару.

І ад краю да краю ўсё далей і далей
Моц мая разальецца нязможанай хваляй,
Песняры аба мне будуць песні складаць,
Народ будзе іх пець і мяне праслаўляць.

Грамадзянская згода, супольнасць загосце,
Аж усцешацца прадзедаў цені і косці,
Слоў унука не зглушыць ніякі прымус,
Што ён роднай зямлі верны сын, беларус.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая старонка!
Уставай жа, ўставай з паніжэння, з пацёмкаў,
Хай жа будзе нязможана ўлада твая!
Гэй ты, гэй, Беларусь маладая мая!

*1909*

## У ШЫНКУ

Што заснуў там, шынкар? Гэй, сякі ты, такі!
На стол чаркі! П'юць, знай, нездарма бедакі.
Не нам долю сваю ўспамінаць-праклінаць,
Налівай, выпівай, каб не чуць і не знаць!

Ты, музыка, настрой нам скрыпулю сваю,
Я пад звон гулкіх струн аджыву, запяю!
Толькі рэж — не жалей, агнісцей, весялей,—
Так ад самай душы, ад збалелых грудзей!

Сірата я сягоння — дзе гляну — вазьму.
Калісь бацьку [redacted] меў, пакой вечны яму;
Цягавіт быў, не раз недаспаў, недаеў,
Жаль старога — не ў час ён душой загавеў...

Дзе за вёскай пуціны ідуць накрыж дзве,
Там гурбок ты убачыш у цёмнай траве;

Там бярозка, пасаджана мною, шуміць,
Салавейка вясной там спяваці ляціць...

...Свой напеў галасіла прадвесне людзям,
Крутавата на вёсцы прыходзілась нам:
Тым няхват хлеба, корму,— падаткі другім
І той сон і спакой аднімалі зусім.

І стары мой у гэтым ані не адстаў:
Ледзь хадзіў, уздыхаў, штось пад нос барматаў.
Што рабіць? Ёсць Красулька — жывёлка адна,
Трэба ў горад, на торг,— няма рады, бяда!

Слязіну-гарчыню абмахнуў рукавом,
За вяроўку, за цёлку ды марш пехатом.
Толькі робіцца цёмна ў вачах бедаку:
І чаму ж так ўсё не ручыць мужыку?

Вось і горад. Красульку таргуюць,— прадаў,
Барыш лоўкі папіў, грошы добра схаваў,
Машыруе дамоў, падпявае з нуды,—
Хоць на час адкупіцца ёсць чым ад бяды.

Многа звера у пушчы ў цёмнай снуе,
Болей злыдняў між намі ё, людзі мае!
Многа сцежак-дарожак ля нас лягло тут,
Толькі з іх мужыку — адны мукі і блуд...

Ужо ладна за горад стары адышоў,
Тут за пазуху зірк: што схаваў — не знайшоў!
Ні кароўкі, ні грошы няма ўжо, няма...
Не бяда: дзяга ёсць, ёсць пацеха адна!

Мы з дарогі чакаем — і маці, і я;
Дзень, другі не відаць, ажно трэцяга дня
Слых пайшоў па сяле, што ў лясочку пятлёй
Хтось закончыў жыццё — гэта быў... гэта мой...

Гэй, што спіш там, шынкар? Гэй, сякі ты, такі!
Болей водкі! П'юць, знай, нездарма бедакі!
Не нам долю сваю ўспамінаць-праклінаць,
Налівай, выпівай, каб не чуць і не знаць!..

*1909*

## А ЯК МЫ З ХАТКІ ВЫХОДЗІМ...

...А як мы з хаткі выходзім,
Крыжам сябе абазначым,
Блудна вачыма паводзім,
Ці калі вернемся, ўбачым?

А як мы пойдзем па полі,
З намі, за намі нягода,
Па нашай ніве гуголле,
Па нашым поце урода.

А як пальецца ў пацёмках
Песня за лесам, за борам,
Слухаюць елкі, сасонкі,
Лес толькі з намі гавора.

А як мы пойдзем гасцінцам,
З намі, за намі ўздыханні,
Ў дзённай і ночнай часінцы
Блудзім і блудзім, як зданні.

А як мы вернемся к брату,
Лепшай спытаем дарогі,
Маем пацехі багата:
Тыя карчомкі, астрогі.

А як на неба мы глянем,
Дзе дрэмлюць сонца пажары,—
А ні тых зор, ні світання,
Хмары, і хмары, і хмары...

А як да могілак прыйдзем:
Крыж, каля крыжа бадылі,
І тут мы толькі увідзім,
Як жа здарма век блудзілі!

*1909*

## ЗІМОВАЯ НОЧ

Каля зоркі зорка
Ўніз глядзіць, мігціць;
Каля горкі горка
Снегам зіхаціць.

На гасцінцы скрогат,
На прысадах інь,
Чутна воўчы рогат...
Глуш, дзе вокам кінь.

Цягнецца каняжка,
Сані — за канём;
Янка пад сярмяжкай
На санях клубком.

Сіверна, марозна,
Забірае дрож,
Пырхае трывожна,
Толькі жыў гнядош.

Неба залаціцца,
Пад санямі шум;
Многа Янцы сніцца
Ў гэту ночку дум...

Аб спакойнай вёсцы,
Аб кутку сваім,
Аб вясне, аб сонцы,
Аб жыцці другім.

Міла ў думках брэдзе,
Цешыцца праз сон,
Але ці даедзе?
Ці даедзе ён?..

*1909*

## ЗВАЯВАНЫМ

Спіце ўсе тыя, што праўды па свеце шукалі,
І, не здабыўшы, ў дамоўкі без часу сышлі...
Граззю ў вас кідалі, вольна дыхнуць не давалі...
Хай жа пацешацца: ўжо вы спачылі ў зямлі...

Гулка нясецца стогн лесу ў начныя пацёмкі,
Плача-галосіць у коміне вецер глухі...
Спіце вы, слаўныя гора і працы патомкі,
Хутка над вамі распалім памінкаў агні!

Мала вас, мала было паміж цёмнымі намі;
Сільны яшчэ быў наш блуд і туман кругом нас!
Вы, перамогшы усё, узняліся арламі,
Бліскам былі нам, тым бліскам, што гас і не згас!

Грозна нясліся магутныя вашыя клікі;
Нават каменныя душы скідалі свой сон;
Радасцю дзіўнай звінеў ваш край бедны, вялікі...
Сіл не хапіла... запеў пахаронны вам звон.

Свежыя наспы мураўка яшчэ не пакрыла,
Жвір толькі свеціцца, змыты сцюдзёным дажджом...
Спіце! Мы вашых навек не забудзем магілаў;
Збуджаны вамі, мы ўскрэслі, мы больш не заснём!

*1909*

## НЕ ЎЗДЫХАЙ

Не ўздыхай, не бядуй, брат замучаны мой!
І жыцця не кляні, не кляні!
Думу-песню запей, стань адважнай ступой,
Яшчэ раз не засні, не засні!

Хоць за хмараю хмара плыве чарадой,
Сільней хмар — гэта сонца агні.

І ты, брат, не бядуй, рвіся к сонцу душой,
Яшчэ раз не засні, не засні!

Болей крыжам адным — гэта цень прад зарой,
А там лепшыя новыя дні!
Дык не плач жа, брат мой, запей песню са мной!
Яшчэ раз не засні!

*1909*

## ПРЫЯЦЕЛІ

Два дружкі — груган з ваўком
Неяк раз сышліся,
Важнай гутарцы ўдваём
Важна аддаліся.

— Кепска, кепска, пане воўк! —
Першы крук закракаў.—
Войнаў, бунтаў гул замоўк,
Трупаў ані знаку.

Лепш мне быў той час стары,
Мой ты воўча любы.
— І мне так жа: з-за гары
Я ўжо скалю зубы.

— Я дзяцям нясу ў гняздо
Сэрца або вока.
— Я з ваўчыцай рву сцягно,
Мяса тнём па клоку.

— З'еўшы сэрца, я ляту,
Косці падбіраю.
— Я з ваўчыцай падыду,
Рэшткі дагрызаю.

— Слаўна мы жылі ўдваём,
Сыта дні праходзяць,—

Так сабе груган з ваўком
Гутарку разводзяць.

Аж тут к ім саюзнік-госць:
— Што вы нос спусцілі?
Яшчэ кара смерці ёсць,
Мы вас не забылі.

*1909*

## НА ПРАДВЕСНІ

...І сівер ледзь хаткі не зверне,
І снегу ані не ўбывае,
А тут у свіронку — ні зерня,
Апошняя бульба ўцякае!

І сена няма ад Грамніцаў,
Саломкі той зараз не хваце;
Кабылка падбегчы баіцца,
Кароўка не хоча ўставаці.

Даведаўся ў двор і да сына —
Не служцы куток свой карміці!
І больш не даюць з магазына,
Няма дзе рубля зарабіці...

Нялёгка на сэрцы, нялёгка!
Дум чорных не збыцца дзень цэлы...
А так яшчэ траўка далёка,
Калі ж і той колас наспелы?!

*1909*

## ПАМЯЦІ Т. ШАЎЧЭНКІ

*(25 лютага 1909 г.)*

Сягоння на Ўкрайне вялікае свята:
    Ў дзень гэты радзіўся тварэц «Кабзара».
На ўсіх і павага, і стройныя шаты,
    І песні не моўкнуць свайго песняра.

Праслаўнаму бацьку ўкраінскай свабоды
    Паклон б'е разбуджана ўся старана,
Талкуюць аб гэтым Дняпровыя воды,
    І думае думу стэпоў цішына.

Пясняр кабзарысты нікім не забыты,
    Як жыў дзеля песні, так з песняй не ўмёр;
Здабыў сабе славу не з мармурнай пліты,
    А з слоў, што не крыша ні век, ні тапор.

Сын беднай сямейкі, нядужы рукамі,
    Штыхам і гарматам ён пострахам быў;
Кавалі яго, як звяра, ланцугамі
    І кідалі ў лёхі, каб згінуў, не жыў.

Сляпні! Ім і думкі адбеглі з трывогі,
    Што людзі — як ён — і ў магілах не мруць,
Што можна звязаць толькі рукі і ногі,
    А вольныя думы — хто важыўся скуць?!

Бываюць упадкі — люд стогне балесне;
    Пясняр паявіўся, і ўцехі звіняць;
Пясняр умірае... а песня?.. а песня?..
    Эх! каменю толькі не дана паняць!

Жыве гэта песня, як віхар клакоча,
    Над лесам магілішч, над цьмою бяжыць,
Зрывае запоры і брамы ламоча,
    І крыўда нямее, і змога дрыжыць.

Калісь воклік песні і свет нам адмене,
    Адслоне другія пуціны жыцця,
Шчаслівасці яснай узойдуць праменні,
    Аквеціцца доляю лепшай зямля.

Дык дай жа чэсць песні на Ўкрайне! За Ўкрайнай
Той кожны, хто праўды не здрадзіў жывой;
І ўспомніце «бацьку», што пеў незвычайна,
Што славе ўкраінскай служыў ўсёй душой.

О, слаўны ўкраінча, сын верны народу!
Ты роднага слова ў сабе не глушыў,
Цярпеў і вучыў, як цярпець у нягодах,
Аж люд твой паняў, чаго ты яго ўчыў.

На поўдзень, на поўнач, на ўсход, захад сонца,
На кобзах людскіх душ твой грае «Кабзар»,
У хатцы, ў падвале, ў цямніцы, ў карчомцы
Калоціш ты сэрцы, як звонам званар.

І к нам тваё слоўца не раз далятала;
Мы слухалі ўцешна, што бае сусед.
Цяпер жа нясём ліст к вянку тваёй хвалы,
Прымі, брат, і наш беларускі прывет!

*1909*

## ПАМЯЦІ ШАЎЧЭНКІ

Ад гасцінца да гасцінца,
Ад хаты да хаты
Звініць кобза украінцам
Аб вялікім святу:

Уся чыста галасіста
Ўкрайна маладая
Свайго «бацьку»-кабзарыста
Важна ўспамінае.

Эй, бо песня кабзарыста
Ад краю да краю
Плыве вольна-расхадзіста,
Перашкод не знае!

Сам ён многа меў нядолі,
Крыўды, паніжэння,
Ды не здрадзіў жа ён волі,
Волі і сумлення.

Дух збудзіў свайму народу
Сваім гучным словам,
Навучыў любіць свабоду,
Родны край і мову.

Яго «бацькам» ахрысціла
Памятна Украйна.
Эх! і нам будзь бацькам мілым,
Украінча слаўны!

Плывучы ўдаль, твая песня,
Гасцінцам не вузкім,
Знайшла водгалас пачэсне
Ў сэрцы беларускім.

*1909*

## ЗА ЧУЖУЮ ЕЛКУ

### I

Было гэта, было гэта...
Ну, было — і квіта!
Жыў у вёсцы ў сваёй хаце
Мужычок Мікіта.

Меў ён жонку Міхалінку,
Меў дзяцей з сямёра,
Меў кароўку, меў кабылку
І тачок з падпорай.

Сэрца меў ён залатое,
Быў з пакоры знаны,

Не без грэху, каб і ў чарку
Часам не заглянуў.

Вёў вайну ён век з бядою;
Мацавала гора;
Лыкне чарку, лёгка стане,
Па калені мора!

Жонка часам пачне лаяць,—
Сойдзе бабе з вока.
Адным словам, жыў Мікіта
Лёгка і нялёгка.

II

Проста, накас, скокам-бокам
Жылося, вялося,
Але, як кажуць, да часу
Жбан вадзіцу носе.

Над зямлёй засела восень,
Холадна, плаксіва;
Ліпа лісце паскідала;
Звяла ўроду ніва.

Хмары неба абляпілі,—
Каб зірнула сонца! —
Золь, слата, што не дай Божа!
Б'ецца у аконца.

І старэйшым, і малейшым
Стужа дакучае,
А ў Мікіты — каб паленца,—
Што рабіць? — не знае.

Думаў доўга. Што тут думаць? —
Лес не за гарою...
За сякеру — ды ў бор панскі
Сыпе пехатою.

### III

Ой, багата лесам-пушчай
    Нашая старонка:
Ў само неба так і лезе
    Сосна за сасонкай.

Дубы, вязы, елкі, хвойкі
    Хто змера, хто зліча?
А як шумам загамоняць,
    Так к чамусь і клічуць.

К адной елцы і Мікіта
    Падышоў з уцехай
І давай матаць сякерай,
    Толькі стогне рэха.

Сячэ смела і не дбае,
    Што прыйшоў к чужому;
Знаў, што ў лесе хто не злодзей,—
    Не гаспадар дома.

З гукам рухнула дравіна,
    Ажно бор затросся.
Стаў Мікіта сабірацца
    Дамоў па калёсы.

### IV

Каля лесу на пляцоўцы,
    Між кустоў калматых,
Падкасіўшыся стаяла
    Леснікова хата.

Жыў ляснік у гэтай хаце
    Грышка Валівода,
Чалавек не самавіты,
    Хоць і мужык родам.

Усім вёскам па суседству
    Добра ў знакі даўся:
Праз яго там і ў астрозе
    Не адзін збадзяўся.

Зубы на яго тачыла
Бедакоў нямала,—
Лесніковая дасціпнасць
Косткай усім стала.

І цяпер вось, як на ліха,
Падслухаў Мікіту:
За стральбіну і так вале
З мінаю сярдзітай.

V

«Ты што робіш гэта, злодзей,
Начною парою?» —
Наш Мікіта неўспадзеўкі
Чуе над сабою.

«Што раблю я?.. Сяку дрэва!» —
Кажа ён пакорна,
Таго як бы і не кеме,
Што у пушчы дворнай.

«А хто ж, гад, табе пазволіў
Панскі лес пустошыць?
За такую, шэльма, штуку
Мала і ўкакошыць.

Давай, чорт, сваю сякеру,
А то кепска будзе!» —
Ляснік лезе да Мікіты
І бярэ за грудзі.

Штось Мікіта зноў адцяўся,
Зноў ляснік не змоўчыў,
І давай абое драцца,
Поўны злосці воўчай.

VI

Хмурна неба; дожджу каплі,
Як слёзы, ліюцца,
А Мікіта з Валіводам
Не кідаюць, б'юцца.

Раптам выстрал пакаціўся,
Як сказаці слова,
Далей ціха... адна пушча
Гамоне нанова.

Шуміць пушча, шуміць важна
На усе староны,
Быццам хоча заглушыці
Ўсе няшчасных стоны;

Быццам хоча сказаць свету
Дзерава лясное,
Як ідзе несправядліва
Ў нас жыццё людское;

Як на чорнай на зямліцы
Грэху не ўбывае...
Ох ты, пушча! Праўду баеш,
Пушча нежывая.

## VII

Ніхто ўжо Мікіту болей
На сяле не бачыў,
Дарма сем сіротак кліча,
Дарма ўдоўка плача.

Спіць гаротнік сном вячыстым,
Крыж уеўся ў грудзі.
Спі! К людзям ты ўжо не прыйдзеш —
К табе пойдуць людзі.

З часам праўда наверх выйшла,
Што рэдка між намі,
І сягоння Валівода
Звоніць ланцугамі.

Аб тым месцы ходзяць байкі,
Дзе Мікіта згінуў;
Страшна ездзіць і праходзіць
Начною часінай.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Так прапала людзей двое
Праз дабро чужое;
І спытайся ж, Божа мілы,
За што за якое?

*1909*

## ДВА МУЖЫКІ І ГЛУШЭЦ

*(Байка)*

Неяк раз вясной,
На балоце, над ракой,
Глушэц на елцы засядаў
І сам з сабою талкаваў.
А ведама усім,
Што з мясам гэты птах сваім
Бывае дарагім.
Дык вось, два мужыкі-панове,
Як бы ў змове,
Той з аднаго, а той з таго канца
Аблаву робяць на глушца.
Так падцікаюцца ўсё бліжай, бліжай —
І той, і той на птушку пальцы ліжа!
Аж так і згледзеў таго той
І, як на ліха, ў спор з сабой:
— Куды ты лезеш, танканогі?! —
Шапнуў Іван з сваёй дарогі,
Рукі нялёгкай чалавек,
З якой слыве свой цэлы век.—
Да гэтай птушкі мне закон,
А ты, гультай, адгэтуль вон!
— Не твой, а мой! — сапе пан Ежы,
К яму мой след стары, а твой, гад, свежы!
Я маю з прадзедаў адвеку!
Над гэтай пусткаю апеку.
— Не ты, а я тут пан! —
Гукнуў ужо Іван,—
Бач ты, абраўся *«сямідзённік»!*

— А ты што лепшае, *«казённік»?!*
Кідаюць стрэльбы і за грудзі
Ўзяліся людзі.
І што ж будзе?..
Глушэц на гэты іхны шум,
Што вёў так шчыра з кумам кум,
Падумаў: «Вось так ласуны над ласунамі:
Знайшлі сварыцца —
Пры чужым карытцы!..»
І... паляцеў, залопаўшы крыламі.
Ану, чытач, згадай канец:
Хто мужыкі, а хто такі глушэц?

*1909*

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

Два святы на свеце — ад нівы да нівы:
Хрыстос уваскрос! Наступае вясна!
Глянь смела, глянь вольна, шчасліў, нешчаслівы.
І далей к жыццю з паніжэння і сна!

Гэй, гэй, на спатканне вялікіх двух святаў
Спяшыце супольна, хто ў путах не згніў!
Хай льюцца-зыльюцца ад хаты да хаты
У адно ўсе грамады, ўсе людзі ўсіх ніў!

*

Вялікдзень! Вялікдзень! — ад нівы да нівы.
Забыў не адзін з нас нядаўныя дні,
А ўспомні-прыпомні, шчасліў, нешчаслівы,
Аб тых, што ў світанні на век адышлі,—

Усе костачкі тыя на гонях папарных,—
Жывых, што ў бяспуцці акуццем звіняць...

Прыпомні, дай слова не шчэзнуці марна,
Пачатую справу шырыць, расшыраць!

*

Вялікдзень! Вялікдзень! — ад нівы да нівы
Заводзіць бацькоў сваіх песеньку сын.
Зірні ж, азірніся, шчасліў, нешчаслівы.
І заўтра на поле да сох як адзін!

Дагэтуль мы плачам, дагэтуль мы стогнем,
Адвечных не можам пазбыціся слёз...
Наперад па шчасце! Хай злое ўсё дрогне,
Вясна ўжо на свеце,— Хрыстос уваскрос!

*1909*

## ПАВОДКА

Крэпкі, магутны аковы зімовыя —
Льдзяныя брылы на захад і ўсход.
Бліснула сонца, сонца вясновае —
Топіцца гурбіна, топіцца лёд!

З грохатам, з лёскатам крыга за крыгаю
Прэцца, нясецца ў нязнаную даль;
Хваля за хваляю коціцца, мігае,
Ломіць прашкоды, як молатам сталь.

Дарма запорыну людзі бяздольныя
Выбегуць ставіці сіле такой:
Скрыша паводка ўсясільная, вольная,
Скрыша і пойдзе сваёй пуціной!

Эх ты, разводдзейка! Эх ты, бурлівае!
Ты аднаўляеш, купаеш зямлю;
Вынесі ж, вынесі хваляй жычліваю
К лепшаму шчасцю людскую сям'ю!

*1909*

## ПЕСНЯРУ-БЕЛАРУСУ

Пытаеш ты, якім быць трэба
Зямлі забытай песняру?
Як у шуканні вечным хлеба
Знайсці яснейшую пару?

О, не хадзі к другім за радай,—
У пушчы сонца не шукай!
Дабудзь з сваёй душы ўсе праўды,
Сваіх дум, сэрца запытай.

Хай сэрца сэрца не баіцца,
Душа з душою хай пяе;
На думках братніх, як на скрыпцы,
Ты песні выгалась свае!

За родну песню будзь ваякай,
Не жджы заплаты ад людзей.
Пясняр — слуга слугі усякай,
Пясняр і цар усіх царэй!

Дзе зор гуляюць хараводы,
Зірні зухвала, без трывог,
Прагледзь нябесныя ўсе ходы,
Каб аж задумаўся сам Бог!

Падслухай шэпты зямлі-маткі,
У скарбы ўсе яе заглянь,
Каб аж пайшла весць ва ўсе хаткі,
Як з ніў найбольшую браць дань.

Шчаслівы ты ці нешчасліві,
Будзі сыноў сваёй зямлі,
Над беларускай соннай нівай
Нязгаслы светач распалі!

Глядзі — ўскалышыцца, прачнецца
Мільённы прыспаны народ,
І вокліч славы пранясецца,
Пяснярскай славы з роду ў род.

Ты у сваім вянку цярністым
Убачыш міртавы вянок,

І важна слаўлен, песнярыста,
На той свет сойдзеш, як лісток.

Памёр пясняр.— Над белым крыжам
За годам год перабяжыць;
Няпамяць імя пяўца зліжа,
А песня будзе жыць і жыць!

*1909*

## ДА ДЗЯЎЧЫНКІ

Не цурайся, дзяўчынка-галубка, мяне!
Пажалей, прыгалуб бедака-сірату:
Збудзі сэрца, збудзі,— хай навек не засне,
Дабудзь песню з душы, разгані цемнату.

Не было мне пацех ад людзей, ад жыцця,
Не заглянула сонца у хату маю,—
Віхры гналі-гулі без канца, без пуцця,
Ажно долю паганую кляў я сваю...

Ой, так шоў — так сыходзіць мне год за гадком,—
А ёсць шчасце, ах, ёсць на бяспутнай зямлі!
Гэта шчасце ў каханні, ў змаганні са злом —
Дык хадзі ж, не ўцякай — душу, сэрца вазьмі!

Ты і я удваіх станем смелай ступой
Змагаць гора-бяду, паніжэнне і блуд,
Жыць, любіць і цярпець, ненаглядка, з табой
За нявольны свой край, за свой змучаны люд!

*1909*

## З ПЕСЕНЬ АБ ВЯСНЕ

І зелень, і кветкі, і песні,
І неба вясёлая яснасць...
Ні цьмы той, ні снегавай плесні,—
Дзе глянеш — адна, братка, шчаснасць!

Свет цэлы зіяе каберцам,
Шум нейкі ад пушчаў нясецца,
З грудзей як не выскача сэрца,
Душа кудысь рвецца... ўсё рвецца...

Прачнуліся нівы і хаты:
Ўся ў полі людская сямейка,
За сошкай шнуруе араты,
Ля статка іграе жалейка;

З сяўнёю сявец пахаджае,
На скібіны валіцца зерне;
Знаць, сіла ў сяўца немалая...
Захоча — і свет пераверне!

Гэй, гэй, хлебаробе мазольны,
Пан сошкі, і коскі, і поля!
Кінь выгляд слязлівы, нявольны;
Ў тваіх руках слава і доля!

*1909*

## ПЕСНЯ-БАЙКА

З-за далёку, з-пад усходу
Віхар мчыцца ў непагоду,
    Байкі сее маладыя;
    Думка чуе, думка ные...

Ціха... Бачце... штось віднее,
Льецца нейкая надзея,
    Штосьці едзе з новым сватам,
    З новым шлюбам з хаты ў хату...

Скінь лахманец непазорны,
Пыл згані з аконцаў чорны,
Пыл змяці хутчэй з аконца,—
Шэпні-клікні: сонца! сонца!..

Быццам з песняй, быццам з ласкай,
З чараўніцкай нейкай казкай,
З-за далёку, з-пад усходу
Віхар мчыцца ў непагоду...

*1909*

## ЛЯКАРСТВА

*(Байка)*

Было гэта так, мой сватка:
Ляжала праз Нёман кладка,
Па ёй
З адной
Стараны йшоў Паляк,
А з другой — шоў Ліцвяк.
І вось праз час — не помню ўжо які —
Сустрэліс бедакі.

Запаланеліс вочы:
Ні той, ні сёй не хоча
Ні адступаць,
Ні ўніз скакаць.
Абодва ў гвалт і крык,
Як боскі свет вялік,
Нават поўхі ў работу
Пусціць маюць ахвоту.

Аж тут, ні стуль, ні ссюль вазьміся
Ды Мураўёва цень з'явіся!
Хоць цень, а ўсё ж крапяч ухваткай:
Чапні ды бухні ў рэчку кладку

І з ёю так —
Абодвух задзірак...

---

Чытач, ты толькі не пужайся:
Ліцвін і Лях жывым застаўся,
Яшчэ дазналісь, што ў нязгодзе
Вада халодная не шкодзе.

*1909*

## ЛЯМАНТ ПАНА КАВАЛЮКА

Я хрысціянін, не паганін,
Стварыў обчэство «Крэсцьянін».
Сам Дубровінка-нябожа
Пахваліцца гэткім можа.

Дарма «Ісценен» «Крэсцьянін»,
Штось чураюцца хрысцяне.
Часта, густа з'езд склікаю,
Дый нішто не памагае.

Вось газетку надрукую,
Чорна-чорную такую,
Жыдоў біці і палякаў
І з крамолай біцца ўсякай.

Думаў, вёску з хамскім людам
На такую злаўлю вуду,
Дый газетка чуць жывая,
Толькі сам яе чытаю.

Гэй, Дубровін чарнасоцкі,
Пурышкевіч, Замыслоўскі,
Дайце раду, што чыніці,
Як крамолу скараніці.

А то мне халэмус прыйдзе,
Ці павешуся на жыдзе,
Ці палякам удаўлюся,
Ці уп'юся, павалюся.

*1909*

## НАШЫ ДЭПУТАТЫ

I

У сваясях Налівайка
З вернай служкаю нагайкай
Сказ даюць сялянскай браці,
Як чын чына пачытаці.

З неадступнаю нагайкай
Едзе, сыпе Налівайка,
Едзе з шыкам і няціха,
Тут рагатка — што за ліха?

Вось, матаючы нагайкай,
Загамоне Налівайка:
— Гэй, рагатка, чорт рагаты,
Жыва месца дэпутату.

Дый штось зблышыла нагайка,
Цягнуць к ўласцям Налівайку,
Пратакол ідзе на хвата,
На ваяку-дэпутата.

Але з ёмкаю нагайкай
Знае дзела Налівайка,
Гайда ў шынк па пратаколе
І шумі яшчэ там болей.

Тут пудлуе зноў нагайка,
Улілі штось Налівайку.
Цяпер жджэ казённай хаты,
Знайце правых дэпутатаў...

*[1908—1909]*

## ЗАКЛЯТАЯ КВЕТКА

Чуць толькі Купальскае свята
Набліжыцца з ночкай сваей,
Як папараць-кветкай заклятай
Чаруе няшчасных людзей...

З надзеяй, і верай, і сілай
Зусюль, куды б дзе ні зірнуць,
Праз высі, даліны, магілы
Па кветку бягуць і бягуць!

...Сава пяе песню разлукі,
Лапоча крыламі кажан,—
Мільённыя цягнуцца рукі,
Дзе дрэмле купальскі курган.

Тых радасцю вочы смяюцца,
Тым зрэнкі крывёй заліло;
Піхаюцца, корчацца, б'юцца,
Мяшаецца праўда і зло.

Пачнуцца галінкі хіліцца,
Шасцяць верасы пад нагой.
Туж-туж ужо кветку схапіці!
Сцікаецца гэты і той —

Тыц — стой!.. Глядзяць зорніцы-сведкі,
Пявун адгукнуўся ў сяле —
Ні ночкі Купальскай, ні кветкі!
Усё затаілася ў мгле...

Залыпалі блудныя вочы,
Мільёны уздохаў ляціць.
Сава не заціхне — рагоча,
Крыламі кажан шапаціць...

След костачкі сцелюць — услалі,
Здаецца, ўжо час аддыхнуць,
Надойдзе ж хай толькі Купалле,—
Мільёны па кветку бягуць!..

*1909*

## ЗАБЫТАЯ СКРЫПКА

I

Доўга пад трамай ляжала
Сцішна ў вясковым жыцці,
Доўга ляжала, чакала
Скрыпка адна ў забыцці.
Колькі йшло лет за лятамі,
Колькі йшло, сходзіла сіл! —
Скрыпка драмала. Пластамі
Клаўся і рос на ёй пыл.
Потам залітыя вочы
Гэткі не мог слязіць глум,
Пальцу мазольнаму ўночы
Страшна крануць было струн.
Доўга чакае і смягне,
Покі хто з сэрцам такі
Скрыпчыны струны нацягне,
Гэткай чакае рукі!..

II

Шоў вёскай той падарожны,
Чэзла дзе струнніца так,
Шоў і ў хаціну трывожна
Смеліцца стукнуць бядак.
Зважна дамок адчыніўся,
Просіць гасціць гаспадар...
Скрыпка пад трамай... здзівіўся...
(Быў падарожны — пясняр.)
Цягне скрыпулю з-пад трамы,
Пыл абмятае палой,—
Струны заенчылі самі,
Жаляцца самі сабой.
Льюцца пяснярскія словы,
З дошкай ліповай пяюць;
Звесіўшы людзі галовы,
Слухаюць, думкі снуюць.

III

«Доўга шукаў цябе, скрыпка,—
Гэткая песня плыве,—
Быў без вадзіцы я рыбка,
Ягадка ў буйнай траве.
Рвалася сэрца і думы,
Гэт, да нязгадных святліц,
Клікалі хвойныя шумы,
Клікалі шэпты крыніц!
Клікалі... Поўніліcь грудзі
Смуткам надзей і трывог...
Шоў між людзямі ў адлюддзі,
Што мог, і то ўжо не мог!
Вёску мінаў я за вёскай,
Плёўся праз выдмы, кусты;
Трэ было, трэ было свойскай,
Музыкі свойскай, як ты.

IV

Слаўся, святая здабыча!
Пан я сягоння ўсіх ніў!
Песень маіх не паліча
Той аж, хто зоры злічыў!
Птушкаю з выраю буду,
Пеці зязюлькай пачну,
Радаўніц жалямі люду
Ў вочы цікава зірну!
Громаў, маланак ахвотна
Буду і цар, і пастух,
Лягу расіцай вільготнай,
Выш'ю вясёлкавы круг!
Дзівамі кветкі купальскай
Кожную зваблю душу;
Буду няласкай і ласкай,
Богаў фальшывых скрышу!

V

Прыйдзе Узвіжанне — стану
Ў лесе парадак вясці:
Ў думкі жывіне ўсёй гляну,

Буду ўсёй пушчай трасці.
Ночкай асенняй засяду
За стол спраўляці «дзяды»;
*З тым* светам буду мецъ раду,
Ўспомню магілкі тады.
Вымкну зноў птушкай на вырай;
Свет не захоча ўжо спаць:
Будзе праводзіць ён шчыра,
Будзе ён шчыра чакаць.
Грай жа ты, скрыпка жывая,
Кожнай расходзься струной!
Хто мае сэрца? хто мае?!
Гэй жа, за мною, са мной!

VI

Я пакажу ўсе вам чары —
Чары ўсе неба, зямлі,—
Шчасця другога пажары,
Дзе б вы сагрэцца маглі.
Праўду ў лад новы настрою,
Новыя песні злажу...
Гэй жа, за мною, са мною!
К сонейку шлях пакажу!..»
Так прызывае-галосе
Скрыпка ў руках песняра.
Рэха пад неба няслося.
Днела ўжо; гасла зара.
Музыку чуюць суседзі —
Камень бы зрушыць магла!
Спеў пясняр. Глянуў, угледзеў:
Хата пустая была...

*1909*

## ЯВАР

За пакутнай за гарою
Ўзнёсся явар адзінокі
Іківае галавою,
Ўсё ківае ў свет далёкі.

Колькі, бедны, крыўды мае?
Колькі жалю ў гальным шуме:
Хто падгледзе, ўсё згадае,
Ўсё прачуе ў соннай думе?

Смуцен явар. Змагаць-біцца
Сіл замала з непагодай —
Па лісточку, па галінцы
Ўсё губляе з кожным годам.

Гэй, і явар жыў надзіва,
Паглядаў у свет з адвагай,
Быў ён князем гэтых ніваў,
На ўсім свеце меў павагу.

Ад узгорка да узгорка —
Ці там сонейка, ці вейка,
Ці то соладка, ці горка —
Помніць явара жалейка.

І ў дзень будні, і ў нядзелю
Ён з людзямі са сваімі.
Колькі песень аб ім спелі?
Колькі ў песнях яго імя?

Збеглі леты за лятамі.
Як не нашы, нашы песні;
І мы самі, як не самі.
А наш явар? Аж балесне...

За пакутнай за гарою
Плача хмурны, адзінокі
І ківае галавою,
Ўсё ківае ў свет далёкі...

*1909*

## ЖАЛЬЦЕСЯ, ГРАЙКІЯ СТРУНЫ...

Ліра змірае ў спакою,
Губіцца струнавы звон;
Лірнік, чапніся рукою —
Творыцца песень мільён.

Жальцеся, грайкія струны,
Рэхам расходзьцеся ўдаль!
Гэткі свет ярмен і сумны,
Гэткі паношыцца жаль!

Сэрцу нясіце злягчэнне,
З пут вызваляйце душу,
Новыя ліце праменні
Ў сонную быту глушу!

Ліце прызыўныя чары,
Жыўчую думкам ваду,
Высельце буднасці мары,
Духаў благіх чараду!

Ціхаму кроўнаму полю,
Слёзьмі абмытай зямлі,
Вызваньце лепшую долю,
Лепшыя, скарбныя дні!

Сцежку хутчэй ідэалам!..
Квецься, палай, хараство!
Куйся, зарнічная хвала,
Вечная радасць, дабро!

Ліра пяе ў непрывеце;
Жаліцца лірнік адзін...
Гэй жа, далей з беспрасвецця!
К сонцу з пакутных нізін!

*1909*

## МАЛАДЫМ НА ВЯСЕЛЛІ

Не дубок пры ніўцы ў гаі,
Не ў лузе лілейка,—
Малады тут засядае
З сваёй дабрадзейкай.

Хто уцеху ўсю іх пойме,
Што ў душу ім льецца,
Хто спазнае, хто пяройме
Думкі навражэнцаў?

Сышла радасць на абое,
Бачыць сэрца сэрца,
Міла шчасце залатое
Сцелецца каберцам.

З госцяў кожны віншаванне
Гладкім слоўцам кіне,
Маё простае жаданне
Так жа хай не згіне.

Жычу меці, як нікому,
Жычу я ахвоча,
Маладой і маладому
Ўсё, што толькі хочуць.

Згоду ў хатцы, спор у хатцы,
Гонар між людзямі,
І ў які год дачакацца
Забавы з кумамі.

У салодкім у каханні
Вечна варкаваці
І не знаць, чым ёсць расстанне,
Злых прыгод не знаці.

Няхай век вам не ўбывае
Ў жыцці сонца, кветак...
Малады і маладая,
Жывіце сто летак!

Я так жычу, так віншую
І не лгу, здаецца,—
Хто мілуе, хто цалуе,
Ўсяго спадзяецца.

*1909*

## ДЗЯЎЧЫНКА І ВЯНОК

Сонца ўтульна пазірала,
Птушкі пелі на ўсе тоны;
Кветкі дзеўчынка зрывала
Ля дубровы ля зялёнай.

Заплятала у вяночак,
Прымярала на галоўцы;
Радасць біла з яе вочак:
Ёй спрыялі кветкі, сонца.

Чуць вяночак не гатовы—
Не хапала адной кветкі...
Выйшаў хлопец з той дубровы,
Хлопец пекны, стройны гэткі.

Удваёчку ўжо шукаюць
Кветкі ў буйнай сенажаці,
Толькі дзе знайсці — не знаюць...
Сталі ў вочы заглядаці.

Так хадзілі ўсё далінкай;
Сонца з імі ўслед хадзіла,
Аж вяночак свой дзяўчынка
Недзе ў лузе загубіла.

Клопат... Бедная не знае,
Ці ёй плакаць, ці смяяцца?
Кветкі — ўпрочках,— хлопца мае...
Надало ж так памяняцца!

Ходзе, траўкі не зачэпе...
За вянок — дзяцюк прыгожы;
А што горай? а што лепей?
Бабка надвае варожа.

*1909*

## ЗАЖЫНКІ

Натачы, кавалёк,
Вострым-востра сярпок,
Адпусці, назубі, загартуй;
І ляшчынкі кусок
Адпілуй, кавалёк,
Нову ручку вазьмі дарыхтуй.

Наспяліўся шнурок,
Б'е паклон каласок,
Спаважнеў, пасівеў, шалясціць.
Пойдзе ходам сярпок,
Туды-сюды, скок-скок!
За сяло пабяжыць, пабяжыць.

Страшыў ніўку грамок,
Сухата і дажджок;
Птушка колас ляцела кляваць;
Шлі заломы, урок,—
Не збаяўся хлябок!—
Памажы, Божа, толькі зажаць!

Ляжа сноп у снапок,
Стане мэтлік, крыжок,
Не акіне і песня шнурка!
Будзе рад бедачок
Звозіць скарб у тачок,—
Вось яна, з мазалямі рука!

*1909*

## ІГНАТ І П'ЯЎКІ

*(Байка)*

Лет шмат
Таму назад
Ігнат
Гарачынёй, здаецца,

Купаўся ў рэчцы
І, як на грэх
(Бадай, што заяц,
Паганец,
Сцежку перабег),
К адной з дзвюх ног
Прынадзіў п'явак трох.
Прыліплі, цягнуць, як мага,
Аж сохне, корчыцца нага.
Бяда! Ўжо кінуўся і сяк і так,
Заціснуўшы кулак,
Да іхняй скуры небарак,—
Яны ж каб дбалі:
Смокчуць далей!..
«Э, годзе, кіньце ўжо даіць, сястрыцы,
Ці ж мала вам сваёй вадзіцы?—
І смех, і грэх, і стыд, скажу я,
Смактаці кроў чужую!» —
Так ім навучна ён талкуе,
І ў той жа час
(Не першы п'яўкам, відна, раз)
Пачуў адказ:
«Мае суседкі вінаваты»,—
Кіўнула з іх адна Ігнату,
Як ёсць уся ў бліскучых латах,
І пацягнула цёплы смок,
Аж колька ў крук згібала бок.
«Не мне, а гэным дзвюм крывёй
Жыць хочацца чужой»,—
Пачуў ён ад другой
Таўстой, таўстой,
Ды сёрб, ад першага ямчэй,
Даць мусіў з жыліны сваей.
«Я? я так толькі, з дабраты,
А вось за тых вазьміся ты!»—
З чароду трэцяя хлюснула,
Найболей кемкага агулу,
І смагла, смагла смактанула...

---

Што далей там было,—
Да байкі не дайшло.
П'яўкі ж (ой, чорт недзе рад!),

Хоць дней сышло — праходзіць шмат,
Жывуць як бы ні ў чым,—
А толькі, як даць раду ім,
Варожа ўсё Ігнат!..

*1909*

## АПЕКУНАМ

І трудна ж, трудна, знаць, прыйшлося
Шмялям струхлеўшага дупля,
Як наша слова пранялося,
Як наша дрогнула зямля!

Загаманілі, зашыпелі
Вось так, па-своему «вовсю».
Яшчэ паказ — пазнаць на дзеле
Ваўка, і ліса, і змяю.

Няварта гэтак распінацца,
Мае шмялькі, ў чужым вуллі.
Зацесна вам у нашай хатцы—
Гайда! туды, адкуль прыйшлі!

Што вы прынеслі? Што?.. Загляньце
Да беларуса сумных хат...
З тых самых лык пляце ён лапці,
Якія плёў сто год назад.

Вы песню хочаце спаганіць,
Якой адвечнасць не змагла,
І свой пастуnак затуманіць
Брахнёй — з дабра, а не са зла!..

Мы верым, што жывога слова
Не пойме цёмны ваш хаўрус,
Але у дружбы вашай сковы
Ўжо не паверыць беларус.

Як трутні, ласыя на соты,
Вы к нам прыйшлі ў гадзіну бед;
Чуць толькі сталі да работы,
А груганам гатоў абед.

Цямніц і вісельняў асновы,
Слугі нагайкі і штыха,
Сумленне, край прадаць гатовы
За бліск нагруднага значка.

І з думкай носячысь шалёнай,
Вы! вы! жадаеце з людзей,
Каб вам паверылі мільёны,
Каб вам карысны стогн гудзеў.

Не вам, не вам! гасіць паходні,
Што распаліў жывы народ!
І праўда возьме верх нязводне:
Такі ўжо сонца вечны ход.

*1909*

## ВІСЕЛЬНІК

Зоркі не ўбачыш, імгла непрыхільная
Свет спавіла непрагляднаю сеткай;
Вецер не мрэ і, як зданне магільнае,
Носіцца грозна па пушчах, палетках.

Лес расхадзіўся, пашумы сусветныя
Б'юць у тахт віхравы кожнай галінай,
Стогнуць дубы і бярозы сталетнія,
Хрыпла скрыпяць і трасуцца асіны.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Злыбедаў стогны і цьмы неспажытыя
Жудаснай дзікасці поўны без меры.
Як жа салодзіце думкі разбітыя,
Сэрца з разбітай надзеяй і верай!

Годзе, душа маладая, пакутаваць,
Шляхам заломным снаваць бескарысна,—
Страшна загадкі усябыту расплутываць,
Выхад з туманаў знаходзіць разблысны:

К сонцу і зорам жыццё тваё рвалася,
Віхры і ночы на бой выклікала...
Згасла ўсё лепшае, загасла, зламалася,—
Далей змагацца сілы не стала.

Будзь жа збаўленнем, пятля канапляная!
Вырыхтуй сук свой, асіна-ласуха:
Хутка збагацішся ў плоднасць нязнаную,
Слаўнаю станеш — толькі паслухай!

Ты не марудзь там, пакутнік аплучаны:
Жыва вяроўку — раз, два і гатова!
Смела сунь шыю!.. Ну, вось і разлучаны
З гэтай зямлёю, з пуцінай цярнёвай.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Вырылі яму жалезнай лапатаю,
Вырылі паміж крыжовых дарогаў,
Кінулі цела — эй, цела праклятае —
Без пасвячэння, без модлаў, з трывогай.

Зводна пайшлі толькі ўздохі пустынныя;
Быў чалавек — і няма чалавека:
Згінуў не то ўжо зусім каб скацінаю —
Так сабе ўрэзаў траціміну века.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Сотні раз хмарамі неба ўзгамоніцца,
Сотні раз ніву спалошча, абсуша,—
Памяць аб вісельным век не затопіцца,
Будзе пужаці труслівыя душы.

З году да году у свята дзядовае
Хрыпла скрыпяць і трасуцца асіны.
Песню вятрыска пяе паграбовую...
Вісельнік блудзіць паўночнай часінай...

*1909*

## БЫЛО ГЭТА...

Было гэта вясною,
Клаў гняздо верабейка;
    На лугу на зялёным
    Шчасна йграла жалейка.

Было гэта улетку,
Шукаў зёрн верабейка;
    Хмары з громам стагналі,
    Нудна пела жалейка.

Было гэта увосень,
Гнаў каршун верабейку;
    На слаце-непагодзе
    Галасіла жалейка.

Было гэта зімою,
Мёр, замёр верабейка;
    Лягла ў снежныя гурбы
    Паламанай жалейка...

[*1909*]

## БРАТУ

Мой ты ўбогі, мой ты цёмны,
    Родны мой,
Ты пытаеш, хто такія
    Мы з табой?

Ці мы людзі, ці скаціна,—
    Запытай
Гэту коску, гэту сошку,
    Гэты гай;

Гэта поле, на якім ты
    Млееш, млеў;

Гэту згніўшую хацінку,
    Гэты хлеў.

Запытайся сваёй долі,
    Сваіх пут,
Ці мы людзі, ці скаціна,
    Хто мы тут?

[*1909*]

## ПАЛАЦ

Стогнуць пад мурам халодным таполі;
Крыліцца ў ветках начніца;
Моляцца совы па днеўным прыволлі;
Вецер калыша званіцай.

Сцелюцца мжакі асенняй валокны;
Вечар нялюдзен, трывожан;
Шыбамі звоняць палацавы вокны,
Ценямі мур упрыгожан!

Высакі, бледны адвечныя сцены,
Мары-слупы чарадою;
Важны дзядзінец, трава па калена;
Сад з агародай жывою.

Дымна замглелі, як блудныя вогні,
Ў вёсцы далёкай лучыны...
Весела, ярка ў палацы сягоння,
Хвіляй-мінутай — гадзіна.

Шыбы зардзелі блісканнем няўхватным,
Кружацца пары, мігаюць;
Душы да славы ўсябратняй не здатны,
Вокліка суму не знаюць.

Бел, як астрог сярод пусткавай пашы,
Думку палац неспакое:

Штось да яго парывае і страша;
Зводны аздобай пакоі.

Неўглядзь за поўнач наспела часіна,
Сон на пакоі паўройма...
Досвета ў вёсцы далёкай лучыны
Далей мігцяцца па-свойму.

*1909*

## ДАЎГАЖДАНАЯ

Ты прыйшла ка мне тады,
Як звінелі халады,
Як стагнаў яловы плот,
Хохлік бегаў ля варот.

І сагрэла ты мяне
Ў палуцьме, у палусне;
Паня ты была, я — пан...
После зноў зацвіў курган.

Ад мяне пайшла тады,
Падганялі халады,
Скрыпам выў яловы плот,
Хохлік бегаў ля варот.

*1909*

## КУРГАНЫ

Як хмуран пагляд туманны,
Як заўцы-званы.
На няцвіўшыя паляны
Леглі курганы.

Як на белі плесні-плямы,
Як зрубы-звяны,
Сярод выдмаў, сярод ямаў
Дрэмлюць курганы.

Хто калі туды заглянуў,
Дзе ляжаць яны,—
Як хмуран пагляд туманны,
Сумны курганы.

Хто зачэпіцца іх межаў,
Хто чапне іх сны,
Як званы на цёмнай вежы,
Стогнуць курганы.

Дзівам дзіўлюцца з праяваў
Маткі ды сыны:
Скуль такую ўзялі славу
Наспы-курганы?!

*1909*

## ЧОРНЫ БОГ

У караўніцах амшалых
З галавы да ног,
З дзікіх багнаў, перавалаў
Выбрыў Чорны Бог.

Вызваў пошасці, начніцы,
Цемрай зазіяў;
Тушыць новыя мглавіцы,
Тушыць новы з'яў.

Ногці смоллю разлапушыў,
Ногці-верады,
З гікам пудлівыя душы
Гоніць дзе-куды.

Цемравіца, суталока
    Зверзлася ў адно,
Лезе звага, ненарока
    Ўсё на дно, на дно.

З каршунамі, з курганамі
    Занялася прыць,—
Чорны Бог заняўся пламем,
    Чорны Бог гарыць.

Паланейся, развугляйся,
    Змейны Чорны Бог,—
Ты йшчэ з Белым не зраўняўся,
    Ты яго не змог!..

*1909*

## ЯК Я ПОЛЕМ ІДУ...

Як я полем іду, гнецца колас ка мне,
З ім маркотнай душой ціха шэпты вяду;
Колас чуе усё ў зачарованым сне,—
Колас гнецца ка мне, як я полем іду.

Як я лугам іду, траўка сцелецца ў ног,
Абсыпае з сябе жыўчых росак ваду;
Кветкі жаляцца мне — поўны дзіўных знямог,—
Траўка сцелецца ў ног, як я лугам іду.

Як я лесам іду, зважна думкі сную,
Аглядаю святую дубоў грамаду;
Там, як дома, сабе з пушчай песні пяю,
Зважна думкі сную, як я лесам іду.

Як я ў хатку ўвайду, мяне штосьці гняце;
Бледны сум падыходзіць -- прыносіць нуду;
Ў заплясненелым кутку цень касцісты цвіце,—
Мяне штосьці гняце, як я ў хатку ўвайду.

*[1909]*

## ПАМАЛІСЯ...

Памаліся, старча,
За дабро, за збожжа,
Што сяўцоў сабою
Пракарміць не можа.

Памаліся, старча,
За жывёлку-статак,
Што ідзе, рыкае
Каля дымных хатак.

Памаліся, старча,
За людзей, за нелюдзь,
Што ляглі, заснулі,
Што жывуць і дрэмлюць.

Памаліся, старча,
І за край свой родны,
Што гадкі кароце
Ў сіверах нязводных.
. . . . . . . . . . .

Памаліся, старча!

*1909*

## З КІРМАШУ

Я іду з кірмашу,
Ногі баранкуюць,
Вочы ані бачаць,
Вушы ані чуюць.

Ночка намагае,
Да сяла далёка,
Хітра пазірае
Месяц-лежабока.

Чорт зайшоў дарогу,
Панічом зрабіўся
І на вуха шэпча
Нешта аб Марысі.

Што мне ўсё тут знача?
Панам я сягоння!
Па калені мора,
Еду на сто коні.

Чорту аплявуху —
Зайцам абярнуўся
І ў лес пакаціўся,
Ані азірнуўся.

Ну, валяйце далей,
Ногі-мімаходы!
Вёска недалёка,
Зажывём выгодаў.

Эх-ці!.. Дома баба
Не прапусце ціха;
Ну, мы ёй пакажам,
Пачым фунцік ліха!

Як палезе шэльма,
Жалам вельмі дойме,
Скажу, што дарогай
Чорт шаптаў аб ёй мне.

А во ўжо і хата;
Галава ўсё слаба...
Лягу пад паветкай —
Спі адна там, баба!

*1909*

## ПРАД СВІТАННЕМ

Ціха... Бачце: штосьварушыцца,
Штось паўстаці хоча;
Пераджытасць гнецца, крушыцца,
Новы свет шапоча.

Сонца з цемрамі змагаецца;
Мох злятае з хат і пунь;
Даль за даляй ажыўляецца;
Ўсходзе ядраная рунь.

Дрыгацяць напасці-пошасці,
Аціхаюць совы,
Разнімаюцца з паношасцей
Крыллі груганов ы.

На курганішчы спускаюцца
Туманы жывой расой
І па пустках расплываюцца
Бесканечнай паласой.

Доляй-мачыхай прыдаўленых
Зоры аклікаюць,
Ля магілішч акрываўленых
Валахі чакаюць.

*1909*

## НОЧ ЗА НОЧКАЙ...

Ноч за ночкай ідзе, сцішна, тайна брыдзе,
Рассявае трывогу-знямогу;
Цені густа кладзе на пяску, на вадзе,
Ацямрае гасцінец-дарогу.

І урок, і залом абымае крылом,
Гругановым крылом спавівае;
Водзіць рэй з ведзьмаком, жэніць ведзьму з ваўком,
Кажана і саву заручае.

З ям вылазіць, як лунь, Вадзянік і Лясун,
Выпраўляюць русалкі бяседу;
Змей дабро цягне з пунь, пакуль крыкне пявун,
Пакуль поўнач не зробіць прагледу.

Неба свой нямы сход: месяц, зор харавод
Над зямлю то выводзіць, то зводзіць;
Спіць сяло, дрэмле кот, вецер ціснецца ў плот,
Як на дудках, у шчэпках заводзіць.

Так ноч ночку вядзе, сцішна, тайна брыдзе,
Рассявае трывогу-знямогу;
Цені густа кладзе на пяску, на вадзе,
Ацямрае гасцінец-дарогу.

*1909*

## АДЦВІТАННЕ

Не шасцяць каласы,
Звон не валіцца з касы,
Не кладуцца ў стог пласты,
Толькі сыплюцца лісты
На яловыя кусты,
На сухія верасы.

Не іскрыцца небазор,
Не цвіце трава-чабор,
Не цыгліць птушыны стан,
Толькі поўзае туман,
Вецер б'е ў нямы курган,—
Шапаціць імглісты бор.

Змога вольная снуе,
Вочы ўставіўшы свае,
То галубне, то пужне.
Сэрца б'ецца у паўсне,
Думка сэрцу аб вясне
Здрадны голас падае.

[*1909*]

## З МІНУЎШЫХ ДЗЁН

Перайшло, мінула,
Што калісь жыло,
Ў курганах заснула,
Зеллем зарасло.
    Пад магіл навалай
    Дрэме Русь, Літва,—
    За той тая з хвалай
    Легла галава.
Не гудзе ў павазе
Голас вечавы,
Не шукаюць князі
Славы і бітвы.
    Войска Усяслава
    Не ідзе ў паход
    На той бой крывавы
    За свой край, народ.
Сцены і запоры
Палачан, Мянчан
Леглі у разоры
Зможаных палян.
    Ні святых дуброваў,
    Зніч пайшоў з вадой;
    Загасціў лад новы,
    Ды не той, не свой.
Слых адно праходзе
Калі-нікалі
У жывым народзе,
На жывой зямлі.
    Баіць, гнучы шыі,
    Паднявольны люд:
    Мы ў сваім чужыя,—
    Край забраны тут!
Так прайшло, мінула,
Што калісь жыло,
Ў курганах заснула,
Зеллем зарасло.

[*1909*]

## ПАЛІЛІСЯ МАЕ СЛЁЗЫ

Паліліся мае слёзы
На жывыя вербалозы,
На сухія ачароты,
На глухоты, на сляпоты.

Паліліся мае слёзы
На спякоты, на марозы,
На глухія непагоды,
Маладыя мае годы.

Паліліся мае слёзы
На заломы, на дзярмёзы,
На надломленыя грудзі,
На ўсё, што было, ёсць, будзе.

Паліліся мае слёзы
На напасці, на пагрозы:
З цяжкай думкай — пакарыся! —
Паліліся, паліліся.

Паліліся мае слёзы
На гасцінцы, перавозы,
На крывавыя паляны,
На забытыя курганы.

*1909*

## СНЕГ

Залягла, як пасцель,
Лебядзіная бель
На загон, на курган.
І кажан, і груган
Занямеў не на смех:
Гэта снег, толькі снег...

За старухай-зямлёй
Ты пасцель, дружа мой,
Узваліў на душу,
Як бы крыж на мяжу,
І ўжо рад не на смех:
Гэта снег, толькі снег...

Думкі, сэрца, паглёд
Абліў лёд, скаваў лёд.
Так спавіў, спавіў сам,
Каб лягчэй было там,
Дзе жыццё не на смех:
Гэта снег, толькі снег...

Ты і жыў, і любіў,
Ты не ўмёр — і забыў,
Каб нічога не дбаць,
Смела ўдаль паглядаць,
Быць самым не на смех...
Гэта снег, толькі снег...

Хтось — сваяк, не сваяк —
Як жыў, скончыўся так.
Прагудзеў поп і звон,
Ідзі з памяці вон:
Бой за хлеб не на смех!
Гэта снег, толькі снег...

Мо і лёгкія дні...
Не зачэпяць ані
Ні бяда, ні нуда,
Ні агонь, ні вада...
Само шчасце, сам смех!
Гэта снег, толькі снег...

[*1909*]

## ПЕСНЯ ЗВАНАРА

На высокай гарэ, дзе ніхто не арэ,
Толькі птушка-арол дзе садзіцца,
Там збудую, ўзвяду, нізі ўсёй на віду,
Мураваную вежу-званіцу.

І завешу [redacted] звон, з усіх чутны старон —
Раўня голас і віхру, і грому.
Як пушчу яго ў ход, склічу ўміг карагод,
Ні адзін не заседзіцца дома!

Разгудзіцца мой звон ад акон да акон,
Душы збудзіць, па сэрцах удара,
Дрогнуць сковы цямніц, бліснуць іскры зарніц,
Заварушацца яры, папары.

На мой кліч вечавы хто жывы, чуць жывы,
Пад гарою касой загамоне.
Гулам звона скажу, сцежку-шлях пакажу
На прыволле, на ўродныя гоні!

За гарой за другой дам жывы вадапой,
Жыватворнае кожнаму зелле;
На нязлічаны час па нягодах папас
Усім тым, што цярпяць і цярпелі.

Гэткі будзе мой клік — і магуч, і вялік,
А не трапіць ён к душам прыспаным,—
Вызву гром, перуны — хай памогуць яны
Развагніць, затрасці ўсе паляны.

Стогне бура грымот. Я свой звон ход у ход
Размахну, як ніхто і ніколі;
Аж ад рук і ад хмур вежы рухне падмур,
Толькі розгалас пойдзе па полі.

Ляжа крушняю там вежа, звон і я сам,
Арол-птушка ўскрыліцца пад небам.
А навокал гары задымяць сцежары,
Груганамі ўскалышуцца вербы...
. . . . . . . . . . . . . .

І вясна, і зіма. Быў званар — і няма.
Ціха, ціха на белым прасторы.
Толькі жыў нежывы звону гул вечавы,
Аб тым шэпчуць дубы, ясакоры.

Йдзе, сыходзіць лет шмат. Званара помніць брат,
Помніць звон, а сястрыца — званіцу.
Аб высокай гарэ, дзе ніхто не арэ,
Казкі-байкі ліюцца крыніцай.

Як у прошчу па лек стане йсці чалавек
К мохам высланай крушні камення,—
Ад звана чарапок, цэглы — муру кусок —
Будуць несці падмогу ў цярпенні.

Буду ўсё званаром, хоць даўно пад дзярном
Спіць мая галава маладая.
Эх, бо ведае свет, што вялікіх дум цвет
Адно толькі на зломе ўзрастае!

*1909*

## ПЕСНЯ ЖНЕЯЎ

Бор наш высокі над усе бары,
Двор наш багаты над усе двары,
Шнур наш вузенькі над усе шнуры,—
Коціцца, ўецца ў гару, то з гары.
Гэй, гэй, жнейкі, не драмаць!
Час сярпы зубіць — і жаць.

Дворны палетак з канца у канец
Пройдзе, схаваўшысь, высок маладзец;
Шнур наш хаваецца ў гірсу, ў званец,
Зліча калоссе найменшы хлапец.
Гэй, гэй, жнейкі, не драмаць!
Час сярпы зубіць — і жаць.

Шнур і палетак мужыцкай рукой
Выаран гладка, засеян парой,
Скроплен — каб лепей рос — жудкай расой:
Потам мужычым, крывёй і слязой.
Гэй, гэй, жнейкі, не драмаць!
Час сярпы зубіць — і жаць.

Скора мы, жнейкі, шнурок свой дажнём,
Панскі палетак тады жаць пайдзём;
Гойна заплацяць там нам медзяком,
Мы на дажынкі вянок ім спляцём.
Гэй, гэй, жнейкі, не драмаць!
Час сярпы зубіць — і жаць.

Водкі к дажынкам не будзе няхват;
Песню спяём мы ўсе пану ўпадрад:
Будзь нам багат, панок, будзь весел, рад,
З лета у лета будзь сыт і багат.
Гэй, гэй, жнейкі, не драмаць!
Час сярпы зубіць — і жаць.

*1909*

## ТУТ І ТАМ

Вы тут гуляеце, панове,
У сытай, п'янай чарадзе,
А там — што робіцца у вёсцы,
І ў думку вам не набрыдзе.

Тут у крыві людской скупана
Капейка сходзіць за дармо,
А там, у вёсцы ў непацешнай,
Расце, вялічыцца ярмо.

Тут вы прыйшлі разбіць аб чаркі
І чэсць, і славу напалам;
Там горы ўзносяць, рыюць ямы,
Каму? — згадаць пара ўжо вам!

*1909*

## Я І ВОЛЯ МАЯ

Мы радзіліс на свет —
Я і воля мая;
Шчыра нас прыняла
Ўся людская сям'я.

Мы раслі удваём —
Я і воля мая;
Небу міла было,
Мела радасць зямля.

Мы жывём удваём —
Я і воля мая;
Воля песні пяе,
Разумею іх я.

Толькі ўмром не ўдваём —
Я і воля мая;
Я памру,— воля век
Не пакіне жыцця!

*1909*

## «ШУМАН»

*(З віленскіх абразоў)*

Ці то летам, ці зімою
Сып да «Шумана», друг мой! —
Там расстанецца з нудою,
Хто з кішэняй непустой.
«Шуман» — Вільні кроў і косць,
Быў і будзе, як і ёсць.

Рэжа музыка ахвоча,
Песні, гоман — заадно,
Страва, карты, хто што хоча,
Льецца рэчкаю віно.

«Шуман» — Вільні кроў і косць,
Быў і будзе, як і ёсць.

Там сабой таргуюць дзеўкі.
Бацька, сын купляе іх;
Там хватаныя капейкі
Пераводзяцца уміг.
«Шуман» — Вільні кроў і косць,
Быў і будзе, як і ёсць.

Цешся, горад! Што там знача
Вёска з голадам, з бядой?
Хтось там стогне, хтось там плача —
Плюй, махай на ўсё рукой!
«Шуман» — Вільні кроў і косць,
Быў і будзе, як і ёсць.

Хто ў казіны рог не з'ехаў,
Хто з сумленнем — справу знай:
Гэй, да «Шумана» на ўцеху —
Ўтапіць долю, славу, край!
«Шуман» — Вільні кроў і косць,
Быў і будзе, як і ёсць.

*1909*

## КАЛАТУХА

Род за родам ходзіць ходам...
Многа клопату з «Усходам».
Водзіць гандаль, як бывалі,
«Младатурак» султанамі.

Патрасае Тэгеранам
Персіянец з Сатарханам.
Шум падняўся на паўсвета...
Бачыць рускі усё гэта,—

Вухам кожны шум хапае
І «на вус» сабе матае.
А ўсё клопаты Еўропе:
Хто ухопе, хто не ўхопе?

*1909*

* * *

Я не плачу над братняй магілай,—
Ён там спіць, не цярпіць ужо болей;
Я не плачу над хатай пахілай,—
Я ўжо зжыўся з сваёю нядоляй.

Я не плачу, што ніва не родзе,—
Пот і кроў я прывык ліць напрасна;
Я не плачу па родным народзе,—
Сяк ці так дажыве долі яснай.

А мне толькі сціскаюцца грудзі,
І ў вачах слёзы цьмяцца няміла,
Калі ўздумаю, што са мной будзе,
Як пець песні не стане ўжо сілы.

*1909*

## ІСЦІННА ЧОРНАЕ ТРЫО

Дубровін. Пурышкевіч. Іліядор.

Дубровін
*(да Пурышкевіча)*

Сып, калега, сып «вовсю»!
Цяпер наша жніва,—
Збунтаваную зямлю
Як стой ашчаслівім.

Пад свой чорны ўчэрнім хрэст
Права і законы,
Наш цяпер кірмаш і фэст,
Баль у нас «чырвоны»!

Пурышкевіч
*(да Дубровіна)*

Дай, давай, прыяцель мой,
Дубінаю жару!
Здавім петлямі, турмой
«Зямлі, волі» мару.

У казіны запрэм рог
Крамолу мінутна,
Зловім рыбы за сямёх
У вадзіцы мутнай.

Іліядор
*(да Пурышкевіча і Дубровіна)*

Я вас, брація мая,
Ў бой благаслаўляю,
Ад страны как есь всея
Модлы воссылаю.

Дабы цвіў вавек між вас
Дух Пабеданосца,
Светач Грынгута не гас
На нашай старонцы.

*Хорам*

Гоп! Ура, ура, ура!
Расея-лябёдка,
Дай жа, дай нам хабара!
Ліся рэчкай, водка!

Груганы, зубры таўпой,
Гэй, к нам на раздолле!
Справім дружнай чарадой
Пахаванне волі!

*1909*

## ПРАФЕСАРУ Б. ЭПІМАХ-ШЫПІЛУ З НОВЫМ 1910 ГОДАМ

Дружным ходам, год за годам
Зважна ўдаль ідзе, брыдзе:
То заплача, то заскача
Ў вечным ходзе, ў чарадзе.

І «дзевяты» сходзе з хаты,
Кіне наша поле, луг;
Як на слова, годзік новы
Новых дзён вядзе ланцуг.

Зрокся трону і кароны
Сумны, трудны той «Стары»,
«Новы» сядзе на пасадзе
Да сваёй гуляць пары.

Што прыносе: ці калоссе,
Ці благое зелле нам?
Сіл не маю, не згадаю,
Як пяройдзе — скажа сам.

З гэтым «Новым» шчырым словам
Я віншую ў добры час:
Жычу Вам я не сקананна
Год без ліку жыць між нас!

Між сваімі ці чужымі
Жыць ды шчасця нажываць;
Далей знанне, прасвітанне,
Як дагэтуль, засяваць!

Бо далёка, з рукі лёгкай,
Вольны, ясны мкне прасвет;
Будзе ўнуку жыць не штука,
Лягчэй будзе, як жыў дзед.

Глянуць зоры на прасторы,
Сонца стопіць путаў лёд;
К нам у сваты, з хат у хаты
Смела гляне новы ўсход.

Так, хто праўдай, чынам, радай
Ходзе спольна ў грамадзе,

Гоне ўпрочкі цемру ночкі,
  Як ніколі, як нідзе.

За ўсю ж працу ні палацаў,
  Ані скарбаў не чакай;
Толькі будзе славы ў людзе,
  Славіць будзе родны край!

А хтось гікне, дзіка рыкне
  На бліск сонцавы жывы,—
Гэта стогны гадзін чорных,
  На світанні крык савы.

Дружным ходам, год за годам,
  Чараду затопе дзён,
З імі зводы, непагоды,
  З імі ўсё міне, як сон.

[*1909*]



# 1910

## ПЕСНЯ СОНЦУ

Вольным гоманам хвоек высокіх,
Туманамі санлівых нізін,
Казкай векаў блізкіх і далёкіх
Клічам, сонца, цябе як адзін!

Распусці залацістыя косы,
Схаладзелы загон ацяплі,
Аквяці лугавыя пакосы,
Ўсходы новыя сей на зямлі.

З непатульнай, пакорнай зямліцай
Заручыся, шлюб вечны вазьмі,
Разлівайся люстранай крыніцай
Між даламі, гарамі, людзьмі...

Рассыпайся па сёлах, па нівах
Брыльянцістай ажыўчай расой;
У вясёлках купайся цвятлівых,
Ласкай сэрца, душу супакой...

Як у свята купальскае, сонца,
Свой жывы абнаўляеш паглёд,
Аднаві славу нашай старонцы,
Аднаві яе сумны народ!

Хай нам явары вечныя думы,
Думы-байкі шасцяць, шалясцяць,
І нясуцца хай гэтыя шумы,
Па бел-свету ляцяць, хай ляцяць!..

Дык глянь з хорамаў вольных, высокіх
Да крывіцкіх туманных нізін...
Казкай векаў блізкіх і далёкіх
Клічам, сонца, цябе як адзін!

*1910*

## ВОЎК

Топчучы верас і мох
Цёмных імшараў і лоз,
Выбрыў на сонны разлог,
На апляснелы пакос.

Зубам ляскоча аб зуб,
Вочы палаюць агнём;
Стаў, як калода, як слуп,
Стаў і азваўся выццём.

Выў сярод дрэмлючых ніў,
Як бы на суд каго зваў,
Хто сатварыў, спарадзіў,
Хто узрасціў, гадаваў.

Ноч — ён на вырай, на жыр;
Дзень — у бярлогу, як смоўж...
Пустка удоўжкі і ўшыр,
Пустка ушыркі і ўдоўж...

Выў ён, а рэха ўсё ўдаль
З рогатам дзікім плыло,
Толькі не віўся ў ім жаль...
Рэха пракляцце нясло.

*1910*

## МОЙ ПАГЛЯД І МЭТА

*(З прыпевак тутэйшага)*

Я па закону і па веры
Ганю свой быт паміж людзей;
Жыццё сваё ўжо так размерыў,
Крывулі ў ім каб ні аднэй.

Таму я — кум, таму я — сват;
Той мне, таму штось вінен я;
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Да гаспадаркі маю клёку:
Як дзед, як прадзед, так вяду;
Штось мо й не так, як глянуць збоку,
Але п дзьму на ўсё ў дуду...

Кусток лазовы, ўзрэхаў рад —
Не бачу ў гэтым грэху я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Я к працы здатны і ахвочы —
З гультайствам дружбы не вяду;
На тое Бог дзянёк рабочы
Даў чалавеку на раду;

Тры ж дні якія ў тыдзень свят
Прасвяткаваць магу і я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Жыву з суседзьмі па-суседску,—
Пакорны згоды я слуга;
Не быць нікому ў воку рэдзькай
Я век стараюсь як мага.

Які ж «на козыр» возьме «гад» —
Дзяржу ў руках кол ёмка я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Зладзейства — крый ты мяне Божа,
Каб я зрабіў... ражон мне ў бок!
Каня ж напасціць чужым збожжам,
У панскім лесе ссеч дубок,

Сянца напхаці панарад —
Яшчэ згаджуся з гэтым я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Здзірач, працэнтнік, ліхаімца —
Ў мяне такі не чалавек;
Я сам з другімі рад дзяліцца,
Але ўсё ў меру, як той лек:

Ніколі больш як «пяцьдзесят
За сто» і ўзяць не смею я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Я п'янства, п'яніц прост не зношу:
Іх вораг — я, яны — мае;
Калі ж сусед мне скажа: «проша»
І чарку ставіць на стале,

Ўступаю просьбам, рад не рад.
Што ж? — дзве-тры чаркі — не хвор я...
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

На пана, жыда і на чына
Не маю ласкі ні крыхі;
Хоць перад першым сагнуць спіну,
З другім гешэфцік завясці,

А з трэцім знаць ў хабарах лад —
Не ад таго падчас і я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Як людзі добрыя, навукі
Я з малку дзён пакаштаваў
І распішуся без прынукі,
Сынка ж у школу не даваў...

Дзед без навукі жыў лет шмат,
І сыну ж тое дзяўблю я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Люблю чытаць я і газеты:
Як, дзе, што — ведаці люблю;
Сякі-такі толк знаю ў гэтым —
Купляць жа — дык не прызнаю...

Сусед пазычыць яе рад,
Чытаць за «дзякуй» ласкаў я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Знаём з расійскай, з польскай мовай;
Сваёй з гасцьмі ані мру-мру,
Хаця не зрокся і «вясковай» —
«Папросту» з «простым» гавару.

З яе ж рабіць які парад,
За гэта дзякую ўжо я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*

Так па закону і па веры
Ганю свой век паміж людзей;
Жыццё сваё ўжо так размерыў,
Крывулі ў ім каб ні аднэй.

Таму я — кум, таму я — сват,
Той мне, таму штось вінен я.
Такі на ўсё ў мяне пагляд,
Такая мэта ўжо мая.

*1910*

## ЯВАР І КАЛІНА

Песняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
Ў сумнай даліне над ярам.

Лісцікі зеленяй хваляцца
Небу панятлівай мовай:
Росамі мыюцца раніцай,
Песцяцца сонцам паўднёвым.

Захадам модлы пакорныя
З маткай-зямлёй адпраўляюць;
Тайна у ночаньку чорную
Месяца, зор выглядаюць.

Слухаюць смехаў русалчыных,
Лопату крылляў начніцы,
Ветру павеваў ап'янчаных,
Плюскату шклістай крыніцы.

Чуецца музыка дзіўная
У повесцях сонных імшараў...
Цешыцца явар з калінаю,
Скінуўшы зімнія чары.

*1910*

## БРАТУ Ў ЧУЖЫНЕ

Ці помніш ты, нядбалы дружа,
Ўсё тое, дзе радзіўся, ўзрос?
Дзе напявае зімка стужай,
Ірдзіцца лета бліскам рос?

Аздобнасць неба — сонца, зоры,
Спавіты месяц туманом;
Русалак ночкай разгаворы,
Шчаслівых птушак песні днём?

Ці помніш ты пагляд нясмелы
Свайго радзімага сяла,
Адкуль паплёўся ў свет той белы,
Твая дзе моладасць сплыла?

Нямое поле, сенажаці,
Лазой аквечаны дзірван;
Магілкі, спяць дзе твае брацці,
На ўзмежку прадзедаў курган?

Ці помніш прызбу, плот з праслamі,
Сваю хацінку, свой тачок,
Тваймі стаўляныя бацькамі,
Адвекам крыўлены набок?

Паміж прысад гасцінец біты —
Пясчаны, ўзвілісты пакат;
Паводкай мост стары падмыты,
Бяроз плакучых сумны рад?

Ці помніш ты сваю матулю,
Што над калыскаю тваей
Пяяла песню-байку «люлі»,
Снуючы ў думках рой надзей?

Святую песню родных межаў,
Няхітры мовы свойскай твор,
З якой зліваецца звон вежаў,
А рэха ловіць цёмны бор?

Ці помніш жніў, касьбы дзень шчыры,
Начлег, агонь сярод кустоў;
Палёты з выраю у вырай
Буслоў, гусей і жураўоў?

Убор вясковы, невыдумны,
Абычай сельскай прастаты...
Край беларускі мірны, сумны,
Свой родны край ці помніш ты?..

*1910*

## МОЙ ДОМ

Мой дом — прыволле зорнай далі,
Арламі мераны абшар,
Дзе бітвы точаць ветраў хвалі
З сям'ёй глухіх калматых хмар.

Мой дом — амшалай пушчы сховы,
Сяліба ясеняў, сасон,
Дзе смех русалчын, лесуновы
Палошыць вечна-цяглы сон.

*

Мой дом — пясчаныя разлогі,
Пакута сцюжы і спякот,

Дзе ў скібах лад вядуць нарогі,
Аздобай цвет — чырвоны пот.

*

Мой дом — узмежных зёлак восці,
З сухой асінаю курган,
Дзе тлеюць прадзедавы косці,
Дзе плача ночка ды туман.

*1910*

## МАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

У дзяўчынкі, у княгіні,
Што падчас мне вочкам кіне,—
    Каласісты вянок жыта —
    Коска жычкаю павіта;

Пара пасымкаў мятлічкі —
Броўкі мілыя ў сястрычкі;
    Дзве пралескі — яе вочкі
    Ці два ў збожжы васілёчкі;

Яе шчочкі — роўны ў сонцы
Цвету-ружы ля аконца;
    Яе губкі — не калінкі,—
    Проста спелыя малінкі!

Кветка-лілія з крыніцы —
Шыйка гэтай чараўніцы;
    Два букеты з незабудкі —
    Маладыя яе грудкі;

Як хмялёчак небадыльны —
Стан прытульны, перахільны;
    Ручкі — хто зраўняўся з імі!
    Так і шчасце не абыме;

Сэрца... Ўсюды за ім пойдзеш...
Пекла, неба — ўсё там знойдзеш...
У дзяўчынкі, у княгіні,
Што падчас мне вочкам кіне.

*1910*

## НА КУПАЛЛЕ

На Купалле на святое
Рві, матуля, зелле тое,
Што ў нас папараць завецца!
І шчаслівым быць здаецца!

Як нарвеш яго даволі
Ў цёмным лесе, ў чыстым полі,—
Палажы за абразамі,
Пасвянці сваймі слязамі...

Двойчы, тройчы — а крапліста —
Злі слязою брыльянцістай
І чакай з яго прыплоду
Ад усходу да заходу...

Як узыдуць з зелля кветкі,—
Будуць шчасце меці дзеткі,
Будзеш, маці, меці ў хаце
Долю, згоду і багацце!..

*1910*

## НАД ІМАТРАЙ

На поўначы сумнай, у Фіншчыне дзіўнай,
Ракой з вадаспадам заліўся пакат;
Вуоксаю рэчка завецца у фінаў,
    Іматрай завуць вадаспад.

Клакочуць, рагочуць Іматрыны хвалі,
На цэлыя вёрсты шум-гоман стаіць,
Нем толечы каменны бераг, як з сталі,
    І зараснік хвойны маўчыць.

Шалее Іматра між каменных глыбаў,
За хваляю хвалю імчыць к нізіне;
Як хмар недаступных махнатыя скібы,
    Адна адну схопіць, піргне.

Адна з адной рынуцца ўглыб, як магілу,
Там скруцяцца, ўзнімуцца клубам, дугой,
Рассыплюцца пухам, рассеюцца пылам,
    Зноў выскачаць к небу гарой.

Зірнуць, ззіхануцца, сыпнуцца на скалы,
Ўсім дантаўскім процьмам на здзіў,
І люнуць на волю, забыўшыся шалаў,
    Плывуць паміж пустак і ніў.

Другія іх зменяць і пеняцца ў зломе,
Адвечністым шумам калышуць прастор;
Свабодай сваёю і роднай Суомі*
    Сягнуць быццам хочуць да зор.

Стаіш і глядзіш на бунтоўныя воды,
І сэрца лялеецца ў сцішнай жальбе,
Ўсё слухаеш нема, як стогнуць нягодай
    Ды як бы ўсё клічуць цябе:

«Хадзі к нам, бяспутнік, кінь долю на свеце,
Спачын векавечны дамо ў забыцці;
Нязведанай воляю будзем шумеці
    І гутарку з сонцам вясці.

* Суомі — Фінляндыя.

Хадзі ў нашы хвалі, спаўём твае грудзі
Вадзіцай сцюдзёнай, кіпучай, як вар;
Народ аб нас казку злажыць не забудзе,
І песню нам зложыць пясняр».

Так сумна на поўначы, ў Фіншчыне дзіўнай,
Ракой з вадаспадам заліўся пакат;
Вуоксаю рэчка завецца у фінаў,
Іматрай завуць вадаспад.

*1910*

## ПАЛЯЎНІЧЫ І ПАРА ГАЛУБКОЎ

*(Легенда з індыйскай кнігі Магабгарата*)*

*Прысвячаю прафесару*
*Б. Эпімах-Шыпілу*

Ў Магабгараце, кнізе Інд,
Якой лет тысячы тры лічым,
Такая повесць там стаіць
Аб галубках і паляўнічым.

I

Быў чалавек, якога ўсім
Было заняццем — паляванне;
У лесе, ў полі дзень і ноч,
Як быццам ляжа там і ўстане.

* «Кнігі Магабгараты — гэта адна з найстарэйшых і найвялікшых паэм свету. Створаны яны індыянамі болей трох тысяч год таму назад і змяшчаюць у сабе каля 220 000 радкоў. У Магабгараце, апрача навучальных і духоўна-маральных філасофскіх твораў, шмат ёсць і прыгожых, паэтычных вобразаў. З іх найпрыгажэйшы — «Наль і Дамаянці» — вельмі добра перакладзены на польскую мову А. Лянге. Легенда ж аб паляўнічым і галубках не ёсць даслоўны пераклад з індыйскай мовы; я ўзяў толькі аснову гэтай аповесці і болей-меней захаваў форму санскрыцкага верша — «шлёкі», якой усе кнігі Магабгараты напісаны». Я. К.

За птушкай птушку ловіць ён
Са хцівасцю благой у змове —
На рынак цягне прадаваць,—
Прадасць і зноў ідзе і лове.

Пануе ў пушчы, бы ў якім
Сваім за хатай агародзе,
Ў сям'і крылатай пуд і страх
Сілом і клеткаю наводзе.

Паміж бацькоў, паміж дзяцей
Птушыных сее ён разлуку,
Ні ласкі к ім, ні жалю к ім
Не меў, не знаўся з іхняй мукай.

З сумленнем дружбы не вядзе —
Да крыўд і мук яму зло сватам;
Закон багоў яму ні ў што;
З душы і сэрца вечным катам.

І доўга так палюе ён,
Знімае так ахвяры ў клеткі,
Ажно прыпадак немалы
Спаткаў яго ў пустыні гэткі.

II

Дня аднаго ў кустах блудзіў
І лёгкага выглядваў хлеба,—
Пагоду ясную і дзень
На ноч змяніла бурай неба.

За хмарай хмару валакло,
А грозна, чорна, безустанку;
Пярун ляцеў за перуном,
Штоміг — маланка за маланкай.

Ліло, як з рэшата, дажджом,
Раўняла нізкі дол з узгорам,
І лес, і поле абняло,
Як пеклам, як шалёным морам.

Заціхла птушка, звер заныў;
Лес-хата — ўжо не быў ім хатай...

За грэх караў зямлю, ці што,
Так грозны Сатакрата*.

А паляўнічы, хоць і мок,
Не пакідаў сваёй работы:
Галубку ўбачыў пад кустом —
За крылле ўзяў зладзіў з ахвотай.

Здабыча лёгкая была:
Галубка, выбіўшыся з сілы,
Хоць і хацела — не магла
Ляцець, чакаў яе дзе мілы.

III

Тым часам сціхла бура ўжо,
Але і вечар быў на свеце;
На небе месяц абышоў,
І зоркі сталі ў небе йрдзеці.

Што тут рабіць? дамоў ісці? —
Ісці і цёмна, і далёка;
У лесе цёмным начаваць? —
І небяспечна, і нялёгка:

Усюды свеціцца вада,
Вада зліваецца з галінаў;
Нічым нідзе дастаць агню,
А тут яшчэ і рык звярыны...

І голад также не маўчыць:
Пара даўно чаго паесці...
Нічога. Рады ўжо няма.
Прыйшлося ў лесе ноч правесці.

Пад дрэва буйнае ідзе,
Шукае ў ім сабе апоры;
У знак пакоры — галаву
Схіліў і так яму гавора:

«О, дрэва, будзь прыстаннем мне:
Ў сваёй з багамі мей апецы».

* Сатакрата — індыйскі Бог.

Сказаў і лёг на камень там,
Пры ім галубка тут жа ў клетцы.

IV

А гэта дзерава было
Сялібай, хатай галубковай;
Сядзіць прамоклы на ім ён
І так бядуе слова ў слова:

«Куды загінула мая
Галубка, вечная падружка?
Такая страшная пара!
Як выйдзе жывенькаю птушка?

Мо вецер збіў яе куды,
Ці дождж пасек няшчаснай крыллі,
Ці вораг бедную злавіў,
Ці перуны насмерць спалілі?

Што мне з жыцця, калі яго
Не будзе ўжо з кім каратаці?
Жыццё і свет тады — не свет,
І сам не свой у сваёй хаце.

Палац з брыльянтаў; сотні слуг
Хай за цябе паложаць грудзі,—
Без ласкі — з слугамі палац
Астрогам, пусткай вечнай будзе.

З падружкай мілаю і лес —
Як найбагатшы стане хорам...
Няма яе — няма жыцця,
Усё — адной няўцехай, горам».

V

Галубка чуе галубка,
І сэрца радасцю ёй б'ецца,—
Што гэтак помніць ён аб ёй,
Такому жалю аддаецца.

Але нядоўга шчасце ёй
Усмехам думкі калыхала:

Галодны тут жа госць ляжаў,
А гэта значыла нямала.

«Не думай, мілы, аба мне,—
Так галубку галубка кажа,—
Уперад волю споўнь багоў:
Яны пры ўсім стаяць на стражы...

Гасця ты маеш у сябе,
Замёрз і есці пэўна хоча,—
Заняцца шчыра мусіш ім,
Каб не пракляў цябе і ночы».

Пачуў, стаў весел галубок,
Ад радасці аж як не плача.
Спяшыць гасцю служыць, пытаць,
Якую той цярпіць нястачу.

«Я змёрз»,— гавора той яму.
Галуб рад памагчы ў прыгодзе
(Бо й дрэва ў цень хавае свой
Таго, хто нават сеч прыходзе).

## VI

Галлё сухое і лісткі
Збірае, колькі сілы мае,
Кудысьці злётаў па агонь,
Развёў і госця йзноў пытае.

А паляўнічы да яго:
«Дай есць, галодны я сягоння».
Тут бедны галубок схмурнеў:
Не знае, дзе яду спагоне.

То ж ён па-птушаму жыве,
Жыве тым, што пашле здарэнне;
Няма запасу ў галубка,
А госць не можа знаць цярпення.

Падумаў трохі галубок
І штосьці выдумаў такое...
«Спакоен,— кажа,— госцік, будзь.
І голад твой я заспакою».

Сказаўшы гэта, над агнём
Ён тройчы звольна акруціўся
І, як маланка, як страла,
Ў агонь, як ёсць, жыўцом зваліўся...

Ўстрос паляўнічым страх і жаль;
Дае зарок не жыць так болей:
Спаліў прылады ўсе свае,
Галубку выпусціў на волю.

## VII

Дый воля ўжо ёй не ў карысць,
Сядзіць і сумненька бядуе:
«І лес, і сонца, і прастор
Мяне не цешаць маладую.

Дружок ужо на свеце тым;
З кім варкаваць, як даўней, буду?
Нядолю-долю з кім дзяліць?..
Жыццё ўжо мне няспыннай жудай.

Пайду за ім, пайду к яму.
Прымі мяне к сабе, мой любы!»
І з гэтым словам, як і ён,
Звалілася ў агонь-загубу.

Яшчэ больш паляўнічым тут
Затрэсла скруха-нецiхота:
Лавіці птушкі у сіло
Навек адпала ўжо ахвота.

Пакуце здаўся за грахі:
Уздзеў пакутны ўбор жабрачы...
Ракой ідзе — не п'е вады,
У лесе птушкі — як не бача.

Аж так дабрыў, дзе лес палаў...
Ўляцеў і следу не заставіў...
Па смерці ўбачыў галубкоў
Паміж святых на небе ў славе.
. . . . . . . . . . . . . . .

Ўсю гэту повесць знаем мы
Аб галубках і паляўнічым
З Магабгараты, кнігі Інд,
Якой лет тысячы тры лічым.

*1910*

## ЖНІВО

Наспелая постаць шчаслівых пасеваў
За вёскай, на сонным лясоў рубяжы,
Ссівелы ўжо колас схінула к мяжы
У сумным шаптанні: «Дзе, жнеі мае вы?»

І жнеі сышліся.— Направа, налева
Кладучы ў снапы каласы-старажы,
Зашасталі глуха сярпы, як нажы,
Пад жніўныя вечна старыя напевы.

Спагадная, нудная песня плыве,
Губляючы ў пушчы свае пералівы,
У шэлестах белага коласу нівы.

Плыве гэта песня ка мне і заве,
І ў сэрцы звініць, як каса у траве:
«Ты так жа, брат, сееш... а дзе тваё жніва?»

*1910*

## ГРАБАР

Ўжо даўно у вялікім у горадзе
Жыў грабар, слаўны ў дзеле сваім;
Колькі жыў, адно рыў ён нябожчыкам
Долы-сховы сякім і такім.

Ці багач, ці бядак, днём ці ночаю,—
Супачынку не знае грабар;
Ноч і дзень, як той цень, ён на могільцах
Сам з рыдлёўкай сваёй — гаспадар.

Пакуль там з дамавінаю ўладзяцца,
Змыюць цела, пакуль прыбяруць,
А ў яго ні з сяго дол і выкапан,
І не змыліцца ў меры нічуць.

Як дамоўку спускаюць вяроўкамі...
Ажно дзіў, які важны спачын:
Глыбіня, шырыня дапасованы,
Не дагодзіць так бацьку і сын.

А засыпе зямлёй супакойніка,
Які насып удоўжкі і ўзвыш!
І дзярном-дыванам бераг высцеле,
І з каменьчыкаў высцеле крыж.

Доўга-коратка жыў так — няведама,
Пэўна, жыў, колькі трэ было жыць;
Але вось, як на злосць, і абрыдала
Яму гэтак штодня ямы рыць.

Без канца неспакойства штодзённае;
Як на варце, з рыдлёўкаю стой;
Пахаваў, насып даў небарачніку,—
Бач, другі ўжо расстаўся з душой.

Каб за раз ад усіх адкараскацца,
Вось тады б то аддыха была!
Песні б пеў, не мадзеў святам, буднямі;
А так — доля не тое дала:

Мрэ адзін, а ўсё з ім не ўмяншаецца;
На яго месца родзіцца пяць...
Пакруціў-памуціў мазгаўніцаю
Той грабар і штось выдумаў, знаць.

Ён рыдлёўку сваю жалязяную
Кавалю пацягнуў, паказаў;
Як змяю, так сваю землякопніцу,
Насталіць, натачыць прыказаў.

І давай ён тады дзіву дзіўную
  Апраметна капаць глыбіну,
А ўсё так, не 'бы як, не спыняючысь,
  Верне брылы адну на адну.

Хто спытае: каму? — не адказвае,
  Адно толькі ямчэй капане;
Аб нічым аб другім і не ўздумае,
  Думку звёў аб ядзе і аб сне.

Рые тыдзень, другі; яма большыцца;
  Ўжо кладзе за адкосам адкос;
Дол глыбок, і пясок над магілінай,
  Як і глыб,— гэтак высака ўзрос.

Ўжо к канцу далакоп падбліжаецца,
  Ўжо работы ўсяго на паўдня;
Чуць-чуць схоў не гатоў недзе некаму...
  Не стрывала матуля-зямля:

Ў яму рухнула зверху, хаваючы
  Грабара і яго працу ўсю...
Але што ж? Для каго ж дол быў копаны?
. . . . . . . . . . . . . . . . .
  Грабар яму ўсяму рыў Жыццю!

*1910*

## Я АД ВАС ДАЛЁКА...

Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні,—
На чужое неба ўжо гляджу сягоння.
  Але думкай, сэрцам толькі вас я знаю,
  Як і жыў, жыву я ў сваім родным краю.
І няма на свеце так вялікай меры,
І няма на свеце так каваных дзвераў,
  Каб хоць на часіну ў будні ці ў нядзелі —
  Беларусь са мною разлучыць пасмелі!

Я ад вас далёка... скажуць гэтак людзі...
Але хто заглянуў у чужыя грудзі
І паняў хто шчыра той агонь і мора,
Што гарыць, бушуе і аб чым гавора?
Пойме толькі гэта, хто аж да скanання
Не пазнаў спакою, не пазнаў прыстання;
Каго доля-ведзьма ад самой калыскі
Кідала па свеце, як той ліст вятрыскі.

Я ад вас далёка... А дзе ні гляджу я —
Дома толькі думка днюе і начуе;
Знаю толькі пушчы Белавежскай гоман,
Знаю толькі рэчку — з плытнікамі Нёман.
Дзе ў чужыне будзе сад так гадаваны,
Дзе такі там хорам важна збудаваны,—
Што мне замянілі б хату і бярозкі,
Хату і бярозкі беларускай вёскі?..

Я ад вас далёка... Дзеліць нас паўсвета,—
А жыву ж я з вамі і зіму, і лета;
Чую з вамі ўвосень непагоды песню,
Цешуся з праталін вольнага прадвесня,
І ці сонца ўзыйдзе, і ці сонца зайдзе,—
Вечна з думкай там я, мой спакойны край дзе;
З выраю ж як толькі сустрачаю гусі,
Весці ў іх пытаю з роднай Беларусі.

Я ад вас далёка... Жыву між чужымі,
Чую ж вашы песні,— водклік шлю сваімі;
Дабываю песні ад душы, ад сэрца,
Аж бы сам за імі к вам ляцеў, здаецца.
Не зрабіць нікому гэткай дамавіны
І не вырыць ямы гэтакай глыбіны,
Каб у іх з вачэй мне Беларусю-маці,
Як людзей хаваюць, гэтак пахаваці.

Я ад вас далёка... Божа ты мой мілы!
Неразлучны з вамі да самой магілы,—
Не пакіну думаць світам і ўпацёмку:
Як там жывіцё вы, як жыве старонка?
А хоць дасць мне доля ў дамавіне месца,—
Ўстане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца
І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,
Дзе ляжаць загоны Беларусі роднай.

*1910*

## СЭРЦА СПЫТАЙ...

Прыгледзься днём яснаму сонцу
І месяцу ночнай парой;
Ў шум цёмнай услухайся пушчы
І ў шумы паводкі вясной;

Кінь вокам на мур пабяляны,
На стрэхі з саломы зірні;
Зайдзі на магілкі з крыжамі
І насып забыты крані;

Пакратай мінуўшчыны попел,
Што ў казках не кінула жыць;
Сягонняшні дзень паймі добра,
Што ўслед нашай долі бяжыць...

І ўсюды — ад краю да краю,
Дзе звернецца думка твая,—
Аб роднай старонцы пытайся
Ты неба, зямлі і жыцця.

А сэрца — калі не звёў сэрца —
Адкажа за ўсіх неўнарай:
У нас ёсць паны і іх слугі,
А людзі... што ж?.. Сэрца спытай...

*1910*

## ГЭЙ, КАПАЙЦЕ, ДАЛАКОПЫ...

Гэй, капайце, далакопы,
Яміну-магілу,—
А шырока, а глыбока,
Колькі хваціць сілы.

Так капайце днём і ночай,
Помачу склікайце,—
Бо ў тым доле хаваць будзем,
Беларусь хаваці.

*

Гэй, ударце, загудзіце,
Званы з усіх вежаў,
Каб ніхто ўжо пары гэтай
Дома не залежаў.

Так званіце, не кідайце,
Дружыну склікайце...
Хаўтуры ўжо свае будзе
Беларусь спраўляці.

*

Гэй, зайграйце ў мільён струнаў,
Слаўныя музыкі,
Каб аж водгалас каціўся,
Як ёсць свет вялікі.

Так іграйце, каб было ўжо
І глухім чуваці,—
Каб маркотна не было спаць
Беларусі-маці.

*

Гэй, збірайцесь на памінкі,
І сыны, і дочкі,
Справім гучную бяседу
Пад аслонай ночкі.

Сабірайцесь, ды не снеце
Галасіці звонка,—
Памінаць бо толькі будзем
Родную старонку.

*1910*

## МАЯ ДУМКА

Як вецер, як птушка, дзе сонца, дзе зоры,
Так рвецца, нясецца ўдаль думка мая;
Абыймецца з небам, пакоціцца ў мора,
Ў вялікае мора людскога жыцця.

І ўдарыцца ў сэрца так смутна, балесне,—
Як лісцем віхура, так ім скалыхне,
Так ім закалоціць, аж выклікне песню...
Ўжо з песняй ляціць зноў да зор к вышыне.

Запеўшы пахвалай нязведанай далі,
К вядомай павернецца долі людской;
Адсвеціцца ў слёзах, як свечка ў крышталі,
Ды ў свет зноў за сонцам, за новай зарой!

На небе свабода, святло і прыволле,—
А думцы замала: няма там людзей;
Людзей на зямельцы спаткае даволі,
Дык сонца і воля не свецяць тут ей...

І так безупынку, то к небу — дзе зоры,
Нясецца, як птушка, ўдаль думка мая;
То скоціцца ў мора, ў вялікае мора
Людскога, забытага шчасцем жыцця.

*1910*

## ПАМЯЦІ МАР'І КАНАПНІЦКАЙ

І сышла ты, пяснярка народаў,
Божы светач жывых пакаленняў,
Ў новы край невядомага быту
Ад жыццёвых няпраўд і цярпенняў.

І пакінула загадку свету —
Ўсім няшчасным і зблізка, і здалі:
Ці то сонца зайшло назаўсёды,
Ці ім долю мо іх пахавалі?..

Бо як песня твая ўсемагутна
Безгранічна звінела, будзіла,—
Так няма ні граніцы, ні меры
Ўсёй жальбе над тваёю магілай.

І хаця сэрца сціхла, заныла,
Хоць, як зоры, ўжо вочы не свецяць,—
Голас думак тваіх яшчэ будзе
Не з адным гаманіці сталеццем.

Дух твой з светласцяй неба сальецца
І з праменнямі сонца святога
Слёзы-росы высушываць будзе
І паказываць к праўдзе дарогу.

Памяць насып-магілку ўхарошыць
З жывых кветак рукою сірочай,
Як квяцісты былі твае песні
Сярод земскай і сцюжы, і ночы.

А з мільёнаў грудзей набалелых
Плысці ўздох з веку ў век не пакіне
Па заступніцы ўсіх нешчаслівых,
Па вялікай пяснярцы-княгіні.

*1910*

## ПАМЯЦІ С. ПАЛУЯНА

Куды ідзём?.. куды праклящце нас вядзе?
Якія далі здабываем?
Дзе гарт, надзея, вера ў будучыну — дзе?
Чым сэрцы, думы акрыляем?

Няшчасны край! чым быў, чым стаў, чым будзеш ты
З сваім прыдаўленым народам?
Як нёс — нясеш ярмо упадку, слепаты
І змен чакаеш год за годам.

Чакаеш ты... а толькі жалабы ўсё чуць;
Асот уеўся ў тваё гоні;
Сыны твае загубе сілы аддаюць,
Губляюць косці ў беспрытонні.

Сцяжыны замкнуты туды, дзе ясны быт
Душы не кідае ў бадылі;
Шырок гасцінец вечна толькі чыст, адкрыт
К шынку, астрогу і магіле.

З канца ў канец залеглі толькі туманы,
Адвагу выгнала трывога:
З-пад хмар злятаюцца на жыр свой груганы,
Над гэтай грагаюць пажогай.

Куды ідзём?.. У паніжэнні, ў цемнаце
Яшчэ адно загасла сэрца,
Хоць так прыветна біла зорам, яснаце,
Як толькі душ вялікіх б'ецца.

Не стала сіл змагацца з блудам векавым,
Змагацца з доляю няшчаснай,
На радасць недругам, на жаль нямы сваім
Прыбыў курган, курган напрасны.

Так мала жыў, а столькі ўжо рабіў надзей
Сваім паглядам нештодзенным!
Якіх не роіў сноў аб старане сваей,
Як верыў ў свой народ нязменна!

Як верыў, як да родных рваўся ніў і сёл
З душой і сэрцам беларуса!
Любіў даль светлага прыволля, як арол,
Не знаўшы думам сваім мусу.

Шукаў ўсё праўды між чужымі і сваймі.
І ўсюдых праўду гэту гналі;
Адзін-адным стаць мусіў сам паміж людзьмі,
У думках мкнучы вышай, далей.

Для беларускіх грамадзян байцом, слугой
Так шчырым быў, а грамадзяне —
Эх! ніткаю к пятлі плацілі не адной,
Хоць колькі ўздоху ў час расстання...

О, стыд і ганьба вам, сляпні, што сілам маладым
К жыццю гародзіце запоры!
Пагардай вам патомак плюне ў вочы ўсім,
Пракляццем памяць абгавора.

За што, чуць-чуць прабуды з'ява к нам сышла,
А ўжо сляды крыжамі знача?
За што расіць алтар свой кроўую пачала?
Зірнула мараю звадзячай?

Сышоў ваяк за долю, волю і народ,
Пяском засыпалі жвіровым.
Спі, мой таварыш, спі! надойдзе новы ўсход,
І брат заплача добрым словам.

Спі, дружа мой, сявец у родных слоў сяўбе
Па нашай дрэмлючай старонцы!
Няхай зямелька будзе лёгкай для цябе,
Як лёгка рваўся ты да сонца.

*1910*

## ДУДАР

На кургане на адвечным,
Пад асінай векавой,
Сеў дудар, сагнуўшы плечы,
З пасівелай галавой.

На дудзе, на самагудзе
(А дуда — як веча звон)
Духам кліч пускае ў людзі —
Песня ў песню, тон у тон.

Як жывая, рвецца песня,
Лесам-пушчаю шуміць,
З забыцця змятае плесню,
Мох з мінуўшчыны ляціць.

След за следам ройным роем
Цені даўнага кладуць...
Князь за князем, бой за боем,
Як сягоння, ў ход ідуць.

Роднай бацькаўшчыны долю,
Як у люстры, бачыш так.
Долю-волю у бязволлі,
Што сышла, ідзе няўзнак.

Гоман-славу, чорнай хваляй
Што збіралі курганы,
Белы косці, што гублялі
Беларускія сыны,

Што сабе кавалі путы,
Ў бітвах мручы за другіх...
Як бы модлы і пакуты
Ўсіх — і наскіх, і чужых.

І сягонняшняй праявай
Звоніць шчасце небарак,
Што са славаю за славу
І памерці няма як.

І у будучыну гляне
Думкай песня дудара,
З непрывычным запытаннем:
Ці прачнуцца не пара?!

Так даўно у нас не йгралі,
Дзіў адно плыве і чар,
Штораз вышай, штораз далей,—
Знаць, бывалы ён дудар.

Старасвецкі ён музыка,
Важна толк вядзе ў дудзе,
Важна доляю вялікай
І свабодаю гудзе.

На курганавым каберцы
Нечувалае чуваць,
Што ўсё можа толькі сэрца
Беларусава паняць.

*1910*

## МОЙ КРАЙ

Ляжаць твае гоні-загоны
Стомільна на свеце на белым
І жаляцца руняй зялёнай,
І коласам жаляцца спелым.

Лес-ноч гаманіста, шумліва
З мінуўшчыны казкі складае
І шле іх далёка па нівах,
Плакуча, ад краю да краю...

Паводкаю коцяцца воды
Руч'ёў паміж долаў і гораў,
У хвалях пагодай-нягодай
Купаючы нівы-разоры.

Спавітыя плесняю вёскі
Між пустак заселі бяссільна,
Ўтуліўшыся ў цені бярозкі
На вечным кургане бадыльным.

А люд?.. Ён сагнуўшыся ходзе
Пад ношкай знямогі-пакуты
І, роячы сны а свабодзе,
З дня ў дзень сам сабе куе путы.

Так спіш, так жывеш мімаходам,
Мой край, як сцяпная магіла,
З сваім незавідным народам,
З патухшай і славай, і сілай.

*1910*

## СЕЛЬСКІЯ МОГІЛКІ

Люблю я могілкі з каплічкай,
Прыселле насыпаў і пліт,
Дзе крыж і страшыць, і галубіць,
Слязой дзе кожан дол абмыт.

Сваё дзе Радаўніца свята
Спяшыць у год абходзіць раз,—
Сялян склікаючы сямейку,
Спраўляе з светам тым папас.

Жывыя душ успамінаюць
Сваёй успанае радні,
Над імі жаляцца галінкі,
Нясуць былыя думцы дні...

Агул жыцця ўсяго абыймеш,
Друзы пагод і непагод,
Зямлю і неба ў рукі возьмеш,—
І ў гэты край зляціць паглёд.

І як жа міл дзірванчык цішы,
Спакою дзіўнага узгор,
Дзе не чапіў сялянства пушчы
Навейшай мудрасці тапор!..

[*1910*]

## ПАМЯЦІ ВІНЦУКА МАРЦІНКЕВІЧА

Шмат лет не ручыла нам доля.
Крывымі вяла пуцінамі,
Не маючы ласкі і жалю
Над нашай старонкай, над намі.

Хто мы, адбірала нам памяць,
Чужыншчынай ціснула грудзі,
Не раз падцікалася з думкай,
Што мы ўжо — не мы і не людзі.

З нас самых і з гутаркі нашай
І свой, і чужынец стаў кпіці.
Ўсё роднае стала нярродным,
Прост хоць і на свеце не жыці.

Так ночка хацела быць паняй,
Так сівер нас зводзіў і страшыў,
Ды вось, як на тое, судзіў Бог
І нам на сваім быць кірмашы.

Нябожчык Вінцук Марцінкевіч
Не сцерпіў такой нашай мукі,—
Паслухаўшы сэрца, бярэ ён
Дуду беларускую ў рукі.

І песню за песняй парадкам
Пусціў, як жывую крыніцу:
Пасыпаліся, проста як з неба,
«Дажынкі», «Гапон», «Вечарніцы».

Як сторож, стаў смела на варце
Радзімых запушчаных гоняў,
Стаў сеяць па-свойску ўсё тое,
Што мы далей сеем сягоння.

А кемкую меў ён натуру,—
Спанатрыў, дзе праўду шукаці,
У тахт беларусавай думцы
Патрапіў запеці, зайграці.

Калі засмяецца, бывала,
То хоць за бакі ты бярыся;
Калі ж і разжаліцца сумам,
Дык хоць ты з слязою жаніся.

Умеў ён прынадна настроіць
Тон ёмкі ў дудзе-самагудзе,
Што нам і цяпер яна грае,
І вечна канца ёй не будзе.

Чвэрць веку, як бае ўжо недзе
Святым беларускія песні,
А быццам ён з намі талкуе
Аб нашай зіме і прадвесні.

Жыве паміж намі дудар наш...
Жыць кожны так будзе, мой братку,
Хто родну старонку палюбіць,
Маўляў добры сын сваю матку.

*1910*

* * *

Па межах родных і разорах,
Пад небам зводна-неспагадным,
Спакоем воджаны век здрадным,
Сную, і нейкі са мной шорах.

Са мной, за мною ўслед сум-вораг
З глухім нашэптам, непрынадным:
Як ты ні хочаш быць праглядным,—
Сягоння ўсё тут — як і ўчора ж!

Усё жыве тым самым богам,—
Таксама шумнае прадвесне
Усёй не зводзе з гоняў плесні...

Араты ўсход нясе адлогам:
Курган чапаючы нарогам,
Не ўспомніць прадзедавай песні.

*1910*

## РОДНАЕ СЛОВА

Пад навалай крыўдаў многія сталецці
Мы няслі пакорна лямку беспрасвецця.
Мы няслі — ўсё ныла, гінула памалу,
Аж не нашай наша бацькаўшчына стала.

Не для нас сасонкі нашы зашумелі,
Не для нас пасевы нашы зарунелі;
Адно ты нам, слова, засталося верным,
Каб вясці з упадку к радасцям нязмерным.

*

Каб вясці нас, як мы век свайго сумлення
Не заклеймавалі помстай, зніштажэннем,—
Мы калі ўміралі, то ішлі на муку
Для чужой карысці, пад чужой прынукай.

Сеючы ж і до́ма, і за домам косці,—
Дзе нас гналі нашы леташнія госці,—
Як у пушчы цёмнай, збіліся з дарогі
І здарма чакалі ад людзей падмогі...

*

Ўсё спаганяць людзі, покі ноч шалее,
Вырвуць веру ў шчасце, веру і надзею,
Ды таго не вырвуць, што напела маці
Ночкай над калыскай роднаму дзіцяці.

Ой, не вырваць з сэрца цябе, наша слова
Ой, не ўзяць ніякім сховам ды аковам,
Як бяруць матулю у малой дзяціны,
Як бяруць у бацькі апошняга сына!

*

Ты зжылося з намі, бацькаўскае слоўца,
Як бы корань з дрэвам, як бы з небам сонца;
Дзеліш з намі вечна ўсё, што з намі ходзе
У благой і добрай мачысе-прыгодзе.

І мы самі нават мо не спазнавалі,
Як у думках нашых цябе гадавалі,
Як цябе хавалі ў шчасці і няшчасці
Ад напраснай злосці, ад людской напасці.

*

Ты ў жыцці вяло нас з хвалай і няхвалай;
Быў час — свае правы чужым дыктавала;
І цяпер хто зводна над табой смяецца,—
Гэта або вецер, што ў платах трасецца,

Або той смяецца, хто не знаў ніколі
Чалавечых думак, чалавечай долі,—
Хто ў грудзях гадуе злосна, непрытворна
Замест сэрца — камень, мест душы — дым чорны.

*

Як жыло ты з намі — будзеш вечна жыці,
Грамадой мільёнаў з светам гаманіці...
З попелу мінуўшых дзён сляпых, крывавых
Весела узойдзе рунь святлянай славы,

І радзімым словам рукой мазалістай
Беларус упіша на старонцы чыстай
Кнігі ўсіх народаў важна, ў непрымусе
Сумную аповесць роднай Беларусі.

*1910*

## НЕ СПАДЗЕЙСЯ...

Не спадзейся, сын і матка,
Ад жыцця патолі...
Ні канца, ані пачатку
Вашай чорнай долі.

Ці сягоння, ці то заўтра —
Як і ўчора, усё так;
Стогн гняздзіціся спанатрыў,
Жаль пляце свой мотак.

Шчасце ў путах... Звод развеяў
Думку маладую,
Засталось крыху надзеі,
Дый паганяць тую.

Вера ў будучыны жніва
Спапялела з гора,
Крыўда-ведзьма незмянліва
Заліла, як мора.

Гарт апёрся на кургане,
Як ноч, уздыхае,
І ў кургане уздыханне
Гарту падцінае.

Каня з смагі на пагодзе
«Піць» галосе ў небе,
Ды ў завею воўк заводзе
Па крывавым хлебе.

*1910*

## ЁН І ЯНА

Гэткай пары на свеце
Роўных ім не было:
Ён арлом мог глядзеці,
Ёй да твару ўсё йшло.

Без яго ёй не жыці,
А яму без яе,
Думка ў думку злажыці
Так умелі свае.

Не чапалі іх мукі
І ні крыўда, ні плач,
Да ўсяго мелі рукі —
Толькі знай, толькі бач!

Слава йшла полем-борам,
І то йшла не 'бы як —
Ажна цёмненькім зорам
Было зайздрасна так.

Скуль яны узяліся,
Гэта ім толькі знаць;
Да іх кожны маліўся,
Ці за іх — не згадаць!

Так жылі, многа сцёрлі
Лет сваіх маладых;
Як жылі, так памёрлі,
Пахавалі так іх.

Так патухла іх імя,
Дый праз завід, ці што,
Не заплакаў над імі
І нідзе, і ніхто.

Толькі чулыя людзі
Ўзнеслі насып з зямлі,
Далі камень на грудзі,
Напіс важны далі:

«Дзве душы Бога просяць,
Каб хоць так бедным ім
На тым свеце жылося,
Як тут з імі жывым.

Бо жыла так прыгожа
Гэта пара адна:
Ён быў Голад-нябожа,
А Няволя — яна».

*1910*

## ЗАПУШЧАНЫ ПАЛАЦ

Твой кволы валадар, забыўшыся навук
Велічыні Зыгмунтавай і лет цярпення,
«Раздзел» узаканяе ў загранічным ценю
І лічыць, колькі дома кінуў хвоек штук...

А дома, роскашы і працы многіх рук,
Папас магнацкіх перацвіўшых пакаленняў,
Стаіш,— і цэгла валіцца з гнілых скляпенняў,
І ў шчыліне гняздо ўе ўслужлівы павук.

Жывёлу гоне ў парк галодны «сервітут»,
Ля сцен цянюе забабон ад лета ў лета:
Нячысцік з ведзьмамі гуляе ў пустцы гэтай.

Так зніштажэнне ў кожан гзымс паўзе і кут
І зубы скаліць: «Моц мая і права тут!
На ўход жыцця сюды ўжо я кладу тут «veto».

*1910*

## ПРАФЕСАРУ п. Б. ЭПІМАХ-ШЫПІЛУ

*(З прычыны пажару ў яго маёнтку)*

Не смуціся, панок, што няшчасце прыйшло:
Як прыйшло, так і пойдзе ад Вас...
Што ж рабіць, калі гэтак пляцецца жыццё,
Несучы нам цярпенне падчас.
Хатку спаліць агонь, хмарка град прынясе —
Мы цярпім, пацярпім, зноў жывём;
Час, вялікі лекар, гоіць раны усе,—
Што жыло — заўтра робіцца сном.
Нешчасней ёсць ад нас людзі ў гэтым жыцці:
Ў іх ні поля, ні хатак няма,
Точуць вечна з бядой барацьбу ў беспуцці;
Так марнее душа не адна.
Ў Вас не тое: бяда ў знак не дасца ўжо Вам:
Вы — з навукай,— з ёй к шчасцю лягчэй...
Прытым — больш мае Бог, як раздаў нам, людзям;
Не забудзе Вас ласкай сваей.
Светлым зробіць, як сонца, ўсё Ваша жыццё,
Асалодзіць пацехай не раз.
Толькі кінь, панок, жаль, што няшчасце прыйшло...
Як прыйшло, так і сыдзе ад Вас.

*1910*

## МІКІТА І ВАЛЫ

*(Байка)*

Ці летась, ці залетась, тут ці там —
Штосьмне няўцям,
Ляшыў Мікіта
Жыта,
І, як на злосць, яму адну
Валы скрывілі баразну.
Вось ён і стаў (хоць добра йшлі ўсё лета)
Ім выгаварываці гэта:
«Я вас,— так кажа,— як магу
І сцерагу,
Сам недасплю,
А вас кармлю:
Трасяначкай зімою,
Улетку траўкай лугавою,
Штодня вадзіцы
Даю з крыніцы.
А вы што мне? — Бязбожна
Крыўляеце барозны,
Хоць і няможна
Ўсё такое»...
Валы пад тое:
«Мы б мо і не крыўлялі,
Каб павадоў, ярма і пуг не знапі».

*1910*

## САХА І ВАЛЫ

*(Байка)*

«Я цэлы свет кармлю сабой,
Хоць век сама худой»,—
Так саха хвалілася Валом,
Што ярмом
Яе цягнулі неяк днём.

«Напрасна імасць так гамоне,—
Валы яе спынілі,—
Каб мы цябе не валачылі,
Гніла б ты ў лесе і сягоння».

*1910*

* * *

Каб я меў загончык нівы,
Каб [redacted] меў кусочак,—
З каласоў бы звіў вам, людзі,
Звіў бы я вяночак.

Каб [redacted] меў лажок над рэчкай,
Каб меў сенажатку,—
Назбіраў бы вам букет [redacted]
З незабудкаў, браткаў.

Каб [redacted] меў сваю хаціну,
Каб я меў сялібу,—
Запрасіў бы вас у госці,
На кут пасадзіў бы.

Дый не мне вас так вітаці
Шчыранька, як дзеці,—
Крыў Бог нівы, сенажаткі,
Хата — па ўсім свеце.

Хай хоць гэта мая думка
Ўспамін вам пакіне
Аб гаротным і маркотным
Беларускім сыне.

*1910*

## ПА ДАРОЗЕ

Ідзеш па каменнях,
Глядзіш на каменне,
З камення і цэглы
Муры і скляпенні.

Драўляныя хаткі,
Ў прысадах — дарогі,
Мураўка і кветкі
Кладуцца пад ногі.

*

Жалезныя краты
Звакол пазіраюць,
Шум, скрыгат, задуха
Душу выдзіраюць.

Бязмежнае неба,
Зялёнае поле,
Чырыканне птушак...
А воля! А воля!..

*1910*

## ЛЯСНАЯ ЦАРЭЎНА

Далёка — міль многа ад вёскі-сяла —
У лесе зялёным царэўна жыла,—
Царэўнай зялёнага лесу была,—
    Жыла вечна ў ім, панавала над ім.

Твар мела святлісты, як неба узор,
Карону насіла, сатканую з зор,
З лісточкаў зялёных яе быў убор.
    Павеўнай была, як імгла, як той дым.

Сама, як нягаданых казак напеў,
Век слухала лесу, што гімны ёй пеў,
З ёй цешыўся разам, з ёй разам цярпеў,
І вечар, і раніцу з ёй спатыкаў.

Яна — як багіня (а лес той — як цар),
Купалася ў росах і ў каплінах хмар,
Праменнямі сонца ўцірала свой твар,
А вецер ёй косы часаў, заплятаў.

За хмараю хмара, бег летаў і зім;
Агністыя зоры на небе нямым
Яе цалавалі пaглядам сваім,
Яе, ненаглядную думку маю.

За песняю песня лунала над ёй
І казкі лунaлі таемнай сям'ёй.
Царэўна мая ты, зялёны лес мой,
Я вашы і песні, і казкі пяю!

«І ночкай, і днём — перад сном, пасля сна —
Я тут каралеўна,— так пела яна,—
Я тут, як сіротка, паную адна,
Не маю з кім баяць у гэтай глушы!

Галінкі лясныя, паслушныя мне,
То клоняцца ў дол, то шумяць ў вышыне,
Адно гаманяць аб зіме і вясне,
А сэрца няма ў іх, няма ў іх душы.

Кароне маёй ўсё чагось не стае...
Што значаць мне белыя грудзі мае,
Мой голас, што досвітнай птушкай пяе,
Агністыя вочы і рукі, як хмель?

Грудзьмі прытуліцца не маю к каму;
Хто чуе, як голасам долю кляну?
Хто бача, як відню вачамі я цьму?
З кім лягу, рукамі абняўшы, ў пасцель?»

А лес ёй шапоча лісткамі штодзень:
«Царэўна мая ты, мой вяснены цень,
К каленям тваім, згнуты сам да калень,
Люблю і малюся, як Богу, табе!

Ці ж мала адданы табе я ўвесь час? —
Сваіх не шкадую расквечаных крас,
Лісткамі ўбіраю ў квяцісты абраз,
    Цалую, мілую ў пакорнай мальбе!

Ад вока благога цябе бараню,
Гадую спявачую птушак радню,
Шумлю аб табе на свет цэлы і сню
    Аб сонейку, роўным тваім хараству;

Улетку ўбіраю ў расцветы галін,
Зімою — ў брыльянты пушаных сняжын.
Зімою і ўлетку я — верны твой сын,—
    З табою табою, царэўна, жыву.

Чаго ж не стае табе ў гэтай глушы?
Ты жджэш чалавечага сэрца й душы.
Падумай, царэўна, і дум не сушы,—
    Ты згінеш, як знойдзе цябе чалавек!

Я чую — ўжо гоман плыве з-за гары,
Ўжо точаць там людзі свае тапары;
Хто ведае, можа, апошняй пары
    З табой дажылі і загубім свой век».

Так пела царэўна, так лес адпяваў;
Ёй людскіх хацелася ўцехаў, забаў,
Ён толькі яе знаў, яе мілаваў
    І сеяў няверу ў яе да людзей.

О, лес мой зялёны, о, родны ты мой!
Лясную царэўну сваю супакой,—
Ўжо ёй не мінуці дарожкі людской,
    Ўжо прыйдзецца збыцца кароны сваёй!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

*1910*

## БЕЛАРУС

Сеў, як той крыж на расстаі,
Сярод пушч і поля,
Злажыў рукі і чакае
Усё нейкай долі.

Ўстане ж, пойдзе полем, логам,
Будзе дыхту, будзе:
Пачапаў тупым нарогам
Кургановы грудзі.

Лом з крыжоў магільных звале,
Бульбу падпякае...
Пад'еў, сеў, як крыж, і далей
Долі ўсё чакае.

А ці ж прыйдзе доля гэта,—
Трудна адгадаці,
Пакуль толькі з лета ў лета
Пляце яму лапці.

[*1910*]

## ЛЕС

Ці знаеш ты, дзяцюк нядбалы,
І ты, дзяўчынка дарагая,
Лес гэты цёмны, лес падгалы,
Што з веку ў век нам байкі бае?

Цікавым вокам і душою
Шмат пераняць чаго там можна,
Як там усё само сабою
Жыве паважна, асцярожна.

Там звер туды-сюды шнуруе,
На галлі птушка там трасецца,
Там хвойка з хвойкаю талкуе,
Як дзе кума з кумой на рэчцы.

Зімой сапе сцюдзёнай думай,
Улетку песнямі уп'ешся,
А ўвосень там — ах, шумы, шумы!
Не чуй — слязою аблієшся!

Няхай жа свісне ў ім сякера:
Застогне бедны ён, застогне...
О пушча, цёмная не ў меру,
Чыя душа з табой не дрогне?!

[*1908—1910*]



# 1906—1910

* * *

Я нясу вам дар
Братніх скіб і сяліб,
Смутных сосен і ліп,
Думак дар, сэрца жар,—
Вольных, звонкіх песень чар.
    Гэй! нясу вам дар!
    Гэй! гэй! гэй!

Хай жа песня ўсюды льецца,
Ў сэрцах вашых адгукнецца,
Зз̌іханецца, ўскалыхнецца,
    Як звон той,
    Як свой!

А хто брат мне тут і друг,
Ладзь-наладзь душу і слух
І за песняй думкай скоч
Там, дзе Нёман, Дзвіна, Буг
Точаць наша поле, луг,
Дзе шумяць у свет далёкі
Белавежа, Налібокі
    Дзень і ноч,
    Думкай скоч!

Прымі дар, сэрца жар,
Вольных, родных песень чар!
    Гаю, гаю, гэй!

[*1906—1910*]

## ГУСЛЯР

Гэй, гусляр, гусляр!
Ты удар, удар
Па струнах-званах,
Дай нам з песень дар,
Дум вялікіх чар,
К сонцу зорны шлях,
Дай, гусляр, гусляр!

Дзе залёг абшар
Курганоў — ахвяр,
Сей, засей прасвет.
Ты слуга і цар,
Ты — дудар-званар,—
Чуе, знае свет...
Эй, гусляр, гусляр!

Перавалы хмар,
Цемру, зводы мар
Выжый звонам струн;
Як вялік і стар
Свет, зямлі папар,
Ты ад гумн да гумн
Запануй, гусляр!

Дай паходням жар,
Лінь жыццё ў бор-яр,
Не мінай акон;
Строй ваякаў шар,
Кроў сагрэй, як вар,
Сказам новых дзён...
Грай, будзі, гусляр!

[*1906—1910*]

## СЯБРОЎЦАМ ПА ДОЛІ

Покі маю ад сэрца патолі,
    К нам нянавісць грудзей не крываве,
    Думы рвуцца і к шчасцю, і к славе,—
Я слуга ваш, сяброўцы па долі.

Свойскай песняй у слоў родных цвеце
    Я хачу, што ў душу мне нагоне,
    З вашых хат, з вашых спочаных гоняў,
Вашу долю, нядолю апеці;

Несці пад саламяныя стрэхі
    Ва ўсё веру, што шчасцем быць можа,
    Што надзеі цвісці дальш паможа;
Эй, хачу быці рэхам пацехі!

І во ў гэтакай службе, паходзе,
    П'ючы слёзна жоўць крыўдаў, прытыкаў,
    Платы з вас не жадаю вялікай,
От, іскрынку прывету — і годзе!

А сканаю, злучуся з зямлёю,
    Вы курган мне насыпце высокі,
    Бо, як будзе мой дол неглыбокі,
Не знайду і па смерці спакою.

*[1906—1910]*

## ПРЫВІТАННЕ

Зноў я з вамі, са сваімі,
    Мілыя сяляне!
Будзем разам спатыкаці
    Ночку і світанне.

Станем разам у парадак
    З плугам на папары
Спольна скібіну варочаць,
    Нажываць загары.

Над работай непрыдумнай
Вясковай пакоры
Будуць здаля баяць байкі
Хвойкі, ясакоры.

Скіба ў скібу, гоні ў гоні
Высцелем надзіва;
Ляжа зерне, ўзойдзе колас,—
Узрастай шчасліва!

За плугамі за сваімі
На прасторы божым
Чыстым сэрцам, вольнай думкай
Песню-казку зложым.

Пойдзе плавам песня-казка
Ў свет аб нашай славе,
Дзіву дасца свет вялікі
Гэтакай праяве.

Хай свет знае, што патрапе
Без чужых прымусаў
Беларуса праца, сіла,
Сэрца беларуса.

[*1906—1910*]

## ГУСЛІ-САМАГРАІ

Як зайгралі, загудзелі
Гуслі-самаграі,
Панясліся, паляцелі
Песні па ўсім краі.

Ад паляны да паляны,
Ад бора да бора
Плыве голас неўніманы,
Як бы хвалі мора.

Аб вялікай аб старонцы,
    Беларусі-маці
Жальба страшная бясконца
    Ўсё чуваць-чуваці,

Як душы таёй пакутнай,
    З-пад магільнай пліты
Гоман веча ў гуслях чутны,
    Чутны звон разбіты;

Хоць разбіты, хоць забыты,—
    Для ўсіх зразумелы,
І ад свету аж да свету
    Слухае свет цэлы.

Плачуць, жаляцца спрасоння
    Гуслі-самаграі,
Аж, здаецца, пушча стогне,
    Курган уздыхае.

*[1906—1910]*

## ПЕСНЯ І СІЛА

Дайце разгону, прастору
Дрэмлючым песням і сілам,—
Дрогне запор наймацнейшы,
Мы ўскалыхнём і магілай.

Продка адвечную думу
Праўнук санлівы пачуе;
Што ўзяць курган нам маніўся,
На кургане адбудуем.

Шлях залаты працярэбім,
Зорна ўзнясёмся ў высоты
Вышай няпраўды, нясславы,
Вышай пакутных балотаў.

Моц сваю свету пакажам...
Здзіўляцца старцы і дзеці:
Што знача песня і сіла!
Што знача вельмі хацеці!

[*1906—1910*]

## АДГУКНІСЯ, ДУША!..

Адгукніся, душа, песняй звонкай грымні!
Няхай песня з віхрамі памчыцца.
Ў братніх сэрцах няхай разгарацца агні.
Думы новай пальюцца крыніцай.

Ад зары да зары па радзімай зямлі
Зацяганыя людзі снуюцца,
І гаруюць яны, рэдка шчасны калі,
З чорнай доляй змагаюцца, б'юцца.

З іх жыцця без жыцця, з іх бяднот і цямнот
Карыстае бяспуцце, як мажа;
І ніхто ж не жалее, як вечных сірот,
Ні свой брат і ні ты нават, Божа!

Жальбаў слухае іх толькі шум баравы,
На іх мукі глядзяць толькі зоры.
Адгукніся ж, душа, на іх стогн векавы!
Задрыжыце, даліны і горы!

[*1906—1910*]

## ШЧАСЛІВАСЦЬ

Мець бы мне крыллі саколія,
Мець бы мне волю зарніцаў,
К нізям не рваўся б ніколі я.
З высі б глядзеў на зямліцу.

Птахам свабодным пад зорамі
Лётаў бы шпарка над светам,
Па-над далінамі, горамі;
Шчасце свяціла бы мне там.

Вокам начніцы прагледзіста
Ў тайнаў сягнуў бы заставы,
Быў бы сам даляй нязведзістай,
Даляй свабоды і славы.

Песняй душы ўзрывы чыстыя
Лінуў бы ў свет на прыволле;
Слухалі б зоры агністыя,
Вецер бы ўторыў на доле.

Зможаны ж гібелі сілаю,
Век рвучысь далей і далей,
Хмарка была б мне магілаю,
Зоры памінкі б спраўлялі.

Вось і па смерці з зямліцаю
Знацца не трэба ўжо будзе...
Быці, ой, гэтак! — крыніцаю
Радасць плыла бы мне ў грудзі.

Дуньце ж, о віхры прывольныя!
Путаў не дайцеся сіле,
Вырвіце думкі нядольныя,
Дайце мне волю і крылле!

[*1906—1910*]

## К ЗОРАМ

К зорам агністым, к прыволлю нябеснаму,
Вырваўшы з ціны жыццёвай душу,
Мчыся, не дайся цярпенню балеснаму,
Горда пакінь земляную глушу!

К зорам, што так над табой разгараюцца
Льсніста ў мільённай па небе сяўбе,
Рвіся, хай думы прабіць цьму стараюцца:
Там херувімы спаткаюць цябе!

Песні там, духамі зораў створаныя,
Будуць душу весяліці тваю;
Думна ўзнясешся над нізяй туманнаю.
Рдзеці дасі там прыволля агню.

З зораў, з-пад неба ўсё быцце зямельнае
Проймеш паглядам цікавым наскрозь;
Бачыці будзеш — з жыццём неразздзельныя —
Крыўду, бяспуцце, нянавісць і злосць.

Горна расстаўшыся з буднімі справамі,
Тысячы ўздохаў пачуеш з грудзей;
Вызнаеш брата з рукамі крывавымі,
З сэрцамі гадзінаў поймеш людзей.

Крыкі, праклянцці пачуеш нязнаныя,
Мукі старыя, стагнанні цямніц,
Трупамі ўбачыш паляны засланыя,
Слёзы сірот, удавіц, маладзіц.

Будзеш глядзеці на гэта ўсё дзікае,
К зорам жа мчаціся будзе твой дух;
Будзе на сэрцы спакойнасць вялікая
Ўскросшым з нізін, дзе Зніч праўды затух.

К зорам агністым, к прыволлю нябеснаму,
Вырваўшы з ціны жыццёвай душу,
Мчыся, не дайся цярпенню балеснаму,
Горда пакінь земляную глушу!

[*1906—1910*]

* * *

Дарогай змучаны далёкай
(А быў дзяніны таей склон),
Я лёг пад крыжамі, і так лёгка
Заснуў, і гэткі бачу сон:

Я лесам шоў; якаясь змора
Вяла па ім мой спячы дух,
А лес быў цёмны, як дно мора,
Як мора дно, быў нем і глух.

Я заблудзіў, і страшна стала
Мне ў гэтай пушчы аднаму;
Ды бурай неба рагатала...
І ўздумаў я: памру вазьму!

Надзея з вераю нямелі...
Тады, як з неба ці з зямлі,
Якаясь цень падходзе ў белі,
Такая, быццам знаў калі,

І кажа мне: «Чаго, сын міра,
Упаў так сэрцам і душой?
Я — песня, а во мая ліра!
Бяры нас! Хочам быць з табой.

І страх жыцця цябе аставе,
І бор пачне шумець жыццём;
Мы след праложым табе к славе,
Чаго жадаў, мы ўсё дадзём».

І дзіва! Блуд і страх мой зломан:
Лес прасвятлеў, загаманіў,
Мне стаў паняцен пушчы гоман...
Тут я збудзіўся, недасніў.

[*1906—1910*]

## З ПЕСЕНЬ ЖЫЦЦЯ

Нарадзіўся на долю-нядолю
Чалавек на багатым на свеце,
Ад пялёнак на волю-няволю,
Ад пялёнак без часу змарнеці.

Рос. Хадзіці навучыла матуля,
У лазовыя лапці абула,
Апранула на скокі, на гулі,
Аж старая пацiху ўсхліпнула.

І дала, ой, дала на дарогу
Крыжык, матчынай зліты слязінай,
Бацька бацькаўску даў прасцярогу;
Выпраўлялі так з хаты дзяціну.

І пайшоў ён, пайшоў шляхам знаным,
І пайшлі за ім спёкі, марозы,
І зажыў ён, зажыў князем-панам,
Не то жыў, не то п'ян, не цвярозы.

Думкі родныя следам хадзілі,
Коні, волікі ўчылі пакоры,
Петухі на работу будзілі,
Сон наводзілі ціхія зоры.

Як устане, як пойдзе, бывала,
Пот-расіца і вымые чыста,
Слёз нап'ецца сваіх да адвалу,
Кроў свая ахарошыць квяціста.

Цягам так, пад апекай, пад шчырай,
Ні дзе даць, ні ступіць яму шагу,
З кута ў кут, з году ў год, як на вырай,
Пятлёй волен прагнаць голад-смагу.

Ой, жывецца на свеце, жывецца
Чалавеку так слаўна, так лоўка,
Аж і спіна штось гнецца, здаецца.
Затраслася, ссівела галоўка.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Годзе! годзе! Не ўсё, знаць, асіліў;
Зачыні ўжо сухія павекі!..
І злажылі няздару, злажылі
Ў дамавіне, ў магіле навекі.

І насыпалі насып жвіровы,
Крыж паставілі новы, яловы.
Гэй, ляжы з сваёй доляй-нядоляй!
Гэй, ляжы з сваёй воляй-няволяй!

[*1906—1909*]

## БЕЗЗЯМЕЛЬНЫЯ

Жывём, забытыя людзьмі,
Пацех не знаючы ні ў чом,
Крывавім сцежкі мы слязьмі,
Ўвесь свет для нас магільным сном.

Не нам вясна цвіце, пяе,
Ні лета коласам шуміць,
Снапоў нам восень не дае,
Зіма нам толькі век гудзіць.

Глядзім на неба, на зямлю,
Не раз з пракляццем на жыццё,
Аром мы ніву не сваю,
Дабро збіраем не сваё.

Хацінкі кут не наш — чужы,
Не наша ў поле стада йдзе,
О сэрца, колькі ні тужы,
Няма нам радасці нідзе!

Раве мяцеліцай зіма,
Вясна залье паводкай свет,
Вады і сцюжы нам няма,
Зжыліся з імі змалку лет.

Наклаўшы зрыўкаў і ламоў —
Убор саміх і хат гнілых,—
З адных павыгнаны вуглоў,
Шукаць мы цягнемся другіх.

Худыя жонкі на вазах,
Пры жонках дзеці чарадой,
Мы самі ў зношаных лапцях
Ідзём за коньмі пехатой.

Ідзём — у вочы вецер дзьме,
З-за хмараў сонца не відаць,
Бяда, нуда прыгнула, жме,
Удушшам грудзі ўсё скрыпяць.

Эй, доля! Колькі мы разоў
Прасілі, клікалі цябе;
Не йдзеш! Знаць, хтосьці з свету звёў,
Ці хлеба мала ў нас табе?

Ці, можа, дзікай непагодай
Цягацца з намі надаела?
Начлег застрашыў невыгодай,
І ты там, доля, акалела?

Жывём, рассыпаўшысь па свеце,
І смерць сабраці нас не можа,
Хаця і ўсякага прымеце,
Хаця і ўсякага абложа.

Хаця усякага з нас грудзі
Магіла жудкая прыдаве,
Над якой крыж паставяць людзі
На памяць нашай беднай славе,

Над якой вырасце сасонка
І беззямельных стогн пачуе,
І шумам, песняю нязвонкай
Над намі хіба забядуе!..

[*1906—1910*]



Янка Купала.
1908 г.



Янка Купала са студэнтамі-беларусамі.
Пецярбург, 1910 г.



Дом
у Пецярбургу,
дзе ў 1909—1913 гг.
жыў Янка Купала.




Мемарыяльная
дошка,
устаноўленая на
гэтым доме
ў 1955 г.

Janka Kupała

# HUŚLAR

Wyd. A. Hryniewiča

Pieciarburh 1910

Вокладка зборніка «Гусляр». 1910 г.

Аўтограф верша «Ці ты ўзыйдзеш калі, сонца?» 1909 г.

Беларушчына

Сотні лет, непрыяцелем братам прыбітая,
Зарастаючы зельлем чужым, як лазой сенажаць,
Ты ляжала непомняі пылам пакрытая,
А народ твой быў змушан маўчаць і табой пагарджаць.

І крушылі цябе, як каму падабалася,
Кожны строіў, наводзіў цябе на свой строй на свой лад,
А часта часам хвальба як кляцьба разлягалася,
Ды пачутай ляжала, ўміраючы, ў грудзі народ.

Спаў народ і ты спала, і ворагі верылі,
Што ніхто не разбудзе цябе, што заснула на век.
І дзялілі цябе, ўсімі мерамі мерылі:
Што памірла ўжо ты, — не адзін так казаў чэлавек.

Час ішоў. К жыццю новому клікі пачуліся;
Ўсе народы паўсталі на бітву за права свае:
Ты-як спала — ўскрэсла, твае дзеці прачнуліся,
Твой народ, ты сама ўсталі новае строіць жыццё:

І цяпер хоць прыблудаў даносы ў ход пушчаны
Хоць пад права твае падрываецца шмат хто, як крот, —
Як жыла і жывеш, будзеш жыць Беларушчына;
Зразумеў і ўспомніў цябе твой мільённы народ.

Свішчуць вятры, зашуме пара непагодная,
Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к другому жыццю;
Пашлецца як звон песні вольныя, родныя,
Апяваючы долю, нядолю народа, твая.

Я. Купала

1908 г.

Аўтограф верша «Беларушчына».
1908 г.



Інтэр'ер рабочага кабінета. Пецярбург, 1909 г.



Б. І. Эпімах-Шыпіла. 1909 г.

Тут і там.

Вы тут гуляеце, панове,
У светлай, п'янай чэрадзе,
А там — што робіцца ў вёсцы,
І ў думку вам не набрыдзе.

Тут у крыві людзкой скупана
Капейка сходзе за дарма,
А там, у вёсцы ў непацешнай
Расьце, вялічыцца ярмо.

Тут вы прыйшлі разбіць ад чаркі
І чэсьць і славу напалам;
Там горы ўзносюць, рыюць ямы,
Каму? — згадаць пара ўжо вам!

Я. Купала

1909 г.

Аўтограф верша «Тут і там».
1909 г.



Янка Купала.
1910 г.

## СЯДЗЬ ТУТ, ПАД КРЫЖАМ...

Сядзь тут, пад крыжам, сядзь, аддыхні!
Змучаны, браце, дарогай!
Ты без аддухі многія дні
Шоў сіратою паміж людзьмі,
Ждучы спачынку з трывогай;

І не знайшоў ты друга нідзе,
Што запрасіў бы ў хаціну,
Дзе б ты забыўся аб горкай бядзе,
Што за табою з горам ідзе,
Дзе б аддыхнуў ты часіну.

Дзе б табе далі цёплы куток,
Каб не калеў на марозе;
Каб не млеў, хлеба далі б кусок,
Веры і сілы дзе б ты, дружок,
К дальшай набраў бы дарозе.

І не знайшоў ты хаткі такой;
Дальш ісці мала ўжо сілы;
Сядзь тут, пад крыжам, браце ты мой!
Тут як спачнеш ты з бурлівай душой,
Дойдзеш лягчэй да магілы.

[*1906—1910*]

## А ЯК НАМ ЗОРКІ ЗАГАСНУЦЬ...

А як нам зоркі загаснуць,
Месяц не зменіцца болей,—
Прыйдзем да вечнага шчасця,
Цемры к нам прыйдуць з патоляй.

З глыб неразгаднага быту
Новае прыйдзе збаўленне,
Ўсё нам памера, паліча,
Думкі разбіты і церні.

А покі яснасць старая
Будзе свае снаваць ніці,
З хаты да хаты не кіне
Дух векавечны блудзіці.

Стукнецца ў шыбіны, ў сенцы,
Ўкіне свой кліч-заклінанне...
Мы, падыходзячы к ночам,
Ждаць будзем новых світанняў.

А як на нашай на ніве
Крыўда гняздзіцца ўсё будзе,
Новыя выплывуць сілы,
Новыя к слаўнасці грудзі;

Сэрцы ахвярна паложаць,
Насып насыплюць высокі,
І не пяройдзе той насып
Злыбеды цень бледнавокі!

А покі думка аб праўдзе
Не ўздзене плесні-сівізны,
Будзем нясці свае ношы
К ціхім мальбішчам айчызны.

Свежыя ўздзенуць нам кіры;
Мы ўжо таго не забудзем,
Што нам пры вечным скананні
Ўсё, ўсё палічана будзе.

[*1906—1910*]

## ЦІ ТЫ ЎЗОЙДЗЕШ КАЛІ, СОНЦА?

З плачам думка-песня льецца
Па замучанай старонцы,
З плачам рэха адаб'ецца...
Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Маці-ўдоўка, сірацінка
Паглядаюць у аконца,—
Дагарэла ўжо лучынка...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Пхнецца сцежкай падарожны,—
Няма хлеба ўжо ў катомцы,—
Цэль далёка, зблудзіць можна...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Мужык з горам ляжа, ўстане,
Пляце байкі дзеткам, жонцы,
Толькі чутны ўздыханні...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Шнур бядак пахаў да поту,—
Марны ж колас на саломцы,—
Ні красы той, ні ўмалоту...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Беззямельны згубіў долю,
Хоць шукай з бяды ў палонцы;
Ні той хаты, ані поля...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

Путы, катаргі, астрогі,
Сібір поўная бясконца;
Ні той праўды, ні дарогі...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?

З плачам думка-песня льецца
Па замучанай старонцы,
З плачам рэха адаб'ецца...
    Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?
    — Ці ты ўзойдзеш?

[*1906—1909*]

## ЗНЯМОГА

Плача сонца маладое
Над планетай над старою,
Іскры сыплюцца цурком,
Што не тымі пуцінамі
Ходзяць леты за лятамі
Ў вечным зладзе з курганом.

Безнадзейна, бестрывожна,
Ціха, зважна, асцярожна
Хаос гнёзды ўе свае,—
Вара зелле-калатуху,
Пое, зводзе князя-духа,
Перадыху не дае.

Світы, захады крыляцца,
На адной таўкуцца кладцы,
Цемра вабе згубным дном;
Плача сонца маладое
Над планетай над старою,
Іскры сыплюцца цурком.

[*1909*]

## ЗА ГОДАМ ГОД

За годам год, за родам род,
Што хвалі хмар, што плесні вод,
Па зменах змен, на ўсход, на сход,
За родам род, за годам год.

На ўсход, на сход ідзе-брыдзе
У чарах-снах, у злыбядзе...
Канца ні ў чым, канца нідзе,
На ўсход, на сход брыдзе-ідзе.

За бытам быт, за стогнам стогн,
За смехам смех, за сконам скон,

За векам век, за звонам звон,
За мглою мгла з усіх старон.

Ідзе-брыдзе за следам след,
І ноч, і дзень, і цьма, і свет,
І песні кліч, і смерці цвет,
Ідзе-брыдзе за следам след.

За годам год, за родам род,
Што хвалі хмар, што плесні вод,
Па зменах змен, на ўсход, на сход,
Ідзе-брыдзе на быт, на звод...

[*1906—1909*]

* * *

Як вазьму жалейку ў рукі,
    Як вазьму сваю,
За нішто тады ўсе мукі,—
    Граю ды пяю.

Што мне слёзы, што мне гора,
    Як пушчуся я?
Знае неба, сонца, зоры,
    Знае ўся зямля.

Вецер здоймецца, балесне
    Шасне па страсе,—
Гэта цешыцца ён песняй,
    Песню ў свет нясе.

[*1906—1910*]

## ДУМКА

Нудна ў думках Тамаша,
Нудна, адзінока,
Рвецца сэрца і душа
Недзе, эх! далёка!

Птушкай бы ляцеў, ляцеў
Весела, разгонна,
Па-над хатку, па-над хлеў,
Па-над бор зялёны.

Эх! ляцеў бы глянуць, чуць
Неба сіне мора,
Як гуляюць, як жывуць
Сонца, месяц, зоры.

Стуль, спусціўшысь на сяло,
Так туліў, туліў бы
Ўсё, ўсё чыста пад крыло:
Брата, вёску, скібу.

І сказаў бы ўсё усім
Аб нябеснай долі,
Аб вялікім шчасці ў ім,
Аб вялікай волі.

. . . . . . . . .

Нудна ў думках Тамаша,
Нудна, адзінока,
Рвецца сэрца і душа
Недзе, эх! далёка!..

[*1906—1910*]

## МАЕ ДУМКІ

Мае думкі, быццам кумкі,
Назаляцца любяць мне.
То стыдліва, то пужліва,
Тая ў яве, тая ў сне.

Тая плача, тая скача,
Тая песенькі пяе;
Як зязюлькі-аздабулькі,
Думкі родныя мае.

Ходам-зводам за народам,
За братамі за маймі
Цераз гоні, цераз тоні;
І вазьмі ж ты іх, вазьмі!..

Дні, вячоры — полем, борам,
То ім жалю, то пацех...
Стужай стогнуць, бурай дрогнуць,
Сонца гляне — яны ў смех!

Як пры студні ў дзень нябудні
Кумкі гутарку вядуць,—
Думкі глянуць, не адстануць,
На язык усё бяруць.

Сяк і гэтак шмат, ох, летак
Акелзаць я іх хачу:
Прытыкаю, навучаю...
Думкі змоўклі,— я маўчу.

Ціха... ціха... Што за ліха?
Маю думкі — не паслед;
За манаткі — ды зноў з хаткі,
З ветрам, з песняй сып у свет!

[*1906—1910*]

## ДА СВАІХ ДУМАК

Скажыце мне, думкі,
Гора-весялушкі,
Чаго вы прыціхлі,
Як увосень птушкі?

Чаго вы прыціхлі,
Чаго прынямелі?
Ці вы са мной, смутным,
Шчасцейка не мелі?

Ці вас, бедных, людзі
Міла не віталі
І вашую радасць
Злосцяй аплявалі?

Ці вас маё сэрца
Адчуці не ўмела?
Ці вас мая доля
Скрыўдзіці пасмела?

Эх вы, мае думкі,
Ўстаньце, ачуняйце!
Хоць вам мо і цяжка,
Як калісь, зайграйце!

Не слухайце злыдняў
Казкі свету ўражай,—
Слухайце, што сэрца,
Што душа вам скажа!

Як звон гусляў звонкіх,
Як арол на скале,
Голас ваш свабодны,
Голас ваш, як з сталі.

Дык іграйце ж, думкі,
З вераю шчасліва,
Зменным людзям, свету
На ўзгардасць, на дзіва!

[*1906—1910*]

## З ДУМАК МАРКОТНЫХ

Трудненька, ой, жыці
Ў беднасці, ў глушы:
Замест смеху — слёзы,
Жаль нейкі ў душы!

Шчасце не прыходзе,
Хоць дней клічу шмат;
Гора не ўцякае,
Хоць і выгнаць рад.

Песню б вырваць з сэрца
І пусціць на свет!..
Хай ляціць, хай знойдзе
Ласку і прывет.

Мо шчаснейшай будзе,
Як я, сын бяды,
Можа, хто пачуе,
Запяе з нуды.

Можа, хоць бор цёмны
Рэхам адгукне,
Можа, вецер вольны
Заўтуруе мне.

Можа, ў небе зорка
Песенькі маей
Зразумее голас
І міргне ясней.

Ночка ў тайных шэптах
Азвецца хвальбой,
А можа, і людзі
Не пагардзяць ёй.

[*1906—1910*]

## ЯК ТУТ ВЕСЕЛА СПЯВАЦІ?

Як тут весела спяваці,
Думкай весяліцца,
Калі ў беднай маёй хаце
Сонца жыць баіцца?

Калі дзе не йду, гаротны,
Не маю прывету,
Калі мой пагляд маркотны
Не бача прасвету.

Чорнай долі суд няправы
Не дае спакою;
Зоры шчасця, зоры славы
Не льсняць нада мною.

Не заходзе ка мне ў госці
Мілая пацеха,
Не нямее людскай злосці
Расшальное рэха.

Ў паніжэнні, ў паняверцы
Жыцця хвілі трачу,
Толькі плача маё сэрца,
Песня мая плача.

[*1906—1910*]

## А ХТО МАЮ ДОЛЮ ПОЙМЕ?

А хто маю долю пойме?
А хто зразумее?
Хто мне гора слёз адойме,
Хто нуду развее?

Ці журчаннем ручаінка,
Ці шумам чарэсня,

Ці прыгожая дзяўчынка
Удалою песняй?

Ой, каб шчасцейка мне даці,
Няма такой сілы!
Дзён вясёлых мне не знаці
Да самой магілы...

[*1906—1910*]

## ВЫЙДУ, ВЫЙДУ...

Выйду, выйду я з хацінкі
Ў зялёны садок,
Пайду к грушцы пад галінкі,
Пасяджу кусок.

Шуміць грушка нада мною,
Трасуцца лісткі,
Душа поўна неспакою,
Ў сэрцы жаль такі.

Навяртаюцца на вочы
Слёзы, як раса,
Светлых думак гнаць не хоча
Маладасць-краса.

Лятуць толькі думкі здаля,
Хмурныя, як я.
Гасяць, давяць смуткам, жалем
Прасветласць жыцця.

Пяюць песні, як з напасці,
Як восень, зіма,
Што не жыць мне ў волі, ў шчасці,
Што долі няма...

Ой, не рвіце сэрца мне так,
Думкі! Трудна жыць!

Вазьму крыкну грозна гэтак,—
Доля прыбяжыць.

Гэй, бяжы ты, гэй, ляці ты,
Доля, да мяне.
Табой клічу пазабыты
На яве і ў сне.

Праўда думак: голас мрэ мой,
Долі не чуваць,
Шуміць толькі грушка нема,
Лісточкі дрыжаць.

*[1906—1910]*

## НА МОГІЛКАХ

Стаю на могілках і думу
Ў слязлівым сэрцы калышу,
Ганю ад жыццевага шуму
Ў загробны край сваю душу.

Бягуць прыгасшыя зраніцы
Па наспах, плітах і крыжох;
На ўсіх знаць смутак без граніцы,
На ўсіх лет многіх парос мох.

Ляжаць зарытыя тут косці
Ваяк гаротных за жыццё,
Сышлі ў зямлю на вечны госці,
Сышлі пад дзёрнаў пакрыццё.

Эх! б'ецца, б'ецца хтось нямала
Гаротна ў шчасці, то ў бядзе;
Скасіла смерць — і ўсё прапала...
Дзе гора, доля, думы дзе?

Усё ў халоднай спіць магіле
Сном вечным, непрабудным сном.

О смерць! Хто дзе цябе асіліў?
Не йшоў, не злёг пад курганом?

Ідуць усе, і я за ўсімі
Сыду з нудой, бядой сваей.
Так цяжка жыць паміж жывымі!
У магіле будзе мо лягчэй.

[*1906—1910*]

## СІРОЧАЯ ДОЛЯ

Цяжка сірацінцы
Адзінокай жыць;
Доля-весялуха
Знікуль не бяжыць.

За хатай і ў хаце
Цярпіць сірата:
То мароз марозе,
То золіць слата.

Бачаць маці, бацька
Роднае дзіцё;
Убогую сіротку
Хто ж убача, хто?

Ад брамы да брамы
Йдзе, збірае хлеб,
Ручачку працягне,—
Кожны глух і слеп.

Кожны насмяецца
Над беднаю ей,
Са зрэбнай кашулі,
З лазовых лапцей.

Ой, цярпіш, сіротка,
Усё жыццё цярпіш;

Пойдзеш у магілку,—
Хто ж паставе крыж?

Хто, як ляжаш спаці
Навекі ў зямлю,
Пацеры згавора
За душу тваю?

Хіба гэты вецер,
Што ў платах пяе,
Хіба з дажджом хмарка
Слязу праліе.

Хіба ночкай зоркі,
Што ў небе гараць,
Па сіротцы ўбогай
Будуць бедаваць.

[*1906—1910*]

## НАД КАЛЫСКАЙ

Люлі, спі, мой сынку!
Годзе плакаць, драцца!
Зашануй слязінку:
Некалі прыдасца.

Глянуць з неба зоры
На жыццё, на беды;
Пойдзеш ты з пакорай
Свайго бацькі следам.

Вырасцеш, дзіцятка,
Сасніне па вуха,
Будзеш дуж, мой братка,
Як мядзведзь-маруха.

Толькі будзеш ніжай
Беднаты пакорнай,

Не пазбудзеш крыжа
Сваёй долі чорнай.

Сцяжыну блудліву
Нойдзеш ты за хатай,
Змерыш свет шчасліва,
Не спаткаўшы брата.

Сам скуеш ты путы
Гора векавыя,
Сам саўеш пятлю ты
На сваю ты шыю.

Сыдзе год за годам,
Сыдзе чарадою,
Буры, непагоды
Свіснуць над табою.

Ты з мучэннем зжыўся,
Давядзе да рэшты:
Бедным нарадзіўся —
Бедным і памрэш ты.

Дык жа спі, мой сынку!
Годзе плакаць, драцца!
Зашануй слязінку:
Некалі прыдасца.

[*1906—1910*]

**НА ДУДЦЫ**

Як жа можна ў маёй хаце
Жыць долі,
Калі хлеба ёй не хваце
І солі?

З маёй хаткі пацех мала,
Як з лому;

З страхі бура паздзірала
Салому.

На падпорах сцены, шулле
Гнілыя;
Вецер чуць не перакуле,
Як вые.

А праз нізкія аконцы,
Як ночай,
Хоць бы глянуць ясна сонца
Не хоча.

Вясна з голадам прыходзе
Заўсёды,
І благія шле разводдзе
Прыгоды.

Летам — праца, пот сплывае
Ракою.
Што засею — град збівае
Без бою.

Прыйдзе восень, золка стане —
Час цяжкі;
Па пустым таку б'е зрання
Цэп важкі.

А зімой завеі ў полі
Гуляюць,
Хаўтуры па маёй долі
Спраўляюць.

[*1906—1910*]

## З ПЕСЕНЬ АБ МУЖЫЦКАЙ ДОЛІ

Чый шнур вузак, убог,
Не дарос, не дасох,
Лагі — мох, асака?
— Мужыка!

Чыя ў працы за ўсіх
Не спачыне на міг
З мазалямі рука?
— Мужыка!

Чыю хату віхор
Пахіліў, страху здзёр,
Збіў упору з тачка?
— Мужыка!

Дзе чыйго ў край чужы
З роднай нівы-мяжы
Адарвалі сынка?
— Мужыка!

Каго пан, чын, закон
Са ўсіх скубе старон,
Як на ўвязі ваўка?
— Мужыка!

Чыя слава ўсягды
Не мінае бяды,
Турмы, торбы, шынка?
— Мужыка!

Чыю песню чуваць,
Як бы мае хаваць
На той свет бедака?
— Мужыка!

Гроб-магіла чыя
Спіць на дне забыцця,
Як бы змыла рака?
— Мужыка!

[*1906—1909*]

## БЯСЕДА

Годзе маркоціцца, хлопцы, дзяўчаты!
Дружна падходзьце к сталу, во сюды!
Будзем гуляці; шынкар наш багаты
Дасць чым пацешыцца, дасць, як вады.

Гэй, грамадой
Засядзьма ў рад!
Свой ці не свой —
Нам кожны брат —
Будзьма адною сям'ёй!

За сваю родную мачыху-долю
Вып'ем па чарцы, вып'ем усе!
Жыйма сягонняшнім шчыра уволю,
Плюйма на тое, што «заўтра» нясе.

Гэй, чаркі ў ход!
За долю п'ём.
Да дна ж... І вот
Тут за сталом
Сонца спаткайма усход!

Нашы дарожкі, знаць, ліхай часінай
Выбіты, церні бо скрылі і след,
Пійма, палійма гарэлкай сцяжыны —
Ссохне мо зелле, узойдзе мо цвет.

Гэй, ў добры час,
Піймa дружней!
Гульнём хоць раз! —
Хто можа, пей!
Хай госце радасць і ў нас.

Віхры праціўныя веюць нам вечна,
Сілы змагаюць, капаюць грабы,
Тут жа гуляем, пакуль што бяспечна,
Нуце ж! да чарак, да дальшай гульбы!

Гэй, не драмі!
Пі, хто не п'ян,
Другім налі,
Не будзь паган,
Знай — і мы такжа людзьмі!

Сэрцы дрыжаць нашы, кроўю абліты,
Грудзі пылаюць змучэння агнём,
Рукі змазолены, дух наш прыбіты;
Гэй жа! Ўсё гэта атрутай зальём...

Гэй, на прывет
Гэткіх прыкрас.
Наш тут абед,
Выступ-паказ!
Хай дрогне здзіўлены свет!

[*1906—1910*]

## З ГОРА ДЫ З БЯДЫ

Гэй, хадзі ў карчомку,
Дружа малады!
Гарэлачкі вып'ем
З гора ды з бяды!

Ўтопім долю ў чарцы
Хоць на час сваю,
Там табе я песню
Гулка прапяю.

Чарачка-галубка
Шчасця дадае
І сэрца, і думкі
Весяліць твае.

Пры чарачцы поўнай
Радасна ў вачах,—
І добрымі людзі,
І жыцця не страх.

І сябе пры чарцы
Ў крыўду б не даваў,
І за сваю б праўду
З кожным ваяваў.

І кроў маладая
Ў жылах закіпіць,
І дзяўчынку-сонца
Хацеў бы туліць.

Дык чаго марудзіш,
Дружа малады?
Хоць раз хадзі ўп'ёмся
З гора ды з бяды!

[*1906—1910*]

## ПЕСНЯ-КАЗКА

Гэй! далёка за морам за сінім
Ёсць адна старана, ёсць адна,
А ў ёй князева дочка — княгіня,
Світазарай завецца яна.

Гэй! далёка за лесам, за борам
Ёсць адна старана, ёсць адна,
А ў ёй князь у злацістым уборы,
Срыбра б'е ад каня, ад сядла.

Гэй! далёка за хатай, за вёскай
Ёсць адна старана, ёсць адна,
А ў ёй молад дзяцюк, бяды цёзка,—
Ні ганораў, ні скарбаў няма.

Гэй і выйшла, ой! выйшла праява:
І той князь, і дзяцюк той бядак
Спадабалі княгіню на славу,
Спадабалі — і як яшчэ, як!

Не на рэчцы лялее вадзіца,
І не явар калыша лістком,—
Гэта кроў маладая бурліцца,
Гэта сэрца пайшло хадуном.

І паехалі ўдвух яны ў сваты
(Абодвум далей нельга так жыць),
І той князь, і дзяцюк небагаты,
Світазару за жонку прасіць.

Едуць дзень, едуць ноч, едуць доўга,
Дзяцюк з той, а князь з той стараны;
Таму пнём, таму шляхам дарога;
Яны едуць, і едуць яны...

Не арлы, сакалы на даліну
Па дабычу-пажыву лятуць —
Два ўдальцы да аздобнай дзяўчыны
Ў яе хорам цудоўны бягуць.

«Вот, княгіня, вот, наша ты пані!» —
Яны кажуць абодва так ей:
«Няхай ласка твая на нас гляне,
Няхай выбера, хто ёй мілей!»

«Я багат, я брыльянтаў даволі
Сыпну, княжна, пад ножкі твае;
Маё поле — тваё будзе поле,
Табе слугі пакорны мае».

«Я хоць бедзен, ды шчыра затое
Сваё сэрца, душу табе дам;
Не дам слуг, а сам буду слугою,
Скарбам стану цаннейшым я сам».

Княжна чуе ўсе гэтыя словы,—
Бедака бярэ мужам сабе.
Князь запеніўся, мсціцца гатовы,
Дзецюку ўгрозы сыпе ў кляцьбе.

Не груган над ахвярай шыбуе,
Не схаваную высачыў косць,
К праўдзе ўвагі не знае, не чуе,
Як змяя, чалавечая злосць.

З чараўніцаю зелле князь вара,
З цёмнай сілаю дружбу вядзе;
Маладую ўсыпляе ён пару,
Маладому аковы кладзе.

Прабудзіўся ўдалец,— і што бача?
Сам без княжны, апошні з людзей;
Світазара у хораме плача,
Князь з дружынай гуляе сваей.

Ходзяць хмары шумліва, паважна,
Падцінае хаўтурны ім звон;
Людзі плачуць над хлопцам, над княжнай,
Князю б'юць за паклонам паклон.

[*1906—1910*]

## ГОЛУБ І ДЗЯЦЮК

Любе голуб галубку,
На гняздо ладзе лубку;
Дзяцюк любе дзяўчыну
І будуе хаціну.

Забіў ястраб галубку,
З гняздом вецер змёў лубку;
Адбіў недруг дзяўчыну,
Агонь знішчыў хаціну.

Найшоў голуб другую
Ўжо галубку за тую;
Дзяцюк плача па згубе,
Другой так не палюбе.

Голуб зноў гняздо ладзе,
Свайму гору ён радзе;
Хлопца вабе магіла,
Хаткі ставіць не сіла.

[*1906—1910*]

## ПЕСНЯ

Па зімовай па дарожцы
  Мужычок брыдзе;
Дух займаецца ад ветру,
  Снег бадзе, бадзе.

Эй, не гоне шчасных доля
  З-пад хатняй страхі
На такую непагоду,
  На холад такі!

Дол капаці на магілкі
  Бедачок спяшыць:
Дома страшную меў госцю,—
  Нябожчык ляжыць.

Каля белай дамавіны
  Апошнюю дань
Дзеткі дараць і галосяць:
  «Мама, мама, ўстань!»

Пяць іх, бедных малалетак,
  Сірацінак пяць;
Хто ж замене ім матулю?
  Хто будзе хаваць?

Хто ад мачыхі іх будзе
  Бараніць благой?
Хто сіротак пажалее?
  Скажы, Божа мой.

[*1906—1910*]

## НЕ ЖАЛЕЙКА ЙГРАЕ...

Не жалейка йграе
Пад ляском за вёскай,
Не вятрок хістае
Беленькай бярозкай,—

Дзевачка-нябожа
Уздыхае, плача
Па сваім прыгожым
Па жыцці бядачым.

Жыў, любіў сіротку...
Ночкі каратаді;
Песціўся з лябёдкай —
Думкі ашукалі.

Неслі людзі ковы:
За сваіх уняўся!..
Курганок жвіровы
Памяткай застаўся.

Спіць ён, небарача;
Дождждык насып мые,
А дзяўчынка плача,
А дзяўчынка ные.

[*1906—1910*]

## ДЗЯЎЧЫНЦЫ

Ты адзінокай, я сіратою —
Возьмем і пойдзем разам з табою
Колкай жыцця пуцявінкай;
Долю, нядолю, сэрцы і думы,
Зложым скарб гэты ў скрыню адну мы,
Будзь ты маёю, дзяўчынка!

Новую хатку табе збудую
І гаспадарку спраўлю такую:
Будзе хлябок і скацінка.
Днём будзем працай час каратаці,
Прыйдзем з работы, будзем у хаце
Пяяць з табою, дзяўчынка.

Цябе, о, вер ты мне, маладому,
Я не пазволю нідзе, нікому
Крыўдзіці, строіці кпінкаў;
Сцерагчы буду, як сваёй зрэнкі,
Новыя буду спраўляць сукенкі
Табе, з табою, дзяўчынка.

Шчыра і міла, сэрца маё ты,
Дам табе колькі хочаш пяшчотаў,
Буду паслушнай галінкай;
Буду, хоць віхры стануць шумеці,
Цёмна і жудка будзе на свеце,
Ўсюдых з табою, дзяўчынка.

А як нам доля надта дадзене,
Дасць болей гора, а шчасця меней,
Цяжкая прыйдзе часінка,—
Тады, як разам згодна жылі мы,
Зносячы спёкі і холад зімаў,
Памром з табою, дзяўчынка.

Ціха ў пасцелі ляжам жвіровай;
Крыж нам паставяць белы, яловы,
Насып абложаць дзярнінкай;
Буры жыцця мне слёз не скупілі;
Гэткі ж спакой у цёмнай магіле,
Ды і з табою, дзяўчынка!

[*1906—1910*]

## ПАДЫЙДЗІ...

Падыйдзі, пасядзі, паглядзі
Ў мае вочы, заліты слязьмі,
Спяі песню, нуду развядзі,
Пачаруй хараствамі сваймі.

Я адзін, мне так смутна! Нуда
Душу муча, сон гоне з павек,

Ты ж — вясёлая, ты — малада,
З табой быў бы шчасліў чалавек.

Ты пяеш — салавейка пяе,
Твар твой — сонца паглёд залаты,
Зоры светлыя — вочы твае,
Ты уся — з неба анел святы.

Ты не йдзеш — к табе думкай бягу,
Табой брэджу на яве і ў сне;
Прыйдзеш ты — гаварыць не магу...
Ты, дзяўчынка, замучыш мяне.

Кажуць людзі, што ты неўнарок
Ад усіх на сяле найбядней...
На чале на дзявочым вянок —
Ад скрынь золата, скарбаў мілей.

Грошы я пражыву, як нажыў,
Або ўкрадзе благі чалавек;
Тваё ж сэрца, цябе каб здабыў,
Хто праз цэлы мне выдзера век?

Дык хадзі ж, не стыдайся, к грудзям
Сваім белым мяне прыгарні;
Дай мне шчасця на зайздрасць людзям,
Спяі песню, нуду разгані.

[*1906—1910*]

## ПАКАХАЙ МЯНЕ, ДЗЯЎЧЫНКА...

Плыве рэчачка далінкай,
Рыбак шмат у ёй;
Пакахай мяне, дзяўчынка,
Як рыбкі ручэй!

Без вадзіцы б аніколі
Рыбкі не жылі;
Без кахання шчасця, долі
Няма на зямлі.

Няма з кім дзяліці гора,
Смутку і пацех;
Вылі слёз хоць цэла мора,
Чужым будзе смех.

Хто ж кахае, ўсё згадае,
Адчуе душой;
Не чурайся ж, дзяўчыначка,
Сэрца мне ўспакой.

Разам будзем жыці ў хатцы,
Разам песні пець;
Будзе раем свет здавацца,
Ўсё праўдай яснець.

Атачу цябе з душою
Апекай сваей;
Не зазнаеш ты за мною
Крыўду ад людзей.

Жыццё будзе слацца кветкай,
Сонцам заблішчыць;
Гэй, у долі добрай гэткай
Слёз не будзеш ліць!

Пакахай жа мяне толькі
Усяей душой,
Не дай з жалю марнавацца,
Сэрца супакой!

[*1906—1909*]

## ПЕСНЯ

Бяжыць шыбка ручаінка
Па жвіровым дне;
Жыве ў вёсачцы дзяўчынка,
Ўпадобная мне.

Ў ручаінцы днём і ночай
Вадзіца бурліць;
У дзяўчынкі гараць вочы,
Кроў кіпіць, кіпіць.

Эй! так хочацца вадзіцу
З той крынічкі браць;
Дзяўчыначку белаліцу
Туліць, цалаваць.

На млын грэбляй ручаінку
Здзержу, перайму;
Ненаглядачку-дзяўчынку
За жонку вазьму.

Млынок будзе малоць збожжа
Для добрых людзей;
Плакаць жоначка паможа
Ў хатачцы маей.

*[1906—1910]*

## ХАТКА

Пахінулася,
Ў зямлю ўехала
Ты, вясковая
Хата бедная!..

На страсе тваёй
Мох паношыцца,
Цьмой-лучынкамі
Вокны жаляцца.

А як дзікія
Ветры ўсходзяцца,
Ты дрыжыш уся,
Хатка цёмная.

К табе, мілая,
Не зайшоў ніхто
З словам ласкавым
Дый з пацехаю.

Толькі йдуць к табе
Па мужыцкую
Сілу крэпкую,
Працавітую.

Бедна, хатка, ты,
Але вечная,
І палацы ўсе
Перастоіш ты.

[*1906—1910*]

## ПОЛЕ

Поле маё, поле!
Ты мне дарам божым;
Люблю цябе шчыра
Абсеяна збожжам.

Люблю тваіх межаў
Стужак рад зялёны,
Роўныя барозны
Шырокіх загонаў.

Люблю цябе, поле,
Вясёлай вясною,
Як ты зарунішся
Ўсякай дабрыною;

Як на табе срыбна
Зацвіце расіца,
Птушка зашчабеча,
Сонца разгарыцца.

Люблю цябе летам,
Як красуе ніва,
Як шуміць ад ветру
Благасна, шчасліва;

Як колас наспелы
Пад сярпом сагнецца,
І смутная жнеяў
Песня панясецца.

Люблю цябе, поле,
Ў восень нескупую,
Як напоўніш пуню
Ты маю пустую;

Як ты мне за працу
Адплацішся гойна,
Да вясны кналеццю
Пражыву спакойна.

Люблю тады нават
Цябе, маё поле,
Як над табой жудка
Зімка заскаголе;

Як пачне сняжніца
Гурбы насыпаці,
Быццам маё шчасце
Навекі хаваці.

Поле маё, поле!
Дай жа ты мне сілы,
Каб цябе любіў так
Да самай магілы!

[*1906—1910*]

## ВЯСНА

У вянку з пралесак,
У святлянай шаце
Ходзе борам-лесам,
Полем, сенажацяй.

Сонцу-яснагрэю
Расплятае косы,
Раніцамі сее,
Як брыльянты, росы.

Сцелецца травіцай,
Ветрыкам шапоча,
Коціцца крыніцай,
Рыбкаю плюскоча.

Веселаміргае
Сошцы і баронцы,
Зернятка хавае
Ў свежай баразёнцы.

У гайкі заходзе,
Шапаціць лісткамі;
Гутарку заводзе
З белкамі, дзятламі.

Роднае прыселле,
Вырай любіць вуча,
Лад вядзе ў капэле
Грамады пявучай.

Сяміцвет — вясёлкай
Ззяе над далінкай,
Ходзе за кароўкай,
Гляне і ў хацінку.

Дзецюку, дзяўчыне
Блогасна ўсміхнецца,
Штось на вуха кіне,
Закалоце сэрцам.

І усюдых гэтак —
Полем, сенажацяй,
У кароне з кветак,
У святлянай шаце.

[*1906—1910*]

## ВЯСЕННЯЯ РАНІЦА

Вясенняя ночка,
Як стой, праляцела,
І раніца з неба
Сплывае нясмела.

Свет яснасці ўзмахам
Пачаў дзянёк новы;
Хаваюцца з страхам
Начніцы і совы.

Мільённая зорак
Сямейка заснула,
Праменнямі сонца
З усходу міргнула.

Туман з сенажацей
Плыве, рассяецца;
Звон пута чуваці,
Начлежнік пляцецца.

Ад птушыных песень
Лясы загудзелі,
І лісце, і травы
Ад росаў зардзелі.

Прачнуліся вёскі,
Дым з комінаў вале;
Асверы, павозкі
Скрыпяць недзе ў далі.

А сонца ўсё вышай!
Жыцця ўсюды болей...
Плугі і бароны
Зашурхалі ў полі.

Рыкае скацінка,
Іграюць жалейкі;
Над цэлай мясцінай
Стаіць гоман нейкі.

Ўсё йграе й ззывае
Да працы — аж міла...
Куй, браце, жалеза,
Пакуль не астыла!

[*1906—1910*]

## ПЯТРОВЫ ЧАС

Вот часіна! вот агніста
Завярцела, закруціла!
Прэ ў палі, ў лугі ўсё чыста,
Ажно глянуць неяк міла.

Свішчуць косы у пракосах,
Той грабе, той копы звозе;
Серп гуляе на палосах,
Паўрубень браздкыць на возе.

Ўсюды сіла і ахвота:
Ногі, рукі ходзяць смела;
Значна сельская работа,
Пот нядарма мые цела.

Гэй жа, Янка, распраніся,
Не жалей, брат, духу, сілы,
Помні, дурань, не змыліся,
Каб да Юр'я, знай, хваціла.

Знай Пятровую часіну,
Знай, адно ў гаду ё лета,
Хто ў ім здрэме хоць з гадзіну,
Пацярпіць жа ён за гэта.

За гультайства дрэнна будзе,—
Галадоўка — час пракляты,
К людзям пойдзеш, што там людзі,—
Той гол сам, той гоне з хаты.

Воласць, земства дасць мо хлеба,
Но іх ласкі хто не знае,
Эй ты, Янка, помніць трэба,—
Зімка доўгая такая.

Помніш, сёлета вясною
Раве статак, плачуць дзеці,
А тут — хоць гавей душою,—
Пуста ў пуні, пуста ў клеці.

Ох, не лепей і сягоння
Ў сэрцы, ў думках, мой ты мілы,

Што ж рабіць? Хай доля гоне,
Пакуль згоне да магілы.

Ты галодны, я галодны,
Ёсць мякіна з лебядою,
Вып'ем чарку — а там, родны,
Гайда на вайну... з касою.

[*1906—1909*]

## ЛЕТА

Лета ты, лета прыгожа-квяцістае,
Колькі ты ўносіш аздобы з сабой!
Цягнуцца стройна шнуры каласістыя,
Пахне павабна трава над ракой.

Гнуцца на лузе касцы немарудныя,
Дзе-нідзе ў постаці серп заскакаў;
Песня пачулася наская, нудная,—
Рэха панеслася — бор адказаў.

Шум пакаціўся ад лесу адзетага;
Сонца купаецца ў полыску рос;
Эх! каб, здаецца, ды шчасце да гэтага!
Эх, каб, здаецца, менш гора і слёз!..

[*1906—1910*]

## КАТ

І неба цямнейша ад сажы,
І крык далятае савы,
Падводзяць кабеціну стражы:
Ім трэба яе галавы.

Ўжо вісельня к дзелу гатова,
Гатова людзям паслужыць:
Слупочкі і роўны, і новы,
Пятля на пярэчцы вісіць.

Вяроўкаю вецер махае,
Варушыць асіна зямлю,
Ля століка кат пахаджае,
Намыліў слізгуча пятлю.

Рыхтуецца смелы, ахвочы,
На ўсходцы ахвяру вядзе;
Закрыты кабеціны вочы,
Ланцуг на руцэ і назе.

Кат глянуў на бабу, на неба,
Уніз на людзей, на зямлю,
Пятлю залажыў, як і трэба,
Пятлю ён на шыю... сваю.

Кабета зляцела з усходаў,
І столік за ёю зляцеў,
Пачуліся крыкі з народу,
Што тут жа стаяў і глядзеў.

. . . . . . . . . . . . .

Хістаецца труп на вяроўцы;
Кабета прыпала да ног,
І вырвалась страшнае слоўца:
«Сыночак, мой родны сынок!..»

А неба ўсё чорна, як сажа,
І крык далятае савы,
Падводзяць кабеціну стражы:
Ім трэба яе галавы.

[*1906—1909*]

## ЗАВІТАЎ ПЯТРОК...

Завітаў Пятрок
К табе, мужычок,
Ты ў шапку не спі,
Коску, знай, кляпі
І вастры, вастры!

Кінуўшы кляпаць,
Ідзі сенажаць
Абкладаць касой,
З расой — не з расой,
З зары да зары.

Жонцы ўзяць сярпок
Гукні, мужычок,
Хай ідзе, бяжыць,
Дзе твой скарб ляжыць,
Дзе з дабром шнуры;

Там хай сноп у сноп
Звале многа коп
Серп, рука яе;
Хай жне, хай пяе
З зары да зары.

Лі ты з жонкай пот
За нядолі звод;
Працуй за пяцёх,
Збірай, што даў Бог,
Карыстай з пары.

Хто улетку з нас
Не робе ў запас,
Эх, будзе зімой
Бедаваці той
З зары да зары!

[*1906—1910*]

## НОЧКА

Лягла туманом
Ночка на дварэ,
Зваяванай сном
Зямлі гоман мрэ.

Пусткаю аднэй
Поле, сенажаць,—
Не відаць людзей,
Песень не чуваць...

Пад ляском начлег
Распаліў агонь;
Заяц перабег,
Путам бразнуў конь.

Чуй! трывожыць сны,
Хвілі забыцця,
Совы, кажаны
Лезуць з укрыцця.

Недалёкі бор
Абярнуўся ў шум;
Цёмен, глух прастор,
Жудак, повен дум;

Повен ценяў, мар...
Штось трасе душой,—
Нейкі страх і чар
Ноч нясе з сабой.

[*1906—1910*]

## ЗАЗІМАК

На узгоры, на даліны,
На кусты, на перавалы
Леглі снежныя крышталы
Ад пуціны да пуціны.

Як жывыя, зоры-сведкі
У нябеснай у купелі;
Патанулі далі ў белі,
Засвяціліся палеткі.

Занямелі песні, стоны...
Ціха скрозь, як у магіле!
Толькі, выстраіўшы крылле,
Глуха кракаюць вароны.

Воўк з імшараў выбрыў сонных
На ваколіцу пустую
І завёў сваю старую
Думу-думаў беспрытонных.

Рэха вылецела з боллю
Па нізіне апусцеўшай
І, да вёскі даляцеўшы,
Задрыжэла ў частаколе.

[*1908—1910*]

## ЗІМОЙ У ЛЕСЕ

І лягла ж цішына
У бары за гарой,—
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.

Снег пушаны залёг
На галінах сасон,
І чарнобель, і мох
Атуліў сабой ён.

Сокат птушак замёр,
Як бы поўнач была,
Адно свісне тапор
Ды зазвоне піла.

Гэта сілу сваю
Так прабуе мужык;
Рухнуў дуб на зямлю,
Як магуч і вялік...

Далей — глуш, цішына
У бары за гарой,—
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.

[*1906—1910*]

## ЗАМКАВАЯ ГАРА

*(З віленскіх абразоў)*

Над Віллёй-ракой,
Па гары крутой
Туман сцелецца;
Не то лом-ламок,
Не то дом-дамок
Там віднеецца.

Слаўны Гедымін,
Князь Літвы — літвін,
Душа чынная,
Многа лет таму
Ў гэтым жыў даму,
Жыў з дружынаю.

Горда мур глядзеў
На зямлю, як леў,
Сцяной крэпкаю;
Не адной бітвы
Тут сыны Літвы
Былі сведкаю.

Сышоў век, другі,
І князі, багі,
Ўсё літоўскія,
Уцяклі з зямлі,
І дзянькі пайшлі
Не такоўскія.

Як катух ля кур,
Дрэмле пусткай мур,
Цэгла валіцца;
Нават гнёзды віць
Птушка не ляціць,—
Знаць, пужаецца.

Адно йдуць сюды
З гарадской нуды
Адказеліцца
Бедната і «знаць» —
Віды аглядаць,
Што ў ног сцелюцца.

Ды як згасне дзень,
Ночкі ляжа цень
Над дамочкамі,
Людскіх шэптаў тут
Повен кожны кут
Пад кусточкамі.

А сівою мглой
Па гары крутой
Туман сцелецца;
Не то лом-ламок,
Не то дом-дамок
Там віднеецца.

[*1906—1910*]

## КРУГАВАРОТ

Нічога вечнага на свеце
Няма для шумнага жыцця;
Здарэнні, многія сталецці
Ідуць пад века забыцця.

Ўстае рой новых пакаленняў;
Старыя сходзяць на той свет;
Нягодны ўнуку ўжо тварэнні,
Якія меў на ўслугах дзед.

Марнеюць сільныя народы;
Бяруць слабейшыя гару;
Нянавісць, бітвы, непагоды
Туманяць радасці зару.

Не раз крывавыя паляны
Ў душу чуткую ліюць жаль,
За бліскам славы разгуканы
Дух чалавека рвецца ўдаль.

Ствараюць з золата бажышчы,
Ідуць адны к ім на паклон,
Другіх шамочаць бед ігрышчы,
Нясецца стон з усіх старон.

Нязнанай сілай правіць светам
Пачатак, бытнасць і канец;
Народ таўпехаецца ў гэтым,
Як стада зблуканых авец.

[*1906—1910*]

## МАЯ ХАТА З КРАЮ

Дзе звярнуся, сяк і так
Баюць мне ў трывозе:
Як мядзведзь ты спіш, бядак,
У сваёй бярлозе.

З гэткіх баек проста смех —
Рукою махаю;
Ці ж бы спаці было грэх?..
Мая хата з краю.

Без яды адзін брат ссох,
Другі чахне ў латах,
Трэці з торбай на плячох
Кляне так жа брата.

Я смяюся з іх усіх,
Рукою махаю;
Вот сваяцтва — ану іх!
Мая хата з краю.

Родзе шнур, як там ні сей,
Адны недахваткі;
Кут нявучаных дзяцей,
Хлеба ўжо астаткі.

Думак вельмі не сушу,
Рукою махаю;
Вып'ю, рэдзькай закушу,—
Мая хата з краю.

Маю родну мову, край,—
Кажуць мне так людзі,—
Толькі выпрастайся, знай,
А твой верх тут будзе!

Праўда — штось як чужняком,
Кожны мной піхае;
Ці ж адным мной? Эй, Арцём,
Твая хата з краю!

Каб было меней магіл,
А вяселляў болей,
Кожны рвецца з усіх сіл
К святлу, славе, долі...

Лезьце, лезьце!.. Я ж пры чом?
Рукою махаю,
Добра мне і пада дном!
Мая хата з краю.

Гэткім спосабам жыцця
Век свой дажываю,
Вось і песня мая ўся!
Як і ўсё, ўміраю.

На магілкі і крыжы
Рукою махаю,
Далі хату — знай ляжы!
Але і тут з краю.

[*1906—1910*]

## СВЯТАЯ ПРАЎДА

«О, колькі гора з водкі ў нас!
Хто з ёй не стаў гол, як той кол?» —
Сказаў з павагай Апанас,
Паўкварты ставячы на стол.

«Святая праўда, мой кумок!» —
З павагай Юрка патакнуў
І, ляк скідаючы набок,
Другую кварту адаткнуў.

[*1906—1910*]

## ЧАРЫ

Покі Юрка не меў чына,
Быў нішто сабе дзяціна,
Па-суседску ў сваёй хаце
Жыў з людзьмі і керзаў лапці.

Збеглі годы чарадою —
Ён сягоння старшынёю
І братам з сваёй жа вёскі
Падбівае ўжо падноскі.

[*1906—1910*]

## БОТ І ЛАПАЦЬ

Раз прытычкі лапцю бот
    Сыпаць стаў, як жменяй.
«Я — павага! — кажа ён.—
    А ты што? — дрэнь дрэняй!»

Яму ж лапаць: «Эй, пакінь
    Так хлусіці ласа!
Я хоць дрэнь, дый толькі з лык,
    А ты злуплен з мяса».

[*1906—1910*]

# ДВА БРАТЫ

I

Былі два браты,
Два разбойнікі;
Шмат рабілі зла
Неспакойнікі.

Як пойдуць гуляць,
Расхахоляцца,
Задрыжаць усе,
Ўся аколіца.

Ні прайсці нідзе,
Ні праехаці;
Б'юць паклоны ім
Людзі нехаця.

Сіла — воля іх
Не ўнімаецца,
Гонар — слава іх
Разрастаецца.

II

Так жывуць сабе
Два разбойнікі
Разгульным жыццём,
Неспакойнікі.

Дый не вечна ўсё
Ў нас пад зорамі:
Закруціла штось
Непакорамі.

Хоць іх сэрца — сталь
Недаступнае,
Хоць душа — скала
Непадкупная,

Вочкі, грудзі — чар
Напаткаліся;
У ваднэй удвух
Закахаліся.

III

Зажылі браты,
Два разбойнікі,
Ўжо другім жыццём,
Неспакойнікі.

Хараствы касы
Іх занадзілі;
Між сабой, як стой,
Не паладзілі.

Не дубы скрыпяць
Сукам, лісцямі,—
Два байцы-смяльцы
Ненавісцямі.

І пайшлі ім так
Дні няшчасныя,
Пачалі з сабой
Бойку страшную.

IV

Б'юцца, б'юцца ўдвух
Два разбойнікі
За красу-касу,
Неспакойнікі.

Зоркі — сведкі ім —
Прыглядаюцца,
Шумам цёмны бор
Падзіўляецца.

Дзень ужо мінуў,
Вечарэецца,
Барацьба ўсё іх
Паланеецца.

Чуць на ўсход другі
Занімалася,
Два браты з жыццём
Развіталіся.

V

Доўгі спалі час
Два разбойнікі
У сваёй крыві,
Неспакойнікі.

Нават тая іх
Двух забылася,
За якую так
Яны біліся.

Пакуль неяк раз
Аднаногія
Шлі мясцінай той
Два убогія.

Рыюць яму-глыб
Непацешныя,
Аддаюць зямлі
Косці грэшныя.

VI

Дзе сягоння спяць
Два разбойнікі,
Там курган стаіць,
Кругом хвойнікі.

Той курган расце
Відавідаю,—
Хто ідзе тудой,
Ветку кідае.

Хто ідзе падчас
Каля поўначы,
Страха ўбача там,—
Моліць помачы.

Так ляжаць браты,
Два разбойнікі,
І па смерці ўсё
Неспакойнікі.

[*1906—1910*]

## ШЧАСЦЕ

I

Ты гаворыш, суседзе, што на свеце ўсё едзе
    Крыва, накас, не так, як патрэба,
І што ў гэтай круцёле вінна нашая доля
    І то сонца, што свеце нам з неба.

Эй, смяешся ты хіба, мой гаротны Кандыба,
    Растлумачу я ўсё тут іначай:
Самі мы вінаваты ў нашай долі праклятай,
    Ў тым, што век мы бядуем ды плачам.

Глянь, во англік ці немец! — яны ўсё ўмеюць скеміць,
    Ім і шчасце і радасць пакорны;
Мы ляжым, як мядзвёдкі, як гнілыя калодкі,
    І нас топча, хто болей праворны;

Спім сабе, ані дбаем, палягчэння чакаем,
    Быццам з неба нам зваліцца тое;
За нішто сходзяць сілы, прыбываюць магілы,
    Штораз меней прастору, спакою.

Дзе ні кінеш ты вокам, прэцца ўсё шыбкім крокам,
    К чамусь рвуцца, штось хочуць народы;
Калі ж з нас хто прачнецца, то яму ўжо здаецца...
    Але слухай адной вось прыгоды.

II

Пад гайком, пры дарожцы, знаў я хлопца у вёсцы,
    На сяло ўсё быў гэты дзяціна;
Дужы, стройны, прыгожы, працу ўсякую зможа,
    Ласку меў не ў ваднэй і дзяўчыны.

Кажуць, хто з доляй зжыўся, той у чэпку радзіўся,
    Янка мой, знаць, яшчэ і ў кашулі:
Бацька, маці любілі, з кніжкай знацца наўчылі,
    Часта грош які меў і на гулі.

Ён адзін у іх дзетак, дык не дзіва, што гэтак
    Папясціць яго часам любілі,

Пакуль з гэтых пяшчотаў не спагнаў той ахвоты,
Пакуль злы яго дух не асіліў.

Стаў глядзеці ён крыва на хаціну, на ніву,
Стаў глядзець ён ні хамам, ні панам:
Стала стыдна сярмяжкі, пры сасе працы цяжкай,—
Пацягнула яго ў край нязнаны.

І адной вось нядзелі, толькі ўстаўшы з пасцелі,
Стаў збірацца наш Янка ў дарожку;
Дарма маці хліпоча, дарма бацька біць хоча,
Ён спыніўся з хатомкай за вёскай.

III

І пайшоў ў свет шырокі, у свет няпэўны, далёкі,
Ад дамашняй шукаць лепшай долі,
А свет, знаеш, мой братка,— то не родная хатка:
Усяго ў ім зазнаеш даволі.

Мы, вясковае племя, менш пры чарцы задрэмем,
А як прыйдзе лоб ставіць прашкодзе,
То тады, як уночы, толькі лыпаюць вочы,
Гінем марна, як крыгі ў разводдзе.

Не скажу, каб мой Янка шэльмай быў безустанку;
Ў той жа час за сялом зажурыўся,
Бо хто ж ёсць так нягодны, не заплача па роднай,
Па старонцы, дзе ўзрос, дзе радзіўся?

Калі выйдзеш, дарогаў туды-сюды — ой, многа!
Толькі наш брат іх выбраць не ўмее,—
Ходзе, мерыць штосілы — бач і блудзе, аж міла,—
Меў надзею, згубіў і надзею.

Гэткіх сцежак меў спорна і мой зух непакорны,
Як та рыба, не раз аб лёд біўся,
Піў насмешкі і слёзы, быў і п'ян, і цвярозы,
Жыў на возе, пад возам круціўся.

IV

Збеглі многія леты за час доўгенькі гэты;
Многа хмар пераехала небам;
Той радзіўся, хрысціўся, той навек паваліўся,
Той шоў з хаты за шчасцем, за хлебам.

Лет дзесятак нялёгка пражыў Янка далёка
Ад месц тых, дзе яшчэ бегаў дзіцем,
Але дзе ён ні ходзе, нуда песню заводзе,
Не дае свайго кута забыці.

З нізкай прызбай хацінка, шнур з вясёлай збажынкай,
Ці шуміць лес, ці рэчка плюскоча,
І зямелька, і зоры,— ўсё аб родным гавора,
Спаць не раз не даюць і уночы.

Жыў і ўсё ж не спаткаўся з доляй той, к якой рваўся,
Ці не лепей было сядзець дома?
І сабраўся ў дарогу к свайму Янка парогу,
Не гаворачы слова нікому.

Ідзе, ногі змяняе, ў сэрцы радасць такая,
Песняй свойскай душу пацяшае;
Толькі горы, і долы, і паляны, і сёлы
Ўсё чужыя з падскокам мінае.

V

Эй, вы, родныя нівы! Эй, ты, бор гутарлівы!
Эй, вы, ўбогія родныя вёскі!
Вас да самай магілы любіць трэба штосілы,
З вамі гэтак прыгожы свет боскі!

Нашто скарбы чужыя, калі дома такія
Ўвакруг з нашым жыццём зіхацяцца?
Толькі трэба умеці злое ўсё адалеці,
Толькі трэба бядзе не давацца.

Працай шчырай і знаннем гору справім скананне;
Праўдай лёгка няпраўду змагаці,
І на вузкіх на гонях пры сваіх валах, конях
Ой, шмат можна чаго даказаці!

І ты, брат слёзнавокі, што ў свет рвешся далёкі,
Вазьмі толькі кругом агляніся!
Ці ж не праўда, як сонца, што мы ў нашай старонцы
З усім неяк зрасліся, зжыліся?

Пух сняжаны зімою, шчэбет птушак вясною,
Летам поля краса, шум ігрушы;
Ўвосень спелая ўрода і шнуркоў, і гародаў,
Гэта ўсё толькі камня не ўзруша.

## VI

Прэць Янук пехатою,— свой кут не за гарою;
Сэрца б'ецца, як выскачыць хоча.
Вот і вёска, вот брама, стаіць хатка таксама!
Вот вайшоў, «пахвалёны» бармоча.

К яму зараз у хаце: «Чаго хочаш, мой браце?
Як відаць, мусіць, ты заблудзіўся».
Янка глянуў, аж млее, пытаць смее, не смее:
«Людцы добрыя, я тут радзіўся!

Тут мая... наша хатка, тут мае — бацька, матка,
Мая моладасць тут уплывала».
А яму зноў знянацку: «На тым свеце твой бацька,
Ўтрымаць хатку сіл матцы не стала.

Яна ходзе, жабруе, пад вуглямі начуе,
Ўспамінае і мужа, і сына.
Ну, чаго так стаў бледны? Бачым — бедны, ты бедны!
А ўсё ж месца няма тут, дзяціна».

Як кляшчамі, няміла Янку штосьці здушыла;
Выйшаў з хаты са слоўцам «бадзяка»
І на прызбу зваліўся, слязьмі горка заліўся,
Аж груган недзе ў высі закракаў.

## VII

Плача Янка крывава,— думкі, шчасце і слава
Недзе збеглі у чыстае поле; —
Ціха ўстаў, азірнуўся і — ў карчомку папхнуўся
Заліваць сваю долю-нядолю.

Заліваў, ды не надта, знаць, з нудой мог праклятай
Ваяваць сваім сэрцам збалелым;
Гнуўся, штораз — то ніжай, пад жыцця цяжкім крыжам,
Аж змарнеў так душою і целам...

Было, помню я гэта, на пачатку штось лета;
Ўся зямля хараством красавала:
Поле кветка здабіла, неба птушка хваліла,
Пры жывёле жалейка іграла.

Я шнурок свой абходзіў, прыглядаўся уродзе
(Мой надзел быў ля самай дарогі);
Бачу — гмін люду пхнецца, а з ім Янка пляцецца —
Толькі ў путах і рукі, і ногі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цяпер думай, што воля — вінен Янка ці доля?
Дзе тут шчасце — за хатай ці ў хаце;
Самі шмат мы ў праклятай славе той вінаваты,
Што не ўмеем злой долі змагаці.

[*1906—1910*]

## СМУТНА МНЕ, БОЖА!

Смутна мне, Божа! Куды я ні гляну,
Куды ні мчуся з маркотнай душою,
Бачу, што шчасця зары не дастану,
Бачу, што вечна не знаць мне спакою.

Гляну на быт свой, што век не ўзвяселіцца,
На змарнаваную моладасць з гора,
Бачу, што трудна на долю надзеяцца:
Будзе так заўтра мне, як было ўчора.

Цяжка ў час буры сасонцы хістаціся,
Коласу зімку праводзіці ў полі,
Цяжка са шчасцейкам быць і расстаціся —
Цяжэй жа шчасця не знаці ніколі.

[*1906—1910*]

## О. М. ПЯШЧЫНСКАМУ

Шчыра дзякую вам за пяснярскі прывет,
Якім міла мяне прывіталі;
Так цярніста жыццё, столькі мук, столькі бед!
Вы другое жыццё паказалі:

Дзе шыбуюць арлы над імглой, пад імглой,
Дзе дух вольны пануе свабодна;
Песню дзіўную [illegible] чую смутнай душой
І к старонцы праношуся роднай.

Да папарных тых ніў, да пахіленых хат,
Да людзей тых, акрыўджаных доляй,
І да наспаў-крыжоў, пад якімі спіць брат,
Да нямых курганоў сярод поля...

Па ўсім гэтым блуджу думкай сцішнай сваей,
Жалем сцiснецца сэрца, заб'ецца...
Ўкруг кіпіць барацьба: таго верх, хто дужэй;
Віно з кроўю мяшаецца, льецца.

Вочы бачаць усё, адчуваю я ўсё,
Слепа хочацца верыць парою,
Што міне сіла зла, што другое жыццё
Павядзе нас другой пуціною;

Што ў руках песняроў струны дрэмлючых лір
Загрымяць новай песняй народам,
І сыдзе на зямлю, зніме горасці кір
Анел радасці, славы і згоды.

Жычу ж такжа і вам к гэткай дзіўнай пары,
З божай іскрай жывучы сам-насам,
Польскай лірай сваёй зваць у блісках зары
І старонку маю ўспомніць часам...

*[1906—1910]*



* * *

*З польскай — М. Канапніцкай*

Збудзіўся лес, азваўся лес
　　Ад плачу маёй песні,—
Галосіць рой, птушыны рой
　　Па ўсёй пустыні леснай.

Ударыў звон, ударыў звон,
　　Як сэрца над магілай,
А сонных хат, дзе люд, дзе брат,
　　Збудзіць не маю сілы!..

*1908*

**ТРЫ ДАРОГІ**

*З польскай — М. Канапніцкай*

Ідуць тры сцежкі з хаты
На долю і нядолю:
Ідзе адна, дзе пану
Людцы пахаюць поле;

Налева ад хаціны
Ідзе ў карчму другая,
А трэцяя — к магілкам,
Дзе брат наш спачывае...

Ад цяжкай працы, поту
Адна расіцай свеціць;
Хто па другой праходзіць,—
З бацькоў смяюцца дзеці;

Палын расце на трэцяй,
І наспы вышай, ніжай,
І плача там бярозка,
І крыж стаіць на крыжы...

Па сцежках гэтых ходзяць
У лапцях нашы людзі.
Гэй! хто ім сцежку ўскажа,
Што весці к шчасцю будзе?..

[*1908*]

## ВАРАЖБІТКА

*З польскай — М. Канапніцкай*

Вецер коціцца па полі,
Жытні колас гнецца прытка;
Гэй, цыганка-варажбітка,
Варажы мне маю долю.

Варажы яе з чырвонай
Зоркі, што над хатай льсніцца,
З таго шуму, што так мчыцца
Ад дубровы ад зялёнай.

Варажы з рукі яе мне,
З рукі правай, мазалістай,
І з крынічкі таеей чыстай,
Што бурліць так па каменні.

Варажы мне добрым словам
З той вясёлкі мнагакветнай
І з той кнігі, з той прасветнай,
Што аб шчасці кажа новым.

...Тваёй долі няма ў кнізе,
Ні ў вадзіцы, ні на небе,
Толькі ў чорным тваім хлебе,
Толькі ў світцы, рванай рызе.

Ні на зорку залатую,
Ні з крыніцы шумнай, чыстай,
А з рукі той мазалістай
Мужыку тут варажу я.

Ой, ты будзеш, будзеш панам,
Не то князем, ні гетманам:
Тваё царства ўецца кругам,
Дзе ні пройдзеш толькі плугам.

Бачны будзеш ты ў чырвені,
Што з крывавым потам льецца,
І ў тым золаце-праменні,
Што ад коскі адаб'ецца.

Скарб ты выараш багаты
З нівы гэтай зааранай:
І талеры, і дукаты,
Толькі ж не сабе, а пану.

А шлюб возьмеш ты з царыцай,
Што жыццё усё з табою
Не захоча разлучыцца...
Ой, шлюб возьмеш ты з бядою.

Днём нашле сон, ночкай збудзе,
Сцерагчы будзе парогу;
Ані з ёй табе у людзі,
Ані з ёй табе да Бога!

Як вясною ўсходзяць кветкі,
Падымаюцца хмурліва,—
Укалыша твае дзеткі
Песняй голаду слязлівай.

Жджэ цябе дарога з ёю,
Ўдоўж і ўшыр зусім малая,
А ў зямлю глыбей затое,
А ў гару — аж зор хапае.

Па ёй будуць цябе везці
Твае волікі сівыя
І званы аж вежай трэсці —
На магілкі на старыя.

[*1908*]

## ДОЛЯ

*З польскай — У. Сыракомлі*

Ные сэрца без патолі,
  Нудна льюцца слёзы...
Выйду клікаць лепшай долі
  Ўдаль, пад шум бярозаў.

Дзе ты, лепшая, дзе доля?
  Прыбудзь,— хай пазнаем!
Прымем хлебам, прымем соляй,
  Шчыра прывітаем.

Дарма плачу, заклікаю
  І ў жалі малю я:
Вецер словы абівае,—
  Доля ані чуе...

Ой ты, песенька, маўчы ты!
  Не нам вецер збіці:
Хадзі з сэрцайкам разбітым
  Па долі тужыці.

[*1908*]

## ПЕСНЯРУ

*З украінскай — Грыцькі Чупрынкі*

Эй, ужо годзе песень маркотных, пясняр!
Дай волю парывам гарачым,
Вясёлым, прывабным, як сонейка жар,
Каб бліснула яснасць і спячым!

Каб бліснулі іскры ў прытухшых вачах
І вечнай свабоды раздолле,
Каб кожны пачуў сваю сілу ў плячах,
Каб кожны забыў аб нядолі!

Каб хлынула полымя праўды з грудзей,
Што ў думках здаўна мы гадуем;
Старым і малым такой песняй запей,—
Хоць раз хай аб шчасці пачуем!

*1908*

* * *

*З украінскай — Грыцькі Чупрынкі*

Не каханак чарнавокіх,
Што скрозь сеюць дзіўны чар,—
Я — пясняр стэпоў шырокіх,
Краю вольнага пясняр!

Той, хто волю занядбае,
Хоць у золаце хай спіць,
Хоць царэўну хай кахае,
А не будзе ў шчасці жыць.

Хто забудзе край свой родны,
Аб такім так і пішы:
Ён, як дрэва, корч нягодны —
Ні ў ім сэрца, ні душы.

Чыім краем не шамоча
Ні няволя, ні бяда,
Хай жыве, як сабе хоча,—
Хоць як труцень, як нуда.

Хто ж маўчыць, чый край без волі
Стогне ў горы сіратой,—
Той благое зелле ў полі,
Між людзьмі скаціна той.

*1908*

## У СВЕТ

*З польскай — Я. Каспровіча*

Эй, зямелька, загон ты мой чорны!
Рые плуг, барана тваё кветкі;
Ў табе спяць ураджайныя зёрны,
А мы — ў свет, тваё родныя дзеткі.

Свісне коска ў тваёй сенажаці,
Бразне серп па загоне паспелым,—
А прад намі прасвіту не знаці,
Непагодай спавіты свет цэлы.

О вы, зёрны, о сноп умалотны,
О ты, жніў залатая мінута!
Жаль, нуда з намі ўслед плыве слотна,
А прад намі — маркотнасць, пакута.

Жаль, нуда заляглі, як туманы
Хмар над нашай зямелькаю-маткай,
А загон яе ў скібы з'араны,
А ў самой у ёй дрэмлюць зярняткі.

Хто пасмее зямельку вініці,
Наракаць на цябе хто пасмее,
Што ў бадзянні нам страшна так жыці,
Што ў жалобе мы гэткай марнеем.

Жаль, нуда хай ідуць перад намі,
І маркотнасць, і любасць бясконца,
А ты, маці, сваймі каласкамі
Шумі, цешся і смейся да сонца.

Эй, зямелька, загон ты мой чорны!
І у нас яшчэ ўцеха загосце;
Яшчэ будзем збіраць твае зёрны,
Яшчэ зложым свае ў табе косці.

*1909*

## ГАСЦІНЕЦ

*З рускай — А. Кальцова*

Шлях-гасцінец даўно
Прада мной лёг, ляжыць,
Дый па ім нельга мне
Ні лятаць, ні хадзіць.

Хто ж трымае мяне,
Каго кінуць мне жаль,
Што да гэтай пары
Не пушчуся я ўдаль?

Ці то доля на свет
Сірацінай прыйшла,
Ці са шчасцем сляпым
Звод, разлуку ўзяла?

На гады я не стар,—
Звонка песні пяю,
Поўна дум галава,
Поўна сэрца агню.

Скарб нялічаны мой
Пад замкамі ляжыць,
І хадун вараны
Асядланы стаіць.

Але волі няхват
Мне у свет паляцець,
У чужой старане
На людзей паглядзець.

Дзе падчас — у бядзе —
Сябе ў крыўду не даць,
Проць благіх непагод
Грудзьмі смелымі стаць.

Быць вясёлым, скакаць
На бяздоллі сваём,
На загубу пайсці,
Песні пець салаўём.

*1909*

## РОДНЫ ДОМ

*З польскай — М. Канапніцкай*

Ці любіш дом? свой родны дом,
Што ўночку — летавай парой —
Шаптаннем ліп варожыць сном,
Слязу салодзіць цішынёй?

Ці любіш дом? сваю страху?
Што многа лет гняце ў маху
Крывых варот нізкі парог,
Што ласкай сцелецца да ног?

Ці любіш дом? аджыўчы пах
Пракосных зёл, наспелых ніў
І ружы цвет, што ў кальчуках
Сваю прыгожасць засяліў?

Ці любіш дом? свой родны дом,
Што гул жывых сасон вярхоў,
І духаў стогн, і віхраў хор
Пералівае ў тваю кроў?

Ці любіш дом? свой родны дом,
Што ў часе бур, плакучых хмар,
Калі ў душу ударыць гром,
Нясе прытульны думкам чар?

Раз любіш ты і ўсёй душой
Пад гэтай хочаш жыць страхой,—
Кут бацькаў сэрцам сцеражы
І сэрца ў ім навек злажы.

[*1909*]

## ГРУГАН

*З польскай — У. Сыракомлі*

З па-над лесаў, з па-над хмараў
Груган вылятае,
Сеў пад вёскай на папары,
Груганят склікае.

На вялікай, знаць, быў згубе
Ў далёкіх старонках:
Рука правая у дзюбе
З залатым пярсцёнкам.

— Эй, скажы, груган нязнаны,
Скуль ты прыбываеш?
Скуль пярсцёнак пазлачаны
І руку скуль маеш?

— За гарамі, ой, дзяўчына,
Страшны бой вядзецца;
Кроў ліецца ручаінай,
Труп на труп кладзецца.

Зарывае люд рабочы
Ссечаны галовы,
На малойцаў грудзі, вочы
Сыплюць наспы новы.

На курганах на бядачых
Воўчы рык чуваці;
Не адна галосіць, плача
Сірата і маці.

Слязьмі горка залілася
Бедная дзяўчына:
Вось калі я дажылася
Няшчаснай часіны!

Ой, руку я ўжо пазнала!
Той, чыя,— не ўстане:
Гэты персцень даравала
Міламу ў расстанні...

[*1908—1909*]

# Dubia



## СВЯТЫ АНДРЭЙ БАБОЛЯ.
## МУЧАНІК БЕЛАРУСКІ

Там, дзе Прыпяць-рака па пяску гоніць воды
Сярод багнаў і пушчаў палескіх;
Там Баболя Святы душам нёс асалоду,
Жыў, вучыў веры Божай, нябескай.

Зрокся панскіх дастаткаў, уцехі і славы,
Неба тайнага кліку паслухаў;
Пасвяціўся на службу за Божую справу,
Ў сэрцы маючы Божага Духа.

І вясковую, ўбогую, цёмную хату
Палюбіў з яе горам, нудою,
З добрым словам, з пацехай спяшаўся да брата,
Ўсім атуху прыносіў з сабою.

Ні яму маразы на дарозе стаялі,
Ні яго адстрашалі грымоты,
З Божым Дарам усюдах яго спатыкалі,
Як ішоў, як нёс свет у цямноты.

Ў Беларусі ў той час войны, бітвы кіпелі:
Край чужынцы напалі, змагалі,
Як маглі, ні малых, ні старых не жалелі,
Што нажу, што агню аддавалі.

Не мінула і Піншчыны гэта няшчасце:
Банды ворагаў суд свой тварылі,

Здрайцы ў помач к ім шлі, каб самім не прапасці,
І магілы братам сваім рылі.

Хто свае кідаў хаты і ў пушчы хаваўся,
Хто ратунку ў чужым краю шукаў,
А Баболя на службе сваей аставаўся
Сярод гэтых пажараў і мукаў.

З верай шчырай у справу рэліг'і святую
Пацяшае, навучае, дзе можа,
Покі вораг і гэту душу залатую
Не парваўся змагчы і зніштожыць.

Здрайца мейсца ўсказаў, дзе Святы навучае...
З дзікім гікам злавілі Баболю,
А той іх Божым словам вітае
І сябе аддае Божай волі.

На сваю на ахвяру, як звер згаладалы,
Навалілась казачая шайка,
І аддалі мучэнню, як сіл ім ставала
Секлі, рэзалі шабляй, нагайкай.

Прывалокшы Святога Андрэя ў Янова,
На разнічым стале палажылі,
Пачалі катаваці па-свойму нанова —
Цела рэзалі, косці крышылі.

Абрэзалі і губы, і вушы, і пальцы,
Пачапілі вяроўкаю к столі,
Заганялі цвікі, азвярэўшы, паганцы,
Аж дух к Богу ўзнёсся Баболі.

З той пары лет без ліку няпамяць скасіла,
Многа лет, многа зім прамінула,
Не адна ўзышла пры магіле магіла,
Шмат чаго ў небыццё патанула.

Толькі хвала не ўмёрла Андрэя Баболі:
Даў Бог сілу яму тварыць цуды,
А іх сведка — народ не забыўся ніколі,
Ўзносе модлы к Святому паўсюды.

Песні, казкі растуць і растуць з кожным годам
Аб замучаным страшна Андрэю,

Хвала шырыцца скрозь ад народу к народу,
Дух Святога цуднее, яснее...

Будзь жа, будзь ты, Баболя, заступнікам нашым
Перад Ствурцам Нябесным Прадвечным,
І люд свой, што любіў так, хоць вораг і страшыў,
У апецы і ласцы мей вечна.

Выпрась долю яму і прыхільнасць у Бога,
Спор у хаце, уражайнасць у полі,
Павядзі к яснай славе шчаслівай дарогай
Беларусь з паніжэння, з няволі.

Дай нам гарт, моц і сілу няпраўду здалеці,
Дай нам светач развідніваць ночы
І прымерам будзь нам, як павінны глядзеці
Смела гору і ворагу ў вочы.

* * *

Заліваючы ценямі
Небагатыя паляны,
Ціха плаваюць туманы
Над палескімі палямі.

А над імі з Божай Волі,
У нябеснай сіняй далі,
У ясным сонечным крыштале
Дух уносіцца Баболі.

Сплёўшы трон яму на крыллях
Пад нябеснаю купеляй,
Беласнежныя анэлі
Ўкруг Святога акружылі,

І пяюць яму там гімны,
Славяць Мучаніка імя
Галасамі залатымі,
Галасамі ласкі дзіўнай.

Да зямелькі да пакутнай
Далятае гэты голас,
А душа, як польны колас,
Ловіць песні штомінутна.

Думка сцежкаю знаёмай,
Жыццявыя змогшы бітвы,
З верай шчырай і малітвай
Зважна коціцца к Святому.

А скрываючы ценямі
Небагатыя паляны,
Ціха плаваюць туманы
Над палескімі палямі.

[*1910*]

## СВЯТЫ АНДРЭЙ БАБОЛЯ. МУЧАНІК БЕЛАРУСКІ ЗА ВЕРУ

Шмат таму лет назад
У Палессі глухім
Жыў Баболя Андрэй,
Слаўны імем сваім.

Зрокся ўцехі жыцця,
Панскіх скарбаў, выгод,
За прызваннем пайшоў —
Сеяць веру ў народ.

Заблудзіўшыхся душ
Наварачвае Ён;
Праца гэта Яго
Не малы дала плён.

Шмат каму не пад мысль
Было гэта ў той час;
«Душэхватам» Яго
Называлі не раз.

А Святы — як ня чуў;
На брахі не маўчаў
І, як мог і дзе мог,
Навучаў, прасвічаў.

Толькі слава ішла
Усё далей і далей
Па крывіцкай зямлі
Між вясковых людзей.

Як лет колькі сплыло
І час буры настаў,
Завяруха найшла,
Край чужынец змагаў.

І аблаву сваю
На Святога пусціў,
На якога здаўна
Востра зубы тачыў.

У адной із мясцін
Зброд казачы напаў,
Справіў суд над Святым,
Страшным мукам аддаў:

Мучыў, рэзаў і сек,—
Кроў цякла на зямлю,—
Усё Святога змушаў
Кінуць веру сваю.

Катаваў, зневажаў
Беспрымерна, як мог,
Аж Баболі душу
К свайму трону ўзяў Бог.

З таей страшнай пары
Перайшло сотні год,
Вецер шмат сагнаў хмар,
Шмат у мора ўшло вод,

Толькі памяці час
Праз так доўгія дні
Аб Андрэю Святым
Не развеяў ані:

Ён цудамі слыве
Ў беларускай зямлі,
Ён жыве, як і жыў,
Між сваімі людзьмі.

Хоць і панствам Яго —
Неба Божы прастор,
Ён слязу не адну
Свайму люду уцёр.

Будзе жыць без канца,
Слыць цудамі ўсяды
Гэты мучанік наш,
Беларускі Святы,

І заступіцца Ён
Перад Богам не раз
І за наш бедны край,
І за змучаных нас.

*Я. Купальскі*

[*1910*]

# Іншыя рэдакцыі і варыянты



## ВЕРШЫ

### 1908

*Чаго хмурыцца?..*

*«Наша ніва», 1908, № 1, 4 студз.:*

24 Дзваняць енкамі,
26 Дзвон кайданавы,

*За праўду*

*«Наша ніва», 1908, № 4, 15 лют.; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

14 Мы злучаны мовай аднэй;

*Аратаму*

*«Наша ніва», 1908, № 9, 25 крас.; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

12 Дый сам ты галодзен саўсім...

*Зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

13 Дык выпрамся ж крышку, дый жыва за сошку,

*Асёл і навука*

*«Наша ніва», 1908, № 10, 9 мая:*

5 Сталі вучыць яго чытаць,—

*Касцам*

*«Наша ніва», 1908, № 13, 20 чэрв.:*

1 Дзе вы, брацця маі, дзе вы, хлопцы-касцы?
12 Ніхто не жалеў вас ані!

*Выбр. тв., 1935, т. 1:*

6 Няхай валіць ў пракосы траву;
13 Пот ільецца цурком,— абмахні рукавом

### *Да моладасці*

*Аўтограф (2):*

5 Ой дала дала
7 Сілу крэпкую,
25 Толькі доля дзе?

*Аўтограф (2); «Наша ніва», 1908, № 14, 4 ліп.:*

25 Адно: доля гдзе,
28 Ты збаялася?..

### *На сенажаці*

*Аўтограф:*

3 У беднай вёсцы мужык
6 Потам злітую,
[illegible] Непадшытыя.
11—13 І жарсцвянку бярэ
Дзеравяную.
І на луг ён ідзе
15 З песняй топе касу
17—20 Толькі сіла ў касьбе
Чутка насская,
Толькі ў песні сляза
Чутна хамская...

*Аўтограф; «Наша ніва», 1908, № 14, 4 ліп.:*

13 І на луг ён ідзе

### *Сват*

*«Наша ніва», 1908, № 16, 1 жн.:*

34 Дык прошу ж у хату! — Сват нешта марудзіць.
58 Вядзе нас у сенцы, гдзе кабыла стаяла!
105 Што ж болей? Эх, болей... падлей там сівухі! —

*«Наша ніва», 1908, № 16, 1 жн.; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

11 Папіў той гарэлкі, той едзе у сваты;
12 Без госця, без чаркі не нойдзеш той хаты
29 Званок заліваецца, свішчуць палоззя,
32 Сабака забрэшэ; хтось выйшаў на ганак.
35 Ідзем. Вось і ў хаце. Лучына палае.
42 Сам нейк не свой я, баюсь мімаволі.

*Зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

105 Што ж болей? Эх, болей... падлій там сівухі

### *Страх*

*«Наша ніва», 1908, № 19, 11 верас.:*

50 Адважэн з вас такой парою

71 Убег у хату, дух не зменіць,
110 Прыйшлі. З увагай, як належыць,

*«Наша ніва», 1908, № 19, 11 верас.; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

4 З сваей нудой і нараканнем.
63 Папхнуўся ў ток той сярод ночкі,

*Зб. тв., 1940, т. IV:*

10 Як стане хлусіць мала-веле;

### *Стужа зблізжаецца*

*Аўтограф; зб. «Гусляр», 1910:*

3 Каўкі ўкрылі папары,

### *Яшчэ прыйдзе вясна*

*Аўтограф:*

4 І ўскружыўся груган над папарам:
11 Не пужайся, што родная ніва
14 Неужоннае кончана жніва:
17 У путах дрэмюць з канца да канца,
19 Безпрычынна капае магілы...

### *Падымайся, ўставай!..*

*Аўтографы; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

2 Апратай капоту:

*Аўтографы:*

32 Ну, вот і даспаўся!

### *Ужо днее*

*«Наша ніва», 1908, № 23, 7 лістап.; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

18 І кроўю чырвонай дабрыла зямлю.
25 За сошкай, за коскай, з сярпом і сякерай
34 Срэдзь віхроў, і бураў, і холаду зім

### *Дунулі сіверы...*

*Аўтограф:*

1 Дулі к нам сіверы з поўначы,
2 Кроў скасцянела у жылах;
4 а Сходзяць бясчасна ў магілы.
б Шлі за ніўшто ў магілы.
6 а Чутны вясеннія шумы;
б Мкнуць з ім вясеннія шумы;
8 Ўдарылі ў вольныя думы.
18 Дзень справядлівасці блізкі,

*Крыжы*

*Аўтограф:*
16 Накрыж дзюркі ў тваей хатцы.
28 Што цябе навек забыўся.

*Араты*

*Аўтограф:*
20а Ці змей-чалавек?
6 *Як у асноўным тэксце*
*Аўтограф; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*
7 Цяжэнькая ношка,

*Беларушчына*

*Аўтограф:*
10 Што ніхто не разбудзе цябе, што заснула навек.
12 Што памёрла ўжо ты,— не адзін так казаў чалавек.
*Аўтограф; зб. «Спадчына», 1922:*
24 Апяваючы долю, нядолю народу, тваю.

*З надзеяй гаротнай...*

*Аўтограф:*
2 Са слёзкай чырвонай
8 У думкі у мілай
11—12 А сонцы а зорах
А радасным краі.

## 1909

*У шынку*

*«Наша ніва», 1909, № 23, 4 чэрв.:*
19 Крутавата на вёсцы прыхадзілася нам:
20 І той сон і спакой аднімалі саўсім.
21 І стары мой у гэтым нічуць не адстаў:
37 Ужо ладна за горад старык адышоў,
44 Хтось закончыў жыццё — гэта быў бацька мой...
*Зб. «Шляхам жыцця», 1913:*
20 І той сон і спакой аднімалі саўсім.
*Зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*
21 І стары мой у гэтым нічуць не адстаў:

*А як мы з хаткі выходзім...*

*Аўтограф:*
28а Што не здарма век блудзілі!

б Як мы здарма век блудзілі!

*Зб. «Гусляр», 1910:*

7 На нашай ніве гуголле,
8 На нашым поце урода.

*Зімовая ноч*

*Аўтограф:*

7 а Чуй і воўчы рогат...
б *Як у асноўным тэксце*
26 Міла ў думках брэдзіць.

*Зваяваным*

*«Наша ніва», 1909, № 8, 20 лют.; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

13 Грозна несліся магучыя вашыя клікі;
16 Сіл не хваціла... запеў пахаронны вам звон.

*Не ўздыхай*

*«Наша ніва», 1909, № 24, 11 чэрв.; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

12 Яшчэ раз не засні, не засні!

*Прыяцелі*

*Аўтограф:*

6 а Першы крук азваўся.—
б *Як у асноўным тэксце*
20 а Рэшткі падгрызаю.
б *Як у асноўным тэксце*
25—26 а А тут тыц к ім «дума»-госць
Ды з пацехай мілай:
б *Як у асноўным тэксце*
28а Я вас не забыла.
б *Як у асноўным тэксце.*

*Памяці Т. Шаўчэнкі*

*(«Сягоння на Украіне вялікае свята...»)*

*Зб. «Гусляр», 1910; Зб. тв., 1925, т. I; Зб. тв., 1928, т. I:*

5 Праслаўнаму бацьку ўкраінскай прасветы
7 Дняпровыя воды талкуюць аб гэтым,
43 У хатцы, ў палацы, ў цямніцы, у карчомцы

*Памяці Шаўчэнкі*

(«Ад гасцінца да гасцінца...»)

*«Наша ніва», 1909, № 11, 12 сак.; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935; Зб. тв., 1926, т. II:*

*Пасля 8-а радка:*

Месца даў яму пачэсне
Бедны і багаты;
Распяваюць яго песні
«Парубкі», «дзівчаты».

*За чужую елку*

*Аўтограф:*

Як бы хоча заглушыці
138—140 За дабро чужое;
Ох і шмат жа ў нас іх
Гэткай пуціною

*Зб. «Гусляр», 1910:*

138 За дабро чужое;

*Аўтограф; зб. «Гусляр», 1910; зб. «Апавяданні вершам», 1926:*

117 Як на чорнай на зямельцы

*Зб. «Апавяданні вершам», 1926:*

79 За стральбіну і так валіць
87 Таго як бы і не кеміць,
99 І давай абое біцца,
112 Ўсе няшчасных стогны;
139 І спытайцеся ж вы, людзі,

*Два мужыкі і глушэц*

*«Наша ніва», 1909, № 12, 19 сак.:*

20 Да гэткай птушкі мне закон,

*«Наша ніва», 1909, № 12, 19 сак.; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

28 Віш ты: абраўся «сямідзённік!»
35 Падумаў: «Вот, так ласуны над ласунам!»:

*Вялікдзень*

*«Наша ніва», 1909, № 13—14, 26 сак.:*

6 Спяшыце супольна, хто ў путах не згніў!

*«Наша ніва», 1909, № 13—14, 26 сак.; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

18 Заводзе бацькоў сваіх песеньку сын.

*Паводка*

*«Наша ніва», 1909, № 15, 9 крас.; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

1 Крэпкі, магучы аковы зімовыя —
8 Ломе прашкоду, як молатам сталь.
12 Скрыша і пойдзе сваей пуціной!

### *Песняру-беларусу*

*«Наша ніва», 1909, № 25, 18 чэрв.:*

24 Як з ніў найлепшую ўзяць дань.

*«Наша ніва», 1909, № 25, 18 чэрв.; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

7 Дабудзь з сваей душы ўсе праўды,
26 Будзі сыноў сваей зямлі,
36 На той свет зойдзеш, як лісток.

### *Да дзяўчынкі*

*«Наша ніва», 1909, № 20, 14 мая:*

6 Не заглянула сонца ў хатку маю,—

*«Наша ніва», 1909, № 20, 14 мая; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

1 Не чурайся, дзяўчынка-галубка, мяне!
9 Ой, так шоў — так зыходзе мне год за гадком,—

*«Наша ніва», 1909, № 20, 14 мая; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

13 Ты і я удваём станем смелай ступой

### *Песня-байка*

*«Наша ніва», 1909, № 21, 21 мая; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

1, 15 З-за далёку, із усходу

### *Заклятая кветка*

*«Наша ніва», 1909, № 26, 25 чэрв.:*

2 Падбліжыцца з ночкай сваей,
6 Зусюль, куды б ні зірнуць,
12 Дзе дрэмле купальскі курган.

*Зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

2 Надбліжыцца з ночкай сваей.

### *Забытая скрыпка*

*«Наша ніва», 1909, № 30, 23 ліп.:*

12 Страшна даткнуціся струн.
17 Шоў падарожны тэй вёскай,
19 Шоў і ў хаціну праз слёзку
96 Хатка пустая была...

*«Наша ніва», 1909, № 30, 23 ліп.; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

91 Эха пад неба няслося.
93 Чуюць музыку суседзі —

*«Наша ніва», 1909, № 30, 23 ліп.; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

5 Колькі шло лет за лятамі,
6 Колькі шло, сходзіла сіл! —
7 Скрыпка драмала. Слаямі
49 Слаўся, святая дабыча!
67 У думкі жывіне ўсей гляну,
68 Буду ўсей пушчай трасці

*Явар*

*«Наша ніва», 1909, № 40, 1 кастр.; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

20 Помне явара жалейка.

*Зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935:*

19 Ці та соладка, ці горка —

*Жальцеся, грайкія струны...*

*Аўтограф:*

26 Скаржыцца лірнік адзін...

*Зб. «Гусляр», 1910:*

21 Сцежку хутчэй ідэалу!

*Дзяўчынка і вянок*

*Чарнавы аўтограф:*

I

1 а Сонца светла паглядала
б Сонца ўтульна паглядала
7 а Колькі радасці б'е з вочак
б Радасць б'ецца з яе вочак
в *Як у аснойным тэксце*
8 а Цуд-дзяўчынка, кветкі, сонца...
б Так прыгожа, кветкі, сонца...
в *Як у аснойным тэксце*
10 а Аднэй кветкі не хваціла
б Клопат дзеўчынцы гатовы...
в Дый аднэй не стала кветкі
г Не хваціла аднэй кветкі
12 а З нім пэўне клопат гэткі
б З нім і клопат гэткі
в Глядзі — клопат гэткі
г Малады прыгожы гэткі
д Хлопец стройны слаўны гэткі

14 а Кветкі ў зельнай сенажаці
б *Як у асноўным тэксце*
15 а Толькі ўніз не паглядаюць
б Толькі дзе найці не знаюць
16 а Рады ў вочы заглядаці
б *Як у асноўным тэксце*
18 а Паглядала сонца міла
б Сонца з імі ўслед хадзіла
20 а Ўзяла з хлопцам ды згубіла
б У траве густой згубіла

## II

1—3 Птушкі пелі на ўсе тоны
Сонца грэла паглядала
Ля дубровы ля зялёнай
4 а Раз дзяўчынка кветкі рвала
б Кветкі дзеўчынка зрывала
5 а І пляла сабе вяночак
б *Як у асноўным тэксце*
6 а Прымерала да галоўкі
б Прымерала іх к галоўцы
8—9 Дабірала к песні слоўцы
Быў ужо вянок гатовы
10 а З розных кветак і розных красак
б Клопат бедненькай гэт...
в Мала толькі адной кветкі
13 Кветак многа ў сенажаці
14 а Аднэй мала крыйся Божэ
б Аднэй мала мой ты Божэ
15 а І давай яе шукаці
б Дай дзяўчынка пашукаці
16 а Ды ніяк найсці не можа
б Ды найсці ніяк не можа
25—26 Бач прапаў вянок гатовы
Ужо хлопец за ўсе кветкі

## III

1 а Кветкі раз дзяўчынка рвала
б Раз дзяўчынка кветкі рвала
2 На зялёнай сенажаці
3 а Ў валасы свае ўбірала
б І галоўку убірала

IV

1а На зялёнай сенажаці
б Ля зялёнай ля дуброўкі
2 Раз дзяўчынка кветкі рвала
3а Птушкі пелі над галоўкай
б Птушкі пелі на ўсе тоны
4 Сонца грэла прыпякала

*Пасля 4-га радка:*

Ну дзяўчаткі і вы хлопцы.

*Белавы аўтограф:*

1 Сонца ўтульна паглядало;
10 Не хваціла аднэй кветкі...
12а Хлопец стройны гэткі
б *Як у асноўным тэксце*
15 Толькі дзе найці — не знаюць...

*Зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

1 Сонца ўтульна паглядала,

*Зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

10 Не хватала аднэй кветкі...

## *Ігнат і п'яўкі*

*Аўтограф:*

1а Шмат лет
б *Як у асноўным тэксце*
10 К сваей кавёле рад не рад
11а Трох п'явак знадзіў наш Ігнат
б Трох п'явак знадзіў Ігнат.
12а Як тыя смокчуць, як мага
б Прыпалі, смокчуць, як мага
13 Аж гнецца, корчыцца нага

*Пасля 13:*

[Плаці,] гішэфт не пераліўка
Прабуе п'яўку каля шыйкі
А тыя каб дбалі
а Трымаюцца, як клешчы
б Як клешчыны прыпалі
Тады спрабуй разгаварыцца
«Ну годзе, кажа, кінь це ўжо, сястрыцы,
І смех і грэх скажу я,
Смактаць так кроў чужую».
А п'яўка кожная ў той раз
Такі дала яму адказ:
«Мае суседкі вінаваты»,—
Сказала першая Ігнату,

«Не я, а тыя дзве крывёй
Кормяцца тваёй»,—
Пачуў ён ад другой.
. . . . . . . . . . . . . .
Я толькі так [нрзб]

*«Наша ніва», 1909, № 30, 13 жн.:*

42 І смагла-смагла пацягнула...

*«Наша ніва», 1909, № 33, 13 жн.; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

20 Ці ж мала вам сваей вадзіцы? —
*Апекунам*

*Аўтограф:*

4 а І не дае ж вам спаць відаць.
б *Як у асноўным тэксце*
6 а Вось по своему «во всю»
б Як по своему «во всю»
7 Далі прымер — пазнаць на дзеле
10 а Мае пагубныя шмялькі.
б *Як у асноўным тэксце*
12 а Туды ідзеце скуль прыйшлі
б *Як у асноўным тэксце*
13—14 Падлыжнікі ў змяінай шаце
Узятак верныя сыны
16 Якія плёў сто лет назад
17 а Спаганіць хоч[а]це вы мову
б Вы насмяхаецесь над мо[вай]
в Вы песню...
18 а Якой вякі [нрзб]
б Якой сталецця не змаглі
в Якой сталецця [нрзб]
г *Як у асноўным тэксце*

*Пасля 18:*

Як быццам з дружбы да яго.
21 а Я веру што жывога слова
б Паверым што жывога слова
в Што не паняць вам мовы нашай
22 а Я веру нават без прымус
б *Як у асноўным тэксце*
23 а А толькі ў воўчу вашу дружбу
б А толькі ў воўчу дружбу вашу
в Но ў дружбу вашую панове
24 а Не веру я
б *Як у асноўным тэксце*

*Радкі 25—28 маюць тры варыянты:*

I

25 а Як мухі збегшыся на соты..
б Як мухі ласыя на соты.
26 Прыйшлі сюды ў гадзіну бед
27 а Не ўспелі ста...
б І сталі дружна да работы
в *Як у асноўным тэксце*
28 а Крукам гатовячы абед
б *Як у асноўным тэксце*

II

25 Рукой народнага няшчасця,
26 Загнаныя ў гадзіну бед,
27 а Дзе станьце носіце напасці
б Няслі і носіце напасці,
в Няслі...
г Нясе...
28 Крывёй змываючы свой след.

III

25 Рукой народнага няшчасця
26 а Сюды загнаныя не ў час
б Загнаныя ў гадзіну бед
в У гадзіну
27 а Няслі нясеце ім напасцей
б Нясеце ім напасцей
28 а Ідзе пракляцце з вамі ўслед
б Кляцьба ідзе за вамі ўслед
в Ішло ідзе пракляцце ўслед.

*Паміж 30—31:*

Народ жывіці цемнатою
Вада на вашыя млыны.

*Радкі 30—31 маюць два варыянты:*

I

30 а Рука нагайкі і штыка
б *Як у асноўным тэксце*
31 Вы цэлы край прадаць гатовы

II

30 Прыслужнікі штыхоў, нагаек
31 Цямніц і віселень сяўцы

36 а Каб вам карысны звон гудзеў
б *Як у асноўным тэксце*
37 а Не вам, не вам згасіці тое
б *Як у асноўным тэксце*
38 а Само жыццё што распаліла
б *Як у асноўным тэксце*
39 Хто сілен у праўдзе возьме верх нязв[одна]
40 а Не вам змяніці сонца ход.
б Такі ўжо вечны сонца ход.

*Вісельнік*

*Аўтограф:*
2 Свет спавіла непрагляднаю сеткай;
35 Згінуў не то ўжо саўсім каб скацінаю —
37 а Сотні раз хмарамі неба усцелецца,
б *Як у асноўным тэксце*

*Аўтограф; «Наша ніва», 1909, № 37, 10 верас.; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*
16 выхад з туманаў находзіць разблысны:
18 Віхры і ночы на бой вызывала...

*Аўтограф; «Наша ніва», 1909, № 37, 10 верас.; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*
24 Слаўнаю станешся — толькі паслухай!
35 Згінуў не то каб саўсім ужо скацінаю —

*«Наша ніва», 1909, № 37, 10 верас.:*
6 Б'юць у такт віхравы кожнай галінай,
20 Далей змагацца моцы не стала [лацінкай].
20 Далей змагаціся моцы не стала [кірыліцай].

*Было гэта...*

*Аўтограф:*
3 На лагу на зялёным
4 Шчасна грала жалейка
7 Хмары дзіка стагналі
8 а Галасіла жалейка
б *Як у асноўным тэксце*
14 Мёрз замёрз верабейка

*Аўтограф; зб. «Гусляр», 1910:*
15 Легла ў снежныя гурбы

*Брату*

*Аўтограф; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*
9 Гэта поле, на каторым

*Аўтограф (1); зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*
13 Запытайся сваей долі.

*Аўтограф (2):*

7 Гэту сошку, гэту коску,
9 Гэта поле, на каторым
13 а Пытай пана, пытай чына,
б Свайго пана, свайго чына,
в Спытай рванай кажурыны.
14 а Дзюрак, лат
б *Як у асноўным тэксце*
16 а Хто мы, брат?
б *Як у асноўным тэксце*

*Палац*

*Чарнавы аўтограф (1):*

1 а Шумна шумяць векавыя таполі;
б Стогнуць, шасцяць неўгамонна таполі;
в Толькі шасцяць неўгамонна таполі;
г Стогнуць пад мурам адвечным таполі;
д Стогнуць, шумяць векавыя таполі
2 а Лес гаманіць не баіцца;
б Крыліцца ў вецці начніца;
5 а Плаваюць хмар нежывыя валокны;
б Плаваюць хмар дажджавыя валокны;
в Сцелюцца мжачкай [нрзб]
Сцелюцца мжакі [нрзб]
6 а Вечар туманен, трывожан;
б *Як у асноўным тэксце*
7 а Белыя сцены, высокія окны,
б Бледныя бачны высокія окны,
в Мгліцца будоўля высокія окны
г *Як у асноўным тэксце*
8 а Ганак слупамі ўпрыгожан
б Повен кут ценямі кожын
в Ценямі ўвесь мур абложан
9 а Высакі дужы палацавы сцены
б *Як у асноўным тэксце*
10 а Мур з недаступнай страхою
б Сталі слупы чарадою
12 а Обшар садоў век настроіў
б *Як у асноўным тэксце*
13 а Змеркла замглелі як блудныя огні
б Ночка замглелі як блудныя огні
в Сцішна, замглелі, як блудныя вогні
г *Як у асноўным тэксце*
15 а Гучна ў палацы, раздольна сягоння,

б Гучна ў палацы, разгульна сягоння.
в Ярка ў палацы, раздольна сягоння,
г Ярка ў палацы, разгульна сягоння,
д *Як у асноўным тэксце*
16 а Музыка льецца і віны.
б *Як у асноўным тэксце*
17—19 Шыбы зяхочуць разблыскам няўхватным,
Кружацца пары, лятаюць;
Душы да хвалы ўсябратняй няздатны,
20 а Віхраў нягоды не чуюць.
б Оклікаў смутку не знаюць.
26 а Ўсё спіць палацнае ройма,
б Уснулі пакоі ўсе ройма,
28 Зноў замігцелі па-свойму,

*Чарнавы аўтограф (2):*

1 Шумна шумяць векавыя таполі;
2 а Хмара шумець не баіцца;
б Ветка шумець не баіцца;
в Лес гаманіць не баіцца;
г Гукне сава
5 а Плаваюць хмарак сівыя валокны;
6 б Плаваюць хмарак жывыя валокны;
6—9 Вечар панур і трывожан;
Белыя сцены, высокія окны,
Ганак слупамі ўпрыгожан!
Высакі дужы палацавы сцены,
10 а Мур недаступны з бляшанай страхою;
б Мур з недаступнай страхою;
12 а Дзеравы сад пазрыстроіў
б Ограм век саду настроіў
в Ограм садоў век настроіў
13 Змеркла. Зардзелі як блудныя огні
15 а Гучна ў палацы; гучна сягоння,
б Гучна ў палацы, раздольна сягоння,
16 Музыка льецца і віны
17 а Шыбы зяхочуць разблыскам неўхватным
б Шыбы зіхцяць разблыскам неўхватным
18 Кружацца пары лятаюць
19 а Душы да бітвы ўсебратняй няздатны
б Душы да хвалы ўсебратняй няздатны
20 Віхраў нягоды не чуюць
25 Неўглядзь падбегла за поўнач часіна
26 Ўсё спіць палацнае ройма
28 Зноў замігцелі па-свойму.

### *Курганы*

*Аўтограф:*

1 а Як на целе болькі-раны,
б Як хмураны так туманы,
9 а Хто туды загляне толькі,
б Хто калі туды не глянуў,
10 Хто чапне іх сны,—
11 а Як на целе раны-болькі,
б Як хмураны, як туманы,
12 а З'яюць курганы.
б *Як у асноўным тэксце*
17 Дзівам дзівяцца з праяваў

### *Чорны Бог*

*Аўтограф:*

5 Вызваў пошасці, вадніцы,
23 а Рог зубрыны не заняўся,
б *Як у асноўным тэксце*
24 а Белапушчны рог!
б *Як у асноўным тэксце*

### *Як я полем іду...*

*«Наша ніва», 1909, № 41, 8 кастр.:*

8 Траўка сцелецца ў ног, як я полем іду. [лацінкай]
14 Бледны смутак падходзіць — прыносіць нуду; [кірыліцай]
14 Бледны смутак падходзе — прыносіць нуду; [лацінкай]

*Зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

6 Асыпае з сябе жыўчых росак ваду;

### *З кірмашу*

*Аўтограф:*

19—20 І ў лес паплёўся,
Ані агляну ўся.
28 а Пачым хунцік ліха!
б *Як у асноўным тэксце*
35 Ляжам пад паветкай —

### *Прад світаннем*

*Чарнавы аўтограф:*

1 а Гляньце: бачце, штось варушыцца,
б У магіле штось варушыцца,
2 Штосьці (нешта) крыкнуць хочацца,
3 Перажытасць

4 а Новае шапоча;
б Аднова шапоча;
в *Як у асноўным тэксце*
5 а Сонца з ночкай расшлюбілася;
б Сонца з ночкай расшлюбляецца;
в *Як у асноўным тэксце*
7 а Вунь, вунь штось зазелянілася;
б Даль за хатай аквячаецца;
в *Як у асноўным тэксце*
9 а Задрыжэлі цемры пошасці,
б *Як у асноўным тэксце*
10 а Прынямелі совы,
б *Як у асноўным тэксце*
11 а Раскаваліся з паношасцяй
б *Як у асноўным тэксце*
13 Курганы, крыжы ўзрасліся
14 а Нейкай жудаснай расой.
б Цёплай выбаўчай
15 а Паставеі раскасіліся
б І па свеце расплываюцца
16 а Аржавелаю касой
б Неадточанай касой.
в *Як у асноўным тэксце*

### *Ноч за ночкай...*

*Аўтограф:*
5 І урок, і залом абнімае крылом,
6 Беспрасветным крылом спавівае:
11—12 Змей дабро цягне з гумн, покі крыкне пявун,
Покі поўнач не зробе прагляду.
13—16 Неба свой нямы сход: месяц, зор караход
Надзямлю то выводзе то зводзе;
Спіць сяло, дрэмле кот, вецер сціснецца ў плот.
Як на дудках, у шпэпках выводзе.
17 Ноч за ночкай ідзе, сцішна тайна брыдзе,

### *З мінуўшых дзён*

*Аўтограф:*
18 Палачан, Мінчан

### *Паліліся мае слёзы*

*Аўтограф:*
12 На ўсё, што было і будзе.

*Снег*

*«Наша ніва», 1909, № 49, 3 снеж.:*

15 Так спавіў, спутаў сам, [лацінкай]

*Песня званара*

*Аўтограф; «Першы беларускі каляндар» «Нашае нівы» на 1910 г.»; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

7 Як пушчу яго ўход, сазаву харавод,

*«Першы беларускі каляндар» «Нашае нівы» на 1910 г.»:*

20 Тым усім, што цярпяць і цярпелі.

*Зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

5 І завешу я звон, са ўсіх чутны старон —

*Песня жнеяў*

*Чарнавы аўтограф:*

10 Потам мужыцкім, крывёй і слязой.
19 Скора мы, жнейкі, шнурок свой сажнём,
21 Гойна заплацяць нам там медзяком,
26 Песню спяём мы ўсе пану ўпадрад:
28 *а* Крыўдай чужою будзь сыт і багат.
*б* Працай чужою будзь сыт і багат.

*«Я не плачу над братняй магілай...»*

*«Полымя», 1930, № 5—6:*

4 Я ўжо ажыўся з сваею нядоляй.

*Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу з Новым 1910 годам*

*Зб. «Гусляр», 1910:*

26 Вольны, ясны льецца свет.
39 Толькі будзе слава ў людзей,
41 А хтось гікне дзіка, рыкне
43 Гэта стоны гадзін чорных.

*Песня сонцу*

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы:*

8 Вісяь, сонца, уюном па зямлі.

*Воўк*

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы:*

10 Як бы на суд таго зваў,

*Мой пагляд і мэта*

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

68 Пакупкі ж дык не прызнаю...

*Явар і каліна*

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы:*

9 Захадам мольбы пакорныя

*Брату ў чужыне*

*Чарнавы аўтограф:*

1 а Ці помніш ты, к свайму нядбалы
б *Як у асноўным тэксце*
3 а Дзе над калыскай напявала
б Спякоту лета зімкі стужу
в *Як у асноўным тэксце*
4 а Матуля з шумамі бяроз
б Красу зямлі світ нябёс
в Дзе рдзіцца лета срэбрам рос
11 Адкуль паплёўся на свет той белы,
13 а Ці помніш поле сенажаць,
б Нямыя поле сенажаць
14 а Рукамі кратаны сялян
б Лазой аздоблены дзірван
15 Магілкі дзе твае спяць брацця

*Паміж 16—17:*

а Ці помніш лес той гутарлівы
б І пушчу, лес той гутарлівы
Якога шумы у даль плывуць
а Рачулак плюскат сарамлівы
б І рэчак плюскат сарамлівы
а Што шэпты з вольхамі нясуць
б Што шэпты з вольхамі вядуць.
17—18 Ці помніш ты калі часамі
Сваю хаціну свой лясок
20 Селамі крыўляны набок.
21 а Ці помніш ты гасцінец біты
б *Як у асноўным тэксце*
22 Бяроз плакучых сумны рад
23 Крыж для дарогі ў мох пакрыты
24 [нрзб]
28 У думках рой снула надзей
30 Няхітры слоў радзімых твор
31 а Якім зліваецца звон вежаў
б *Як у асноўным тэксце*
32 а А слухаў мрок ды цёмны бор
б А голас — шумам лове бор
33 Ці помніш як гуляў па нівам

35а Як спатыкаў праводкі ў вырай
б *Як у асноўным тэксце*
36а Палёты буслаў жураваў
б *Як у асноўным тэксце*
37 Ці помніш ты шнурок свой вузкі
38а Убор адвечны ўздумны
б Убор абычай прастаты
в *Як у асноўным тэксце*
39а Край ціхі змірны беларускі
б Край беларускі змірны сумны.

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы:*

2 Усё тое, дзе урадзіўся, ўзрос?

*Мая дзяўчынка*

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы; «Наша ніва», 1910, № 28, 8 ліп.:*

13 Цвет-лілія із крыніцы —

*На Купалле*

*«Наша ніва», 1910, № 26, 24 чэрв.; карэктура № 1 зб. «Шляхам жыцця»; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

13 Як із зелля глянуць кветкі,—
15 Будзем, маці, меці ў хаце

*Над Іматрай*

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы; «Наша ніва», 1910, № 30, 22 ліп.:*

12 Адна адну схваце, піргне.
14 Там скруціцца, знімецца клубам, дугой.
21 Другія іх зменяць і пеняцца ў зломе,

*Паляўнічы і пара галубкоў*

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы; «Наша ніва», 1912, № 37, 13 верас.:*

6 Было заняцце — паляванне;
10 Са хцівасцю у змове,—
13—14 Пануе там, як у сваім за хатай агародзе,
42 Лес хата ужо ім быў не хатай...
54 Але ўжо вечар быў на свеце;
58 (Дамоў ісці і цёмна і нялёгка;)
79 Сядзіць прамокшы на ім ён
97 З падругай мілай і лес,
102 І сэрца радасцяю б'еццa,—
114 Ён змёрз, і есці пэўне хоча,—

118 Ад радасці як не заплача.
122 Галуб рад помачы ў прыгодзе:
125 Сухія веткі і лісткі
128 Развёў і зноў гасця пытае.
164 Навек адпала і ахвота.
173 Ўсю ж гэту повесць знаем мы

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы; карэктура № 1 зб. «Шляхам жыцця»:*

4 А галубках і паляўнічым.
26 Знімае так ахвяры з веткі,
130 «Дай есць, галодзен я сягоння».

*Карэктура № 1 зб. «Шляхам жыцця»; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

142 Тры разы звольна акруціўся

*Жніво*

(«Наспелая постаць шчаслівых пасеваў...»)

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы:*

8 Пад вечна старыя жніўныя напевы.

*Грабар*

*Сшытак № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы:*

16 Не дажджэ гэтак бацьку і сын.

*Сшытак № 2, Б. І. Эпімах-Шыпілы; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»:*

6 Астаноўкі не знае грабар;

*Сшытак № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

8 Сам з лапатай сваёй — гаспадар.
26 Як на варце, з лапатаю стой;
27 Пахаваў, насып даў аднаму небарачніку,—

*Сшытак № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

30 Вось тады бы аддуха была!

*Сэрца спытай...*

*Сшытак № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы:*

8 І насып забыты чапні;
19 У нас толькі паны і іх слугі,

*«Наша ніва», 1910, № 52, 23 снеж.; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»:*

4 І ў шумы паводак вясной;

*Гэй, капайце, далакопы...*

*Сшытак № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

29 Сабірайцесь, ды не сніце

*«Наша ніва», 1911, № 4, 27 студз.:*

29 Сабірайцесь, дый не спіце —
30 Галасіце звонка,—

*Мая думка*

*Сшытак №2 Б. І. Эпімах-Шыпілы:*

3 Абыймецца з небам, пакурціцца ў мора,
7 Так ім закалоце, аж выклічэ песню...
12 Дай зноў і ў свет за сонцам, за новай зарой!
20 Людскога, забытага доляй, жыцця.

*Сшытак № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы; «Наша ніва», 1910, № 36, 2 верас.; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

5 І ўдарыцца ў сэрца так сумна, балесне,—

*Памяці Мар'і Канапніцкай*

*«Наша ніва», 1910, № 41, 7 кастр., рукапісны зб. «Шляхам жыцця», зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

9 Бо як песня твая ўсемагуча

*Памяці С. Палуяна*

*Машынапіс з архіва А. А. Карынфскага; фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта:*

2 Якія далі адкрываем?

*Зб. «Гусляр» (1910); Зб. тв., 1925, т. І; Зб. тв., 1928, т. І; Зб. тв., 1952, т. ІІ; Зб. тв., 1961, т. ІІ; Зб. тв., 1973, т. ІІ:*

6 З сваім век стогнучым народам?
53 Сышоў ваяк за долю, славу і народ,

*Дудар*

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы:*

1 На кургане, як на печы,

*«Наша ніва», 1910, № 40, 30 верас.:*

37 Як даўно у нас не йгралі,

*Мой край*

*Наша ніва», 1910, № 44—45, 5 лістап.:*

16 На вечным кургане магільным.

*Сельскія могілкі*

*«Наша ніва», 1910, № 46, 11 лістап.:*

9 Жывыя душы успамінаюць

*«Наша ніва», 1910, № 46, 11 лістап.; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

10 Сваёй успаўшайся радні,

*Памяці Вінцука Марцінкевіча*

*«Наша ніва», 1910, № 48, 25 лістап.; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

14 Так сівер звадзіў нас і страшыў,

*Роднае слова*

(«Пад навалай крыўдаў многія сталецці...»)

*«Наша ніва», 1910, № 51, 16 снеж.:*

30 Як у думках сонных цябе гадавалі,

*«Наша ніва», 1910, № 51, 16 снеж.; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*

46 Беларус упіша на старонцы чыстай

*Не спадзейся...*

*Аўтограф:*

15 а Крыўда-попел незмянліва<br>
б *Як у асноўным тэксце*

*Ён і яна*

*Рукапісны зб. «Шляхам жыцця»:*

16 Было завідна так.<br>
39 Ён быў Стражнік-нябожа,<br>
40 А Нагайка — яна.

*Запушчаны палац*

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»:*

13 І зубы шчэрыць: «Моц мая і права тут!»

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

10 Ля сцен цянюе забабон із лета ў лета:

*Рукапісны зб. «Шляхам жыцця»:*

1 а Твой кволы уладар, забыўшыся навук<br>
б *Як у асноўным тэксце*

*«Каб я меў загончык нівы...»*

*Аўтограф:*

3 З каласкоў бы Вам звіў людзі<br>
7 Назбіраў бы вам букецік<br>
8 Незабудкаў, браткаў.<br>
9 Каб я меў сваю хацінку.

*Па дарозе*

*Аўтограф:*

3—5 Із цэглы халоднай<br>
Сцяна і скляпенні<br>
а Вясковыя хаткі

б *Як у асноўным тэксце*
7—8 Мураўка і кветка
Кладзецца пад ногі
10 З вакон пазіраюць,
12—16 Душу вынімаюць
Абшырнае неба
Ўспаханае поле.
Цырыканне птушак
Прастор і раздолле

*Лясная царэўна*

*Аўтограф:*
5 Твар мела праменны, як неба узор,
б *Як у асноўным тэксце*
27 а Я тут, як сіротка, паную ў глушы
б *Як у асноўным тэксце*
31 Адно гутараць аб зіме і вясне
33 К кароне маёй ўсё чагось не стае...
35 а Мой голас што досвіта птушкай пяе
б *Як у асноўным тэксце*
40 а Рукамі каго павяду у пасцель
б Рукамі каго прытулю у пасцель
в *Як у асноўным тэксце*
52 а Аб тваім сонцу роўным святым хараству
б *Як у асноўным тэксце*
53 Улетку ўбіраю ў зелень галін,
61 Я чую — ўжо гоман у сонным сяле
б *Як у асноўным тэксце*
62 а Ужо точаць там людзі сякеры свае
б *Як у асноўным тэксце*

*Пасля 72:*
▪ Што пела лясная царыца і лес
▪ Што пела лясная царэўна і лес
Пад сіняй аслонай высокіх нябес.

*Зб. тв., 1932, т. VI; Зб. тв., 1952, т. II:*
44 Люблю і малюся, як бачу, табе!

*Беларус*

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы:*
1 Сеў, як крыж той, на расстаі

*Лес*

*Аўтограф; машынапіс; зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935:*
10 На ветцы птушка там трасецца,

*Няпоўны аўтограф:*

6 Шмат пераняць там чаго можна
12 Як дзе з кумой кума на рэчцы

*«Я нясу вам дар...»*

*Зб. «Гусляр», 1910:*

3—4 Шумных сосен і ліп,
Божы дар, сэрца жар.
16 Там дзе Неман, Прыпяць, Буг

*Гусляр*

*Машынапіс з архіва А. А. Карынфскага:*

19[illegible] *Як у асноўным тэксце*
б Свет, зямлі абшар

*Шчаслівасць*

*Зб. «Гусляр», 1910:*

6 Лётаў бы гыжа над светам,

*Машынапіс з архіва А. А. Карынфскага; фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта:*

6 Лётаў бы гыжа над светам,
16 Вецер бы ўтурыў у доле.
20 Зоры памінкі спраўлялі.

*Зб. «Гусляр», 1910; Зб. тв., 1925, т. I; Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1952, т. II; Зб. тв., 1961, т. II; Зб. тв., 1973, т. II:*

26 Цёмнай не дайцеся сіле,
28 Дайце мне сонца і крылле!

*З песень жыцця*

(«Нарадзіўся на долю-нядолю...»)

*Аўтограф:*

11 Бацька бацькаўску даў перасцярогу;
3[illegible] У дамавіну, у магілу навекі

*Зб. «Гусляр», 1910:*

11 Бацька бацькаўску даў перастрогу;

*Сядзь тут, пад крыжам...*

*Машынапіс з архіва А. А. Карынфскага:*

6 І не нашоў ты друга нідзе,
15 Ќ дальшай сабраў бы дарозе,
19а Тут як спачнеш з бурлівай душой
б Тут як спачнеш бурлівай душой,

*Фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта:*
19 а *Як у асноўным тэксце*
б Тут як спачнеш бурлівай душой.

*Зб. тв., 1925, т. I; Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I; Зб. тв., 1952, т. II; Зб. тв., 1961, т. II; Зб. тв., 1973, т. II: Загаловак: Сядзь тут, на ўзмежку...*
1 Сядзь тут, на ўзмежку, сядзь аддыхні
18 Сядзь тут, на ўзмежку, браце ты мой!

*А як нам зоры загаснуць...*

*Машынапіс з архіва А. А. Карынфскага і фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта:*
29 Новыя ўздзенуць нам кіры;

*Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?*

*Машынапіс з архіва А. А. Карынфскага; фотакопія машынапісу з архіва Л. Клейнбарта; зб. «Гусляр», 1910; Зб. тв., 1925, т. I; Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв., 1935, т. I;*
25 Сэрца поўнае трывогі
26 Жальма жаліцца бясконца;

*Думка*

(«Нудна ў думках Тамаша...»)

*Зб. тв., 1925, т. I; Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1952, т. II; Зб. тв., 1961, т. II; Зб. тв., 1973, т. II:*
*Радкі 17—20:*
І сказаў бы ўсё усім
Аб нябеснай долі,
Аб вялікім шчасці ў ім,
Аб вялікай волі.— адсутнічаюць

*З песень аб мужыцкай долі*

(«Чый шнур вузак, убог...»)

*Аўтограф:*
2 а Не даспеў, не засох;
б *Як у асноўным тэксце*
18 а Скубе са ўсіх старон
б *Як у выпраўленым тэксце.*

*Зб. «Гусляр», 1910; Зб. тв., 1925, т. I; Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; Зб. тв., 1952, т. II:*
17 Каго бедаў прыгон
18 З усіх мучыць старон,

*Бяседа*

*Машынапіс з архіва А. А. Карынфскага і фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта:*

8 На кожын брат —
31 Нуце ж, да чарак, да дальшай гульні!

*З гора ды з бяды*

*Зб. «Гусляр», 1910:*

18 У крыўду бы не даў,

*Песня-казка*

*Зб. «Гусляр», 1910:*

12 Ні багацтваў, ні славы няма.
30 За дабычай, за жданнай лятуць,—
32 У палац яе пекны бягуць,

*Песня*

(«Па зімовай па дарожцы...»)

*Зб. тв., 1925, т. І; Зб. тв., 1928, т. І; Выбр. тв., 1935, т. І; Зб. тв., 1952, т. ІІ; Зб. тв., 1961, т. ІІ; Зб. тв., 1973, т. ІІ:*

24 Скажы, дружа мой.

*Пакахай мяне, дзяўчынка...*

*Аўтограф; зб. «Гусляр», 1910:*

5 Без вадзіцы бы ніколі
23 Не зазнаеш ты са мною
25 а Жыццё будзе рожай слацца
6 *Як у асноўным тэксце*
27 Гэй, у долі ты ў гэткай
32 Сэрца успакой!

*Зб. «Гусляр», 1910:*

20 Люд праўдай яснець

*Зб. тв., 1925, т. І; Зб. тв., 1928, т. І; Выбр. тв., 1935, т. І; Зб. тв., 1952, т. ІІ:*

21 Атачу сябе з душою

*Песня*

(«Бяжыць шыбка ручаінка...»)

*Зб. «Гусляр», 1910:*

20 У хацінцы маей

*Вясенняя раніца*

*Зб. «Гусляр», 1910:*

21—22 Праснуліся вёскі,

Дым з коміна вале;
33 Усё йграе, ўзывае

*Пятровы час*

*Аўтограф:*
21 а За гультайства кепска будзе,—
6 *Як у асноўным тэксце*

*Аўтограф, зб. «Гусляр», 1910; Зб. тв., 1925, т. I; Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV:*
3 Прэ ў палі, лугі ўсё чыста,

*Лета*

(«Лета ты, лета прыгожа-квяцістае...»)

*Аўтограф:*
10 Сонца прыветліва свеціць з нябёс;

*Аўтограф; машынапіс з архіва А. А. Карынфскага; фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта; зб. «Гусляр», 1910:*
11 Эх каб здаецца шчасце да гэтага

*Кат*

*Аўтограф:*
14 а На усходцы кабету вядзе;
6 *Як у асноўным тэксце*
21 а Ахвяра зляцела з усходаў,
6 *Як у асноўным тэксце*
29—32 Сын зняты. Йдзі, маці, нанова
Мінута ў паветры вісіць
Зноў вісельня к дзелу гатова,
Пятля на пярэчцы вісіць.

*Машынапіс з архіва А. А. Карынфскага; фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта; зб. «Гусляр», 1910:*
1 І неба цямнейшае сажы,
9 Вяровачкай вецер махае,
10 Варушыць асінка зямлю,
25 Балтаецца труп на вяроўцы;

*Зазімак*

*Аўтограф; зб. «Гусляр», 1910:*
2 На крыжы на peравалы
9 Ані песні, ані стону...

*Замкавая гара*

*Зб. «Гусляр», 1910:*
12 За дружынаю

*Кругаварот*

*Зб. тв., 1940, т. IV; Зб. тв., 1961, т. II; Зб. тв., 1973, т. II:*

21–24 Нязнанай сілай правіць светам
Пачатак, бытнасць і канец;
Народ таўпехаецца ў гэтым,
Як стада зблуканых авец.—

*адсутнічаюць.*

*Мая хата з краю*

*Зб. «Гусляр», 1910:*

10 Другі гніе ў латах,

*«Збудзіўся лес, азваўся лес...»*

*Рукапісны зб. «Шляхам жыцця»:*

7 А сонных хат, дзе свой, дзе брат,

*Варажбітка*

*Аўтограф № 1:*

4 а Вывараж мне маю долю.
б *Як у асноўным тэксце*
47 а Усніць песняй твае дзеткі
б *Як у асноўным тэксце*

*Аўтографы № 1, 2; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»:*

12 Што бурліць так па каменнях.
14 З той вясёлкі мнагацветнай
25 Ой, будзеш ты, будзеш панам,
29 Бачан будзеш ты ў чырвені,
52 А ў гару — аж зор хватае.
53 Па ёй будуць цябе весці.

*Аўтографы № 1, 2; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»; карэктуры зборніка № 1, 2; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

40 Ой, возьмеш ты шлюб з бядою.

*Доля*

*Аўтограф; «Наша ніва», 1908, № 21, 9(22) кастр.; карэктура № 1 зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

3 Пойду клікаць лепшай долі
9 Дарма плачу, прызываю
11 Вецер словы адбівае,—
12 Доля не пачуе...
16 Па шчасці тужыці.

### *Песняру*

*Аўтограф:*

1 Эй, годзе ўжо песень маркотных, пясняр!
3 Вясёлым, прытульным, як сонейка жар,
5 Каб бліснулі іскры ў прытухлых вачах
9 Каб полымя праўды хлынула з грудзей,
10 Што ў думках із давен гадуем

### *У свет*

*Аўтограф № 2:*

1, 25 О, зямелька загонік мой чорны
16 А ў самой яе дрэмлюць зярняткі

### *Гасцінец*

*Аўтограф:*

1 Біт — гасцінец даўно
6 Каго кінуці жаль,
18 Пад запорам ляжыць
27 а Проць заломных прыгод
б *Як у асноўным тэксце*
30 На нядоллі сваём,

### *Родны дом*

*Аўтограф:*

11 І ружы квет, што ў кальчуках
14 а Што гул сваіх сасон вярхоў,
б *Як у асноўным тэксце*
18 а Што сярод бур, пакутных хмар,
б *Як у асноўным тэксце*

### *Груган*

(«З па-над лесаў, з па-над хмараў...»)

*Асобны аўтограф:*

4 а І дзяцей склікае.
б *Як у асноўным тэксце*
10 Адкуль прыбываеш?
20 а Сыпе наспы
б Сыпе насып
21 а На наспах на бядачых
б *Як у асноўным тэксце*

# КАМЕНТАРЫ[1]



У другі том Поўнага збору твораў Янкі Купалы ўключаны вершы і пераклады 1908—1910 гг., а таксама раздзел Dubia, у які ўваходзяць дзве рэдакцыі паэмы пра святога Андрэя Баболю. Упершыню тут друкуюцца творы, якія раней па шэрагу прычын у Зборы твораў не ўключаліся. Адны з іх публікаваліся пры жыцці паэта толькі ў газеце «Наша ніва» і часопісе «Полымя» — «Як не выйдуць чарнасотнікі», «За пасвяшчэнне, вершык харошы...», «Песняру», «Не каханак чарнавокіх...», другія ўключаліся ў прыжыццёвыя зборы твораў і не ўваходзілі ў пасмяротныя выданні: «Вялікдзень», «З мінуўшых дзён», «Любіць ён работу...», трэція наогул нідзе не друкаваліся і ў дадзеным выданні падаюцца па аўтографах — «Лямант пана Кавалюка», «Прыяцелі», «Нашы дэпутаты».

Творы ў томе размяшчаюцца паводле жанрава-храналагічнага прынцыпу.

За асноўны тэкст прыняты першы Збор твораў паэта (1925—1932), які ў большай ступені адпавядае аўтарскай волі.

Крыніцамі для вызначэння дакладнага аўтарскага тэксту і датыроўкі твораў з'яўляюцца:

1. Прыжыццёвыя выданні Збораў твораў і зборнікаў Янкі Купалы з творамі паэта перыяду 1908—1910 гг.:

*а)* Збор твораў, т. I («Жалейка», «Гусляр»). Мн., 1925; *б)* Збор твораў, т. I. Мн., 1928, 2-е выд.; *в)* Збор твораў, т. II («Шляхам жыцця»). Мн., 1926; *г)* Збор твораў, т. II. Мн., 1929, 2-е выд.; *д)* Збор твораў, т. V («Спадчына»). Мн., 1928; *е)* Збор твораў, т. VI. Мн., 1932; *ж)* Выбраныя творы, тт. I — II. Мн., 1935; *з)* Збор твораў, т. IV. Мн., 1940[1]; *і)* зборнік «Гусляр», выданне Грыневіча. Пецярбург, 1910 (у далейшым — «Гусляр», 1910); *к)* зборнік «Шляхам жыцця», выд. «Загляне сонца і ў наша аконца», Пецярбург, 1913 (у далейшым — «Шляхам жыцця», 1913); *л)* зборнік «Шляхам жыцця». Вільня, 1923 (2-е выд.); Вільня, 1935 (3-е выд.) (у далейшым — «Шляхам жыцця», 1923; 1935); *м)* зборнік «Спадчына», Беларускае кааперацыйна-выдавецкае таварыства «Адраджэнне». Мн., 1922 (у далейшым — «Спадчына», 1922).

Апрача таго, былі выкарыстаны аўтарытэтныя замежныя выданні

[1] У далейшым: Зб. тв., 1925, т. I; Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1926, т. II; Зб. тв., 1929, т. II; Зб. тв., 1928, т. V; Зб. тв., 1932, т. VI; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв., 1935, т. I, II.

твораў Янкі Купалы, у прыватнасці зборнік «Спадчына», 1955. Нью-Йорк — Мюнхен (у далейшым «Спадчына», 1955). У выпадках, калі верш не ўключаўся ў першы пасмяротны Збор твораў паэта, але публікаваўся ў зборніку «Спадчына», 1955, гэта агаворана ў каментарыях.

2. Перыядычныя выданні: газета «Наша ніва» (1908—1911 гг.); «Беларускія календары «Нашай нівы» на 1910, 1912, 1914 гг.; часопіс «Полымя» (1929, № 2, 3; 1930, № 5—6).

3. Матэрыялы Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы: *а)* асобныя аўтографы, шыфры якіх падаюцца ў каментарыях; *б)* рукапісны зборнік «Шляхам жыцця», падрыхтаваны паэтам для выдання ў 1913 г. (ф. А, воп. I, адз. зах. 118); *в)* карэктуры зборніка «Шляхам жыцця», 1913 (ф. А, воп. 1, адз. зах. 356); *г)* зборнік «Шляхам жыцця», 1913 г. з праўкамі паэта, зробленымі пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка (1923) (ф. А, воп. I, адз. зах. 357); *д)* машынапісныя сшыткі № 1, № 2 Б. I. Эпімах-Шыпілы з вершамі Я. Купалы 1910 г. (ф. А, воп. I, адз. зах. 14, 15); *е)* фотакопіі машынапісных тэкстаў вершаў Я. Купалы з архіва Л. М. Клейнбарта (ф. А, воп. I, адз. зах. 17-д); *ж)* машынапісы вершаў Я. Купалы з фонду А. А. Карынфскага (ф. А, воп. I, адз. зах. 364) з уласнаручнымі праўкамі і перакладамі на рускую мову асобных слоў.

Праца з рукапіснымі матэрыяламі і іх аналіз дала магчымасць удакладніць і канкрэтызаваць дату напісання некаторых твораў: «Вецер, і сокал, і я», «Наша мінуўшчына», «Лес», «Было гэта...», «Стужа збліжаецца» і інш.

Былі выпраўлены памылкі друку і недакладнасці, узноўлены асобныя словы, выразы, радкі, строфы паводле аўтарскай волі, якія раней па многіх прычынах друкаваліся ў скажоным выглядзе ці адсутнічалі наогул. Усе змены ў тэкстах агавораны ў каментарыях.

Раздзелы, паводле якіх Я. Купалам укладзены ўсе асобныя выданні зборніка «Шляхам жыцця», Збор твораў, 1926, т. II, Збор твораў, 1929, т. II, у томе не захоўваюцца. Прыналежнасць верша да таго ці іншага раздзела прыгаданага зборніка ўказваецца ў каментарыях.

## ВЕРШЫ[1]

### 1908

*Чаго хмурыцца?..* (с. 7)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 1, 4 студз., дзе надрукаваны без назвы. Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Верш напісаны пад уплывам паслярэвалюцыйных падзей 1905—1907 гг., якія вызначаюцца абвастрэннем сацыяльна-палітычнага становішча ў краіне.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 62). На ёй ёсць аўтарскія праўкі, якія носяць моўна-стылёвы характар. Найбольш істотнай з'яўляецца праўка 26 радка, дзе замест *Дзваняць енкамі* напісана *Звоняць жальбамі*. Гэтая замена сведчыць пра імкненне паэта да больш дакладнага выкарыстання слова, жаданне надаць радку ўзмоцненае эмацыянальнае гучанне, зрабіць выразнейшым паэтычны вобраз «жыцця людскага».

Назва «Чаго хмурыцца?..» дадзена Я. Купалам пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання. Ва ўсіх асобных выданнях зборніка і Зб. тв., 1926, т. II; Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I і Зб. тв., 1940, т. IV.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на украінскую — Р. Лубкіўскі.

*Хто ты гэткі?* (с. 8)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе датуецца 1908 г.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 3, 1 лют. Пад тэкстам: Янук Купала.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 185). Ва ўсіх яго асобных выданнях і Зб. тв., 1926, т. II; Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Наша вёска». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (ф. 7, воп. 7, спр. 82, л. 25) захоўваецца «Пратакол № 8 пасяджэння калегіі Галоўліта БССР» за 21 лістапада 1925 г. (выяўлены А. Шамякінай). У «Пратаколе...» запісана:

«Слухалі:

26 / Я. Купала «Шляхам жыцця».

Пастанавілі:

26 / Дазволіць друкаваць; да ніжэйпамянёных вершаў дадаць даты, калі гэтыя вершы напісаны:

1. «Выйдзі», стар. 15.
2. «Песня званара», стар. 17.
3. «Яшчэ прыйдзе вясна», стар. 19.
4. «Гора нядольнае», стар. 27.
5. «Прыстаў ■ жыць», стар. 30.
6. «Вялікдзень», стар. 50.

---

[1] Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі:
Вершы 1908—1909 гг.— *Голуб Т. С.*; Вершы 1910 г., раздзел 1906—1910 гг., пераклады — *Строева Т. Р.*; Раздзел Dubia — *Янушкевіч Я. Я.*

7. «Хрыстос васкрос», стар. 50.
8. «Навагоднія жаданні», стар. 51.
9. «Мая малітва», стар. 52.
10. «Чорны бог», стар. 74.
11. «Ворагам Беларушчыны», стар. 147.
12. «Хто ты гэткі?», стар. 133.
13. «Прыйшла восень», стар. 130.
14. «Песня жнеяў», стар. 126.
15. «Араты», стар. 122.
16. «За касой», стар. 125.
17. «Аб мужыцкай долі», стар. 114—121.
18. «З песень аб вясне», стар. 78.
19. «Ноч за ночкай», стар. 74.
20. «Развейся, туман...», стар. 42.
21. «На вялікім свеце», стар. 56.
22. «Па межах родных», стар. 57.

Увага: слова «бог» пісаць з малой літары».

Патрабаванні Галоўліта па датаванні твораў Я. Купала выконваў, відаць, па памяці, бо асобныя з іх пазначаны памылкова (гл. камент. да вершаў «Чорны Бог», «Вялікдзень», «З песень аб вясне» і інш.). Для калегіі даціроўка вершаў была неабходна як арыенцір у часе падзей, якія апаэтызаваны аўтарам.

У. Гніламёдаў адзначае, што твор «мае прамую сувязь з аднайменным вершам польскага паэта У. Бэлзы. Купала адрасуе беларусу пытанне: «Хто ты гэткі?» і атрымлівае адказ: «Свой, тутэйшы». (Янка Купала: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1986. С. 639.)[1]

Сваёй сутнасцю верш пераклікаецца з такімі творамі паэта, як «Тутэйшы», «Беларус», «Мой край», «Чаго нам трэба», «Над Нёманам», «Беларушчына».

Верш пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, на асецінскую — А. Пухаеў, на малдаўскую — А. Дарые, на англійскую — У. Мэй, на польскую — Б. Жыранік, Т. Хрусцялеўскі.

### *За праўду* (с. 9)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 4, 15 лют., дзе апублікаваны без назвы. Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 31). Ва ўсіх яго асобных выданнях і Зб. тв., 1926, т. II; Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Верш уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV. У зб. «Спадчына», 1955 пададзены ў раздзеле «Ужо днее». Пачынаючы са Зб. тв., 1961, т. II, друкуецца ў яго наступных пасмяротных выданнях.

Назва «За праўду» дадзена паэтам пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання. У гэты ж час Я. Купала ўнёс праўку ў 14 радок верша: замест слова *мовай* напісана *думкай*. Зробленая замена істотна паглыбіла сэнсавае гучанне радка, пашырыла межы выказанай аўтарам думкі.

Верш пераклалі: на рускую мову — Б. Лейцын, Б. Турганаў, на асецінскую — А. Пухаеў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на чувашскую — М. Уйп, на англійскую — У. Мэй, на кітайскую — Чжу Цзі.

А. Валынчык паклаў твор на музыку.

---

[1] У далейшым — ЭД.

*Аратаму* (с. 9)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 9, 25 крас. Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 168). Ва ўсіх яго асобных выданнях і Зб. тв., 1926, т. II; Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Наша вёска». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

Пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання паэт зрабіў праўку ў тэксце 12 радка верша: замест слова *саўсім* напісана *зусім*.

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, В. Шэфнер, на асецінскую — А. Пухаеў, на таджыкскую — М. Фархат, на нямецкую — І. Кальмэр, на кітайскую — Чжу Цзі, на венгерскую — А. Гідаш.

*«За пасвяшчэнне, вершык харошы...»* (с. 10)

Друкуецца па «Нашай ніве», 1908, № 9, 25 крас., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца сярэдзінай сакавіка — красавіком 1908 г. паводле публікацыі А. Паўловіча і адказам Я. Купалы (гл. ніжэй).

Твор адрасаваны беларускаму паэту-сатырыку і драматургу А.Паўловічу (1875—1951) і з'яўляецца адказам на публікацыю ягонага верша, прысвечанага Я. Купалу, які пад назвай «Каліво праўды» надрукаваны ў газеце «Наша ніва», 1908, № 6, 14 сак.:

«КАЛІВО ПРАЎДЫ»

*Пасвяшчаю Янку Купале*

Памалу, без спеху, пяхотай па ночы
Да веку *дваццатага* йшлі:
Гдзе обмацкам трохі, заплюшчыўшы вочы,
Гдзе бокам, гдзе ракам паўзлі.
Сяк, так валакліся, чакаючы долі
І лепшага шчасця ўпярод,
А ў жыццю сягоння, ні заўтра — ніколі
Злыднёў не пазбудзе народ!
Прыгледзьцеся, злыдзень як часта ў разладзе
Выгоды пільнуе сабе:
Прыкінуўшысь другам, на голаву ўсядзе
І ездзіць, як пан, на табе.

*Альбэрт Пав-ч.*

У рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 211), выразка з публікацыяй «За пасвяшчэнне, вершык харошы...» аўтарам закрэслена.

У 1910 г. Я. Купала прысвяціў А. Паўловічу яшчэ адзін верш — «Ноч на Івана Купалу». Неабходна адзначыць, што паэтаў ядналі сяброўскія адносіны. Яны сустракаліся сем'ямі, абменьваліся падарункамі. Шмат кніг з аўтографамі Я. Купалы было ў дочак А. Паўловіча — Яніны і Тамары. Малодшай дачцэ паэта Я. Купала прысвяціў верш, які назваў «Для Янінкі» (1911—1912).

У Зб. твораў Я. Купалы верш друкуецца пачынаючы з выдання; Зб. тв., 1961, т. II.

*Асёл і навука* (с. 11)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 10, 9 мая. Тэкст падпісаны крыптанімам І. Л.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 233). На тэксце публікацыі ёсць аўтарскія праўкі пераважна графіка-арфаграфічнага характару. Літара «і», дапісаная ў пачатку 5 радка, уносіць пэўныя змены ў гукавую арганізацыю сказа, надае яму спаважны апавядальны характар.

Ва ўсіх асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця» і Зб. тв., 1926, т. II; Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Байкі і аповесці».

Твор пераклалі: на рускую мову — Б. Кежун, Б. Цімафееў, на латышскую — Ю. Ванаг.

*Касцам* (с. 12)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 13, 20 чэрв. Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 172). На тэксце выразкі ёсць аўтарскія праўкі графіка-арфаграфічнага і лексічнага характару. У першым радку замест слова *маі* напісана *ўдальцы*, што надае радку некалькі новае сэнсавае і эмацыянальнае адценне. Літара «і», дапісаная ў пачатку 12 радка, паляпшае яго рытмічнае гучанне.

Ва ўсіх асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця», Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Наша вёска». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I і Зб. тв., 1940, т. IV.

Твор пераклікаецца з такімі вершамі паэта, як «Перад вісельняй», «Аратаму», «За праўду».

Верш пераклалі: на рускую мову — Д. Бродскі, М. Камісарава, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на англійскую — В. Рыч, на польскую — Л. Левін.

*Да моладасці* (с. 12)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 14, 4 ліп., дзе апублікаваны пад назвай «К моладасці». Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Захоўваюцца два аўтографы верша. Адзін з іх уключаны ў рукапісны зб. «Шляхам жыцця» (л. 50—51), другі (адз. зах. 18, л. 2—3), прызначаны для іншага выдання, занатаваны паэтам на адваротным баку старонкі з вершам «З песень мужыка» (у друку твор вядомы пад назвай «На сенажаці»). Варыянты гэтага аўтографа носяць моўнастылёвы характар.

У рукапісным зб. «Шляхам жыцця» выразка тэксту першадруку (л. 62) закрэслена паэтам. Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I.

Змена ў назве твора зроблена паэтам пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання.

Сваім пафасам верш пераклікаецца з такімі творамі Я. Купалы, як «Я мужык-беларус», «З песень беларускага мужыка», «Спрасоння», і інш.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на украінскую — Р. Лубкіўскі, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на латышскую — Ю. Ванаг.

*На сенажаці* (с. 13)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 14, 4 ліп. Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Захоўваецца аўтограф твора пад назвай «З песень мужыка» (адз. зах. 18, л. 1). (Гл. камент. да верша «Да моладасці», с. 266.) Варыянты аўтографа носяць моўна-стылёвы характар.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 172), дзе ў 13 радку паэтам зроблена праўка: замест *і* напісана *так*. Унесеная змена паляпшае гучанне строф, надае радку некалькі іншы сэнсавы адценак.

Ва ўсіх асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця», Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Наша вёска». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I і Зб. тв., 1940, т. IV.

У папярэднім Зборы твораў паэта беспадстаўна ўнесена праўка ў 5 радок верша: замест *Цягне світку з пала* надрукавана *Цягне світку з палка*. У аўтографе і ўсіх прыжыццёвых выданнях верша занатавана слова «пала».

Пол — гэта спальны памост, палаці, якія ў сялянскай хаце рабілі каля печы. У вершы Я. Купалы, магчыма, маецца на ўвазе верхні, больш вузкі пол (палаці), зроблены на ўзроўні лежака.

Пры падрыхтоўцы тэксту верша да таго ці іншага выдання Я. Купала, безумоўна, перачытваў яго. Пра гэта сведчыць і выразка з газеты са згаданай вышэй праўкай 13 радка. Не заўважыць такой грубай памылкі *пала — палка* аўтар не мог.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, А. Пракоф'еў, на украінскую — К. Дрок, на кітайскую — Чжу Цзі.

Дз. Смольскі паклаў твор на музыку: напісаў араторыю пад назвай «Паэт».

*Развейся, туман* (с. 14)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе датуецца 1908 г.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 15, 18 ліп. Пад тэкстам: Янук Купала.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 63). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I і Зб. тв., 1940, т. IV.

І. Белавусаў і Г. Бубноў пераклалі верш на рускую мову.

Па ініцыятыве І. Белавусава была выдадзена першая кніга выбраных твораў паэта: Купала Я. Избранные стихотворения в переводах русских поэтов. М., 1919, у якую быў уключаны і яго пераклад верша «Развейся, туман...». Больш падрабязна пазнаёміцца з ходам падрыхтоўкі кнігі да выдання можна ў кнізе: Рагойша В. І нясе яна дар... Мн., 1977. С. 21—24.

*З песень жыцця* (с. 15)

(«Час быў вясенні. На скібіны дно...»)

Друкуецца па Зб тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 16, 1 жн. Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 57). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

На думку М. Мішчанчука, «тэма верша падказана творам М. Някрасава «Нязжатыя гоні», які Купала пераклаў на беларускую мову» (ЭД. С. 230).

Верш пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, А. Чумачэнка. на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на асецінскую — А. Пухаеў.

*Сват* (с. 16)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 16, 1 жн., дзе апублікаваны з падзагалоўкам «Апавяданне старога дзецюка». Тэкст падпісаны крыптанімам І. Л.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 237—238). На ёй ёсць аўтарскія праўкі, сярод якіх зроблена ўдакладненне падзагалоўка твора. Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Байкі і аповесці». Ён уключаны таксама ў кнігу «Апавяданні вершам», 1926; зб. «За што», 1930; Выбр. тв., 1935, т. II.

Пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання ў тэкст верша Я. Купала ўнёс асобныя змены моўна-стылёвага характару.

На адваротным баку старонкі з аўтографам перакладу Я. Купалы верша польскай пісьменніцы М. Канапніцкай (1842—1910) «Варажбітка» (адз. зах. 340) ёсць запіс-зварот да супрацоўнікаў «Нашай нівы»: *Калі «Свата» надрукуеце, адвеццe ў газеце, тады пастараюся штонебудзь болей у гэтым духу напісаць. Я. К.* Гэта дае падставу меркаваць, што абодва творы былі адасланы ў рэдакцыю газеты адначасна. Пад словамі *«што-небудзь болей у гэтым духу»* Я. Купала меў на ўвазе гумарыстычны верш «Страх» (гл. камент. с. 270).

У лісце да Л. М. Клейнбарта за 11 студзеня 1929 г. Я. Купала пісаў: *«Сюжетами для моих поэм и драм большей частью послужили или действительные случаи из жизни, или фабула известных мне преданий, легенд, песен. Конечно, передавал я это на свой манер, не придерживаясь точно заимствованного мною или из жизни, или из этнографии. Некоторые свои произведения я назову, откуда я заимствовал, т. е. что послужило замыслом. Из житейских фактов: 1) «Адплата кахання», 2) «Раскіданае гняздо», 3) «Паўлінка», 4) «Прымакі», 5) «Тутэйшыя», 6) «Зімою», 7) «Сват», 8) «Страх», 9) «За што?».*

*Из этнографии:*

*1) «Магіла льва», 2) «Бандароўна», 3) «Два браты».*

*Фантазия:*

*1)«Адвечная песня», 2) «Сон на кургане», 3) «У купальскую ноч», 4) «На куццю», 5) «Курган», 6) «На дзяды», 7) «Чараўнік», 8) «На папасе», 9) «Страшны вір», 10) «За чужую елку».* (Зб. тв., 1976, т. VII. С. 435.)

Верш пераклалі на рускую мову Н. Кіслік, М. Паноў, Л. Хаўстаў.

*Хмары і думы* (с. 19)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 16, 1 жн. Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 57), на тэксце якой зроблена аўтарская праўка 7 радка: замест *Гэтак і б'ецца* напісана *Так і ваюе*. Унесеная змена больш дакладна перадае сэнсавае гучанне радка, узмацняе яго эмацыянальнае ўспрыманне. Ва ўсіх асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця», Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пераклалі: на рускую мову — І. Белавусаў (гл. камент. да верша «Развейся, туман...», с. 267), Н. Кіслік, Р. Куранёў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на армянскую — Г. Камуні, на асецінскую — А. Пухаеў, на латышскую — А. Веян, на малдаўскую — П. Дарые, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — С. Лопес, на польскую — В. Дамброўскі, на сербахарвацкую — Р. Цындрыч.

*Дзе вы?* (с. 19)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 18, 28 жн. Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 74). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

Неаўтарызаваны машынапісны тэкст верша захоўваецца ў архіве Аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Беларусі ў фондзе І. Шутовіча (ф. 1, воп. 1, адз. зах. 271, л. 35, 38). Ён знаходзіцца сярод «Матэрыялаў анталогіі беларускай паэзіі», якая рыхтавалася да выхаду ў 20-я ці ў пачатку 30-х гадоў. «Матэрыялы...» уключаюць у сябе рукапісныя і машынапісныя тэксты вершаў У. Дубоўкі, М. Лужаніна, Я. Пушчы, А. Звонака, А. Моркаўкі, А. Дудара, Я. Падабеда, У. Хадыкі і інш.

Верш пераклалі: на рускую мову І. Белавусаў, А. Пракоф'еў, на казахскую — Ж. Абдзірашаў.

*«Як не выйдуць чарнасотнікі...»* (с. 20)

Друкуецца па «Нашай ніве», 1908, № 18, 28 жн., дзе ўпершыню апублікаваны. Верш падпісаны псеўданімам Левы.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 202), дзе закрэслена аўтарам.

У прыжыццёвых і пасмяротных выданнях Я. Купалы верш не друкаваўся. У Збор твораў уключаны ўпершыню.

Нараджэнне яго было выклікана абвастрэннем палітычнай сітуацыі, ростам чарнасоценных арганізацый, дзейнасць якіх была накіравана на барацьбу з рэвалюцыйным рухам, на захаванне непарушнасці самаўладства на базе вялікадзяржаўнага шавінізму. У час рэвалюцыі 1905—1907 гг. былі створаны, напрыклад, такія чарнасоценныя арганізацыі, як «Союз русского народа», «Русский окраинный союз» і інш. Яны мелі свае перыядычныя выданні, на старонках якіх вялі актыўную шавіністычную прапаганду.

*Пурышкевічы, Дубровінцы* — абагулены вобраз чарнасоценцаў, яркімі прадстаўнікамі якіх з'яўляліся лідэры «Союза русского народа» — Пурышкевіч У. М. і Дубровін А. І. Утвораны ў 1905 г. згаданы вышэй саюз у канцы 1908 г. распаўся на дзве палаты. Палату «Михаила Архангела» ўзначальваў Пурышкевіч У. М., палату «Союз

русского народа» — Дубровін А. І. (паводле звестак кандыдата гістарычных навук Забаўскага М. М.).

*Акцябра дзянёк сямнаццаты: // Той вялікі маніфест.*— Маецца на ўвазе царскі маніфест ад 17 кастрычніка 1905 г.

*Страх* (с. 21)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 19, 11 верас. Тэкст падпісаны псеўданімам Вайдэлота.

Датуецца годам апублікавання.

Прычынай для напісання твора па сведчанні самога паэта стаў рэальны жыццёвы факт (гл. камент. да верша «Сват», с. 268).

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 235—236). На яе тэксце ёсць праўкі графіка-арфаграфічнага характару. Ва ўсіх асобных выданнях зборніка і Зб. тв., 1926, т. II; Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Байкі і аповесці». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

У папярэднім Зборы твораў паэта, а таксама ў Зб. тв., 1952, т. II 10 радок надрукаваны па Зб. тв., 1940, т. IV: *Як стане хлусіць малавеле.* Зробленая замена не правамерная. Па-першае, не абгрунтавана парушаны асноўны тэкст. Па-другое, ва ўсіх прыжыццёвых выданнях згаданы радок друкуецца ў яго першапачатковым варыянце: *Як расхлюсціцца мала-веле.* Па-трэцяе, вядома, што ў выданні Зб. тв., 1940, т. IV Я. Купала не прымаў удзелу і што пры яго падрыхтоўцы ў тэкстах мела месца рэдактарскае ўмяшанне (Гульман Р. Тэксталогія твораў Янкі Купалы. С. 48—49). Па-чацвёртае, нягледзячы на тое, што зменены тэкст радка гучыць больш літаратурна, ён многа траціць у мастацкіх вартасцях. Слова *расхлюсціцца* ў адрозненне ад *хлусіць* больш экспрэсіўнае, яно без дадатковых эпітэтаў, сінонімаў і параўнанняў вельмі выразна падкрэслівае знешнія рысы галоўнага героя.

*Манеж* — тут прыбудаваная частка гумна, адкуль прыводзіцца ў рух малатарня.

*Стужа зближаецца* (с. 24)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Гусляр», 1910.

Датуецца 1908 г. паводле аналітычнага вывучэння крыніц тэксту твора.

Аўтограф верша (адз. зах. 20) пад лічбай 1 (без загалоўка) змешчаны на адной старонцы з аўтографам верша «Яшчэ прыйдзе вясна» (ён пададзены пад лічбай 2 таксама без загалоўка). Агульная назва «Асеннія напевы» і пранумараваная простым алоўкам старонка *64* даюць падставы меркаваць, што вершы прызначаліся, відаць, для публікацыі ў адным са зборнікаў паэта ў выглядзе невялікага цыкла.

Подпіс *Янук Купала* пад кожным з аўтографаў і крыніца першадруку верша «Яшчэ прыйдзе вясна» («Наша ніва», 1908, № 19, 11 верас.) наводзяць на думку, што яны напісаны адначасна і павінны быць надрукаваны ў той паслядоўнасці, якой жадаў яе бачыць аўтар.

На старонцы з аўтографамі ёсць паметы. Каля тэксту першага верша чырвоным алоўкам рукой Я. Купалы пазначана: *перепис.*, каля другога зялёным алоўкам — *Исп. № 19.*

Верш надрукаваны таксама ў Зб. тв., 1928, т. I і Выбр. тв., 1935, т. I.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на грузінскую — А. Чыладзе, на кітайскую — Чжу Цзі.

М. Літвін паклаў верш на музыку.

*Яшчэ прыйдзе вясна* (с. 25)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе датуецца 1908 г.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 19, 11 верас. Надрукаваны без назвы. Пад тэкстам: Янук Купала. (Гл. камент. да верша «Стужа збліжаецца» і «Хто ты гэткі?», с. 263, 270.)

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 29). Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I.

Назва «Яшчэ прыйдзе вясна» дадзена Я. Купалам пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання.

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, Б. Турганаў, на малдаўскую — П. Дарые, на ўкраінскую — К. Дрок, на азербайджанскую — Р. Рза, на армянскую — А. Сараян, М. Хeранян, на грузінскую — Ш. Апхаідзе, М. Мачаварыяні, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на літоўскую — П. Кейдошус, на ўзбекскую — Тулкун, на таджыкскую — М. Фархат, на англійскую — В. Рыч, на кітайскую — Чжу Цзі.

Ілюстраваў твор Я. Чарняцін.

*Песня* (с. 26)

(«Там, гэй, на ліпе на расахатай...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе змешчаны ў III раздзеле. Пад тэкстам: 12/IX—08 г.

На рускую мову верш пераклаў Л. Хаўстаў.

*Бор* (с. 27)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 20, 25 верас. Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 101). Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Па межах родных». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I.

Тэмай і пафасам пераклікаецца з вершамі «Развейся, туман...», «Хмары і думы», «Дзе вы?», «Яшчэ прыйдзе вясна» і інш.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Кіслік, на асецінскую — А. Пухаеў, на літоўскую — І. Грайчунас, на польскую — І. Сікірыцкі, на румынскую — С. Дэлчу.

М. Аладаў паклаў твор на музыку.

*Падымайся, ўставай!..* (с. 28)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — зб. «Шляхам жыцця», 1913, дзе апублікаваны ў раздзеле «Сваім і чужым».

Датуецца 1908 г.

Захоўваюцца два аўтографы верша. Пад тэкстам аднаго з іх (адз. зах. 19) пазначана: 19/X — [1]908 г. Янук Купала. Другі аўтограф прыведзеных звестак не мае. Ён змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 226—227).

Акрамя згаданых крыніц, верш надрукаваны таксама ў другім і трэцім асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця», Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, Н. Кіслік, на казахскую — К. Жумагаліеў.

*Ужо днее* (с. 29)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 23, 7 лістап. Пад тэкстам: Вільня. Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 202—203). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Сваім і чужым». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV. У зб. «Спадчына», 1955 пададзены ў раздзеле «Ужо днее». Пачынаючы са Зб. тв., 1961, т. II, друкуецца ў яго наступных пасмяротных выданнях.

Верш напісаны да другой гадавіны з дня выхаду газеты «Наша ніва», пра што сведчаць радкі з першай публікацыі: *«Пасвячаю ўсім супрацоўнікам, чытацелям і прыяцелям «Нашае нівы» на памятку двухлетняга жыцця яе для нясення дабра, праўды і свету забытаму, цёмнаму беларускаму народу».*

Пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання прысвячэнне паэтам знята. У гэты ж час аўтарам у 18 і 34 радкі верша ўнесены праўкі моўна-стылёвага характару.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, Д. Чапурны, на літоўскую — Э. Матузявічус, на румынскую — С. Дэлчу.

*Дунулі сіверы...* (с. 30)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе змешчаны ў II раздзеле.

У абодвух выпадках (асноўным тэксце і першадруку) пад тэкстам твора пазначана недакладная дата напісання: 7/XII-09 г. Памета, зробленая паэтам пад аўтографам верша (адз. зах. 21), дае магчымасць выправіць памылку ў датаванні і ўдакладніць месца працы над творам: Вільня. 7.XII.[1]908 г.

Акрамя згаданых крыніц, верш уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I.

У папярэднім Зборы твораў верш надрукаваны «па першапачатковаму тэксту аўтографа». Прынятае рашэнне грунтавалася на аснове даследаванняў Р. Гульман, якая лічыла, што апошняя праўка тэксту твора была зроблена паэтам зыходзячы з цэнзурных меркаванняў. «Аб падцэнзурным змесце яго (верша.— *Т. Г.*) гаворыць ужо сам загаловак,— піша Р. Гульман.— Слова *сівер* Купала часта ўжываў у метафарычным сэнсе, звычайна яно азначала ў яго творах сілы рэакцыі, што разгуляліся пасля паражэння рэвалюцыі і лютуюць над краінай, помсцячы народу за яго «бунтаўнічыя» дзеянні. У творы адлюстроўваўся настрой паэта, смуткаваўшага разам са сваім народам з-за крушэння надзей на хуткі прыход «дней справядлівасці»... Знамянальна, што ў перабеленым аўтографе Купала замяніў апошні радок другой страфы. Замест ранейшага *Ударылі ў вольныя думы* ён даў *Ударылі ў светлыя думы.* Акрамя таго, рукой паэта зроблена замена і ў наступнай страфе, дзе замест *Дні справядлівасці блізкі* дадзена *Дні ўсешчаслівасці блізкі.*

Абедзве праўкі можна растлумачыць хутчэй за ўсё імкненнем паэта зрабіць твор цэнзурным. Асабліва гэта адносіцца да варыянта *«светлыя думы* замест *вольныя думы»* (Гульман Р. Тэксталогія твораў Янкі Купалы. С. 92—93).

Выказаныя даследчыцай меркаванні заслугоўваюць увагі, але поўнасцю не пераконваюць.

Па-першае, калі Я. Купала ўносіў праўкі ў тэкст верша па цэнзурных меркаваннях, то пры яго першай публікацыі (зб. «Спадчына», 1922) пагроза «царскай» цэнзуры ўжо знікла і паэт мог змясціць тэкст верша ў зборніку ў яго першапачатковым варыянце. Аднак не зрабіў ён гэтага і пры ўключэнні твора ў свой першы Збор твораў (1925—1932).

Па-другое, унесеныя Я. Купалам змены ў першапачатковы варыянт верша арганічна ўліваюцца ў агульную тканіну твора, выяўляюць імкненне паэта пазбегнуць моўных паўтораў (*Ўдарылі ў вольныя думы, Думалі душы — ўжо вольныя —* ), надаць сюжэту дынамічнае гучанне (*Шлі за німашто ў магілы, Сходзяць бясчасна ў магілы*), стварыць панарамнае палатно гістарычнага руху падзей.

Праўкі 2 і 4 радка другой страфы верша вельмі натуральна спалучаюцца з чатырохрадкоўем трэцяй страфы. Бо толькі *светлыя вясеннія* (а не *вольныя*) думы могуць выклікаць наступны малюнак:

Міла цяпло расплываецца,
Лёгка жывёліне ўсякай,
Зеленню нівы ўсміхаюцца,
Хмараў на небе ні знаку.

Праўка радка *Дзень справядлівасці блізкі* на *Дні ўсешчаслівасці блізка* таксама тлумачыцца зместам наступных радкоў:

Дый, знаць, гаротным бяздольнае
Суджана з роду, з калыскі.

Тут вызначальным з'яўляецца слова *бяздольнае*, якое лагічна спалучаецца з новаўтварэннем ад слова *шчасце* і тым самым апраўдвае зробленую паэтам праўку.

Прымаючы ўсё вышэй сказанае пад увагу, рэдкалегія лічыць неабходным узяць за асноўны тэкст верша яго апошні варыянт, паколькі ён адпавядае аўтарскай задуме.

У папярэднім Зборы твораў 15 радок верша надрукаваны недакладна: *Згінула доля бяздольная.*

*Крыжы* (с. 31)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Гусляр», 1910.

Пад тэкстам аўтографа, які змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 149) і закрэслены паэтам, пазначана: Вільня. 17/XII-08 г.

Ні ў адным з выданняў зб. «Шляхам жыцця» верш не друкаваўся. Акрамя згаданых крыніц, ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1928, т. I.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на ўкраінскую — Т. Масэнка.

Ілюстраваў твор М. Бельскі.

*Араты* (с. 32)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе датуецца 1908 г. (Гл. камент. да верша «Хто ты гэткі?», с. 263).

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913. Апублікаваны ў раздзеле «Наша вёска».

У рукапісным зб. «Шляхам жыцця» змешчаны тэкст верша, які напісаны невядомым почыркам (л. 169—171).

Акрамя згаданых вышэй крыніц, твор надрукаваны таксама ў другім і трэцім асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця», Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

У папярэднім выданні Збору твораў Я. Купалы неабгрунтавана папраўлены аўтарскі тэкст 31 радка. Замест *Вылі дзесяціну* надрукавана *Валі дзесяціну.* Члены рэдкалегіі лічаць гэтую змену не правамернай. Па-першае, ва ўсіх прыжыццёвых крыніцах тэксту, а таксама

ў згаданым вышэй рукапісе, напісана *Вылі дзесяціну.* Па-другое, слова *валі* па сваім экспрэсіўным гучанні выбіваецца з агульнай інтанацыі, настраёвасці, стылёвага ладу твора. Па-трэцяе, сэнс радка *Вылі дзесяціну* патрэбна шукаць у наступнай і апошняй строфах:

За кожным зваротам
Баразну раллі
Палівай ты потам,
Слязіной палі.
. . . . . . . . . . . . . . .
Ці ж на тое трэба,
Ліці табе пот,
Каб есці без хлеба
Лебяду, асот?

На аснове прыжыццёвых крыніц тэксту ў дадзеным выданні выпраўлена таксама памылка ў 45 радку верша, якая мела месца ў папярэднім Зборы твораў. Замест *Ці ж на тое трэба* было набрана *Ці ж на то ўсё лета.*

На рускую мову верш пераклалі: М. Сідарэнка, В. Шэфнер.

Ілюстраваў твор М. Басалыга.

*Спарышок* — два гліняныя гаршчочкі, злучаныя агульнай ручкай, у якіх бралі яду на поле.

*Беларушчына* (с. 34)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе змешчаны ў I раздзеле. Пад тэкстам: 1908 г.

Аўтограф верша (адз. зах. 12а) мае наступную памету: 1908 г.Я.Купала. Ён занатаваны чорным чарнілам на пергаментным лісце паперы, складзеным удвая. На адной са старонак падвойнага ліста змешчаны яшчэ адзін рукапісны тэкст — верш «Хай жа вам так не здаецца...». Аўтографы прызначаліся для публікацыі ў адным са зборнікаў (магчыма, «Гусляры»), пра што сведчыць нумарацыя старонак: 42, 43.

У пасмяротных Зборах твораў паэта верш друкуецца ўпершыню. У зб. «Спадчына», 1955 пададзены ў раздзел «Ужо днее».

*Роднае слова* (с. 35)

(«Магутнае слова, ты, роднае слова!..»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе апублікаваны ў I раздзеле. Пад тэкстам: 1908 г.

У пасмяротных Зборах твораў друкуецца пачынаючы з выдання 1961, т. II. У выданні Зб. тв., 1973, т. II Я. Купалы неправамерна выпраўлены тэкст 14 радка верша. Замест *Грымні ж над радзімай зямлёй* надрукавана *Грымі ж над радзімай зямлёй*, што не адпавядае тэксту ўсіх прыжыццёвых крыніц і пярэчыць зместу страфы.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Кіслік, на украінскую—А. Малышка, М.Рыльскі, на асецінскую—Ф. Гаглойці, А. Пухаеў, на грузінскую — А. Асанідзе, Н. Нікаладзе, на літоўскую — Э. Матузявічус, на татарскую — З. Нуры, на балгарскую — Н. Вылчаў, на чэшскую — К. Беднарж.

*Аб мужыцкай долі* (с. 36)

(«Ходзяць гутаркі па свеце...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе змешчаны ў II раздзеле. Пад

тэкстам: 1908 г. У зборніку верш надрукаваны пад назвай «Аб мужычай долі», у змесце пазначаны — «Аб мужыцкай долі».

Верш пераклалі: на рускую мову — Л. Хаўстаў, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на таджыкскую — М. Фархат.

*Думка* (с. 37)

(«Эх, мой братка, эх, мой родны...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе змешчаны ў II раздзеле. Пад тэкстам: 1908 г.

Верш надрукаваны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, М. Сідарэнка, на ўкраінскую — М. Цярэшчанка.

*Фэлькава вяселле* (с. 38)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе змешчаны ў VI раздзеле. Пад тэкстам: 1908 г.

Многія творы Я. Купалы напісаны на аснове рэальных з'яў. Не выключана, што задумай для стварэння верша «Фэлькава вяселле» таксама паслужыў пэўны жыццёвы выпадак. (Гл. камент. да верша «Сват», с. 268.)

*Перад вісельняй* (с. 38)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2, дзе змешчаны пад рубрыкай «Недрукаваныя дарэвалюцыйныя творы». Да верша дадзена тлумачэнне: «*Арыгінал гэтага верша не захаваўся, толькі знайшоўся выпадкова шапіраграўскі адбітак, які быў аўтарам зроблены ў 1908 г. у рэдакцыі «Нашае нівы» і размножаны сярод яго знаёмых. З гэтага адбітку з малымі папраўкамі верш гэты і друкуецца*».

Пад тэкстам верша дата: 1908 г.

Падборка апублікавана ў двух нумарах часопіса «Полымя» (№ 2, 3) і склала 65 вершаў паэта. Гэтая публікацыя мела наступнае аўтарскае паясненне:

*«Паданыя тутака мае творы напісаны да рэвалюцыі 1917 г., якія былі згублены і выпадкова знайшліся цяпер у вядомага апекуна беларускіх пісьменнікаў дарэвалюцыйнае эпохі Бр. Ігн. Эпімах-Шыпілы, у часе перагляду ім сваёй вялікай бібліятэкі. Рукапісы гэтыя былі пакінуты мною ў Бр.*[аніслава]*, Ігн.*[атавіча]*, калі яшчэ я жыў у яго ў 1909—1913 гг. у Пецярбурзе, і аб якіх я сам ужо быў забыўся. Упарадкаваўшы і прарэдагаваўшы гэты знойдзены матэрыял, я палічыў патрэбным апублікаваць яго — з пэўнымі ўвагамі да некаторых вершаў — на старонках «Полымя». Адначасова выказваю шчырую падзяку праф. Эпімах-Шыпілу за яго мілую для мяне неспадзейку. Я. Купала».*

Верш надрукаваны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I. У зб. «Спадчына», 1955 пададзены ў раздзеле «Сваім і чужым». Пачынаючы са Зб. тв., 1961, т. II, друкуецца ў яго наступных пасмяротных выданнях.

Твор пераклалі: на рускую мову — У. Азараў, Н. Кіслік, на асецінскую — А. Пухаеў, на чэшскую — Ф. Ціхі.

*Прыблуды з-пад Нявы крывавай...* — царскія чыноўнікі, што ўвасаблялі самадзяржаўе і яго рэакцыйную палітыку. У тэксце верша маюцца на ўвазе крывавыя падзеі 9 студзеня 1905 г., калі па загаду цара была расстраляна мірная дэманстрацыя рабочых Пуцілаўскага завода ў Пецярбурзе.

*Мітра, тыяра* — галаўныя ўборы, якія надзявае вышэйшае духавенства ў час богаслужэння.

*Скіпетр* — посах, знак манархічнай улады.

*Нары* — эшафот, памост, на якім адбываецца пакаранне смерцю.

*Завёўшы тысячы народу // Ў палёх маньчжурскіх палажыць...* — маецца на ўвазе крывапралітная руска-японская вайна, якую распачалі ў 1904 г. рускія і замежныя імперыялісты.

*Ясыр (татарск.)* — палоннік, палон; у тэксце верша маецца на ўвазе няволя, жорсткі дэспатызм часоў панавання на Русі татара-мангольскіх ханаў (першая палова XIII ст.).

*Ўсё саюзы...* (с. 41)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3. Пад тэкстам верша: 1908 г. (Гл. камент. да верша «Перад вісельняй», с. 275.)

Нараджэнне верша было выклікана ўзмацненнем чарнасоценнага руху, які разгарнуўся ў Расіі пасля паражэння рэвалюцыі 1905—1907 гг. (Гл. таксама камент. да верша «Як не выйдуць чарнасотнікі...», с. 269.)

Я. Купалу востра непакоіла сацыяльна-палітычнае і нацыянальна-культурнае становішча, якое склалася ў заходніх губернях Расіі. Паэт балюча перажываў за лёс Бацькаўшчыны і з дапамогай мастацкага слова змагаўся з тымі, хто перашкаджаў ажыццяўленню ідэі нацыянальнага Адраджэння.

У аснову верша «Ўсё саюзы...» пакладзены рэальныя факты з дзейнасці беларусафобскіх арганізацый «Крестьянин» і «Белорусское общество». У тлумачэнні да часопіснай публікацыі верша выхад органаў друку гэтых саюзаў паэт ахарактарызаваў наступным чынам: *«Крестьянина» выдаваў Кавалюк, а Саланевіч пасля (здаецца) «Северо-Западную жизнь». Абедзве газеты выходзілі, канечне, за грошы «Ахранкі» і абедзве змагаліся з «Нашай нівай», разумеецца, і беларускім нацыянальным рухам».*

Кавалюк С. А. узначальваў чарнасоценную віленскую арганізацыю «Крестьянин» і выдаваў аднайменны часопіс, які выходзіў у Вільні з 1906 г. да 1915 г. Восенню 1908 г. у Вільні быў з'езд «Крестьянина». У выніку барацьбы за лідэрства частка членаў «Крестьянина», у тым ліку і Саланевіч Л., выйшлі з арганізацыі і ўтварылі новую — «Белорусское общество». Мэтай суполкі «Белорусское общество» было аб'яднанне ўсіх прадстаўнікоў беларускай народнасці, без адрознення саслоўя, звання і веравызнання, на адной нацыянальна-культурнай платформе. Беларусы прызнаваліся народнасцю, але іх мовай абвяшчалася мова Пушкіна і Гогаля. (Паводле звестак кандыдата гістарычных навук Забаўскага М. М.)

Газета, якую з лютага 1909 г. выдаваў Саланевіч, першапачаткова называлася «Белорусская жизнь», а пазней, з восені 1911 г.,— «Северо-Западная жизнь». Напачатку яна выходзіла ў Гродне, а затым у Мінску. Сталыпін П. А., у канцылярыі якога ў свой час у Гродне працаваў Саланевіч, забяспечыў выданне самай высокай урадавай субсідыяй: 2400 рублёў у месяц.

Сваёй тэматыкай і пафасам верш «Ўсё саюзы...» пераклікаецца з такімі творамі паэта, як «Лямант пана Кавалюка», «Як не выйдуць чарнасотнікі...», «Ісцінна чорнае трыо» і інш.

У пасмяротных Зборах твораў друкуецца пачынаючы з выдання 1961, т. II.

*Нібы казка* (с. 42)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3. Пад тэкстам верша дата: 1908 г. (Гл. камент. да верша «Перад вісельняй», с. 275, «Ўсё саюзы...», с. 276.)

*Прадайся (так чуў) у нейкі чорны саюз.*— У часопіснай публікацыі Я. Купала да гэтага радка дае наступнае тлумачэнне: *«Пасля рэвалюцыі 1905 г. на Беларусі было многа размножылася ўсялякіх расійскіх чарнасоценных саюзаў, якія мелі на мэту змаганне з рэвалюцыйнымі думкамі і асабліва з беларускім нацыянальным рухам. Такі саюз і меў тут на ўвазе аўтар. Я. К.»*

*«Любіць ён работу...»* (с. 42)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3. Пад тэкстам: 1908 г. Змешчана ў падборцы «Эпіграмы на Бел.[арускую] выд.[авецкую] суполку «Загляне сонца і ў наша аконца». Пададзена пад парадкавым нумарам 8. (Гл. камент. да верша «Перад вісельняй», с. 275.)

У пасмяротных Зборах твораў паэта верш друкуецца ўпершыню.

*«Загляне сонца і ў наша аконца»* — першае беларускае легальнае выдавецкае таварыства, якое існавала ў Пецярбурзе з 1906 г. да 1914 г. Заснавана па ініцыятыве Б. І. Эпімах-Шыпілы групай перадавой беларускай інтэлігенцыі на кааператыўных асновах.

*Дэпутату N. N.* (с. 43)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе змешчаны пад рубрыкай «Недрукаваныя дарэвалюцыйныя творы». Пад тэкстам эпіграмы дата: 1908 г. (Гл. камент. да верша «Перад вісельняй», с. 275.)

Прычынай для напісання эпіграмы паслужыў рэальны жыццёвы факт: здрада інтарэсам народа дэпутата ад сялян Віленскай губерні ў II Думе — Сымона Пялейкі. Так званы «народны заступнік» далучыўся ў Думе да дэпутатаў «польскага кола». Вось як аб гэтым 13 красавіка 1907 г. пісала газета «Наша ніва»: *«Тутэйшыя памешчыкі — найбольш з палякаў. Вось угаварылі яны Пялейку, быццам ён не беларус, а паляк прыродны, не брат мужыкоў-беларусаў, а брат памешчыкаў-палякаў. І забыўся Пялейка аб мужыках, адрокся ад усяго народа беларускага, ад мовы бацькоў сваіх... Сеў з панамі і пайшоў зусім пад іхнюю каманду».*

Янка Купала з гневам і абурэннем асуджае ганебны ўчынак дэпутата і падобных яму рэнегатаў.

У пасмяротных Зборах твораў паэта верш друкуецца пачынаючы з выдання 1961, т. II.

*З надзеяй гаротнай...* (с. 43)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе змешчаны пад рубрыкай «Вершы». Пад тэкстам твора дата: 1908 г.

На старонках часопіса надрукавана яшчэ 18 арыгінальных і 9 перакладных твораў паэта.

Публікацыя падрыхтавана да 25-годдзя літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. Гэтай даце прысвечаны шэраг матэрыялаў, змешчаных у часопісе. Сярод іх — верш Якуба Коласа «Янку Купалу», верш Валерыя Маракова «Янку Купалу», артыкул Лукаша Бэндэ «Шлях паэта», надрукаваны тэксты шматлікіх прывітальных тэлеграм і лістоў.

Змешчаныя ў часопісе творы Я. Купалы па сутнасці з'яўляюцца працягам публікацыі папярэдняга года («Полымя», 1929, № 2, 3;

гл. камент. да верша «Перад вісельняй», с. 275). Выказаную думку падмацоўвае таксама аўтарская заўвага: *«Прыводзячы ў парадак свае старыя архівы, я знайшоў сярод рукапісаў друкуемыя тут вершы, якія раней па цэлым шэрагу прычын, у тым ліку і цэнзурным, нідзе не друкаваліся».*

Закрэслены няпоўны аўтограф верша (адсутнічаюць 14—16, 30—32 радкі) змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 180), аднак у яго выданнях твор не друкаваўся.

Па ідэйнай і тэматычнай скіраванасці верш «З надзеяй гаротнай» вельмі блізкі да такіх твораў паэта, як «З думак маркотных», «Як тут весела спяваці?», «А хто маю долю пойме?», «Да дзяўчынкі» і інш.

У папярэднім Зборы твораў паэта 8 радок верша друкаваўся па аўтографе — *У думкі у мілай*, што натуральна стасуецца з далейшым тэкстам твора. Сапраўды, марыць пра светлае, прыгожае, шчаснае жыццё заўсёды прыемна. Аднак верагодны і радок з асноўнага тэксту *У думкі нямілай*, які арганічна вынікае з папярэдніх строф, дзе выразна адчуваецца «маркотны» настрой лірычнага героя. Менавіта ў такім стане думкі бываюць самыя чорныя. І таму, каб «зазнаць хоць мінутку пацех гэткіх мілых!..», ён і спрабуе прымусіць «думку нямілую» расказаць, «дзе людзі — як людзі» і г. д.

Па рашэнні рэдкалегіі асноўны тэкст верша друкуецца без змен.

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, М. Сідарэнка, на армянскую — Р. Пагасян, А. Сараян, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на карачаеўскую — Х. Байрамукава, на эстонскую — М. Вээтам.

*«Грымну я,*
*грымну па струнах бунтарных...»* (с. 44)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе змешчаны пад рубрыкай «Вершы». Пад тэкстам твора дата: 1908 г. (Гл. камент. да верша «З надзеяй гаротнай», с. 277.)

«Па зместу і паэтычнай настраёвасці,— як слушна заўважыў М. Грынчык,— (твор.— *Т. Г.*) прымыкае да такіх праграмных вершаў ранняга перыяду, як «Я не паэта», «Я не сокал...», «Да песень» і інш.» (ЭД. С. 173).

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі.

*Замчышча* (с. 45)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам дата: 1908 г.

Нельга не пагадзіцца з меркаваннем М. Грынчыка, што «верш, відаць, быў накідам да буйнага эпічнага твора» і што сваім гучаннем ён пераклікаецца з апошнімі радкамі паэмы Я. Купалы «Нікому»:

Палац стаіць пусткай,
Жыць няма ў ім як,—
Здані ў ім здаюцца,
Быццам помсты знак.

(ЭД. С. 240)

*Навагоднія жаданні* (с. 45)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II. (Гл. камент. да верша «Хто ты гэткі?», с. 263.)

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 1, 1 студз. Пад тэкстам: Вільня. Янук Купала.

Датуецца 1908 г. паводле паметы пад асноўным тэкстам.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 76). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II; Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

На рускую мову верш пераклаў У. Раждзественскі.

## 1909

### *Маладая Беларусь* (с. 47)

(«Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая старонка...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3. Пад тэкстам твора: Вільня. 12/I-1909 г. (Гл. камент. да верша «Перад вісельняй», с. 275.)

У зб. «Спадчына», 1955 змешчаны ў раздзеле «Ужо днее». Пачынаючы са Зб. тв., 1961, т. II, друкуецца ў яго наступных пасмяротных выданнях.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі.

### *У шынку* (с. 48)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 23, 4 чэрв. Пад тэкстам: Вільня. 16/I-1909 г. Янук Купала.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 247—248). Чорным чарнілам на тэксце выразкі паэтам зроблены праўкі. У 17 радку слова *прыхадзілася* заменена на *прыходзілась*, што палепшыла рытміку радка. Замена слова *бацька* на слова *гэна* ў 44 радку значна паглыбіла яго сэнсавае гучанне, надало паэтычнаму вобразу больш выразны характар абагуленасці.

Ва ўсіх асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця», Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Байкі і аповесці». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, Д. Бродскі, на туркменскую — А. Ніязаў.

### *А як мы з хаткі выходзім...* (с. 50)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Гусляр», 1910.

Няпоўны аўтограф верша (яго апошняя страфа) змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 183), дзе закрэслены аўтарам. Пад тэкстам пазначана: Вільня. 22/I-09 г.

Ні ў адным з асобных выданняў гэтага зборніка верш не друкаваўся. Ён уключаны ў Зб. тв., 1928, т. I, а таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

У пасмяротных Зборах твораў друкуецца пачынаючы з выдання 1961, т. II.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на кітайскую — Чжу Цзі.

*Гуголле* — травяністая расліна, пустазелле.

*Бадылі* — быллё.

### *Зімовая ноч* (с. 51)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — зб. «Шляхам жыцця», 1913, дзе змешчаны ў раздзеле «Наша вёска».

Аўтограф верша змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 183). Пад тэкстам: Вільня. 30/I-09 г. Я. Купала.

Акрамя згаданых вышэй крыніц, ён надрукаваны таксама ў другім і трэцім асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця», Зб. тв., 1929, т. II; зб. «Адцвітанне», 1930 і Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пераклалі: на рускую мову — В. Шэфнер, на ўкраінскую — А. Малышка, на латышскую — Ю. Ванаг.

А. Туранкоў паклаў твор на музыку.

*Звяяваным* (с. 52)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 8, 20 лют., дзе апублікаваны пад назвай «Вучыцелям людскім». Пад тэкстам: Янук Купала. Вільня. 3/2-1909 г. У гэтым жа выданні, але набраным кірыліцай, з падтэкставай паметы выяўляецца разыходжанне ў датаванні: Янук Купала. Вільня. 2/2-1909 г.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 57), на якой чырвоным чарнілам паэтам зроблена замена назвы твора. Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I.

Пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання ў тэкст паэтам унесены асобныя змены: у 13 радку замест слова *магучыя* чорным чарнілам напісана *магутныя*, у 16 — замест *хваціла* — *хапіла*.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, Н. Кіслік, на казахскую — С. Асанаў, на малдаўскую — П. Дарые.

А. Багатыроў паклаў твор на музыку.

*Не ўздыхай* (с. 52)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 24, 11 чэрв., дзе апублікаваны без назвы. Пад тэкстам: Янук Купала. 8/II-1909 г. Вільня.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 29). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I.

Назва «Не ўздыхай» дадзена паэтам пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Кіслік, М. Святлоў, на туркменскую — А. Ніязаў, на асецінскую — А. Пухаеў, на латышскую — Я. Чавар.

*Прыяцелі* (с. 53)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы, ф. 43, воп. 1, адз. зах. 279. Пад тэкстам: Янук Купала. Вільня. 8/II[1]909 г.

Упершыню — «Полымя», 1966, № 10. Публікацыя Э. Агінскене і С. Александровіча.

У прыжыццёвых і пасмяротных выданнях Я. Купалы верш не друкаваўся. У Збор твораў уключаны ўпершыню.

Акрамя верша «Прыяцелі», у архіве захоўваюцца аўтографы вершаў «Лямант пана Кавалюка» і «Нашы дэпутаты», а таксама невялічкія сатырычныя творы: жарты, анекдоты, сцэнкі, у якіх узнімаюцца вострыя тагачасныя грамадска-літаратурныя праблемы. Іх тэксты занатаваны рукой Я. Купалы. Як адзначаюць аўтары публікацыі, «магчыма, беларускі паэт гэтыя сатырычныя «калючкі» запісаў ці нават

апрацаваў і падаў у сваёй рэдакцыі». Адзін з анекдотаў-жартаў падпісаны ініцыяламі Я. К.:

*— Чаму Арцыбашаў сваю вельмі пачытную повесць «Санин» не назваў як іначай і чаму так усе ёй зачытваюцца?*

*— А таму, што героі гэтай, з прабачэння сказаць, кніжкі нічога больш не робяць, як толькі гнуць палазы.*

На думку вышэй названых даследчыкаў, «Янка Купала, працуючы ў рэдакцыі газеты «Наша ніва», не толькі рыхтаваў да друку паэтычныя творы, але і выконваў самую разнастайную работу». Не выключана, што сярод матэрыялаў, якія захаваліся ў падборцы «Некалькі вельмі практычных рад для непрактычных людзей», многае належыць пяру паэта.

Нараджэнне вершаў «Прыяцелі», «Лямант пана Кавалюка», «Нашы дэпутаты» было выклікана чарнасоценнай рэакцыяй, якая актывізавалася пасля паражэння рэвалюцыі 1905—1907 гг. Гэтыя творы з'явіліся канкрэтным водгукам на надзённыя з'явы палітычнага характару. Сваёй тэматыкай, зместам, будовай, вострай крытычнай скіраванасцю яны пераклікаюцца з вершамі «Дэпутату N. N.», «Усё саюзы...», «Ісцінна чорнае трыо», «Апекунам», «Бот і лапаць», «Чын, герб і лапаць», «Дэпутаты і грамадзяне» і інш.

### *На прадвесні* (с. 54)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 9, 27 лют., дзе апублікаваны пад назвай «Думкі хлебароба на прадвесні». Пад тэкстам: Янук Купала. 21/II-1909 г. Вільня.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 168), на якой чорным чарнілам у назве верша закрэслены першыя два словы і пакінута: «На прадвесні». Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Наша вёска». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

*Магазын* — дзяржаўны або прыватны свіран, адкуль выдавалася збожжа ў крэдыт.

### *Памяці Т. Шаўчэнкі* (с. 55)

(«Сягоння на Украйне вялікае свята...»)

Друкуецца па выданні — У вянок Т. Г. Шаўчэнкі. Мн., 1939. Пад тэкстам верша: 25/II-1909 г.

Упершыню — «Гусляр», 1910, дзе, як і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях, акрамя асноўнага тэксту, надрукаваны без 4 і 5 строф.

У «Гусляры» да верша зроблена памета: *Прапушчана дзве чатырохрадковыя звароткі. Выд.*

Прычыну адсутнасці гэтых радкоў сам паэт тлумачыць: *«У першым выданні ў гэтым месцы выкінута выдаўцом дзеля цэнзурных варункаў дзве чатырохрадковыя звароткі. За адсутнасцю рукапісу, гэтая пробель застаецца і ў цяперашнім выданні. Я. К.»* (Зб. тв., 1925, т. I: Зб. тв., 1928, т. I.)

Верш уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I.

Дзень нараджэння і дзень памяці Тараса Шаўчэнкі адзначаецца амаль адначасна (25 і 26 лютага). Янка Купала як прыхільнік таленту вялікага Кабзара да 95-годдзя з дня нараджэння і 48-й гадавіны з дня яго смерці напісаў два вершы: «Памяці Шаўчэнкі» і «Памяці Т. Шаўчэнкі». (Гл. камент. да наступнага верша.)

У лісце да Л. М. Клейнбарта за 11/I-1929 г. Я. Купала на запытанне, як рана ён пазнаў Шаўчэнку, пісаў: *«Точно не помню. Но уже в Вильне я Шевченко хорошо знал, переводил его и познакомился*

*с критикой о его творчестве, кажется, Брандеса. Влиял ли Шевченко на мое творчество — затрудняюсь сказать. Возможно, в некоторых моих стихах и есть отзвуки его поэзии, но в каких именно — не знаю. Украинскую литературу я люблю больше, может быть, чем какую-либо другую. Объясняется это, я думаю, одинаковым социальным и национальным положением белорусского и украинского народов в минулом и в настоящем. К тому же украинская литература, как никакая другая, сумела выразить в прошлом и настоящем думы и настроения своего народа. Из украинских поэтов больше всего, конечно, люблю Шевченко, из современных — Тычину».* (Зб. тв., 1976, т. VII. С. 435—436.)

Пры падрыхтоўцы тэксту верша для зборніка «У вянок Т. Г. Шаўчэнкі», які прысвячаўся 125-годдзю з дня нараджэння пісьменніка, Я. Купала не толькі дапісаў дзве названыя вышэй страфы верша, але і зрабіў некаторыя праўкі. Замена асобных слоў надала вершу больш дакладнае гучанне, пашырыла сэнсавае значэнне. Выразна падмацоўвае сказанае замена паэтам у 5 радку слова *прасветы* на слова *свабоды.*

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, Б. Турганаў, М. Сідарэнка, на ўкраінскую — А. Малышка, на грузінскую — Г. Каландадзе, на казахскую — С. Асанаў.

*Стройныя шаты* — святочнае адзенне.

*Лёхі* — тут падзямелле турмаў, турэмная няволя.

*Памяці Шаўчэнкі* (с. 56)

(«Ад гасцінца, да гасцінца...»)

Друкуецца па выданні — У вянок Т. Г. Шаўчэнкі. Мн., 1939.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 11, 12 сак. Пад тэкстам: Вільня. 26/II-1909 г. Янук Купала.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 211). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Сваім і чужым». (Гл. камент. да папярэдняга твора.)

Пры падрыхтоўцы тэксту верша для зборніка «У вянок Т. Г. Шаўчэнкі» Я. Купалам была апушчана 3 страфа яго першапачатковага варыянта:

Месца даў яму пачэсне
Бедны і багаты;
Распяваюць яго песні
«Парубкі», «дзівчаты».

Як адзначалася вышэй, зборнік прысвячаўся 125-годдзю з дня нараджэння Т. Шаўчэнкі. У студзені 1939 г. паэт быў абраны ў склад камітэта па святкаванні дня нараджэння Т. Шаўчэнкі. З 4 да 9 сакавіка ў складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў прымаў удзел ва ўрачыстасцях, якія праходзілі ў Кіеве.

Верш пераклалі: на рускую мову — К. Цітоў, на нямецкую — Ф. Лешнітцэр, на ўкраінскую — В. Бычко, С. Крыжаніўскі, Р. Лубкіўскі.

А. Багатыроў паклаў твор на музыку.

*За чужую елку* (с. 57)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Гусляр», 1910.

Няпоўны разрознены аўтограф верша (VI і VII раздзелы) змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 195—198), дзе закрэслены аўтарам. Пасля першага са згаданых раздзелаў паэтам занатаваны

пачатак тэксту 6 часткі цыкла «З песень беззямельнага» («Ой, скажы ты, беззямельнік...»). Паміж імі пазначана: Вільня. 1/III-09 г. Паколькі Я. Купала месца і дату напісання сваіх твораў часцей за ўсё ставіў пад тэкстам, то і гэтая памета, відаць, адносіцца да VI раздзела верша «За чужую елку».

Пад тэкстам VII раздзела гэтага ж твора пазначана: Янка Купала. Ні ў адным з асобных выданняў зб. «Шляхам жыцця» верш не друкаваўся. Акрамя згаданых вышэй крыніц, ён уключаны ў зб. «Апавяданні вершам», 1926; Зб. тв., 1928, т. I; зб. «За што», 1930; Зб. тв., 1940, т. IV. (Гл. камент. да верша «Сват», с. 268.)

На рускую мову верш пераклала М. Камісарава.

*Два мужыкі і глушэц* (с. 62)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 12, 19 сак., дзе апублікавана з падзагалоўкам: «Ахвяруецца розным «апекунам» Беларушчыны». Пад тэкстам: Вільня. 10/III-1909 г. Янук Купала.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 233), дзе падзагаловак да назвы байкі закрэслены паэтам.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Байкі і аповесці». У пасмяротных Зборах твораў друкуецца пачынаючы з выдання 1961, т. II.

«Два мужыкі і глушэц» тэматычна звязаны з вершам «Ворагам Беларушчыны». Абодва творы, як справядліва адзначыў I. Казека, «напісаны ў адказ на зласлівыя выпады рускага чарнасоценнага і польскага шавіністычнага друку супраць беларускага народа, яго мовы і культуры. Чарнасоценны друк лічыў беларускую мову і літаратуру «штукай палякаў», «польскай інтрыгай», польскі ж рэакцыйны друк увогуле адмаўляў беларусам у патрэбе ствараць сваю культуру. Асабліва паклёпнічалі на беларускую мову і літаратуру газета «Виленский вестник», якая атрымлівала субсідыі ад царскага ўрада («ад казны»), і «Dziennik Wileński» («Дзённік віленскі»). Гэтыя выданні і меў на ўвазе ў байцы Купала, аб чым сведчаць радкі: «Бач ты, абраўся «сямідзённік!»

— А ты што лепшае, «казённік»?!» (ЭД. С. 188.)

У папярэднім Зборы твораў у 38 радку дапушчана памылка: замест *залопаўшы* надрукавана *захлопаўшы*.

Байку пераклалі: на рускую мову — Б. Кежун, на ўкраінскую — С. Піліпенка.

*Вялікдзень* (с. 63)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 13—14, 26 сак. Пад тэкстам: Вільня, 23/III-1909 г. Янук Купала.

Асноўны тэкст верша датуецца недакладна: 1908 г. (Гл. камент. да верша «Хто ты гэткі?», с. 263.)

Напісаны напярэдадні хрысціянскага свята, якое па старому стылю прыпадала на 29 сакавіка.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 74). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне».

У пасмяротных Зборах твораў Янкі Купалы друкуецца ўпершыню.

У зб. «Спадчына», 1955 пададзены ў раздзеле «Па межах родных».

Тэмай і пафасам «Вялікдзень» пераклікаецца з вершам «Хрыстос уваскрос!..».

*Паводка* (с. 64)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 15, 9 крас. Пад тэкстам: Вільня. 27/III-1909 г. Янук Купала.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 105). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Па межах родных». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I.

На рускую мову верш пераклаў П. Кустоў.

*Песняру-беларусу* (с. 65)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 25, 18 чэрв. Пад тэкстам: Вільня. 14/IV-1909 г. Янук Купала.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 215). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Сваім і чужым».

Верш пераклалі: на рускую мову — Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, І. Цітовіч, на літоўскую — П. Кейдошус, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — С. Шаўлы, на эстонскую — Х. Юрысан, на польскую — Л. Левін.

*Мірта* — вечназялёнае дрэўца з белымі пахучымі кветкамі; тут сімвал народнай славы, неўміручасці яе.

*Да дзяўчынкі* (с. 66)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 20, 14 мая. Пад тэкстам: Вільня. 22/IV-1909 г. Янук Купала.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 135). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Для яе». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I.

Тэматыкай і сацыяльнай скіраванасцю твор пераклікаецца з вершам «Дзяўчынцы».

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, А. Чывіліхін, на ўкраінскую — К. Дрок, на грузінскую—Н. Гурашыдзе, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — Г. Яфімаў, на англійскую — У. Мэй, на румынскую — С. Дэлчу.

У. Тэраўскі паклаў твор на музыку.

***З песень аб вясне*** (с. 67)
(«І зелень, і кветкі, і песні...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 12, 24 сак. Пад тэкстам: Вільня. 23/IV-1909 г. Янук Купала.

У Зб. тв., 1926, т. II; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I верш датуецца недакладна: 1911 г. (Гл. камент. да верша «Хто ты гэткі?», с. 263.)

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 105). Ва ўсіх яго асобных выданнях і згаданых вышэй Зборах твораў верш надрукаваны ў раздзеле «Па межах родных».

Твор пераклалі: на рускую мову — Л. Хаўстаў, на літоўскую — Э. Матузявічус, на малдаўскую — А. Чыбатару.

*Каберац* — дыван, кілім.

*Песня-байка* (с. 67)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 21, 21 мая. Пад тэкстам: Вільня. 30/IV-1909 г. Янук Купала.

У выданні: Купала Я. Песня-байка: Вершы. Мн., 1930 тэкст твора памылкова датуецца 1910 г.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 20). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

Пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання ў тэкст верша (1 і 15 радок) унесена аднатыпная праўка: злучнік *із* заменены на *з-за.* Удакладненне ўзмацняе экспрэсіўнае гучанне твора, больш выразна падкрэслівае яго казачна-былінны характар.

На рускую мову верш пераклалі М. Браўн і М. Камісарава.

*Лякарства* (с. 68)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Беларусь», 1920, 17 студз. Пад тэкстам: 1/V-09 г.

У зб. «Спадчына», 1922 байка змешчана ў VI раздзеле. Пачынаючы са Зб. тв., 1961, т. II, друкуецца ў яго наступных пасмяротных выданнях.

*Літвіны, ліцвіны, ліцвякі* — назва жыхароў Вялікага княства Літоўскага, пераважна этнічных беларусаў, што насялялі цэнтральныя і заходнія раёны сучаснай Беларусі ў 14—18 стст. У вершы — у значэнні беларус увогуле.

*Лях* — паляк.

*...Мураўёва цень...* — абагулены вобраз, які выкарыстаны паэтам як увасабленне царызму.

*Мураўёў М. М.* (1796—1866) — дзяржаўны дзеяч Расіі, душыцель вызваленчага руху беларускага, польскага і літоўскага народаў, празваны за жорсткасць «вешальнікам». Ён з'яўляўся арганізатарам і кіраўніком падаўлення паўстання 1863—1864 гг. у Літве і на Беларусі.

*Лямант пана Кавалюка* (с. 69)

Друкуецца па аўтографе, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы, ф. 43, воп. 1, адз. зах. 279. Пад тэкстам: 4.V.[1]909 г. Я. К-ла.

Упершыню — «Полымя», 1966, № 10. Публікацыя Э. Агінскене і С. Александровіча. (Гл. камент. да верша «Прыяцелі», с. 280.)

У прыжыццёвых і пасмяротных выданнях Я. Купалы верш не друкаваўся. У Збор уключаны ўпершыню.

Вострая сатыра верша накіравана супраць лідэраў чарнасоценнага руху.

*Замыслоўскі Р. Р.* — віленскі пракурор, дэпутат III Думы, яры манархіст, паплечнік Дубровіна А. І. і Пурышкевіча У. М. (Гл. камент. да вершаў «Як не выйдуць чарнасотнікі...», с. 269 і «Ўсё саюзы...», с. 276.)

На аркушы паперы, падклееным пад тэкстам аўтографа, рукой Я. Купалы напісаны жарты, якія адрасаваны лідэру чарнасоценнай віленскай суполкі «Крестьянин» — Кавалюку С. А.:

*На Юр'еўскім праспекце*[1]

*Ды што ты мне, паненка, капейку тыкаеш, як якому Кавалюку на «Крэсцьяніна».*

---

[1] Галоўная вуліца тагачаснай Вільні.

*І жывецца гэтаму Кавалюку, жывецца! Аддрукуе «Крэсцьяніна», прачытае толькі сам і сядзіць, як у бога за плячыма. І капейка не міла, і чын не чураецца, і Замыслоўскі пецярні падаць не жалее. Шчаслівы Кавалюк.*

У жартоўнай падборцы «Некалькі вельмі практычных рад для непрактычных людзей», якія запісаны ці апрацаваны Я. Купалам, занатавана наступнае:

*Калі захочаш перамаляваццa з белага на чорнага, ідзі да Кавалюка: ён на гэта майстар.*

*Калі маеш да збыцця старую чарнасоценную пракламацыю — нясі як мага да Кавалюка: ён на гэты тавар* (нрзб).

*Нашы дэпутаты* (с. 70)

Друкуецца па няпоўным аўтографе, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы, ф. 43, воп. 1, адз. зах. 279.

Упершыню — «Полымя», 1966, № 10. Публікацыя Э. Агінскене і С. Александровіча. (Гл. камент. да верша «Прыяцелі», с. 280.)

Датуецца 1908—1909 гг.

У прыжыццёвых і пасмяротных выданнях Я. Купалы верш не друкаваўся. У Збор твораў уключаны ўпершыню.

Тое, што верш мог быць напісаны ў 1908 г., сведчаць наступныя радкі: *Дый штось зблышыла нагайка, // Цягнуць к ўласцям Налівайку.* Змест іх раскрываецца з публікацыі ў «Нашай ніве», за 29 лютага 1908 г., дзе пад рубрыкай «З Беларусі і Літвы» апавядаецца здарэнне, якое адбылося з дэпутатам III Думы Налівайкам А. М.: «Прыехаў ён на станцыю Асіповічы і, падышоўшы да пераезда, хацеў, каб яму яго адчынілі, на тым аснаванні, што ён дэпутат і што яму ўсё можна. Калі сторож яго не паслухаў, Налівайка сам хацеў адчыніць пераезд і нават ударыў стоража. Падняўся шум, прыбег народ, і мужыкі пачалі лаяць Налівайку за тое, што ён не дабіўся для іх зямлі і здрадзіў свайму народу. Тым часам з'явіўся жандар, Налівайку адправілі на станцыю, дзе і зрабілі пратакол за нарушэнне спакою і за тое, што ён мяшаўся ў распараджэнне жалезнадарожнага начальства».

Аднак не выключана, што як нізка вершаў, пра што нагадвае рымская лічба I у пачатку тэксту, твор мог быць напісаны пазней, прыблізна ў адным часе з вершамі «Прыяцелі» і «Лямант пана Кавалюка» — у 1909 г.

Паводле зместу няпоўнага аўтографа можна меркаваць, што Я. Купала ў творы высмейваў беспрынцыпных «заступнікаў» беларускага народа, якія ўвайшлі ў склад III Думы.

«Наша ніва», 1907, 26 кастрычніка паведамляла пра выбары ў Думу ад Мінскай губерні наступнае: «Стыд і сорам прад цэлым светам пісаць аб іх: чорная сотня патрафіла так забраць у свае рукі мужыцкіх выбаршчыкаў, ды так задурыць ім галовы, што яны павыбіралі ўсіх чарнасоценных кандыдатаў.

Выбралі 9 дэпутатаў: чатырох мужыкоў (Андрэя Налівайку — з Барысаўскага пав., Ярмольчыка — з Рэчыцкага пав., Кучынскага — з Барысаўскага пав. і Юркевіча — з Слуцкага павету); двух папоў (Якубовіча і Салаўевіча); аднаго памешчыка — адстаўнога жандармскага генерала Мезенцова; вучыцеля Мінскай гімназіі — Паўловіча і Густава Карлова Шміда, каторы ўсёй Расеі вядомы з таго, што ў 1891 гаду прадаў немцам за 10 тысяч рублёў планы рускай крэпасці, і за гэта, па прыгавору суда, яго саслалі на пасяленне!

Усе дзевяць — члены чарнасоценнага «Окраинного русского союза».

*Заклятая кветка* (с. 71)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 26, 25 чэрв. Пад тэкстам: Вільня. 16/VI-1909 г. Янук Купала.

Верш створаны на аснове народных легенд пра папараць-кветку, якая нібыта расцвітае на Купалле (у ноч з 6 на 7 ліпеня) і прыносіць шчасце тым, хто знойдзе яе.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 114). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш надрукаваны ў раздзеле «Па межах родных».

На тэксце твора ў карэктурным зб. «Шляхам жыцця» (л. 78) зроблена аўтарская праўка: у 6 радку дапісана слова *дзе*, што было выклікана жаданнем удасканаліць рытміку твора.

У Зб. тв., 1940, т. IV у 20 радку дапушчана друкарская памылка: замест слова *сцікаецца* (крадзецца) напісана *сціскаецца*.

Верш пераклалі: на рускую мову — Э. Багрыцкі, П. Кустаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі.

*Забытая скрыпка* (с. 72)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 30, 23 ліп. Пад тэкстам: Вільня. 17/VI-1909 г. Янук Купала.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 246). Чорным чарнілам на тэксце выразкі зроблены аўтарскія праўкі ў 12, 17 і 19 радках, што тлумачыцца імкненнем паэта да больш дакладнага выкарыстання слова, жаданнем дасягнуць гукавой гармоніі радкоў. Ва ўсіх асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця», Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Байкі і аповесці». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання ў 91 радку слова *эха* заменена на *рэха*, а ў 93 у выніку перастаноўкі слоў у сказе адбылося пераразмяшчэнне іх асноўнай сэнсавай нагрузкі: *Чуюць музыку суседзі — Музыку чуюць суседзі.*

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, В. Шэфнер, на іспанскую — К. Шэрман.

*Явар* (с. 75)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», № 40, 1909, 1 кастр. Пад тэкстам: Бараўцы. 26/VI-1909 г. Янук Купала.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 95). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Па межах родных». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, Н. Кіслік, на армянскую — Х. Рачан, на англійскую — У. Мэй, на балгарскую — Н. Вылчаў, на іспанскую — К. Шэрман.

*Жальцеся, грайкія струны...* (с. 76)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Гусляр», 1910.

Няпоўны аўтограф верша (адсутнічаюць 1—3, 13—15 радкі) змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 104), дзе закрэслены паэтам. Пад тэкстам: 9.VII-09 г. Я. Купала. Ні ў адным з выданняў зборніка твор не друкаваўся. Акрамя згаданых вышэй крыніц, ён уключаны ў Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

На рускую мову верш пераклала М. Камісарава.

*Маладым на вяселлі* (с. 77)
(«Не дубок пры ніўцы ў гаі...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3. Пад тэкстам твора: Вільня, 11/VII-1909 г. (Гл. камент. да верша «Перад вісельняй», с. 275.)

На рускую мову верш пераклаў А. Пракоф'еў.

*Каберац* — гл. камент. да верша «З песень аб вясне» («І зелень, і кветкі, і песні...»), с. 284.

*Дзяўчынка і вянок* (с. 78)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913, дзе апублікаваны ў раздзеле «Для яе».

Аўтограф верша, які ўключаны ў рукапісны зб. «Шляхам жыцця» (л. 49), мае праўкі, зробленыя паэтам чырвоным чарнілам. Пад тэкстам дата: 22/VII-09 г.

Захоўваецца таксама другі аўтограф (воп. 1, адз. зах. 22). Варыянты абодвух рукапісаў выяўляюць моўна-стылёвыя пошукі аўтара, узмацненне сэнсавай нагрузкі радка, выпрацоўку рытмікі верша.

Акрамя згаданых крыніц, верш надрукаваны таксама ў другім і трэцім асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця»; Зб. тв., 1929, т. II; Зб. тв., 1940, т. IV.

На рускую мову твор пераклала М. Камісарава.

*Зажынкі* (с. 79)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 31—32, 6 жн. Пад тэкстам: Вільня. 28/VII-1909 г. Янук Купала.

Аўтограф верша і выразка з газеты змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 174, 182). Тэкст першадруку закрэслены паэтам. Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Наша вёска». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

На рускую мову верш пераклаў С. Гарадзецкі.

М. Мацісон паклаў твор на музыку.

*Залом* — заламанае і пэўным спосабам звязанае ў час паспявання жыта. Залом, паводле народных павер'яў, робіцца з мэтай наклікаць бяду на гаспадара поля.

*Урок* — няшчасце ад нядобрага вока або слова.

*Ігнат і п'яўкі* (с. 79)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 33, 13 жн. Пад тэкстам твора: Вільня. 28/VII-1909 г. Янук Купала.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 233—234). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Байкі і аповесці». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

Ёсць няпоўны чарнавы аўтограф (адз. зах. 26). Варыянты аўтографа, як і варыянты «Нашай нівы», зб. «Шляхам жыцця», носяць моўна-стылёвы характар, выяўляюць тонкае адчуванне паэтам лексічнага значэння слова і трапнае яго выкарыстанне.

Байку пераклалі: на рускую мову — Б. Кежун, У. Раждзественскі, на ўкраінскую — С. Піліпенка.

*Апекунам* (с. 81)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе змешчаны ў I раздзеле. Пад тэкстам: 31/VII-09 г.

Чарнавы аўтограф верша (адз. зах. 25) мае шматслойныя праўкі. Яго варыянты сведчаць пра стылістычныя, лексічныя змены тэксту, пошукі аўтарам найбольш характэрных моўна-стылёвых канструкцый і паэтычных сродкаў для стварэння тыповага вобраза «апекуноў» — тых царскіх чыноўнікаў, якія праводзілі варожую для беларускага народа палітыку, любымі сродкамі перашкаджалі развіццю нацыянальнай культуры.

Сваім пафасам, паэтыкай твор вельмі блізкі да такіх вершаў, як «Адповедзь», «Блізкім і далёкім», і інш.

У зб. «Спадчына», 1955 друкуецца ў раздзеле «Сваім і чужым». Пачынаючы са Зб. тв., 1961, т. II, уключаецца ў яго наступныя пасмяротныя выданні.

На рускую мову верш пераклаў Н. Кіслік.

*Вісельнік* (с. 82)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 37, 10 верас., дзе апублікаваны без назвы. Пад тэкстам: Вільня. 18/VIII-1909 г.

Аўтограф з назвай «Вісельнік» і выразка з газеты змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 257—258; 33, 57). Тэкст выразкі закрэслены паэтам. Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Байкі і аповесці». Ён уключаны таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV. У пасмяротных Зборах твораў друкуецца пачынаючы з выдання 1961, т. II.

Пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання ў 35 радку верша паэтам зроблена праўка: замест слова *саўсім* напісана *зусім*, што некалькі ўдасканаліла рытмічны лад. (Гл. камент. да верша «Чорны Бог», с. 292.)

На рускую мову верш пераклаў У. Мікушэвіч.

*Было гэта...* (с. 84)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Гусляр», 1910.

Датуецца 1909 г.

Аўтографы вершаў «Было гэта...» і «Брату» (адз. зах. 43) змешчаны на адной старонцы, якая пранумаравана лічбай 40. Нумарацыя дае падставы меркаваць, што абодва творы рыхтаваліся для нейкага выдання, магчыма, для зб. «Гусляр».

Верш «Было гэта...» пераклікаецца з многімі алегарычнымі творамі зб. «Гусляр». Напрыклад: «З песень жыцця...», «Нарадзіўся на долюнядолю...» Памета Янук Купала Вільня. 13/IX, зробленая пад вершам «Брату» (тэкст яго занатаваны пасля верша «Было гэта...»), наводзіць на думку, што яна адносіцца да абодвух твораў. Указанне месца напісання — Вільня — дазваляе вызначыць год стварэння вершаў: 1909 г. У верасні 1908 г. вершы напісаны быць не маглі, бо менавіта ў Вільні, паводле пашпартных дадзеных, Я. Купала жыў толькі з 1 снежня 1908 г. і да 6 лістапада 1909 г. (ф. 1 «Б», воп. 4, р. 1, адз. зах. 1).

Аўтограф верша «Палац» і аналагічная памета пад ім (гл. камент. с. 290) таксама сцвярджаюць верагоднасць зробленай намі высновы.

У дадзеным Зборы твораў вершы «Было гэта...» і «Брату» падаюцца ў той паслядоўнасці, у якой яны размешчаны аўтарам на згаданым вышэй лісце.

У папярэднім Зборы твораў 14 радок твора друкаваўся па аўтографе: *Мерз замёр верабейка.* Аднак у зб. «Гусляр» і асноўным тэксце ён набраны: *Мёр, замёр верабейка.* Паколькі згаданая змена належыць, відаць, Я. Купалу і паляпшае рытмічнае гучанне, больш выразна перадае мастацкі вобраз, то друкаваць яго па аўтографе няма патрэбы.

Акрамя згаданых крыніц, верш уключаны ў Зб. тв., 1928, т. I; зб. «Адцвітанне», 1930; Зб. тв., 1940, т. IV.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Г. Сямёнаў, А. Чачыкаў, на ўкраінскую — Т. Масэнка.

*Брату* (с. 84)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913, дзе апублікаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне».

Датуецца 1909 г.

Акрамя згаданых крыніц, верш надрукаваны таксама ў другім і трэцім асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця», Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV. У пасмяротных Зборах твораў падаецца пачынаючы з выдання 1961, т. II.

Захоўваюцца два аўтографы верша. Адзін з іх змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 72). Другі занатаваны на адной старонцы з вершам «Было гэта...» (гл. камент. вышэй).

Наяўнасць шматслойных правак у апошняй страфе верша другога аўтографа Р. Гульман тлумачыць аўтарскім пошукам прымальнага варыянта для тагачаснай цэнзуры. На аснове гэтага ёй выказана меркаванне, што друкаваны тэкст страфы не адпавядае поўнай творчай задуме паэта. (Гульман Р. Тэксталогія твораў Я. Купалы. С. 88—89.)

Прымаючы пад увагу зробленыя даследчыцай вывады, а таксама тое, што вызначыць дакладны першапачатковы намер Я. Купалы немагчыма, прапануем увазе прыклады варыянтаў апошняй страфы другога аўтографа верша ў поўным яе гучанні:

а) *Пытай пана, пытай чына,*
*Сваіх пут,*
*Ці мы людзі, ці скаціна,*
*Хто мы тут?*

б) *Пытай пана, пытай чына,*
*Дзюрак, лат,*
*Ці мы людзі, ці скаціна,*
*Хто мы, брат?*

в) *Спытай рванай кажурыны,*
*Дзюрак, лат,*
*Ці мы людзі, ці скаціна,*
*Хто мы, брат?*

Пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання Я. Купала ўнёс праўку ў 9 радок верша: замест *каторым* напісана *якім ты.*

Верш «Брату» пераклікаецца з такімі яго творамі, як «Мужык», «А хто там ідзе?», «Хто ты гэткі?», і інш.

Верш пераклалі: на рускую мову — І. Белавусаў, Д. Бродскі, Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — П. Дарошка, А. Малышка, на армянскую — Ахаўні, на чувашскую — В. Дзмітрыеў, на кітайскую — Чжу Цзі.

*Палац* (с. 85)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913, дзе апублікаваны ў раздзеле «Па межах родных».

Захоўваюцца тры аўтографы верша. Два з іх чарнавыя (адз. зах. 30—31): аўтограф без назвы з падтэкставай паметай 21/IX. Янук Купала і аднайменны аўтограф з наступнымі звесткамі — 21/IX[1]909 г. Вільня. Янук Купала.

Абодва аўтографы сведчаць пра няпростую творчую гісторыю верша. Пачынаюцца яны з другой страфы. Першая ў адным выпадку напісана перадапошняй, у другім — занатавана пасля подпісу.

Аўтографы зміяшчаюць у сабе шматлікія варыянты. Яны выяўляюць адказнае стаўленне паэта да гукавой інструментоўкі твора, моўна-стылёвай зладжанасці, падкрэсліваюць скіраванасць аўтара на стварэнне адпаведнай інтанацыі, узмацненне эмацыянальнай выразнасці мовы, акрэсленасці паэтычнага вобраза.

Трэці аўтограф (белавы) уключаны ў рукапісны зб. «Шляхам жыцця» (л. 107—108).

Акрамя згаданых вышэй крыніц, верш надрукаваны таксама ў другім і трэцім асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця», Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

У пасмяротных Зборах твораў паэта ў перадапошнім радку дапушчана недакладнасць: замест слова *досвета* надрукавана *досвіта*.

Пераклад верша на рускую мову зрабіў Н. Кіслік.

Гл. таксама камент. да верша «Чорны Бог», с. 292.

*Даўгажданая* (с. 86)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913, дзе апублікаваны ў раздзеле «Для яе».

Аўтограф верша змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 145). Пад тэкстам: Я. Купала. Вільня. 23/IX 09 г.

Акрамя згаданых вышэй крыніц, верш надрукаваны таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Нараджэнне верша было выклікана захапленнем паэта жанчынай, сустрэча з якой адбылася на пачатку сакавіка 1909 г. А. Лойка пра гэта піша: «Мы памятаем, як даўно ўжо чакала гордая душа Купалы прышэсця Яе [...], а тут, у Вільні, Яна раптам узяла ды прыйшла: прыйшла нават раней, чым ён паспеў прысвяціць ёй верш, назваўшы яе «даўгажданай»:

Ты прыйшла ка мне тады,
Як звінелі халады,
Як стагнаў яловы плот,
Хохлік бегаў ля варот...

Стогн яловага плота тут невыпадковы, як і хохлік — д'яблік, нешта не самае лепшае, што перабягала дарогу каханню, што было ценем ад сонца ў небе. А можа, і чым іншым?..

І сагрэла ты мяне
Ў палуцьме, у палусне:
Паня ты была, я — пан...

Імя «пані» ведала маладзенькая Паўлінка Мядзёлка. Ці не імя гэта было той якраз гаспадыні, якой не назвала Паліна Вінцэнтаўна, успамінаючы пра першую сустрэчу з паэтам? Яе імя ведаў Уладзімір Іванавіч Самойла, калі пісаў у лісце да Браніслава Ігнатавіча Эпімах-Шыпілы: «Любоў жанчыны — любоў сляпая, якая распыляе душу, творыць цуды, але гэтая любоў адно будзіць «цуд», які закладзены ў паэце; любоў мужчынскага духу, відушчая, асвечаная, збірае душу паэта чысцейшым пачуццём дружбы, падзякі, робіць з яго сапраўднага рыцара духу без страху і дакору — героя не на хвілю, а на ўсё жыццё» (Лойка А. Як агонь, як вада... Мн., 1984. С. 84—85).

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на грузінскую — Н. Кілосонія, на асецінскую — А. Пухаеў, на балгарскую — Н. Вылчаў, на кітайскую — Чжу Цзі.

Гл. камент. да верша «Чорны Бог», с. 292.

*Курганы* (с. 86)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Гусляр», 1910.

Аўтограф змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 118), дзе закрэслены паэтам. Пад тэкстам: Вільня. 25/IX 1909 г. Ні ў адным з выданняў зборніка верш не друкаваўся. Акрамя згаданых крыніц ён уключаны ў Зб. тв., 1928, т. I і Зб. тв., 1940, т. IV.

У папярэднім Зборы твораў паэта 17 радок верша падаваўся па аўтографе: *Дзівам дзівяцца з праявай.* Аднак няма патрэбы адыходзіць ад асноўнага тэксту. Слова *дзіўлюцца*, унесенае пры падрыхтоўцы верша для Зб. тв., 1925, т. I, хоць і не адпавядае нормам сучаснай арфаграфіі, але перадае ўласцівы для паэта стыль, надзяляе радок большай экспрэсіяй.

Гл. камент. да верша «Чорны Бог», с. 292.

*Чорны Бог* (с. 87)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913, дзе апублікаваны ў раздзеле «Па межах родных».

Аўтограф змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 104). Пад тэкстам: Я. Купала. 25.IX.09 г. Вільня.

У Зб. тв., 1926, т. II; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I твор датуецца недакладна: 1911 г. (Гл. камент. да верша «Хто ты гэткі?», с. 263.) У пасмяротных Зборах твораў друкуецца пачынаючы з выдання 1961, т. II.

У аўтографе верша ёсць варыянты асобных радкоў. Найбольшую цікавасць выклікаюць 23 і 24, дзе паэтам упамінаецца *рог зубрыны, белапушчны рог*, што з'яўляецца ўвасабленнем жыццёвых сіл, неўміручасці нацыянальнага пачатку.

Трапную характарыстыку верша даў А. Лойка. Ён, у прыватнасці, адзначыў: «Гэты твор, як і блізкія па часе стварэння вершы «Вісельнік», «Палац», «Даўгажданая», «Курганы», выяўляюць драматычныя перажыванні Купалы, што выпалі яму на лета — восень 1909 г. і былі звязаны з яго няпэўным становішчам у рэдакцыі газ. «Наша ніва», канфрантацыяй паміж выдаўцамі газеты, новым яе (з сак. 1909) сакратаром В. Ластоўскім і паэтам. З аднаго боку, верш паказваў, што матывы адчаю, якія былі ў вершы «Вісельнік» («Згасла ўсё лепшае, згасла, зламалася,— // Далей змагацца сілы не стала»), паэтам канчаткова пераадолены, а з другога — твор з'явіўся своеасаблівым працягам асноўнага матыву, што развіўся ў вершы «Палац» («Душы да славы ўсябратняй не здатны, // Вокліка суму не знаюць»). Менавіта чорныя багі, якія ўвасабляюць варожыя чалавеку сілы, да ўсяго светлага не здатны, і саму цямрычнасць іх духу выкрывае, ганьбіць паэт, ствараючы вельмі экспрэсіўны прывід чорнага бога [...]. Вакханалія цёмных сіл раскрывалася паэтам з нечаканай сілай фантазіі, прычым акцэнтаваўся менавіта паказ неймавернага ажыўлення і агрэсіўнасці цёмных сіл [...]. Чорны бог у цэлым перарастаў у абагульнены вобраз узмоцненай у краіне палітычнай рэакцыі, пазначаў шлях паэта да вобраза Чорнага з паэмы «Сон на кургане». У гэтым вершы, бадай, упершыню выявілася схільнасць паэта да выкарыстання і абнаўлення традыцый-

ных міфалагічных вобразаў, якая найярчэй раскрылася пазней у паэме «Сон на кургане» (ЭД. С. 655).

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, В. Наседкін, У. Раждзественскі, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на англійскую — У. Мэй, на польскую — Я. Гушча, Т. Хрусцялеўскі.

*Як я полем іду...* (с. 88)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 41, 8 кастр., дзе апублікаваны без назвы. Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 32). Чорным чарнілам на тэксце выразкі паэтам зроблена праўка 14 радка, якая была выклікана агульнай рытмікай верша: замест слова *смутак* напісана *сум*.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Ён уключаны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I.

Назву «Як я полем іду...» Я. Купала даў вершу пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання.

У перакладзе I. Белавусава на рускую мову твор уключаны ў першую кнігу выбраных твораў: Купала Я. Избранные стихотворения в переводах русских поэтов. М. 1919. (Гл. камент. да верша «Развейся, туман...», с. 267.) На рускай мове твор вядомы таксама ў перакладах М. Камісаравай, Н. Кісліка, Р. Куранёва. Шырокую вядомасць верш атрымаў на іншых мовах свету. Яго пераклалі: на ўкраінскую — А. Кундзіч, А. Юшчанка, на асецінскую — А. Пухаеў, на малдаўскую — П. Дарые, на таджыкскую — М. Фархат, на чувашскую — Г. Яфімаў, на эстонскую — Х. Юрысан, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман, на кітайскую — Чжу Цзі, на польскую — Я. Бжастоўская, на сербахарвацкую — С. Раічкавіч.

На музыку верш паклаў М. Чуркін.

*Памаліся...* (с. 89)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Гусляр», 1910.

Аўтограф верша змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 145), дзе закрэслены паэтам. Пад тэкстам твора пазначана: Бенін. 15/X 09 г. Я. Купала. Ні ў адным з асобных выданняў гэтага зборніка верш не друкаваўся. У Зб. тв., 1925, т. I і Зб. тв., 1928, т. I ён таксама не ўключаўся. У гэтыя ж выданні не ўвайшлі і такія вершы з «Гусляра», як «О. М. Пяшчынскаму» і «Смутна мне, Божа», што тлумачыцца тагачасным стаўленнем Галоўліта да рэлігіі і асаблівай асцярожнасцю да невядомых асоб.

Верш пераклалі: на рускую мову — Р. Куранёў, на літоўскую — А. Якштас, на малдаўскую — П. Дарые, на польскую — Я. Гушча.

На музыку верш паклаў Д. Смольскі.

*З кірмашу* (с. 89)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Гусляр», 1910.

Аўтограф змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 21), дзе закрэслены паэтам. Пад тэкстам пазначана: Бенін. 17/X 09 г. Янук Купала. Ні ў адным з асобных выданняў зборніка верш не друкаваўся.

Ён уключаны ў Зб. тв., 1928, т. I і Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — П. Дарошка, Т. Масэнка, на іспанскую — К. Шэрман.

У. Мулявін і Дз. Смольскі паклалі твор на музыку.

*Прад світаннем* (с. 91)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913, дзе апублікаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне».

Белавы аўтограф верша змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 21). Пад тэкстам: Бенін. 20/Х 09 г. Янук Купала. У чарнавым рукапісе (адз. зах. 29) падтэкставая памета дае тыя ж звесткі пра месца і дату напісання твора. Подпіс адсутнічае.

Варыянты чарнавога аўтографа выяўляюць карпатлівую працу паэта над гукавой арганізацыяй радка, дакладнасцю выкарыстання слова, узмацненнем яго сэнсавай нагрузкі.

Пад тэкстам гэтага ж аўтографа занатаваны наступныя радкі:

*Ні братня з помачай рукі,*
*Ні шчасця вольнага не маем,*
*А дзень і ноч годы, вякі,*
*Мы шлі, ідзем — куды? Не знаем.*
*Ва ўсе за*

Акрамя згаданых вышэй крыніц, твор таксама надрукаваны ў другім і трэцім асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця»; Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, на чувашскую — Ю. Пятроў.

*Ноч за ночкай...* (с. 91)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе датуецца 1909 г.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 37, 9 верас. Пад тэкстам (кірыліцай): Пецярбург. 8/21 1910. Янук Купала, (лацінкай): Янка Купала.

Аўтограф, які мае назву «Ноч за ночкай ідзе...» (тэкст напісаны простым алоўкам; адз. зах. 29), змяшчае наступныя звесткі: 23.Х.09 г. Нёман. Падтэкставая памета аўтографа гаворыць хутчэй за ўсё пра дзень нараджэння верша, а памета першадруку — пра дату і дакладнае месца яго дапрацоўкі. (Гл. камент. да верша «Хто ты гэткі?» с. 263.)

Варыянты аўтографа носяць моўна-стылёвы характар. Найбольш істотным прыкладам розначытанняў паміж аўтографам і першадрукам з'яўляецца 6 радок верша, дзе замена аднаго слова (*беспрасветным — груганoвым*) істотна паглыбляе сэнсавае значэнне радка і тым самым павялічвае эмацыянальную нагрузку верша.

Выразка тэксту нашаніўскай публікацыі (кірыліцай) змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 105).

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка і Зб. тв., 1926, т. II; Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Па межах родных».

Верш пераклалі: на рускую мову — В. Наседкін, І. Шклярэўскі, на нямецкую — Ё. Кальмэр.

*Адцвітанне* (с. 92)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 44, 29 кастр. Пад тэкстам: Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Аўтограф верша і выразка з газеты змешчаны ў рукапісным

зб. «Шляхам жыцця» (л. 115, 127). Тэкст выразкі закрэслены паэтам.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Па межах родных». Ён змешчаны таксама ў зб. «Адцвітанне», 1930 і Выбр. тв., 1935, т. I.

На рускую мову ўпершыню перакладзены В. Брусавым і разам з вершамі «На Купалле», «У ночным царстве» апублікаваны ў віленскай «Вечерней газете», 1914, 22 і 25 жніўня. У гэтым жа перакладзе твор уключаны ў першую кнігу выбраных твораў: Купала Я. Избранные стихотворения в переводах русских поэтов. М. 1919. (Гл. камент. да верша «Развейся, туман...», с. 267.) Пераклад верша на рускую мову зрабіў таксама А. Пракоф'еў.

Твор шырокавядомы на іншых мовах свету. Яго перакладалі: на літоўскую мову — П. Кейдошус, на эстонскую — Х. Юрысан, на чувашскую — А. Эсхель, на грузінскую — Н. Кіласонія, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на карачаеўскую — Х. Байрамукава, на англійскую — У. Мэй.

*З мінуўшых дзён* (с. 93)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 46, 12 лістап. з прысвячэннем: «Нашай ніве» ў дзень яе трохлетняй гадаўшчыны». Пад тэкстам верша: Вільня. Янук Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Трохгадоваму юбілею газеты «Наша ніва» прысвечаны многія матэрыялы нумара. Сярод іх верш М. Багдановіча «Нашай ніве», А. Паўловіча «10 наябра», Ядвігіна Ш. «Нашай ніве».

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 210). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Сваім і чужым».

У пасмяротных Зборах твораў друкуецца ўпершыню. У зб. «Спадчына», 1955 пададзены ў раздзеле «Забраны край».

Сёмая і восьмая строфы верша былі дапісаны паэтам пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання (адз. зах. 23а). Пад тэкстам аўтографа гэтых строф пазначана: *«К песням мінуўшых дзён»*, збоку — памета: *«Надрукав.»*.

Унесеныя Я. Купалам змены ўзмацнілі мастацкае гучанне твора, надалі гістарычнаму вобразу роднага краю большую акрэсленасць.

Пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання паэтам знята прысвячэнне.

*Паліліся мае слёзы* (с. 94)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3. Пад тэкстам: 21/XI — 1909 г. (Гл. камент. да верша «Перад вісельняй», с. 275.)

Аўтограф верша змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 119), дзе закрэслены паэтам. Чацвёртая страфа верша ў аўтографе адсутнічае. Яна, магчыма, дапісана паэтам пры падрыхтоўцы твора да першай публікацыі, а магчыма, першая публікацыя зроблена па іншым аўтографе, які знайшоўся ў архіве Эпімах-Шыпілы. Ні ў адным з выданняў зб. «Шляхам жыцця» верш не друкаваўся.

Паводле выказвання А. Лойкі, «твор — варыяцыя верша з т. зв. лазанскага лірычнага цыкла А. Міцкевіча «Паліліся мае слёзы». Толькі першы радок паўтарае свой літаратурны прататып. У цэлым твор арыгінальны. У ім знайшла выражэнне непасрэдна купалаўская духоўная драма, арыгінальнае завастрэнне міцкевічаўскай тэмы, самой настраёвасці верша. У вершы Купалы, як і ў Міцкевіча, няма канстата-

цыі драмы, ёсць толькі выражэнне стану спакутаванай душы і як бы звыклай з гэтай пакутай».

«Пра тое, што гэты верш накіраваны супраць абставін, што склаліся ў жыцці паэта восенню 1909 г.,— піша далей даследчык,— сведчыць яго напісанне ў той самы дзень, што і ліст да Б. І. Эпімах-Шыпілы, дзе Купала прызнаваўся: «Я ў Вільні доўга не магу трымацца... Калі нічога зноснага не прыдумаеце, то тыкі папраўдзе са мной кепска будзе». Такім чынам, з аднаго боку, над душой паэта ў гэты час вісела прадчуванне кепскага, з другога — падзеі ўласнага жыцця, абуджаныя ў яго памяці радкамі верша Міцкевіча. Гэтым абумоўлены арыгінальнасць, вельмі асабісты характар верша, яго біяграфічная сутнасць» (ЭД. С. 454).

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Кіслік, М. Сідарэнка, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на грузінскую — В. Лапераш-вілі, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на польскую — Б. Генбарскі, М. Шчапоўская.

А. Елісеенкаў, У. Солтан паклалі верш на музыку.

*Снег* (с. 94)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 49, 3 снеж., дзе апублікаваны з падзагалоўкам: «Па Пшыбышэўскім». Пад тэкстам верша (кірыліцай): Вільня. Янук Купала, (лацінкай): Янук Купала.

Паводле ўспамінаў В. Ластоўскага, верш напісаны напрыканцы восені 1909 г.

Выразка з газеты змешчана ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 127). Ва ўсіх яго асобных выданнях, Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Па межах родных». Ён уключаны таксама ў зб. «Адцвітанне», 1930 і Зб. тв., 1940, т. IV.

Пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога выдання падзагаловак у вершы зняты.

Нагодай для напісання твора, паводле ўспамінаў В. Ластоўскага, стала наступнае:

«Я добра памятую той вечар, калі быў напісаны гэты верш. Было гэта познай восенню. Выпаў першы глыбокі белы сьнег, мяккі, пушысты і цёплы. Мы, як і Палуян, сядзелі ў мяне дома. Было ўжо па 12-й гадзіне вечара. С. Палуян і Я. Купала, як мы тады казалі, «выбіраліся ўжо ў вырай» — меліся выязджаць з Вільні. Выязджаць, шукаючы залатога руна асьветы, каб вярнуцца з часам волатамі ў дзедзіне творчасьці. С. Палуян і я непакоіліся, што Я. Купала меў некаторую склоннасць да «шклянога бога». У гэты момант увашоў Я. Купала, румяны, паводле ўсіх азнак, пад знакам Вакха. Пачалося таварыскае казаньне. Я. Купала сеў у куце за сталом і маўчаў. На ніякія нашы закіды не адказваў, толькі нешта крэмзаў на пакомканай паперцы алуўкам. Калі мы вычарпалі ўсе свае аргументы і прымоўклі, Я. Купала сказаў: «А цяпер паслухайце, хлопцы». І прачытаў свой верш «Сьнег». Цяпер, паражаныя хараством верша, мы змоўклі,— усе нашы аргумэнты былі разьбіты. Аказалася, што Я. Купала быў таго вечара ў тэатры, у якім ігралі Пшыбышэўскага «Сьнег». Мастацтва і прырода ўтварылі настрой, рэшта дапоўніў творчы геній аўтара.

У некалькі дзён пасьля гэтага выехаў Я. Купала ў Ленінград, а С. Палуян у Кіеў. Было гэта ў канцы 1909 году». (Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік. Мн., 1993. С. 156.)

Як стала вядома з успамінаў Уладзіславы Францаўны, на прагляд аднайменнай драмы С. Пшыбышэўскага ў віленскім польскім тэатры

яны хадзілі разам (будучы яшчэ не жанатымі). «П'еса гэта захапіла Я. Купалу да глыбіні душы. Калі мы выйшлі з тэатра, на вуліцы падаў снег,— піша Уладзіслава Францаўна.— Была дзіўная цішыня. Я. Купала, як заўсёды, праводзіў мяне дадому... Назаўтра я атрымала ад яго ліст з нарачным. У лісце быў укладзены новы верш «Снег» (Янка Купала. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта. Мн., 1952. С. 50).

Верш пераклалі: на рускую мову — Э. Багрыцкі, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на таджыкскую — М. Фархат, на туркменскую — А. Ніязаў, на англійскую — А. Пракоф'ева, на балгарскую — Н. Вылчаў.

*Песня званара* (с. 96)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, 21 радок па аўтографе. У асноўным тэксце згаданы радок надрукаваны: *Гэткі будзе мой кліч* , што хутчэй за ўсё з'яўляецца памылкай друку.

У аўтографе, першадруку і ва ўсіх асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця» тэкст 21 радка ідэнтычны.

Упершыню — «Першы беларускі каляндар «Нашае нівы» на 1910 г.», дзе апублікаваны з прысвячэннем: «В. і М. Ластоўскім».

Датуецца 1909 г., паводле паметы пад асноўным тэкстам. (Гл. камент. да верша «Хто ты гэткі?», с. 263.)

Няпоўны аўтограф твора (28 першых радкоў) і выразка календара змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (аўтограф — л. 27—28, выразка — л. 20, 29). Першая частка публікацыі (28 радкоў, л. 20) закрэслена паэтам, а другая (л. 29) з'яўляецца працягам тэксту аўтографа.

Ва ўсіх асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця», Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор надрукаваны ў раздзеле «Бацькаўшчыне».

Пры падрыхтоўцы зборніка да другога выдання прысвячэнне да верша паэт зняў, зроблены таксама нязначныя моўна-стылёвыя праўкі 5 і 7 радкоў.

Знаёмства Я. Купалы з Вацлавам Ластоўскім і яго жонкай Марыяй прыпадае на сакавік 1909 г., калі паэт жыў і працаваў у Вільні. Адносіны Я. Купалы і В. Ластоўскага былі складаныя. Асноўная лінія іх разыходжання — непрыняцце паэтам эстэтычных крытэрыяў В. Ластоўскага.

Марыя — літоўская пісьменніца, якая разам са сваёй сястрой Соф'яй друкавалася пад агульным псеўданімам Лаздзіну Пяледа. Выйшаўшы замуж за В. Ластоўскага, Марыя зблізілася з асяроддзем «Нашай нівы». Кватэра Ластоўскіх стала своеасаблівым літаратурным клубам, дзе сустракаліся Я. Колас, Я. Купала, Зм. Бядуля, Ядвігін Ш., У. Луцэвіч, Цётка, К. Буйло і інш. дзеячы беларускай культуры. Я. Купала цікавіўся творчасцю Марыі Ластоўскай, прысвячаў ёй свае вершы. У рамане-эсэ А. Лойкі пра Янку Купалу «Як агонь, як вада...» Марыя з'яўляецца адной з гераінь твора.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, У. Раждзественскі, на ўкраінскую — С. Пінчук, на туркменскую — Б. Кербабаеў і А. Ніязаў, на балгарскую — Н. Вылчаў.

Ілюстравалі твор М. Басалыга, П. Сергіевіч.

*Сцежары* — кастры.

*Прошча* — месца (крыніца, камень і г. д.), надзеленае, паводле народных уяўленняў, надзвычайнай сілай.

*Песня жнеяў* (с. 97)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, дзе датуецца 1909 г.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913. Апублікаваны ў раздзе-

ле «Наша вёска». (Гл. камент. да верша «Хто ты гэткі?», с. 263.)

Белавы аўтограф верша змешчаны ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 178—179). Чарнавы (адз. зах. 27) мае вельмі істотныя варыянты 28 радка, тэкст якога, як тлумачыць Р. Гульман, быў зменены паэтам у белавым аўтографе, зыходзячы з цэнзурных меркаванняў (Гульман Р. Тэксталогія твораў Янкі Купалы. Мн., 1971. С. 82—84). Выказаная даследчыцай думка заслугоўвае ўвагі. Аднак калі больш уважліва прааналізаваць твор, пранікнуць у яго эстэтычную структуру, адчуць і зразумець яго традыцыйна-народную аснову, то можна пераканацца, што прычына змянення радка мае чыста мастацкі характар. Змест радка адпавядае агульнаму настрою верша, дзе галоўная думка схавана ў падтэксце і акцэнтуецца рэфрэнам, які напоўнены шматзначным сэнсам. Новы тэкст радка арганічна ўплятаецца ў агульную тканіну твора і разам з заключнымі радкамі рэфрэна нясе ў сабе значна багацейшы эстэтычны і эмацыянальны зарад.

Зыходзячы з выказаных вышэй назіранняў, рэдкалегія лічыць, што ўзяты ў папярэднім Зборы твораў паэта тэкст чарнавога аўтографа за асноўны — не правамерны.

28-мы радок у ім пададзены: *Працай чужою будзь сыт і багат.*

Акрамя згаданых вышэй крыніц, верш надрукаваны таксама ў другім і трэцім асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця»; Зб. тв., 1929, т. II; Зб. тв., 1940, т. IV.

Тэкст 28-га радка ва ўсіх гэтых выданнях і белавым аўтографе ідэнтычны. У пасмяротных Зборах твораў змяшчаецца пачынаючы з выдання 1961, т. II.

На рускую мову твор пераклаў Н. Кіслік.

### *Тут і там* (с. 98)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе апублікаваны ў II раздзеле. Пад тэкстам: 1909 г. Гэтая ж дата і подпіс Я. Купала пазначаны паэтам у белавым аўтографе верша (адз. зах. 29).

Пераклад твора зрабілі: на рускую мову — Н. Кіслік, М. Сідарэнка, на літоўскую — Э. Матузявічус, на ўкраінскую — К. Дрок, на грузінскую — А. Чыладзе, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на калмыкскую — М. Ханінаў, на чувашскую — А. Алга, на англійскую — А. Пракоф'ева.

### *Я і воля мая* (с. 99)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе апублікаваны ў III раздзеле. Пад тэкстам: 1909 г.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Р. Куранёў, М. Сідарэнка, на ўкраінскую — П. Дрок, М. Палатай, на асецінскую — А. Пухаеў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на чувашскую — М. Сандроў, на малдаўскую — А. Чакану, на латышскую — А. Веян, на балгарскую — Н. Вылчаў.

### *«Шуман»* (с. 99)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3. Пад тэкстам: Вільня, 1909 г. (Гл. камент. да верша «Перад вісельняй», с. 275.)

*«Шуман»* — шыкоўны тагачасны рэстаран у Вільні.

### *Калатуха* (с. 100)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3. Пад тэкстам твора: 1909 г. (Гл. камент. да верша «Перад вісельняй», с. 275.)

Прычынай для напісання твора паслужылі падзеі ў Турцыі і Іране, якія адбываліся ў першай палове 1909 г. У вершы Я. Купала назваў іх «калатухай».

У канцы красавіка 1909 г. у Стамбуле рэвалюцыйнай арміяй младатуркаў і македонскіх партызан быў задушаны мяцеж, арганізаваны рэакцыйнымі сіламі. Тымі, хто быў супраць прагрэсіўных перамен у краіне, якія вызначыліся ў выніку ўзброенага паўстання 1908 г. султан Абдул-Хамід II, які, апіраючыся на мяцежнікаў, намагаўся аднавіць старыя парадкі, быў звергнуты. Месца на прастоле атрымаў султан Мехмед V, які прысягнуў на вернасць парламенту і канстытуцыі.

У чэрвені 1909 г. у Іране прыхільнікамі канстытуцыі на чале з вядомым дзеячам дэмакратычнага руху Сатар-ханам быў распачаты паход на Тэгеран. У выніку чаго сталіца была захоплена, звергнуты шах Махамед-Алі і ўзведзены на прастол яго 14-гадовы сын Ахмед-Мірзы.

Поспехі дэмакратычнага руху на Блізкім Усходзе выклікалі занепакоенасць афіцыйных колаў царскай Расіі і Англіі. Пра тагачасныя падзеі з жыцця замежных краін і знешняй палітыкі Расіі і еўрапейскіх дзяржаў Я. Купала ў іранічна-выкрывальнай манеры якраз і апавядае ў вершы «Калатуха». Абраная Я. Купалам тэма з'яўляецца рэдкай у творчасці паэта.

У пасмяротных Зборах твораў друкуецца пачынаючы з выдання 1961, т. II.

*«Я не плачу над братняй магілай...»* (с. 101)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6. Пад тэкстам: 1909 г. (Гл. камент. да верша «З надзеяй гаротнай», с. 277.)

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на літоўскую — В. Бложа.

*Ісцінна чорнае трыо* (с. 101)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца 1909 г. паводле паметы пад асноўным тэкстам.

Сваім пафасам і тэматыкай верш пераклікаецца з такімі творамі паэта, як «Гэй, капайце, далакопы», «Як не выйдуць чарнасотнікі...», «Дэпутату N. N.», «Усё саюзы...», «Лямант пана Кавалюка», і інш.

Усе гэтыя творы напісаны ў сувязі з грамадска-палітычнымі падзеямі, якія разгарнуліся пасля паражэння рэвалюцыі 1905—1907 гг. Асабліва балючым для паэта было нацыянальнае пытанне, ад вырашэння якога залежаў лёс яго Бацькаўшчыны.

У вершы «Ісцінна чорнае трыо» высмейваюцца рэальныя асобы, лідэры чарнасоценнага руху, тыя, хто р'яна праводзіў палітыку вялікадзяржаўнага шавінізму. (Гл. камент. да верша «Як не выйдуць чарнасотнікі...», с. 269.)

*Іліядор* — манах, які меў вялікі ўплыў на народныя масы ў Саратаве і Царыцыне.

*Дух Пабеданосца* — маецца на ўвазе рэакцыйная дзейнасць обер-пракурора Сінода Пабеданосцава К. П.

*Светач Грынгмута не гас* — гаворка ідзе пра Грынгмута У. А. і рэакцыйную газету «Московские ведомости», якую ён рэдагаваў з 1896 г. да 1907 г.

*Баль у нас «чырвоны»!* — падразумяваюцца крывавыя расправы царскага самаўладства.

Верш надрукаваны таксама ў Выбр. тв., 1935, т. II.

*Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу з Новым 1910 годам* (с. 103)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — «Гусляр», 1910.

Датуецца снежнем 1909 г. паводле назвы і зместу твора.

Верш змешчаны таксама ў Зб. тв., 1928, т. I.

*Эпімах-Шыпіла Браніслаў Ігнатавіч* (1859—1934) — беларускі выдавец і мовазнавец, арганізатар беларускага выдавецтва таварыства ў Пецярбурзе «Загляне сонца і ў наша аконца». Упершыню з даследчыкам Я. Купала пазнаёміўся восенню 1908 г. у Вільні, а ў пачатку снежня 1909 г. ён з рэкамендацыйным пісьмом У. Самойлы прыехаў у Пецярбург «папоўніць сваю адукацыю». Эпімах-Шыпіла запрасіў паэта пасяліцца ў яго на кватэры, дзе ён з пэўнымі інтэрваламі і жыў да лета 1913 г.

Б. Эпімах-Шыпіла высока цаніў талент Я. Купалы, з'яўляўся рэдактарам яго першага зборніка «Жалейка», садзейнічаў паступленню на агульнаадукацыйныя курсы Чарняева, спрыяў літаратурнаму станаўленню паэта.

Янка Купала доўгі час быў цесна звязаны з Эпімах-Шыпілам. Шчырую ўдзячнасць і вернасць сяброўству паэт пранёс праз усё жыццё, ён прысвяціў яму такія творы, як верш «Прафесару п. Б. Эпімах-Шыпілу», легенду «Паляўнічы і пара галубкоў», а таксама згаданы вышэй верш, які напоўнены аптымістычнымі настроямі. Паміж Я. Купалам і Эпімах-Шыпілам пэўны час вялася перапіска.

На рускую мову верш пераклаў У. Раждзественскі.

## 1910

*Песня сонцу* (с. 105)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 27, 1 ліп. з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург, 26/IV 1910 г.

«Песня сонцу» — першы твор, напісаны Я. Купалам у Пецярбурзе.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы змешчаны машынапіс верша з датай: 26/4 1910 г., дзе 8 радок адрозніваецца ад асноўнага тэксту. Было: *Вісі, сонца, уюном па зямлі.* Паэт перапрацаваў названы радок, рыхтуючы верш да публікацыі. У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» — выразка з газеты (л. 20), на якой памета пад тэкстам закрэслена.

Пры падрыхтоўцы названага зборніка да асобнага выдання паэт выкарыстоўваў усе матэрыялы, якія ў той час былі ў наяўнасці: рукапісы вершаў, машынапісы, выразкі з першадрукаў. Паколькі зборнік складаўся паводле тэматычнага, а не храналагічнага прынцыпу, дата напісання ці публікацыі не мела значэння. Таму відавочна прычына, па якой паэт выкрэсліваў гэтыя паметы над ці пад тэкстамі вершаў.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка «Шляхам жыцця», у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Бацькаўшчыне».

Пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, А. Карынфскі, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на туркменскую — А. Ніязаў, Б. Кербабаеў, на чувашскую — М. Сандроў, на англійскую — В. Рыч, У. Мэй, на кітайскую — Чжу Цзі, на польскую — М. Рудзінска, на румынскую — С. Дэлчу.

На рускай мове твор упершыню быў апублікаваны ў «Педагогичес-

ком листке» (Москва, 1914, кн. 1) у перакладзе А. Карынфскага разам з біяграфічнай даведкай пра Я. Купалу і вершамі «Каб я князем быў...» і «Мой дом».

*Воўк* (с. 106)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 34, 19 жн. з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург, 28/4⟨ліпеня⟩1910 г.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы змешчаны машынапіс верша з датай: 28/4 1910 г., у якім 10 радок адрозніваецца ад асноўнага тэксту. Было: *Як бы на суд таго зваў.* У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (на адвароце л. 101) — выразка з газеты, на якой памета пад тэкстам закрэслена.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Па межах родных». Уваходзіў таксама ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Адцвітанне», 1930; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на балгарскую — Н. Вылчаў.

*Мой погляд і мэта* (с. 107)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913, дзе змешчаны ў раздзеле «Сваім і чужым». У той самы раздзел верш уваходзіў у пазнейшыя асобныя выданні, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы змешчаны машынапіс верша без падзагалоўка з датай пад тэкстам: 28/4 1910 г., у рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» — машынапіс (л. 228—231) з паметамі: над тэкстам — *Янка Купала, 28/4 1910 г.*, пад вершам *Пецярбург*, якія пазней былі закрэслены паэтам. На палях рукой Я. Купалы напісана: **(С прыпеўкаў тутэйшага)* набрать петитом.* Паказана, што гэта памета павінна быць набрана пад загалоўкам.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы, у рукапісным зборніку, у асобных яго выданнях радок 76 адрозніваецца ад асноўнага тэксту. Было: *Пакупкі ж дык не прызнаю...* Паэт перапрацаваў радок пры падрыхтоўцы да выдання Зб. тв., 1926, т. II.

Верш уваходзіў у апошні прыжыццёвы Зб. тв., 1940, т. IV, але са значнай купюрай: у тэксце адсутнічалі радкі 57—64. Выданне гэта, па слушнаму меркаванню даследчыцы Р. Гульман, нельга лічыць аўтарытэтным, паколькі «шматлікія папраўкі, якія сустракаюцца ў тэксце, у сваёй большасці зроблены былі рэдактарам. З гэтай прычыны апошні прыжыццёвы тэкст не можа быць прыняты за крыніцу асноўнага тэксту» (Гульман Р. Тэксталогія твораў Янкі Купалы. С. 48—49).

Радкі 57—64 адсутнічалі таксама ва ўсіх пасмяротных Зборах твораў. У дадзеным выданні ўпершыню за пасляваенны перыяд тэкст верша падаецца поўнасцю, без купюр.

Верш пераклаў на рускую мову Н. Кіслік.

*Явар і каліна* (с. 110)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1911 г.» з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург. 6—V 1910 г.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы змешчаны машынапіс верша з той жа паметай, у якім радок 9 *(Захадам мольбы пакорныя)* адрозніваецца ад асноўнага тэксту. Замена слова *мольбы* на *модлы* адбылася пры падрыхтоўцы верша да публікацыі.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (на адвароце л. 94) захоўваецца выразка з календара, на якой памета пад тэкстам закрэслена.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Па межах родных». Уваходзіў таксама ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Адцвітанне», 1930; Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пакладзены на музыку Ю. Семянякам.

Пераклалі: на рускую мову — А. Карынфскі, Р. Куранёў, А. Пракоф'еў, на англійскую — У. Мэй, А. Пракоф'ева, на балгарскую — І. Давыдкаў, на французскую — Ж. Гаш, на кітайскую — Чжу Цзі.

*Брату ў чужыне* (с. 111)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 32, 5 жн. з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург 17/V 1910 г.

Можна выказаць меркаванне, што зварот да брата — мастацкі прыём, пры дапамозе якога Я. Купала выказаў тугу і свой смутак па роднай старонцы, ад якой быў адарваны ўжо даволі значны час.

Захоўваецца чарнавы аўтограф са шматлікімі праўкамі (адз. зах. 33), напісаны лацінкай.

Вядома, што вершы Я. Купалы, прызначаныя для зборніка «Гусляр», Б. І. Эпімах-Шыпіла перапісаў лацінкай, каб не мець непрыемнасцей ад цэнзуры (Александровіч А. Аб дакастрычніцкай творчасці Янкі Купалы // Полымя, 1947, № 6). Можна меркаваць, што названы верш мог быць напісаны паэтам у Пецярбурзе для зборніка, але не трапіў у яго, таму што «Гусляр» знаходзіўся ўжо ў наборы. Пазней твор быў уключаны ў зб. «Шляхам жыцця».

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы змешчаны перапрацаваны ў параўнанні з аўтографам машынапіс верша, перапісаны кірыліцай, з паметай пад тэкстам: Пецярбург 17/5 1910.

Тэксты машынапісу, першай публікацыі і зб. «Шляхам жыцця» амаль ідэнтычныя, апрача адной праўкі ў карэктуры зборніка (радок 36: *журавой* замест *журайлёў*. Дарэчы, у аўтографе — *журавой*. Замена на *журайлёў* адбылася ў «Нашай ніве»). Усе разам яны значна адрозніваюцца ад чарнавога аўтографа. Можна выказаць меркаванне, што існаваў яшчэ адзін аўтограф, дзе амаль усе варыянты чарнавога аўтографа былі ўлічаны, а шмат якія радкі перапрацаваны нанова. Напрыклад, радок 4 мае тры варыянты, але ні адзін з іх не супадае з асноўным тэкстам:

а *Матуля з шумамі бяроз*
б *Красу зямлі світ нябёс*
в *Дзе рдзіцца лета срэбрам рос*

У аўтографе паміж 16 і 17 радкамі існавалі радкі, якія не ўвайшлі ў асноўны тэкст:

а *Ці помніш лес той гутарлівы*
б *І пушчу, лес той гутарлівы*
*Якога шумы у даль плывуць*
а *Рачулак плюскат сарамлівы*
б *І рэчак плюскат сарамлівы*
а *Што шэпты з вольхамі нясуць*
б *Што шэпты з вольхамі вядуць* і г. д.

Аналіз перапрацовак паказвае, што яны рабіліся паэтам з мэтай паляпшэння стылю, рыфмы і рытму, пошуку больш дакладных слоў ці выразаў.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (л. 215) захоўваецца выразка з газеты, на якой памета пад тэкстам закрэслена.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Сваім і чужым». Твор уваходзіў таксама ў апошні прыжыццёвы Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, на ўкраінскую — А. Малышка, на асецінскую — А. Пухаеў, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на літоўскую — І. Грайчунас, на малдаўскую — П. Дарые, на англійскую — А. Пракоф'ева, на балгарскую — Н. Вылчаў.

*Мой дом* (с. 112)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 25, 17 чэрв. з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург 20/V 1910 г.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс верша з той жа паметай, а ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (л. 32) — выразка з газеты, дзе памета закрэслена.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Твор уваходзіў таксама ў прыжыццёвыя Выбр. тв., 1935, т. I.

Пераклалі: на рускую мову — А. Карынфскі (гл. камент. да верша «Песня сонцу», с. 300), на ўкраінскую — А. Малышка, на польскую — Б. Жыранік, І. Сікірыцкі, на балгарскую — Н. Вылчаў, на асецінскую — А. Пухаеў, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на англійскую — У. Мэй.

*Мая дзяўчынка* (с. 113)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 28, 8 ліп. пад загалоўкам «Мая дзяўчына» і з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург, 4 чэрвеня 1910 г.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс верша пад загалоўкам «Мая дзяўчынка» і з паметай: Пецярбург, 1910, а ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (л. 130) — выразка з газеты, дзе памета закрэслена.

У машынапісе і ў першадруку радок 13 адрозніваецца ад наступных выданняў: *Цвет-лілія із крыніцы.*— Пры падрыхтоўцы зборніка да асобнага выдання паэт паправіў радок: *Кветка-лілія з крыніцы.*

У асобных выданнях зборніка «Шляхам жыцця», у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II пад загалоўкам «Мая дзяўчынка» змешчаны ў раздзеле «Для яе». Верш уваходзіў таксама ў апошні прыжыццёвы Зб. тв., 1940, т. IV.

Пакладзены на музыку М. Чуркіным.

На ўкраінскую мову пераклаў А. Малышка.

*На Купалле* (с. 114)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 26, 24 чэрв. з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург 5/VI 1910 г.

Верш апублікаваны 24 чэрвеня — па старому стылю 7 ліпеня. Як вядома, у ноч з 6 на 7 ліпеня адзначаецца старажытнае язычніцкае земляробчае свята — Купалле. Можна меркаваць, што гэты твор напісаны менавіта да свята. У згаданым нумары газеты змешчаны таксама верш А. Паўловіча «Ноч на Івана Купалы» (тэкст гл. ніжэй), прысвечаны паэту-сябру, чый псеўданім звязаны са святам нашых продкаў.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (на адвароце л. 114) захоўваецца выразка з газеты, дзе памета пад тэкстам закрэслена.

Пры падрыхтоўцы зборніка да другога выдання (1923) Я. Купала перапрацаваў 13 і 15 радкі верша. Было:

*Як із зелля глянуць кветкі,—*
*Будзем, маці, меці ў хаце*

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка «Шляхам жыцця», у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Па межах родных». Верш уваходзіў у апошні прыжыццёвы Зб. тв., 1940, т. IV.

У перакладзе на рускую мову В. Брусавым быў апублікаваны ў віленскай «Вечерней газете» 22.08.1914 г. На ўкраінскую мову пераклаў Р. Лубкіўскі, на грузінскую — Н. Кіласонія, на карачаеўскую — Х. Байрамукава, на кітайскую — Чжу Цзі.

Разам з іншымі творамі паэта ўключаны ў араторыю-паэму С. Картэса «Памяці паэта», прысвечаную 90-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы.

## НОЧ НА ІВАНА КУПАЛЫ

*Ахвярую Я. Купале*

Ноч беспрасветная, страшная, сумная
Цяжка на землю сырую лягла;
Быццам, як сонная, хмара пакутная
Ціха, ледзь жыва, па небе плыла...
Сцелецца густа туман над дубраваю,
Кверху падымецца, зноў прыпадзе...
Дрэме над возерам вольха кудравая,
Лісця прыткнуўшы к спляснелай вадзе...
Чуць скалыхнецца асіна срабрыстая...
Я калачуся, займае дух мне,
Страхі здаюцца, ■ сіла нячыстая
Путае ногі і ў зад мяне пхне.
Мораць сном вочы мне ведзьмы зласлівыя,
Толькі не ім нада мною верх мецъ!
Чуў ад старых я, што жыцце шчасліваe
Тых ёсць, хто з папраці кветку сарвецъ!
Хто пераможа сам страхі ўсе дзікія,
Вызваліць кветку із ведзьмавых рук,—
Той таямніцы пазнае вялікія,
Знаці не будзе ні крыўды, ні мук!

*Мінск* *Альберт Паўловіч*

*Над Іматрай* (с. 115)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 30, 22 ліп. з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Іматра, 20/VI — 1910 г.

Верш напісаны пад уражаннем паездкі паэта разам з Б. І. Эпімах-Шыпілам і А. Грыневічам у Фінляндыю. Нататкі пра тое, што ўбачылі вандроўнікі ў чужой краіне, Я. Купала пасылаў у «Нашу ніву», дзе яны былі апублікаваны (№ 29, 30 за 1910 г.).

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс верша з паметай: Іматра, 20/VI — 1910. Да 23 радка Я. Купала тут падае зноску: **Суомі — Фінляндыя.* У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» змешчана выразка з газеты (л. 92), дзе з паметы выкраслена прозвішча паэта.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Па межах родных» з паметай: Іматра, 20/VI — 1910.

Пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі і Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на балгарскую — Х. Бербераў, на англійскую — У. Мэй.

*Паляўнічы і пара галубкоў* (с. 116)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 37, 13 верас. з паметай і прысвячэннем перад тэкстам: «(Легенда з індыйскай кнігі Магабгарата). Прысвячаю прафесару Б. Эпімах-Шыпілу». Пад вершам: Янка Купала. Пецярбург, 24.VI.1910 г.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс верша без прысвячэння. Пад тэкстам: 27/6 1910. Можна меркаваць, што разыходжанне ў датаванні выклікана памылкай пры перадрукоўцы тэксту ў газеце.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (л. 239—240) змешчана выразка з газеты, дзе памета пад тэкстам закрэслена.

У карэктурах зборніка маюцца шматлікія аўтарскія папраўкі і заўвагі. Напрыклад, насупраць радка 16 побач са словам *веткі* стаяць знакі: ?!!!! і напісана: *маскалізм.*

Пры падрыхтоўцы зборніка да другога выдання ў кнізе «Шляхам жыцця», 1913 з'явіліся рукапісныя заўвагі Я. Купалы пра кнігі Магабгараты і тлумачэнне, хто такі Сатакрата.

Рыхтуючы вершы да перавыдання, Я. Купала перапрацоўваў асобныя радкі. Так, тэкст дадзенага верша папраўляўся і для асобных выданняў зборніка «Шляхам жыцця», і пазней для Збораў твораў. Напрыклад, радок 13 у машынапісе з сшытка № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы гучаў так:

*Пануе там, як у якім сваім*
*за хатай агародзе,*

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка «Шляхам жыцця», у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Байкі і апавесці».

Пераклаў на ўкраінскую мову Р. Лубкіўскі.

*Жніво* (с. 122)
(«Наспелая постаць шчаслівых пасеваў...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 29, 15 ліп. з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург, чэрвень 1910 г.

Машынапіс верша захоўваецца ў сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы з паметай: *Пецярбург, 1910*, а выразка з газеты — на адвароце л. 114 у рукапісным зборніку «Шляхам жыцця», дзе памета пад тэкстам закрэслена.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II твор змешчаны ў раздзеле «Па межах родных».

Верш друкаваўся ў «Беларускім календары на 1912 год» і ўваходзіў у Выбр. тв., 1935, т. I.

Першы пераклад верша на рускую мову ажыццявіў М. Багдановіч. Твор быў апублікаваны ў зборніку «Вянок» (1913).

Пазней на рускую мову «Жніво» пераклалі М. Ісакоўскі, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на казахскую — Ш. Альдыбекаў, на таджыкскую — М. Фархат, на балгарскую — Н. Вылчаў, на польскую — В. Дамброўскі, на сербахарвацкую — С. Раічкавіч.

*Грабар* (с. 122)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913, дзе друкуецца ў раздзеле «Байкі і аповесці».

У гэтым жа раздзеле верш змешчаны ў наступных асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II.

Верш уваходзіў таксама ў прыжыццёвыя выданні: «Апавяданні вершам». 1926, Кн. I і II; Зб. тв., 1940, т. IV.

У сшытку № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс верша з паметай пад тэкстам: *Пецярбург, 10/7 1910 г.*, а ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» — машынапіс (л. 262—264) з той жа паметай пад тэкстам і надрукаваным зверху прозвішчам паэта. Усе паметы ў згаданым машынапісе закрэслены.

Пры падрыхтоўцы тэксту верша да выдання ў зборніку і Зборах твораў аўтарам уносіліся папраўкі ў асобныя радкі з мэтай пазбаўлення ад русізмаў (замест: *Астаноўкі, лапатай — Супачынку, рыдлёўкай*), удакладнення радка, захавання рытму страфы.

*Я ад вас далёка...* (с. 124)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 33, 12 жн. з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург. 17/30 ліпеня 1910 г.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» захоўваецца выразка з газеты (л.32—33), дзе памета пад тэкстам закрэслена.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка «Шляхам жыцця», у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Увайшоў таксама ў апошні прыжыццёвы Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш друкаваўся пад назвай «Думкі беларуса на чужыне» без другой страфы ў часоп. «На чужыне», 1920, № 1 з подпісам пад тэкстам. Тут ён змешчаны на адной старонцы з вершам Булак-Балаховіча «Покліч бацькі».

Па матывах верша мастакі А. Александровіч і Я. Чарняцін стварылі трыпціх і ілюстрацыі.

Пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, У. Раждзественскі, на ўкраінскую — М. Рыльскі, на асецінскую — А. Пухаеў, на казахскую — Ж. Кашкінаў, на літоўскую — І. Грайчунас, на малдаўскую — П. Дарые, на польскую — А. Баршчэўскі, Ю. Ратайчак, на чэшскую — К. Беднарж.

На музыку верш паклаў М. Куліковіч.

*Сэрца спытай...* (с. 126)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 52, 23 снеж. з паметай пад тэкстам: Пецярбург, 17/8, 1910 г.

У сшытку № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс з той жа паметай, а ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» — выразка з газеты (л. 63), дзе памета пад тэкстам закрэслена.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Увайшоў таксама ў прыжыццёвыя выданні: Выбр. тв., 1935, т. I і Зб. тв., 1940, т. IV.

Пры падрыхтоўцы тэксту верша да першай публікацыі Я. Купала ўнёс стылістычныя папраўкі ў 8 і 19 радкі.

8 *І насып забыты чапні;*
19 *У нас толькі паны і іх слугі,*

Радок 4 быў папраўлены ўжо ў рукапісным зборніку: *І ў шумы паводкі вясной* замест: *І ў шумы паводак вясной,*

*Гэй, капайце, далакопы...* (с. 126)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 4, 27 студз. з падзагалоўкам-прысвячэннем «Белорусской жизни» і з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург.

Верш з'яўляецца адказам паэта на выступленні чарнасоценных выданняў, у прыватнасці віленскай газеты «Белорусская жизнь», якія спрабавалі скампраметаваць працэс адраджэння беларускага нацыянальнага руху, «нацкаваць на беларусаў і расейскае грамадзянства».

Упершыню на выпады супраць беларускага адраджэння Я. Купала адказаў вершам «Ворагам Беларушчыны» («Чаго вам хочацца, панове?») (1907).

У сшытку № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс верша без падзагалоўка, з паметай пад тэкстам: *Пецярбург, 17/8 1910 г.*, а ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» — выразка з газеты, дзе падзагаловак-прысвячэнне і памета паэтам закрэслены.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Сваім і чужым», у першым пасмяротным замежным зб. «Спадчына», 1955 — у раздзеле «Забраны край». У пасмяротных выданнях друкуецца пачынаючы са Зб. тв., 1961, т. II.

Пераклалі: на рускую мову — А. Карынфскі, на балгарскую — Н. Вылчаў.

*Мая думка* (с. 128)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 36, 2 верас. з прысвячэннем: (Ахвярую Канстанцыі Буйло). Пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург, 19/8 1910 г.

У сшытку № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс без прысвячэння, але з той жа паметай, а ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» — выразка з газеты (л. 32), дзе памета пад тэкстам закрэслена.

Пры падрыхтоўцы другога асобнага выдання зборніка гэта і іншыя прысвячэнні былі зняты (вершы «Дудар», «Роднае слова» і інш.), што звязана было, відаць, з негатыўнымі адносінамі савецкіх улад да газеты «Наша ніва», якую яны лічылі буржуазна-нацыяналістычнай, і да асоб, якія ў газеце супрацоўнічалі.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка «Шляхам жыцця», у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Твор уваходзіў таксама ў прыжыццёвае выданне: Выбр. тв., 1935, т. I.

Радкі 3, 5, 7, 12 і 20 у сшытку № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы адрозніваюцца ад асноўнага тэксту.

3 *Абыймецца з небам, пакурціцца ў мора,*
5 *І ўдарыцца ў сэрца так сумна, балесне,*
7 *Так ім закалоце, аж выклічэ песню...*
12 *Дый зноў і ў свет за сонцам, за новай зарой!*
20 *Людскога, забытага доляй, жыцця.*

Перапрацоўка асобных слоў у тэксце верша пры падрыхтоўцы яго да далейшых публікацый правамерная і з боку стылістыкі, і з боку рытму і рыфмы твора.

Так, напрыклад, замена ў 3 радку дыялектнага слова *пакурціцца* на *пакоціцца* перадае імкненне Я. Купалы да ўдасканалення мовы сваіх твораў.

Што тычыцца замены ў другім асобным выданні зб. «Шляхам

жыцця» (1923) у 5 радку слова *сумна* на *смутна*, то яно, відаць, магло больш дакладна перадаць пачуцці паэта. Замена ж у 7 радку канчаткаў дзеясловаў у першым выпадку — *закалоціць* замест *закалоце* — выклікана сучасным правапісам, у другім — *выклікне* замест *выклічэ* — патрабаваннямі рыфмы і спалучэннем слоў у суседніх радках:

*Як лісцем віхура, так ім скалыхне,*
*Так ім закалоціць, аж выклікне песню...*

Лексічная замена ў 20 радку, відаць, павінна была пашырыць сэнсавую нагрузку радка.

Пераклалі: на рускую мову — І. Белавусаў, М. Галодны, А. Карынфскі, А. Пракоф'еў, на латышскую — Я. Чавар.

*Канстанцыя Буйло* (сапр. Калечыц Канстанцыя Антонаўна (1899—1986) — беларуская паэтэса. Першыя вершы з'явіліся ў «Нашай ніве» ў 1909 г. Эстэтычныя погляды К. Буйло былі блізкія паэту. Верш, які сваім ідэйным зместам набліжаўся да выказаных К. Буйло думак, быў напісаны Я. Купалам яшчэ да асабістага знаёмства з паэтэсай, якое адбылося ў Вільні.

*Памяці Мар'і Канапніцкай* (с. 128)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 41, 7 кастр. з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург, 27/IV — 1910 г.

Дата ў памеце недакладная, што выклікана, відаць, памылкай пры перадрукоўцы: IV замест IX. М. Канапніцкая памерла 25.IX.1910 г. Некралог з прычыны смерці пісьменніцы быў змешчаны ў № 40 «Нашай нівы», і ў гэтай жа газеце побач з некралогам апублікаваны верш М. Канапніцкай «Пара» ў перакладзе Янкі Купалы. У наступным нумары «Нашай нівы» з'явіўся верш паэта, прысвечаны памяці М. Канапніцкай.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (л. 210) захоўваецца выразка з газеты, дзе памета пад тэкстам закрэслена.

У асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Сваім і чужым».

Пераклалі: на ўкраінскую мову — Е. К. («Кіеўскі дзённік», Кіеў, 29.10.1910), Р. Лубкіўскі, на польскую — Л. Левін.

*Канапніцкая Марыя* (1842—1910) — польская пісьменніца, чыя творчасць была сугучная асноўным напрамкам і эмацыянальнаму стану творчасці Я. Купалы. Невыпадкова сярод перакладаў беларускага паэта паэзія М. Канапніцкай займае адно з першых месц. Асноўныя матывы творчасці пісьменніцы — жыццё сялянскай і гарадской бедната, гісторыя польскага нацыянальна-вызваленчага руху.

*Памяці С. Палуяна* (с. 129)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I з папраўкай у 6 і 53 радках паводле машынапісу з архіва А. А. Карынфскага. У асноўным тэксце:

6 *З сваім век стогнучым народам*
53 *Сышоў ваяк за долю, славу і народ*

Упершыню — «Гусляр», 1910.

Датуецца годам апублікавання.

Верш напісаны з прычыны смерці (8.04.1910) беларускага паэта Сяргея Палуяна (Ясяновіча) і, можна меркаваць, прызначаўся для «Нашай нівы», якая прысвяціла шмат матэрыялаў заўчасна памерламу паэту. Але Я. Купала, відаць, вырашыў апублікаваць верш у зб. «Гусляр», які ў гэты час рыхтаваўся да друку. Зборнік выйшаў у кастрычніку 1910 года, а ўжо 11 лістапада (№ 46) у рэдакцыйным артыкуле

газеты «Наша ніва» «Беларуская справа ў чацвёртым гаду жыцця» цытуецца апошняя страфа названага верша.

У ДзЛМЯнК, апрача названага машынапісу, захоўваецца таксама фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта. У абодвух машынапісах радкі 6 і 53 адрозніваюцца ад гэтых жа радкоў у зб. «Гусляр», 1910 і наступных выданнях. Напэўна, што твор быў перапрацаваны Б. І. Эпімах-Шыпілам пры падрыхтоўцы да выдання зб. «Гусляр» па цэнзурных меркаваннях. А. А. Карынфскаму паэт пераслаў для перакладу, відаць, свой экземпляр машынапісу з першапачатковым тэкстам. Пры падрыхтоўцы першага Збору твораў Я. Купала, відавочна, карыстаўся тэкстамі зб. «Гусляр», 1910, і, такім чынам, названыя радкі друкаваліся ў гэтым і наступных прыжыццёвых і пасмяротных выданнях у перапрацаваным выглядзе.

Даследчыца твораў Я. Купалы Гульман Р. І., аднак, лічыць, што ў выпадку са зб. «Гусляр» мы маем справу з аўтацэнзурай: «Занадта смелы закід царызму, які душыў нацыянальныя меншасці і ператварыў Беларусь у «няшчасны край... з сваім прыдаўленым народам», мог звярнуць на сябе ўвагу цэнзараў» (Гульман Р. І. Тэксталогія твораў Янкі Купалы. С. 85).

Зыходзячы з выкладзеных меркаванняў, рэдкалегія дадзенага выдання лічыць неабходным узнавіць першапачатковы аўтарскі тэкст верша.

На машынапісе, які паэт даслаў А. А. Карынфскаму, Я. Купала падкрэсліў асобныя словы, а на палях даў іх пераклад: *асот — из породы колючих трав, беспрытонні — бесприютность, бадылі — церний, з блудам — заблуждение, мусу — принуждения, Пагардай — Презрением.*

Верш уваходзіў у прыжыццёвы Зб. тв., 1928, т. I.

Пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі.

*Дудар* (с. 131)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 40, 30 верас. з прысвячэннем: *Аўтару «Беларускай Гісторыі» Власту* і паметай пад тэкстам: Янка Купала, 1910 г.

Верш напісаны з нагоды выхаду ў свет «Кароткай гісторыі Беларусі» (Вільня, 1910 г.) Ластоўскага В. (псеўданім Власт).

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс верша з паметай: 1910 г. і тым жа прысвячэннем, якое было знята пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця» (1923). (Гл. камент. да верша «Мая думка», с. 307.) У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» — выразка з газеты (л. 209), дзе памета закрэслена.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Сваім і чужым», у зб. «Спадчына», 1955 — у раздзеле «Ужо днее». Твор уваходзіў таксама ў апошні прыжыццёвы Зб. тв., 1940, т. IV.

На рускую мову пераклаў Г. Сямёнаў.

*Мой край* (с. 133)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 44—45, 5 лістап. з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург, 1910 г.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс верша з подпісам: *Янка Купала*, у рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» —

машынапіс (л. 86), у якім подпіс закрэслены, а на адвароце л. 95 — выразка з газеты, дзе тэкст перакрэслены алоўкам.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка «Шляхам жыцця», у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Па межах родных», у зб. «Спадчына», 1955 — у раздзеле «Забраны край». Уваходзіў таксама ў апошні прыжыццёвы Зб. тв., 1940, т. IV.

На рускую мову пераклаў І. Белавусаў.

*Сельскія могілкі* (с. 133)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 46, 11 лістап. з подпісам: Янка Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Верш прысвечаны старажытнаму святу беларусаў — Дзядам, дню памінання нябожчыкаў. Галоўныя Дзяды адзначаліся ўвосень, у суботу перад Змітравым днём (26 кастр. ст. ст.).

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (на адвароце л. 93) захоўваецца перакрэслены машынапіс верша з подпісам паэта і выразка з газеты (на адвароце л. 94), дзе подпіс закрэслены.

Радок 10 асноўнага тэксту адрозніваецца ад гэтага ж радка ў «Нашай ніве», рукапісным зборніку і першым асобным выданні «Шляхам жыцця» толькі формай аднаго слова: *успанай* замест *успаўшайся.*

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка «Шляхам жыцця», у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Па межах родных». Уваходзіў таксама ў апошні прыжыццёвы Зб. тв., 1940, т. IV.

*Памяці Вінцука Марцінкевіча* (с. 134)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 48, 25 лістап. з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург, 1910 г.

Твор напісаны ў сувязі з 25-годдзем з дня смерці В. І. Дуніна-Марцінкевіча. Шмат матэрыялаў названага нумара «Нашай нівы» прысвечана гэтай даце: артыкулы Р. Зямкевіча «Вінцук Дунін-Марцінкевіч, яго жыццё і літаратурнае значэнне», А. Бульбы «Грамадзянскае становішча В. Дунін-Марцінкевіча», Ядвігіна Ш. «В. Марцінкевіч у практычным жыцці».

У Лондане, у Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны, захоўваецца аўтограф верша (ЭД. С. 456).

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» маецца выразка з газеты (л. 209) з закрэсленай паметай. Збоку на палях рукой Я. Купалы напісана: *набир. после 10 стр.*

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка «Шляхам жыцця», у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Сваім і чужым».

*«Па межах родных і разорах...»* (с. 136)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 без загалоўка як уступ да раздзела.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс з загалоўкам «Па межах родных...» і з паметай пад тэкстам: *Пецярбург, 1910 г.*, а ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» — машынапіс (л. 85) з такім жа загалоўкам і паметай, якая паэтам закрэслена.

У карэктуры № 1 (л. 55) зборніка «Шляхам жыцця», 1913 верш перакрэслены фіялетавым алоўкам, а ніжэй напісана рэдактарам: *без крыўды для беларускай літаратуры — выкіньце.* Як бачым, Я. Купала

не пагадзіўся з заўвагай. У карэктуры № 2 рукой паэта зроблены запіс: *«Расстояние заголовка от стихотворения сделать такое же точно, как в первом листе на первой *».*

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш друкуецца без загалоўка.

Упершыню пад асобным загалоўкам «Па межах родных і разорах...» апублікаваны ў Зб. тв., 1940, т. IV, але, як вядома, гэта не звязана з воляй аўтара, а хутчэй за ўсё з адсутнасцю раздзелаў у кнізе і хаатычным размяшчэннем твораў.

У Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш памылкова датуецца 1919 годам, а ў Зб. тв., 1940, т. IV — 1909 г.

*Роднае слова* (с. 136)

(«Пад навалай крыўдаў многія сталецці...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1910, № 51, 16 снеж. з прысвячэннем: «Рэдакцыі, супрацоўнікам, чытачам і прыхільнікам «Нашай нівы» (10/XI 1906—10/XI 1910 г.)» і паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург.

Датуецца годам апублікавання.

Верш напісаны да юбілею «Нашай нівы», але, відаць, невыпадкова ён з'явіўся менавіта ў той час, калі III Дзяржаўная Дума, паводле інфармацыі газеты, забараніла праводзіць навучанне ўкраінскіх і беларускіх дзяцей на роднай мове. Як адзначае Ст. Станкевіч, «Роднае слова» — гэта натхнёны гімн роднаму слову. Калі народ страціў усё іншае, адно яно засталося народу «верным, каб вясці з упадку к радасцям бязмерным». А. В. Луначарскі сваім часам аб вершы «Роднае слова» пісаў: «Цяжка знайсці лепшае, больш прачулае й болей урачыстае пацверджанне сілы любасці прыгнечанага народа да свае мовы» (Станкевіч Ст. Янка Купала: На 100-ыя ўгодкі ад нараджэння. Нью-Йорк, 1982. С. 44.)

У Лонданскай Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны захоўваецца аўтограф верша (ЭД. С. 529).

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» змешчана выразка з газеты (л. 204—205), дзе памета закрэслена.

Пры падрыхтоўцы зборніка да другога асобнага выдання (1923) прысвячэнне было знята. (Гл. камент. да верша «Мая думка», с. 307.)

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка «Шляхам жыцця», у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Сваім і чужым», у зб. «Спадчына», 1955 — у раздзеле «Ужо днее». Твор друкаваўся таксама ў кн.: «Апавяданні і легенды вершам». Вільня, 1914.

Пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, на казахскую — С. Асанаў, на англійскую — У. Мэй, на нямецкую — Р. Абіхт, К. Лоранц, Н. Рандаў, на польскую — А. Баршчэўскі.

*Не спадзейся...* (с. 138)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» захоўваецца аўтограф верша (л. 60) з закрэсленай пад тэкстам паметай: Янка Купала. С. Пецярбург, 1910 г.

Пры падрыхтоўцы верша да выдання ў зборніку паэт паправіў 15 радок: *Крыўда-ведзьма незмянліва* замест: *Крыўда-попел...* Выклікана гэта хутчэй за ўсё жаданнем пазбегнуць таўталогіі, бо ў папярэднім радку ўжыта слова «спапялела».

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв.,

1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Бацькаўшчыне». Твор уваходзіў таксама ў прыжыццёвыя Выбр. тв., 1935, т. I.

*Ён і яна* (с. 139)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913, дзе змешчаны ў раздзеле «Сваім і чужым».

У гэтым жа раздзеле верш друкуецца ў наступных асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II.

Верш уваходзіў таксама ў апошні прыжыццёвы Зб. тв., 1940, т. IV.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс верша з паметай пад тэкстам: *Пецярбург, 1910 г.,* а ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» — машынапіс (л. 224) з праўкамі і той жа паметай. У памеце зроблена ўстаўка паміж назвай горада і датай: «У чэрвені», але пазней разам з прозвішчам паэта, надрукаваным зверху, яна была закрэслена.

Рыхтуючы да выдання зб. «Шляхам жыцця», паэт унёс некалькі змен у тэкст рукапіснага зборніка.

На рускую мову пераклаў А. Пракоф'еў.

*Запушчаны палац* (с. 140)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс верша з паметай пад тэкстам: *Пецярбург, 1910,* а ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» — машынапіс (л. 106), дзе такая ж памета закрэслена. Тут жа, каля апошняга слова верша, рукой паэта ў дужках напісана: *(Лацінскім шрыфтам).*

Пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» да другога асобнага выдання (1923) паэт паправіў 10 радок: *«Ад сцен цянюе забабон ад лета ў лета* замест: *Ад сцен цянюе забабон із лета ў лета.* Відавочна, што тут паэт пазбавіўся ад рускага прыназоўніка *із.* Радок 13 правіўся Я. Купалам да выдання зб. «Шляхам жыцця» (1913): *І зубы скаліць: «Моц мая і права тут!»* замест: *І зубы шчэрыць: «Моц мая і права тут!»*

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Па межах родных». Твор уваходзіў таксама ў апошнія прыжыццёвыя Выбр. тв., 1935, т. I.

Пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, Н. Кіслік, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка.

*Прафесару п. Б. Эпімах-Шыпілу* (с. 141)

Друкуецца па машынапісе з сшытка № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы, дзе змешчаны з падзагалоўкам: *З прычыны пажару ў яго маёнтку* і з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург, 1910 г.

Упершыню — «Беларусь», 1947, № 6 без падзагалоўка разам з матэрыяламі, прысвечанымі пятай гадавіне з дня смерці Я. Купалы. Верш не ўваходзіў у прыжыццёвыя выданні паэта, упершыню ён быў уключаны ў Зб. тв., 1961, т. II.

Я. Купала з вялікай павагай адносіўся да Б. І. Эпімах-Шыпілы. На бяду, якая спасцігла прафесара, ён адгукнуўся вершам. Трэба нагадаць, што згарэла не звычайнае збудаванне ў маёнтку, а дом з экспанатамі па гісторыі, этнаграфіі і археалогіі Беларусі, у якім вучоны меў намер адкрыць беларускі музей.

Б. І. Эпімах-Шыпіла ўспамінаў: «Гэта мяне так засмуціла і прывяло ў роспач, што я не мог ні есці, ні спаць і ледзь было не захварэў. Толькі Янка Купала вершам сваім, у якім ён выліў сваё спачуванне мне

і стараўся суцешыць у маім горы, дасягнуў таго, што я супакоіўся і прыйшоў да сябе. Верш гэты... быццам жыватворчы бальзам, вылечыў маю пачынаўшую балець смутную душу» (Ліст да Л. М. Клейнбарта ад 23/X-1928 г.).

*Мікіта і валы* (с. 142)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс верша з датай: 1910 г., у рукапісным зб. «Шляхам жыцця» — машынапіс (л. 232), дзе памета над тэкстам: *Янка Купала* і дата пад тэкстам закрэслены. У рукапісным зборніку назва раздзела адсутнічала, хаця ў зместце ўжо была, як і ў адной з карэктур, дзе рукой паэта было напісана:

*Байкі і Аповесці.*

VI. *Мікіта і валы* — закрэслена

*Байка* — закрэслена

Ніжэй:

*Мікіта і Валы*
*байка*

і ў крузе:

*подзаголовок*
*(Байка) набрать петитом*

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Байкі і аповесці». Твор уваходзіў таксама ў апошні прыжыццёвы Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Кежун, Г. Сямёнаў, на украінскую — С. Піліпенка, І. Сварнык.

*Саха і валы* (с. 142)

Друкуецца па машынапісе з сшытка № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы, дзе пад тэкстам памета: СПБ 1910.

Упершыню — Зб. тв., 1973, т. II.

*«Каб я меў загончык нівы...»* (с. 143)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3 з датай пад тэкстам: 1910 г.

Аўтограф захоўваецца ў ДзЛМЯнК (адз. зах. 37).

Аўтографы названага і іншых вершаў («Па дарозе», «Лясная царэўна») доўгі час захоўваліся ў архіве Б. І. Эпімах-Шыпілы і толькі ў 1929 годзе былі дасланы паэту. Відавочна, што Я. Купала меркаваў змясціць вершы ў зб. «Гусляр», але па невядомых прычынах яны ў кнігу не ўвайшлі, засталіся ў прафесара.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўваходзіў.

На рускую мову верш пераклаў А. Пракоф'еў.

*Па дарозе* (с. 144)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3 з датай пад тэкстам: 1910 г.

Аўтограф без загалоўка (адз. зах. 34), з датай пад тэкстам: 1910 г.— захоўваецца ў ДзЛМЯнК. (Гл. камент. да верша «Каб я меў загончык нівы...».)

Пры падрыхтоўцы верша да публікацыі Янка Купала значна перапрацаваў тэкст, даў яму загаловак.

10 радок верша ў выданні Зб. тв., 1952, т. II (першы пасляваенны) друкаваўся па Зб. тв., 1932, т. VI: *Звакол пазіраюць,* ■ ў выданні Зб. тв., 1961, т. II і Зб. тв., 1973, т. II — па аўтографе: *З вакон пазіраюць.* Улічваючы, што паэт сам рыхтаваў творы да публікацыі ў часоп. «Полымя»,

1929, № 3, «Полымя», 1930, № 5—6, рэдкалегія дадзенага выдання лічыць неабходным узнавіць аўтарскі тэкст. Такім чынам, 10 радок верша падаецца ў наступнай рэдакцыі: *Звакол пазіраюць.*

У іншыя прыжыццёвыя выданні верш не ўваходзіў.

Пераклалі: на рускую мову — І. Брусаў, на балгарскую — Н. Вылчаў.

*Лясная царэўна* (с. 144)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI з папраўкай у 44 радку паводле аўтографа. У асноўным тэксце было: *Люблю і малюся, як бачу, табе!*

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6 з датай пад тэкстам: 1910 г.

Чарнавы аўтограф захоўваецца ў ДзЛМЯнК (адз. зах. 35).

Пры падрыхтоўцы верша да публікацыі ў часоп. «Полымя» паэт, ведаючы пра негатыўныя адносіны афіцыйных улад да ўсяго, што тычылася рэлігіі, перапрацаваў 44 радок з улікам гэтых меркаванняў. Таму правамернай з'яўляецца папраўка названага радка паводле аўтографа, якую прынялі ўкладальнікі Зб. тв., 1961, т. II і Зб. тв., 1973, т. II.

Пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі.

*Беларус* (с. 147)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913.

У сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы захоўваецца машынапіс верша без даты. На падставе таго, што твор змешчаны тут разам з іншымі, якія датуюцца 1910 годам, дадзены верш адносім да гэтага ж перыяду.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» захоўваецца машынапіс (л. 68) без правак з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург. Пазней памета была закрэслена.

Ва ўсіх асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II верш змешчаны ў раздзеле «Бацькаўшчыне».

Пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка.

*Лес* (с. 147)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913, дзе змешчаны ў раздзеле «Па межах родных».

У гэтым жа раздзеле верш друкуецца ва ўсіх асобных выданнях зборніка і ў Зб. тв., 1929, т. II. Уваходзіў таксама ў Выбр. тв., 1935 г., т. I.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» на л. 100 захоўваецца белавы аўтограф верша, на л. 138 — перакрэслены машынапіс верша, на л. 160 — чарнавы аўтограф верша «Аб мужыцкай долі» («Ходзяць гутаркі па свеце...»), а на адвароце — закрэслены аўтограф верша «Зазімак» і закрэслены няпоўны аўтограф верша «Лес» (1 страфа, 1 і 2 радкі 2-й страфы, 3 страфа, 1 і 2 радкі 4-й страфы). Астатнія радкі і 5 страфа адсутнічаюць, паколькі ніз ліста з аўтографамі абрэзаны.

Верш «Аб мужыцкай долі», змешчаны ўпершыню ў зб. «Спадчына», датуецца 1908 годам, а верш «Зазімак» друкуецца ў зб. «Гусляр», 1910. Можна меркаваць, што «Лес» напісаны ў перыяд з 1908 г. па 1910 г.

Пераклалі на рускую мову Н. Кіслік і А. Пракоф'еў.

Творы дадзенага раздзела ў асноўным друкуюцца па Зб. тв., 1925, т. І, выключэнні агавораны.

Раздзел складаецца з вершаў, якія ўпершыню ўвайшлі ў зб. «Гусляр», 1910 і не маюць канкрэтнай даты напісання.

Пры падрыхтоўцы дадзенага выдання былі прааналізаваны архіўныя матэрыялы, якія дапамаглі ўмоўна назначыць час напісання асобных вершаў 1906—1910 гг. (Гл. т. 1, с. 426.) Але гэтае пытанне патрабуе далейшых доследаў.

*«Я нясу вам дар...»* (с. 149)

У «Гусляры» верш друкуецца без загалоўка як уступ да зборніка. Уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пераклалі: на рускую мову — Д. Бродскі, на ўкраінскую — А. Капштэйн, Р. Лубкіўскі.

*Гусляр* (с. 150)

У ДзЛМЯнК захоўваюцца машынапіс з архіва А. А. Карынфскага і фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта.

У машынапісе рукой паэта ў 19 радку зроблена праўка: закрэслена *папар*, зверху напісана — *абшар*, у 20 радку падкрэслена слова *гумн* і побач даецца пераклад на рускую мову — *овин (гумно)*.

Верш уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Зб. тв., 1940, т. IV.

На музыку твор паклаў А. Туранкоў. Пераклалі на рускую мову Б. Кежун і Р. Куранёў.

*Сяброўцам па долі* (с. 151)

Верш уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Зб. тв., 1940, т. IV.

*Прывітанне* (с. 151)

У ДзЛМЯнК захоўваюцца машынапіс з архіва А. А. Карынфскага і фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта. У 12 радку машынапісу падкрэслена слова *хвойкі*, побач рукой Я. Купалы напісана *сосны*.

Верш уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І і Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, С. Гарадзецкі, на азербайджанскую — А. Кюрчайлы, на армянскую — Х. Рачан, на казахскую — Ж. Абдзірашаў.

*Гуслі-самаграі* (с. 152)

Верш уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Зб. тв., 1940, т. IV.

Паклалі на музыку Дз. Смольскі (як частка араторыі «Паэт») і А. Туранкоў (хор).

Верш пераклалі: на рускую мову — Р. Куранёў, Л. Хаўстаў, на польскую — Э. Карпук.

*Песня і сіла* (с. 153)

Верш уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Зб. тв., 1940, т. IV.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, М. Камісарава, на ўкраінскую — М. Рыльскі, У. Свідзінскі, на чувашскую — М. Сандроў, на польскую — Д. Хрусцялеўская, на чэшскую — А. Чэрны.

*Адгукніся, душа!..* (с. 154)

Верш уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Выбр. тв., 1935, т. І.

Пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, Б. Турганаў, на чувашскую — М. Сандроў.

Паводле нататкі А. Гурло ў «Нашай ніве» за 20 лютага 1913 г., гэты твор разам з вершам «Град» дэкламаваўся на вечарыне ў Пецярбурзе 9 лютага 1913 года.

*Шчаслівасць* (с. 155)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. І з папраўкай у 26 і 28 радках паводле машынапісу з архіва А. А. Карынфскага. У асноўным тэксце:

*Цёмнай не дайцеся сіле...*
*Дайце мне сонца і крылле!*

У ДзЛМЯнК захоўваецца таксама фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта. У абодвух машынапісах 26 і 28 радкі адрозніваюцца ад гэтых жа радкоў у зб. «Гусляр», 1910 і наступных выданнях. (Далей гл. камент. да верша «Памяці С. Палуяна», с. 308.)

Рэдкалегія дадзенага выдання лічыць неабходным узнавіць першапачатковы аўтарскі тэкст верша.

У машынапісе для А. А. Карынфскага паэтам падкрэслены некаторыя словы, а на палях гэтыя словы падаюцца разам з перакладам:

*гыжа — быстро — свободно — смело*
*утурыў — вторил, подражал*
*зможаны — преодоленный*
*крыніцаю — ручей*
*путаў — цепи*

Верш уваходзіў у прыжыццёвы Зб. тв., 1928, т. І.

Дз. Смольскі паклаў твор на музыку (як частка араторыі «Паэт»).

Пераклаў на рускую мову В. Шэфнер.

*К зорам* (с. 156)

У зб. «Гусляр» верш друкуецца з паметай пад загалоўкам: (Прысвячаецца п. У. Самойло). Прысвячэнне знята пры падрыхтоўцы да выдання Зб. тв., 1925, т. І. (Гл. камент. да верша «Мая думка», с. 307.)

Верш уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Зб. тв., 1940, т. IV.

*Самойла Уладзімір Іванавіч* (1878—1941) — беларускі публіцыст і літаратурны крытык. З Я. Купалам пазнаёміўся ў 1892 г. ці 1893 г. Першым заўважыў яго як паэта. Пры садзеянні Самойлы У. І. быў надрукаваны верш Я. Купалы «Мужык» — першае выступленне паэта ў друку, а пазней — зб. «Жалейка», вершы для якога Самойла У. І. дасылаў Б. І. Эпімах-Шыпіле. Самойла У. І. першы напісаў рэцэнзію на зборнік, якая была апублікавана ў «Нашай ніве» 15.08.1908 г.

*«Дарогай змучаны далёкай...»* (с. 157)

Упершыню — «Гусляр», 1910 пад загалоўкам «Сон». Пры падрыхтоўцы верша да выдання ў Зб. тв., 1925, т. І паэт зняў загаловак. Без яго верш друкаваўся і ў Зб. тв., 1928, т. І. Пазней загаловак з'явіўся ў Выбр. тв., 1935, т. І і Зб. тв., 1940, т. IV, што не адпавядае аўтарскай волі.

Пераклалі: на рускую мову — В. Шэфнер, на грузінскую — В. Гарганелі, на англійскую — А. Пракоф'ева.

*З песень жыцця* (с. 158)
*(«Нарадзіўся на долю-нядолю...»)*

У ДзЛМЯнК захоўваецца белавы аўтограф (адз. зах. 42) на вузкім доўгім аркушы паперы. Пад тэкстам памета: Янук Купала. З трох загалоўкаў да верша: *З песень беззямельнага, З людскай долі, З песень жыцця* — два першыя закрэслены, а трэці, напісаны лацінкай, застаўся.

Уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш пераклалі: на рускую мову — Л. Хаўстаў, на таджыкскую — М. Фархат.

*Беззямельныя* (с. 159)

Верш уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

На рускую мову пераклаў А. Пракоф'еў.

*Сядзь тут, пад крыжам...* (с. 161)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I з папраўкай у загалоўку, і таксама ў 1 і 18 радках паводле зб. «Гусляр», 1910. У асноўным тэксце было: *Сядзь тут, на ўзмежку...*

Захоўваюцца: машынапіс з архіва А. А. Карынфскага і фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта, у якіх верш падаецца, як і ў зб. «Гусляр», пад загалоўкам «Сядзь тут пад крыжам...», а 1 і 18 радкі адпаведна:

*Сядзь тут, пад крыжам, сядзь аддыхні...*
*Сядзь тут, пад крыжам, браце ты мой!*

У машынапісе з архіва А. А. Карынфскага ў тэксце паэтам падкрэслены асобныя словы: *спачынку, калей, млей,* і побач даецца іх пераклад: *отдыха; околевать, замерзать; изнемогал.*

Пры падрыхтоўцы верша да выдання ў Зб. тв., 1925, т. I паэт, відавочна, па цэнзурных меркаваннях замяніў *пад крыжам,* што арганічна спалучалася са зместам твора, на нейтральнае *на ўзмежку.*

У такой рэдакцыі верш друкаваўся ў Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I і ва ўсіх пасмяротных зборах твораў.

Рэдкалегія дадзенага выдання лічыць неабходным узнавіць першапачатковы тэкст верша, які адпавядаў аўтарскай задуме.

*А як нам зоркі загаснуць...* (с. 161)

У зб. «Гусляр» друкуецца з паметай пад загалоўкам: (Пасвяшчаецца п. В. Ластоўскаму). Прысвячэнне знята Я. Купалам пры падрыхтоўцы верша да выдання ў Зб. тв., 1925, т. I. (Гл. камент. да верша «Мая думка», с. 307.)

*Ластоўскі Вацлаў Юстынавіч* (1883—1938) — гісторык, публіцыст. (Гл. камент. да верша «Дудар», с. 309.)

Захоўваецца машынапіс з архіва А. А. Карынфскага і фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта з гэтым жа прысвячэннем і нешматлікімі папраўкамі ў тэксце, зробленымі паэтам.

Уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

*Кіры* — жалобнае адзенне.

*Ці ты узойдзеш калі, сонца?* (с. 162)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I з папраўкай у 25 і 26 радках паводле аўтографа (адз. зах. 32), які захоўваецца ў ДзЛМЯнК.

У асноўным тэксце:

25 *Сэрца поўнае трывогі*
26 *Жальма жаліцца бясконца;*

Аўтограф:

25 *Путы, катаргі, астрогі,*
26 *Сібір поўная бясконца;*

Пад тэкстам: *Янук Купала.* Менавіта гэты подпіс сведчыць пра тое, што верш напісаны да 1910 года. Вядома, што так падпісваў паэт свае раннія творы. Зверху па тэксце аўтографа рукой Я. Купалы пазначана: *перепис.* Верш быў не толькі перапісаны, але і перапрацаваны: 25 і 26 радкі загучалі па-іншаму, больш стрымана. Але хто перапрацаваў названыя радкі, невядома. Можна толькі выказаць меркаванне, што іх перапісаў Б. І. Эпімах-Шыпіла, які, як вядома, з-за цэнзуры ўносіў праўкі ў некаторыя вершы паэта. У такім выглядзе верш увайшоў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1925, т. І; Зб. тв., 1928, т. І; Зб. тв., 1940, т. IV і Выбр. тв., 1935, т І, і толькі ў першым пасмяротным Зб. тв., 1952, т. ІІ, а пазней у наступных выданнях названыя радкі друкаваліся па аўтографе.

У ДзЛМЯнК захоўваюцца таксама машынапіс з архіва А. А. Карынфскага і фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта, у якіх адсутнічае трэцяя страфа верша, а радкі 25 і 26 падаюцца як у асноўным тэксце. У машынапісе падкрэслены некаторыя словы, а побач рукой паэта даецца іх пераклад: *марны — ничтожный, палонцы — прорубь.*

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, С. Спаскі, Б. Турганаў, на грузінскую — Д. Гачэчыладзе, А. Чыладзе, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на кітайскую — Чжу Цзі.

### *Знямога* (с. 164)

У рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 118) захаваўся няпоўны аўтограф верша (1, 2, 7 і 8 радкі), паколькі ніз ліста з іншымі радкамі абрэзаны. Над дадзеным творам запісаны аўтограф верша «Курганы» з паметай пад тэкстам: Вільня, 25/IX 1909 г. Можна меркаваць, што і верш «Знямога» быў напісаны ў 1909 годзе.

Уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Зб. тв., 1940, т. IV; Выбр. тв., 1935, т. І.

На рускую мову верш пераклаў Н. Кіслік.

### *За годам год* (с. 164)

Верш уваходзіў у прыжыццёвы Зб. тв., 1928, т. І.

На польскую мову пераклаў Б. Жыранік.

### *«Як вазьму жалейку ў рукі...»* (с. 165)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. І; Зб. тв., 1940, т. IV пад загалоўкам «Як вазьму жалейку ў рукі» і Выбр. тв., 1935, т. І.

Пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, Н. Кіслік, Р. Куранёў, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — А. Грызун, П. Дарошка, на асецінскую — А. Пухаеў, на малдаўскую — А. Чакану.

### *Думка* (с. 166)

(«Нудна ў думках Тамаша...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. І. Радкі 17—20, якія адсутнічаюць у Зб. тв., 1925, т. І, падаюцца па зб. «Гусляр», 1910.

Названыя радкі адсутнічалі таксама ў Зб. тв., 1928, т. І і ва ўсіх пасмяротных выданнях.

Рэдкалегія дадзенага выдання лічыць неабходным узнавіць поўны тэкст верша, які ўпершыню друкаваўся ў зб. «Гусляр», 1910.

На рускую мову пераклаў Л. Хаўстаў.

*Мае думкі* (с. 167)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі на рускую мову Н. Кіслік, В. Ярац, Т. Чабан.

*Да сваіх думак* (с. 168)

(«Скажыце мне, думкі...»)

У зб. «Гусляр», 1910 пад загалоўкам «К сваім думкам».

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі на рускую мову М. Браўн, А. Карынфскі, А. Пракоф'еў.

*З думак маркотных* (с. 169)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на таджыкскую — М. Фархат.

*Як тут весела спяваці?* (с. 170)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — А. Карынфскі, А. Пракоф'еў, на азербайджанскую — А. Кюрчайлы.

*А хто маю долю пойме?* (с. 170)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклаў на рускую мову Л. Хаўстаў.

*Выйду, выйду...* (с. 173)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях і ў пасмяротных Зб. тв., 1952, т. II і Зб. тв., 1961, т. II 4 радок падаецца ў наступнай рэдакцыі: *Пасяджу кусок.*

Укладальнікі папярэдняга Зб. тв., 1973, т. II вырашылі, што гэта памылка, і замянілі слова *кусок* на слова *часок.* Рэдкалегія дадзенага выдання лічыць замену неправамернай і вяртаецца да аўтарскай рэдакцыі названага радка.

Пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

На словы верша У. Тэраўскі напісаў харавую песню «Выйду, выйду я з хацінкі».

*На могілках* (с. 172)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

*Сірочая доля* (с. 173)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

На рускую мову пераклала М. Камісарава.

*Над калыскай* (с. 174)

(«Люлі, спі, мой сынку!..»)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

*На дудцы* (с. 175)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

На рускую мову пераклалі П. Кабзарэўскі і Н. Кіслік.

*З песень аб мужыцкай долі* (с. 177)

(«Чый шнур вузак, убог...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I з папраўкай у 17 і 18 радках паводле аўтографа.

Аўтограф пад загалоўкам «Аб тым самым» і подпісам пад тэкстам: *Янук Купала* — захоўваецца ў ДзЛМЯнК (адз. зах. 44). Менавіта такі подпіс сведчыць пра тое, што верш напісаны да 1910 года. Па тэксце зверху паэтам пазначана: *перапіс.* Гэта значыць, што тэкст верша перапісваўся хутчэй за ўсё пры падрыхтоўцы яго да публікацыі ў зб. «Гусляр». (Гл. камент. да верша «Ці ты узойдзеш калі, сонца?», с. 317.) Відавочна, што пры гэтым Я. Купала (ці Б. І. Эпімах-Шыпіла) перапрацаваў 17 і 18 радкі, ведаючы, што ў першапачатковай рэдакцыі іх можа не прапусціць цэнзура. Да выдання ў зборніку быў таксама заменены і загаловак: «З песень аб мужыцкай долі» замест «Аб тым самым».

| Аўтограф: | Зб. «Гусляр», 1910: |
|---|---|
| *Каго пан, чын, закон* | *Каго бедаў прыгон* |
| *Са ўсіх скубе старон,* | *З усіх мучыць старон.* |

Такім чынам, згаданыя радкі друкаваліся па зб. «Гусляр» у Зб. тв., 1925, т. I; Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV і Зб. тв., 1952, т. II.

Упершыню 17 і 18 радкі верша пачалі друкавацца паводле аўтарскай задумы ў пасмяротным Зб. тв., 1961, т. II.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на ўкраінскую — Т. Масэнка.

*Бяседа* (с. 178)

У ДзЛМЯнК захоўваюцца: машынапіс верша з архіва А. А. Карынфскага з папраўкамі паэта і фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта, тэксты якіх у нешматлікіх выпадках адрозніваюцца ад асноўнага. Так, у фотакопіі ў 20 радку адсутнічае *і* паміж словамі *скрылі след.* Яно з'явілася ў машынапісе: паэт паставіў яго пазней на аддрукаваным тэксце.

У фотакопіі 26 радок падаецца ў рэдакцыі: *Хто можа, пье.* У машынапісе *пье* папраўлена на *пей* і тут жа даецца пераклад — *пой.* Апрача гэтага, у машынапісе паэтам даецца пераклад яшчэ аднаго слова: *маркоціцца — тосковать, грустить.*

Верш уваходзіў у прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

*З гора ды з бяды* (с. 179)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

*Песня-казка* (с. 180)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на чэшскую — І. Гора.

*Голуб і дзяцюк* (с. 182)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Т. Масэнка.

*Песня* (с. 183)
(«Па зімовай па дарожцы...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I з папраўкай у апошнім радку паводле зб. «Гусляр», 1910. У асноўным тэксце было: *Скажы, дружа мой.* Відавочна, што слова *Божа* было заменена паэтам пры падрыхтоўцы тэксту верша да выдання ў Зб. тв., 1925, т. I па цэнзурных меркаваннях. Рэдкалегія дадзенага выдання лічыць неабходным узнавіць першапачатковы аўтарскі тэкст верша.

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Пераклалі: на рускую мову — Л. Карынфскі, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — К. Дрок, на латышскую — Ю. Ванаг.

*Не жалейка йграе...* (с. 183)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Турганаў, Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — Т. Масэнка, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на літоўскую — К. Кубілінскас, на англійскую — У. Мэй.

*Дзяўчынцы* (с. 184)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

На рускую мову пераклаў В. Шэфнер.

*Падыйдзі...* (с. 185)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

На рускую мову пераклаў Б. Ірынін.

*Пакахай мяне, дзяўчынка...* (с. 186)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I з папраўкай у 21 радку паводле аўтографа.

Папраўку ўнеслі ў тэкст укладальнікі Зб. тв., 1961, т. II. Да гэтага названы радок публікаваўся памылкова: *Атачу сябе з душою* ў Зб. тв., 1925, т. I; Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I і Зб. тв., 1952, т. II.

Захоўваецца аўтограф з адзінай праўкай у 25 радку:

а *Жыццё будзе рожай слаўца*
б Як у асноўным тэксце,—

з паметай пад тэкстам: *Янук Купала 30.III.* Подпіс дае магчымасць выказаць меркаванне, што верш напісаны да 1910 года.

Па тэксце аўтографа зверху рукой паэта лацінкай пазначана: *perepis.* Відавочна, што верш рыхтаваўся да публікацыі ў зб. «Гусляр», паколькі тэксты аўтографа і зб. «Гусляр» супадаюць.

Пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, на асецінскую — А. Пухаеў, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман.

Верш паклаў на музыку У. Мулявін.

*Песня* (с. 188)
(«Бяжыць шыбка ручаінка...»)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Твор пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — Т. Масэнка, на асецінскую — А. Пухаеў, на таджыкскую — М. Фархат.

*Хатка* (с. 188)

Захоўваюцца: машынапіс з архіва А. А. Карынфскага і фотакопія з архіва Л. М. Клейнбарта. На машынапісе, які адсылаўся для перакладу, у тэксце другой страфы верша падкрэслены словы — *страсе* і *паношыцца*. Тут жа на палях рукой Я. Купалы даецца пераклад: *стреха — крыша, господствует* (? ) *хозяйничает.*

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Р. Куранёў, на ўкраінскую — А. Малышка, на малдаўскую — П. Дарые.

*Поле* (с. 189)

Верш уваходзіў у пазнейшыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV; зб. «Хлопчык і лётчык», 1937; зб. «Для дзяцей», 1940.

Пераклалі: на рускую мову — Л. Гінзбург, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — Т. Масэнка, на армянскую — П. Севак, на малдаўскую — П. Дарые, на ўзбекскую — Тулкун.

Твор пакладзены на музыку кампазітарамі С. Палонскім, А. Туранковым і Я. Цікоцкім.

*Вясна* (с. 191)

(«У вянку з пралесак...»)

Захоўваюцца: машынапіс з архіва А. А. Карынфскага і фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта. У тэксце машынапісу падкрэслены словы *шаце* і *вясёлкай*. Побач на палях рукой Я. Купалы падаюцца пераклады гэтых слоў: *шата — облачение; радуга.*

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I; зб. «Адцвітанне»; зб. «Для дзяцей», 1940.

Пераклалі: на рускую мову — Л. Гінзбург, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — Т. Масэнка, на мардоўскую-эрзя — А. Мартынаў, на таджыкскую — М. Фархат, на румынскую — С. Дэлчу.

У ЭД, с. 143 верш датуецца 20.04.1906 г. Архіўнымі матэрыяламі гэта дата не пацвярджаецца.

*Вясенняя раніца* (с. 192)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пры падрыхтоўцы верша да выдання ў Зб. тв., 1925, т. I паэт унёс стылёвыя праўкі ў тэкст зб. «Гусляр», удакладняючы і канкрэтызуючы змест твора.

*Пятровы час* (с. 193)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 38). Пад тэкстам: Янук Купала. Подпіс пацвярджае, што верш быў напісаны да 1910 г.

У левым верхнім кутку аўтографа лацінкай пазначана: *perap.* Гэта значыць, што паэт, рыхтуючы верш да публікацыі ў зборніку, намерваўся перапісаць яго. Вынікам перапрацоўкі з'явілася скарачэнне васьмі апошніх строф твора, відаць, па цэнзурных меркаваннях. У зб. «Гусляр», 1910; Зб. тв., 1925, т. I; Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV і пасмяротных Зб. тв., 1952, т. II; Зб. тв., 1961, т. II верш складаўся з першых трох строф. Поўнасцю твор упершыню быў апублікаваны ў Зб. тв., 1973, т. II.

У вершы згадваецца Пятроў дзень — Дзень апосталаў Пятра і Паўла. У народзе — Пятро. У старажытнасці — язычніцкае земляроб-

чае свята. Людзі казалі: «На Яна баба п'яна, а на Пятро — у жыце ядро». Адзначаецца 12 ліпеня. Пятро — арганічны працяг купальскіх урачыстасцей.

На рускую мову пераклаў Л. Хаўстаў.

*Паўрубень* — жэрдка, якой уціскаюць на возе сена ці снапы.

### *Лета* (с. 194)

(«Лета ты, лета прыгожа-квяцістае...»)

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 40) з подпісам: Янка Купала. Зверху ў левым кутку рукой паэта пазначана: *перапіс.* 10 радок аўтографа паэт перапрацоўваў. Замест: *Сонца прыветліва свеціць з нябёс — Сонца купаецца ў полыску рос.* Праўка зроблена лацінкай, што яшчэ раз пацвярджае: твор рыхтаваўся для зб. «Гусляр».

Захоўваюцца таксама машынапіс з архіва А. А. Карынфскага і фотакопія з архіва Л. М. Клейнбарта. На машынапісе рукой Я. Купалы даюцца пераклады асобных слоў:

*аздобы — красота*
*шнуры — полосы*
*павабна — привлекательно*
*марудныя — марудзіць — мешкать*
*постаці — постаць — делянка, которую жнея пред собою во время жатвы...*

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на ўкраінскую — А. Грызун, Н. Дрок, на армянскую — П. Пагасян, на асецінскую — А. Пухаеў, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — М. Яўстаф'еў, на англійскую — У. Мэй.

У ЭД, с. 337 верш датуецца 19.06.1907 г. Архіўнымі матэрыяламі гэта дата не пацвярджаецца.

### *Кат* (с. 194)

Захоўваецца чарнавы аўтограф (адз. зах. 41) з падзагалоўкам: *Срэдневечная легенда.* Пад тэкстам: Янук Купала, што пацвярджае напісанне твора да 1910 года. Зверху па тэксце рукой паэта алоўкам пазначана: *перепис.* Вядома, што такая памета ставілася на тэксце, калі Я. Купала меркаваў уключыць яго ці ў зб. «Гусляр», ці пазней даслаць перакладчыку.

Падзагаловак быў зняты Я. Купалам пры падрыхтоўцы верша да выдання ў зб. «Гусляр», 1910.

Захоўваюцца таксама машынапіс з архіва А. А. Карынфскага і фотакопія машынапісу з архіва Л. М. Клейнбарта, у якіх радкі 1, 9 і 25 адрозніваюцца ад аўтографа. Апрача таго, на машынапісе з архіва А. А. Карынфскага паэт побач з назвай верша даў яе пераклад — *палач.*

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, Н. Кіслік, на іспанскую — К. Шэрман.

### *Завітаў Пятрок...* (с. 196)

У творы згадваецца Пятроў дзень. (Гл. камент. да верша «Пятровы час», с. 322.)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

На рускую мову пераклала М. Камісарава.

*Ночка* (с. 197)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, Б. Турганаў, на ўкраінскую — Т. Масэнка.

У ЭД, с. 442 верш датуецца 12.06.1907 г. Архіўнымі матэрыяламі гэта дата не пацвярджаецца.

*Зазімак* (с. 197)

У рукапісным зб. «Шляхам жыцця» на л. 160 змешчаны чарнавы аўтограф верша «Аб мужыцкай долі» («Ходзяць гутаркі па свеце...»), які ў зб. «Спадчына» датуецца 1908 годам. На адвароце гэтага ж ліста змешчаны закрэслены аўтограф верша «Зазімак» і няпоўны аўтограф верша «Лес», які напісаны ў перыяд з 1908 г. па 1910 г. Такім чынам, можна меркаваць, што «Зазімак» напісаны ў гэты ж перыяд.

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I.

Пераклалі: на рускую мову — Д. Бродскі, на ўкраінскую — С. Крыжаніўскі, на балгарскую — Н. Вылчаў.

*Зімой у лесе* (с. 198)

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. I; зб. «Адцвітанне», 1930; зб. «Для дзяцей», 1940.

Твор пераклалі: на рускую мову — Э. Багрыцкі, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — С. Крыжаніўскі, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — А. Чыладзе, на англійскую — У. Мэй, на балгарскую — Н. Вылчаў, на кітайскую — Чжу Цзі.

Верш паклалі на музыку М. Мацісон, С. Палонскі, У. Тэраўскі.

*Замкавая гара* (с. 199)

Верш уваходзіў у пазнейшы прыжыццёвы Зб. тв., 1928, т. I.

*Кругаварот* (с. 200)

У зб. «Гусляр», 1910; Зб. тв., 1925, т. I і Зб. тв., 1928, т. I верш складаецца з шасці строф. У Зб. тв., 1940, т. IV шостая страфа адсутнічае. (Гл. камент. да верша «Мой пагляд і мэта», с. 301.) У пасмяротных выданнях: Зб. тв., 1961, т. II і Зб. тв., 1973, т. II — верш таксама падаваўся ў скарочаным выглядзе, таму што за асноўны быў прыняты тэкст Зб. тв., 1940, т. IV. У зб. «Спадчына», 1955 верш складаецца з шасці строф. Ён змешчаны ў раздзеле «Забраны край».

Рэдкалегія дадзенага Збору твораў лічыць неабходным узнавіць поўны аўтарскі тэкст верша.

На рускую мову верш пераклаў В. Элькін.

*Мая хата з краю* (с. 201)

Пры падрыхтоўцы верша да выдання ў Зб. тв., 1925, т. I паэт унёс праўку ў 10 радок: *Другі чахне ў латах* замест: *Другі гніе ў латах.*

Верш уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на ўкраінскую — Т. Масэнка, на польскую — Ю. Ленарт.

*Святая праўда* (с. 203)

Верш друкаваўся ў «Беларускім календары «Нашай нівы» на 1914 год». Уваходзіў у пазнейшы прыжыццёвы Зб. тв., 1928, т. I.

На ўкраінскую мову пераклаў Т. Масэнка.

*Ляк* — сполах, перапалох.

*Чары* (с. 203)

Верш друкаваўся ў «Беларускім календары «Нашай нівы» на 1914 год». Уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Цімафееў, на ўкраінскую — Т. Масэнка.

*Бот і лапаць* (с. 203)

Верш друкаваўся ў «Беларускім календары «Нашай нівы» на 1914 год». Уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Цімафееў, на татарскую — Н. Закі.

*Два браты* (с. 204)

Уваходзіў у пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: Зб. тв., 1928, т. I; «Апавяданні вершам». Кн. I, II. Мн., 1926.

*Шчасце* (с. 207)

(«Ты гаворыш, суседзе, што на свеце ўсё едзе...»)

Верш друкаваўся ў кн. «Апавяданні і легенды вершам розных аўтараў» (Вільня, 1914). Уваходзіў у прыжыццёвы Зб. тв., 1928, т. I.

Да верша ў абодвух выданнях падаецца рэдактарская заўвага: «У часы пісання вершу (1910—1911 гг.) поэта ссылаўся на ангельцаў ды немцаў, як на вольных людзей, у параўнанні з няволяю расійскага самадзяржаўя».

У пасмяротныя выданні твор быў уключаны пачынаючы са Зб. тв., 1961, т. II.

*Смутна мне, Божа!* (с. 211)

Друкуецца па зб. «Гусляр», 1910, дзе ўпершыню апублікаваны.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся, відаць, па цэнзурных меркаваннях.

На думку літаратуразнаўцы Грынчыка М., верш мог быць напісаны пад уплывам твора Ю. Славацкага «Гімн», які пачынаецца гэтымі ж словамі (ЭД. С. 566).

Верш пераклалі: на англійскую мову — У. Мэй, на польскую — А. Баршчэўскі, А. Навумаў.

*О. М. Пяшчынскаму* (с. 212)

Друкуецца па зб. «Гусляр», 1910, дзе ўпершыню апублікаваны.

Верш у іншыя прыжыццёвыя выданні, як і ў пасмяротны Зб. тв., 1952, т. II, не ўваходзіў.

Быў уключаны ў Зб. тв., 1961, т. II і Зб. тв., 1973, т. II.

Адрасат — О. М. Пяшчынскі — пакуль невядомы. Мяркуючы па тэксце верша, гэта хтосьці з польскіх літаратараў.

## ПЕРАКЛАДЫ

*«Збудзіўся лес, азваўся лес...»* (с. 215)

Пераклад першай і апошняй строф верша М. Канапніцкай «Zaszumiał las, zaszumiał las...» з цыкла «Z łąk i pól».

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе змешчаны ўпершыню, з паметай пад тэкстам: Вільня, I — XI — 908 г.

Захоўваюцца два аўтографы: адзін (адз. зах. 338) з паметай пад тэкстам: *Янук Купала. 1 XI 908 г. Вільня;* другі (адз. зах. 339) — без памет.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (на адвароце л. 315) змешчаны машынапіс без памет, закрэслены паэтам.

*Тры дарогі* (с. 215)

Пераклад верша М. Канапніцкай «Trzy ścieżki idą z chaty...» з цыкла «Z łąk i pól».

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 11, 22 мая з подпісам: Янук Купала — і паметай пад загалоўкам: (Пераклад з польскага — М. Канапніцкая).

Датуецца годам апублікавання.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (л. 314) захоўваецца выразка з газеты, на якой закрэслены подпіс і словы: *Пераложэна з польскага.*

Верш уваходзіў у пазнейшы прыжыццёвы Зб. тв., 1929, т. II.

*Канапніцкая Марыя* — гл. камент. да верша «Памяці Мар'і Канапніцкай», с. 308.

*Варажбітка* (с. 216)

Пераклад верша М. Канапніцкай «Idzie cichy wiatr przez pole...» з цыкла «Z łąk i pól».

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — зб. «Шляхам жыцця», 1913.

Захоўваюцца два аўтографы (адз. зах. 339—340): 1) чарнавы з подпісам: *Янук Купала.* На адвароце паэтам напісана: *«Калі «Свата» надрукуеце — (адвецце) у газеце, тады пастараюся што-небудзь болей у гэтым духу напісаць. Я. К.»;* 2) белавы з подпісам пад тэкстам: *Я. Купала.* Па тэксце зверху рукой паэта пазначана: *Друк.*

Верш «Сват» быў апублікаваны ў «Нашай ніве» 1/14 жніўня 1908 года, г. зн., што пераклад зроблены прыблізна ў гэты ж час.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» змешчаны машынапіс верша (л. 315), дзе ў падзагалоўку — *З польскага. М. Канапніцкай* — першыя словы паэтам закрэслены.

Верш уваходзіў у пазнейшы прыжыццёвы Зб. тв., 1929, т. II.

На перакладзеныя Я. Купалам вершы М. Канапніцкай А. Гураў напісаў кантату «Тры сцежкі».

*Доля* (с. 218)

Пераклад верша У. Сыракомлі «Dola», які ў арыгінале мае падзагаловак «Wariant z pieśni litewskiej».

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 21, 9 (22) кастр. у рэдакцыйным артыкуле «Уладыслаў Сыракомля».

Датуецца годам апублікавання.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» на адвароце л. 211 змешчана выразка з газеты, закрэсленая алоўкам, на л. 318 — аўтограф, дзе ў памеце: *З польскага. З Вл. Сыракомлі* — паэт закрэсліў усе словы, апрача прозвішча.

Пры падрыхтоўцы верша да выдання ў Зб. тв., 1926, т. II Я. Купала перапрацаваў тэкст з мэтай паляпшэння стылю твора.

Уваходзіў у пазнейшы прыжыццёвы Зб. тв., 1929, т. II.

*Сыракомля Уладзіслаў* (сапр. Кандратовіч Людвік Францішак Уладзіслаў, 1823—1862) — польскі і беларускі паэт. Тэматыка пераважнай большасці твораў — беларуская. Асноўная тэма творчасці — барацьба за вызваленне сялянства ад прыгону. Я. Купала называў Сыракомлю першым сярод аўтараў, якія яму падабаліся і творчасцю якога ён захапляўся.

*Песняру* (с. 219)

Пераклад верша Г. Чупрынкі.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI. Пад тэкстам: 1908 г.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6.

Захоўваецца белавы аўтограф верша (адз. зах. 339а). Пад тэкстам: *Я. Купала.* Гэты і наступны пераклады захоўваліся ў праф. Б. І. Эпімах-Шыпілы. (Гл. камент. да верша «Каб я меў загончык нівы...», с. 313.)

У іншыя прыжыццёвыя і ва ўсе пасмяротныя зборы твораў верш не ўваходзіў.

*Чупрынка Грыцька* (1878—1921) — украінскі паэт, паплечнік і сябра С. Палуяна, праз якога, відаць, Я. Купала і атрымаў верш для перакладу (гл.: Рагойша В. І. адгукнецца слова ў слове...— Мн., Мастацкая літаратура, 1992).

*«Не каханак чарнавокіх...»* (с. 219)

Пераклад верша Г. Чупрынкі.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI. Пад тэкстам: 1908 г.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6.

У іншыя прыжыццёвыя і ва ўсе пасмяротныя зборы твораў верш не ўваходзіў.

*У свет* (с. 220)

Пераклад верша Я. Каспровіча «W świat».

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 з паметай: *З польскага. «Аўтара не ведаю. Я. К.»*

У рукапісным зб. «Шляхам жыцця» змешчаны аўтограф (л. 320—321) з заўвагай: *«Аўтара не ведаю. Я. К.».*

Пры падрыхтоўцы зборніка да другога выдання памета змянілася: *«Аўтара арыгіналу не ведаю. Я. К.».* Такая памета і засталася ў зб. «Шляхам жыцця», 1923.

Захоўваюцца аўтографы (адз. зах. 341, л. 1—2): 1) на польскай мове. У левым кутку зверху паэтам напісана лацінкай: *Верш Яна Каспровіча.* Другі аўтограф, напісаны лацінкай, з паметай пад тэкстам: *Вільня 31 VII 1909. Янук Купала.*

Верш уваходзіў у пазнейшы прыжыццёвы Зб. тв., 1929, т. II.

*Каспровіч Ян* (1860—1926) — польскі паэт, драматург і перакладчык.

Творы перыяду 1880—1890-х гг. ідэйна і тэматычна блізкія да перадкастрычніцкай творчасці Я. Купалы і Я. Коласа.

*Гасцінец* (с. 221)

Пераклад верша А. Кальцова «Путь».

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе пад тэкстам памета: Вільня, 16-IX-1909 г.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3 з той жа паметай, у якой, аднак, недакладна падаецца дата напісання твора: 1929 г. Відавочна, гэта друкарская памылка.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (на адвароце л. 316) змешчаны перакрэслены аўтограф верша з паметай пад тэкстам: *Вільня 26. IX.09 Янка Купала.*

Разыходжанне паміж датай напісання верша — 16 і 26 — можна растлумачыць, відаць, памылкай друку, якая не была выпраўлена паэтам пры чытанні карэктуры VI тома Зб. тв.

*Кальцоў Аляксей Васільевіч* (1809—1842) — рускі паэт, які быў

вельмі блізкі ранняму Я. Купалу. «Гасцінец» — адзін з лепшых узораў перакладу беларускім паэтам рускай класічнай паэзіі.

*Родны дом* (с. 222)

Пераклад верша М. Канапніцкай «Pieśń o domu» з цыкла «Pieśni bez echa».

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (л. 316) змешчаны чарнавы аўтограф з падзагалоўкам: *З польскага. М. Канапніцкай.* Пры падрыхтоўцы верша да публікацыі паэт закрэсліў «З польскага», хаця ў асобным выданні 1913 года падзагаловак захаваны поўнасцю. У зб. «Шляхам жыцця», 1913 з праўкамі Я. Купалы, які рыхтаваўся да другога выдання, у падзагалоўку паэт таксама пакінуў толькі прозвішча пісьменніцы.

Паколькі ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» на адвароце названага л. 316 змешчаны аўтограф верша «Гасцінец», пад якім стаіць памета: *Вільня, 26 IX.09. Янка Купала*, можна меркаваць, што гэта памета адносіцца і да верша «Родны дом».

Пераклад уваходзіў у пазнейшы прыжыццёвы Зб. тв., 1929, т. II.

*Груган* (с. 223)

(«З па-над лесаў, з па-над хмараў...»)

Пераклад верша У. Сыракомлі «Kruk» («Piosenka litewska»).

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913.

Датуецца 1908—1909 гг.

Захоўваецца чарнавы аўтограф (адз. зах. 342) з паметай пад тэкстам: *Вільня. Янук Купала.* Зверху па тэксце рукой паэта пазначана: *перепис.* Відавочна, што верш рыхтаваўся да публікацыі ў зборніку.

У рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 319) змешчаны аўтограф, у якім з падзагалоўка: *З польскага. В. Сыракомлі* — першае закрэслена. Гэтыя ж словы закрэслены ў карэктуры № 1.

Верш уваходзіў у пазнейшы прыжыццёвы Зб. тв., 1929, т. II.

## Dubia

У раздзел Dubia ўваходзяць дзве рэдакцыі паэмы пра Андрэя Баболю: 1. «Святы Андрэй Баболя. Мучанік беларускі»; 2. «Святы Андрэй Баболя. Мучанік беларускі за веру».

Друкуюцца па машынапісах з сшытка № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы. Тэкст першай рэдакцыі складаецца з чатырох старонак, аддрукаваных лацінскім шрыфтам. Другая рэдакцыя складаецца з дзвюх старонак і падпісана псеўданімам *Я. Купальскі.*

Упершыню апублікаваны ў выд.: Jan z nad Buga. B. Andrej Babola. Mučanik T. J. Piraklad z polskaha. Wilnia: Drukarnia Marcina Kuchty. 1911.

Датуюцца 1910 годам на падставе таго, што змешчаны ў сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы, у якім прафесар сабраў «творы Я. Купалы 1910 года».

У кароткім бібліяграфічным аглядзе выдання «Polski slownik biograficzny» (1935, т. 1, с. 101—102) пасля артыкула пра Баболю насам-

праўдзе пазначана кніга: Urban J. (Jan z nad Buga). Blog. A. B. Wilno, 1910, Kraków, 1934.

Вершаванага дадатку ў польскамоўным арыгінале няма. Ён узнік у беларускай перакладной брашурцы. Прычыны — самыя розныя: ад тэхнічных (у друкарні Марціна Кухты заставаліся пустымі канцавыя старонкі) і да чыёйсьці прыватнай задумы скласці вершаваны пераказ жыцця святога. Так непісьменны селянін хутчэй завучыць на памяць.

У Варшаве, на вуліцы Ракавіцкай бібліятэка айцоў езуітаў, дзе захоўваецца першавыданне кнігі пра Андрэя Баболю на польскай мове. Пацверджанне гіпотэзы ранейшай, выказанай у публікацыі Я. Янушкевіча «Хто аўтар?» (//Хрысціянская думка. 1992, № 1) папярэдняй гіпотэзы: вершаванага дадатку — паэм у першавыданні не было.

Замест іх са старонкі 54 ідзе «Litanja do błog. Andrzeja Bodoli (Do prywatnego uzytku)», а потым «Modlitwa o nawróceniu inowierców». Напрыканцы літургічных тэкстаў пададзена «Pieśń па cześć błog. Andrzeja Boboli».

Wznieścież mu ołtarz, taka niebios wola
Zastępca wyrzekł Chrystusa na ziemi —
Wznieście doń modły, bo w niebie Bobola
W męczeńskim wieńcu z Bogosławionymi!
O drogi ziomku, między Niebianami,
Wstaw sie, Andrzeju Bobolo, za nami.

І канцоўка.

A chociaż wszystko, co na tym padole
Nikłe, odmienny los zniszczy, obali,
O, Męczenniku, o nasz Apostole,
Niech twa opieka Wiarę, nam ocali!
O, przez twe męki, przez twe święte blizny,
Broń Wiary, drogiej po tobie spuścizny.

Нарыс пра Баболю складаецца з 6 раздзелаў і займае 54 старонкі.

Што гэтыя радкі пісаліся Купалам, ускосна пацвярджаецца прамым пераймавнем несмяротных Купалавых радкоў з паэмы «Курган». Тытульны ліст сведчыць: эпоха сапраўды — купалаўская. Нейкі год таму паўстаў несмяротны «Курган» (23 траўня 1910 г.). Але — паказальны момант! — паэма пакуль ляжыць рукапіснаю і ўпершыню будзе апублікавана толькі праз год («Наша ніва», 1912, № 23). «Зневажаў, катаваў ён з дружынай сваёй...», «Не пад мысль песня будзе каму-небудзь нам...» У стасунку да постаці Андрэя Баболі: «Шмат каму ні пад мысьль // Было гэта ў той час...», «Катаваў, зьневажаў // Беспрымерна, як мог».

Дакументальна меркаванне пра купалаўскае аўтарства пацвярджаецца матэрыяламі з Літаратурнага музея імя Я. Купалы, дзе захоўваюцца так званыя «Машынапісныя сшыткі Браніслава Эпімах-Шыпілы» (Калекцыйны вопіс. Т. 1. Ф. А., воп. 1, р-13.). Сшыткаў два. У першым з іх прафесар сабраў «творы Янкі Купалы за 1910 год». Усіх у «калекцыі» 23 творы. Пералік зместу адкрываецца паэмай пра Баболю.

1. Şwiaty Andrej Bobola Mučenik Biełaruski. 1. ýęç. Ň. 1—4.
2. Światy Andrej Bobola wiersz. 1 экз. С. 5—6. [Примечание]: J. Kupalski.
3. Паэма «Курган». 1 экз. С. 7—17. [Примечание]: Пецярбург, 23.5.1910.

4. В[ерш]. «Мой пагляд і мэта». 1 экз. С. 18—20. [Примечание]: 28.4.1910 г.

5. В[ерш]. «Явар і каліна». 1 экз. С. 22. [Примечание]: 6.5.1910.

6...

Зразумела, Эпімах-Шыпіла ніколі б не стаў занатоўваць у такім рэестры творы, не прыналежныя пяру паэта (з заўвагі вынікае, што паэмы пра Баболю былі падпісаныя псеўданімам J. Kupalski).

# АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК*





* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

# ЗМЕСТ*



## ВЕРШЫ

### 1908



* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

## 1909

## 1910

## 1906—1910

## ПЕРАКЛАДЫ

**Купала Я.**

К 92 Поўны збор твораў. У 9 т. Т. 2. Вершы, пераклады 1908—1910.— Мн., Маст. літ., 1996.— 342 с., [4] л. іл.

ISBN 5-340-01335-9 (т. 2).

У другі том Збору твораў народнага паэта Беларусі Янкі Купалы ўвайшлі вершы і пераклады, напісаныя ў 1908—1910 гг.

**К $\frac{8820600000-037}{М302(03)-96}$ 85—95**

**ББК 84(4Бен)7**



Літаратурна-мастацкае выданне

ЯНКА КУПАЛА

*Поўны збор твораў*
*у дзевяці тамах*

**Том 2**

*Вершы, пераклады*
*1908—1910*

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд*
Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*
Карэктар *Я. Ф. Харко*

Здадзена ў набор 01.02.96. Падп. да друку 14.06.96. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 18,06 + 0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 18,90. Ул.-выд. арк. 17,57. Тыраж 6000 экз. Зак. 152.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.